**Леанід Маракоў**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794—1991

Энцыклапедычны даведнік
у трох тамах

Том першы

**Абрамовіч—Кушаль**

Мінск
2003

УДК 008(476)(091)(092)(035.5)+321.64(476)(091)(092)(035.5)
ББК 70/79 (4 Беи)
М25

Рэцэнзенты:
*Арсень Ліс, доктар філалагічных навук,*
*Адам Мальдзіс, доктар філалагічных навук,*
*Уладзімір Міхнюк, доктар гістарычных навук,*
*Лідзія Савік, кандыдат філалагічных навук,*
*Янка Саламевіч, кандыдат філалагічных навук,*
*Віталь Скалабан, кандыдат гістарычных навук.*

Аўтар выказвае падзяку супрацоўнікам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Янкі Купалы, дырэктару выдавецтва ATHENAEUM Алегу Дзярновічу, «Архіву Найноўшай Гісторыі», іншым дзяржаўным і грамадскім арганізацыям.

**Маракоў Леанід**

**М 25** Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі, 1794—1991. Энцыклапедычны даведнік. У 3 т. Т. 1. Абрамовіч—Кушаль. — Мінск, 2003. — 480 с.
ISBN 985-6374-04-9

У трохтомным энцыклапедычным даведніку, які падрыхтаваў Леанід Маракоў, прыводзяцца біяграфіі або кароткія звесткі пра літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, якіх рэпрэсавалі ўлады царскай Расіі і савецкай дзяржавы, даваенны польскі, фашысцкі і іншыя рэжымы. Пра шмат каго з пакутнікаў расказваецца ўпершыню. Даведнік разлічаны як на спецыялістаў-гуманітарыяў, так і на выкладчыкаў, студэнтаў, краязнаўцаў, самыя шырокія колы чытачоў.

## Прадмова[1] да кнігі «Вынішчэнне», якая стала штуршком і падмуркам для выдання гэтага даведніка

29 кастрычніка 1937 г., у дзень Ленінскага камсамола і, напэўна, у гонар 20-годдзя кастрычніцкага перавароту, у сталіцы Беларусі Мінску адбылася акцыя, аналагаў якой яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва. На працягу ночы былі расстраляны 22 (!) беларускія і яўрэйскія літаратары. Ахвярамі сталінскага генацыду сталі: Якаў Бранштэйн (39 гадоў), Віктар Вайноў (Войнаў) (33), Анатоль Вольны (34), Платон Галавач (34), Алесь Дудар (32), Хацкель Дунец (40), Міхась Зарэцкі (35), Васіль Каваль (30), Язэп Каранеўскі (56), Майсей Кульбак (41), Аляксей Кучынскі (45), Саламон Левін (25), Юрка Лявонны (29), Валеры Маракоў (28), Зяма Півавараў (27), Васіль Сташэўскі (42), Ізі Харык (41), Пятро Хатулёў (25), Міхась Чарот (40), Макар Шалай (31), Павел Шастакоў (38), Арон Юдэльсон (30).

Разам з літаратарамі расстралялі выкладчыка Мінскага Белпедтэхнікума Ігната Афанасьева, былога наркама асветы Аляксандра Варончанку, настаўніка Івана Жывуцкага, дырэктара ўпраўлення па ахове аўтарскіх правоў пры СП БССР Іосіфа Кудзельку, студэнта гістфака Ленінградскага дзяржаўнага універсітэта Саламона Лямпер-

[1] Тэкст даецца з папраўкамі і ўдакладненнямі.

та, загадчыка секцыі геаграфіі Інстытута эканомікі АН БССР Стэфана Маргелава, вучонага-аграхіміка Рыгора Пратасеню, загадчыка вучэбнай часткі Мінскага вышэйшага педінстытута Міхаіла Рыдзеўскага, фізіка Яўгена Успенскага, другога былога наркама асветы Аляксандра Чарнушэвіча, іншых навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, прадстаўнікоў тэхнічнай інтэлігенцыі. Усяго — 52 чалавекі.

У наступную ноч крывавы спіс дапоўнілі прозвішчы журналіста Прохара Іспраўнікава, празаіка Янкі Нёманскага, паэтаў Тодара Кляшторнага і Юлія Таўбіна. Усяго — 26 чалавек.

Але і праз 50 гадоў нашчадкі расстраляных не будуць ведаць праўды пра лёс сваіх сваякоў, бо пасля смерці галоўнага забойцы ўсіх часоў і народаў атрымаюць даведкі аб «рэабілітацыі»: «Ваш бацька (маці і г.д.) памёр ад інфаркту (інсульту, туберкулёзу і г.д.) у турэмнай бальніцы (лагеры, на фронце, па дарозе дахаты)». І праз 50 гадоў многія з тых, хто не атрымаў «пісулек-рэабілітацыяў», працягвалі жыць надзеяй на вяртанне сваіх блізкіх, — чакалі.

«Крымінальныя» справы рэпрэсаваных, але нерэабілітаваных пісьменнікаў і дагэтуль застаюцца сакрэтнымі нават для даследчыкаў.

Аднаму з самых маладых сярод расстраляных тымі днямі літаратараў Юлію Таўбіну было 26 гадоў. Як выявілася, паэту ўдалося адправіць нашчадкам ліст з «таго свету». Незадоўга да арышту Юлі Таўбін паслаў у Ленінградскае аддзялен-

не выдавецтва «Художественная литература» падборку перакладаў на рускую мову вершаў Альфрэда Хаўсмана, якія потым увайшлі ў зборнік «Антология новой английской поэзии» (выйшаў праз 20 дзён пасля расстрэлу паэта). Пераклад верша англійскага паэта «Законы Бога и людей» якраз і прагучаў своеасаблівым пасланнем з таго свету:

*…Себе другой избрал я путь –*
*Они хотят меня вернуть.*
*Но я, хуля законы их,*
*Им не навязывал своих.*
*Мол, как угодно, господа, —*
*Раз вы туда, так я сюда.*
*Так нет же! Им стерпеть нельзя,*
*Что у него своя стезя.*
*Они грозят – иди назад,*
*Не то – тюрьма, петля и ад.*
*Как не робеть мне! Суд их скор.*
*Могу ль вступить в неравный спор?*
*Не я построил этот мир.*
*Я в нем блуждаю, чужд и сир.*
*Хоть глупые, но господа –*
*Они. Их сила, их права.*
*А нам на Марс не улететь*
*С тобой, душа моя… Так впредь*
*Смирись и следовать сумей*
*Законам Бога и людей…*

У тым юбілейным для бальшавікоў 1937-м, калі іх гвардзейцы-энкавэдысты пачалі татальнае вынішчэнне нацдэмаў (інтэлектуальнай беларускай эліты), толькі за тры асеннія месяцы пачварамі таталітарнага рэжыму было расстраляна больш за пяцьдзесят беларускіх пісьменнікаў. За дзесяцігоддзе ж — з 1930-га па 1939-ы г. — рэпрэсавана не менш за 350 беларускіх літаратараў. Амаль палову з іх — расстралялі.

«Рэпрэсаваны»... Знайшлі ж бальшавікі слова! Не канкрэтнае — «расстраляны» або загублены на катарзе, ці замардаваны ў ссылцы, а замежнае, не кожнаму да канца зразумелае — «рэпрэсаваны» (з лацінскай repressor — падаўленне).

Карная машына не кранула: Э.Агняцвет, А.Астрэйку, В.Барысенку, П.Броўку, Л.Бэндэ, З.Бядулю, В.Вітку, Ю.Віцьбіча, В.Вольскага, П.Глебку, К.Губарэвіча, І.Гурскага, З.Жыткевіча, П.Кавалёва, М.Клімковіча, К.Крапіву, А.Куляшова, А.Кучара, М.Ларчанку, Я.Ліманоўскага, М.Лынькова, Я.Маўра, М.Модэля, Р.Мурашку, Я.Рамановіча, Я.Садоўскага, М.Цэлеша, Я.Шарахоўскага, А.Якімовіча і некалькі дзесяткаў менш вядомых аўтараў.

У спісы ахвяр уключаны і пісьменнікі-пачаткоўцы, якія з-за «ранняга» арышту не паспелі акунуцца ў актыўнае літаратурнае жыццё: М.Гваздоў, С.Мурзо, С.Русаковіч і інш. Называюцца і аўтары, што загінулі ў выніку тэрарыс-

тычных актаў (Ф.Акінчыц, Ф.Аляхновіч, М.Гурын-Маразоўскі, У.Казлоўскі, В.Іваноўскі) або вымушанага самагубства (М.Галадзед, У.Ігнатоўскі, А.Чарвякоў).

Названы і прадстаўнікі дыяспары, якія турмы, канцлагеры і высылкі таксама спазналі не па чутках: А.Адамовіч, В.Адважны, Н.Арсеннева, У.Дудзіцкі (Гуцька), В.Жук-Грышкевіч, Х.Ільяшэвіч, М.Кавыль, А.Калубовіч, Я.Кіпель, У.Клішэвіч, Р.Крушына, Л.Крывічанін, Ф.Кушаль, Я.Найдзюк, В.Рагуля, Я.Станкевіч, П.Сыч, М.Сяднёў, У.Сядура, С.Хмара і іншыя.

Пры падрыхтоўцы спісаў мне вельмі дапамаглі старэйшыя нашы пісьменнікі С.Грахоўскі, П.Пруднікаў, вядомыя даследчыкі У.Адамушка, А.Мальдзіс, У.Міхнюк, Л.Савік, Я.Саламевіч, В.Скалабан, Я.Янушкевіч, супрацоўнікі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя», Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, Беларускага Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, Літаратурнага музея Янкі Купалы, іншых дзяржаўных і грамадскіх арганізацый.

У працэсе збору біябібліяграфічных і іншых звестак з жыцця і творчасці рэпрэсаваных літаратараў былі знойдзены фотаздымкі аўтараў, якія раней не былі змешчаны ў энцыклапедыях або даведніках: Г.Брэскай, У.Прыбыткоўскага, У.Сядуры, А.Траецкага, П.Хатулёва, М.Шалая.. Гэтая праца працягваецца.

Пры апрацоўцы спісаў у камп'ютэрнай праграме *Microsoft Excel* па датах нараджэння, смерці і арыштаў высветлілася наступнае:

З 540—570 літаратараў, якія друкаваліся ў Беларусі ў 1920—1930-я гады XX ст., бальшавікі рэпрэсавалі не менш за 440—460 (80%), а калі ўлічваць аўтараў, змушаных пакінуць Бацькаўшчыну і, па сутнасці, перапыніць свой удзел у творчым жыцці на Радзіме, рэпрэсіям падвергліся не менш як 500 літаратараў[2] (90%).

Маючы на ўвазе, што асноўнай сілай інтэлігенцыі таго часу пераважна былі дзеячы літаратуры — паэты, празаікі, драматургі, крытыкі, журналісты, перакладчыкі, публіцысты, рэдактары, выдаўцы, вучоныя гуманітарных напрамкаў — філосафы, гісторыкі, літаратуразнаўцы, моваздаўцы, географы, краязнаўцы і іншыя, якія таксама актыўна выступалі ў перыядычным друку, атрымліваем ВЫНІК: у 30-я гады была знішчана духоўная моц, мозг нацыі, што мы і адчуваем апошнія шэсць дзе-

[2] Гэтыя лічбы супадаюць і са звесткамі, прыведзенымі У.Сядурам у яго грунтоўным дакладзе «Беларуская культура і таталітарызм», з якім ён выступіў у сакавіку 1953 г. на навуковай канферэнцыі ў Мюнхенскім інстытуце па вывучэнні гісторыі і культуры СССР. Прагучала інфармацыя «аб знішчэнні (органамі ГПУ—НКВД. — *Л.М.*) бадай усіх прадстаўнікоў нацыянальна-адраджэнчай плыні ў беларускай літаратуры. 500 без аднаго знішчаных маладнякоўцаў, бальшыня ліквідаваных палымянцаў і ўзвышэнцаў».

сяцігоддзяў. Зрэшты, можа стацца і так, што галоўныя вынікі гэтага этнагенацыду, магчыма, яшчэ наперадзе.

Шэраг беларускіх літаратараў арыштоўвалі як царскія, так і бальшавіцкія ўлады[3] (значыць, бальшавікі пачыналі не на голым месцы, а быццам пераймалі эстафету ад царскага рэжыму):

драматург і тэатральны дзеяч Францішак Аляхновіч (1913, 1927), празаік і журналіст Іван Баранкевіч (1905—1907, 1931, 1941), пісьменнік Іван Батрак (Казлоўскі) (1915, 1930-я), дзяржаўны дзеяч, публіцыст Радзівон Бонч-Асмалоўскі (1908, 1930, 1938), пісьменнік і перакладчык Дарафей Бохан (1907, 1939), гісторык Барыс Брэслаў (1901 і яшчэ 4 разы да 1917, 1937), гісторык Барбара Будкевіч (1906, 1909, 1937), публіцыст Аляксандр Бурбіс (1906, 1917, 1918), палітычны дзеяч і публіцыст Хаім Гельфанд (да 1917 — неаднаразова, 1921), паэт, сатырык, мемуарыст Анатоль Дзяркач (1908, 1936), гісторык Яўсей Канчар (1906, 1938), бібліёграф, гісторык, журналіст Абрам Кіржніц (да 1917 — неаднаразова, 1917, 1938), палітычны дзеяч і публіцыст Юльян Ленскі (1914, 1937), пісьменнік, мовазнавец, акадэмік АН Беларусі Язэп Лёсік (1905, 1911, 1922, 1930, 1938), палітычны і грамадскі дзеяч, публіцыст, гісторык, выдавец Антон

[3] Таксама польскія: Радаслаў Астроўскі (1911 і 1927 гг.), Стафан Багушэўскі (1905 і 1936 гг.) і інш.

Луцкевіч (1904, 1919, 1920, 1927, 1939), палітычны дзеяч, публіцыст Міхаіл Маёраў (да 1917 — неаднаразова, 1938), палітычны дзеяч і публіцыст Язэп Мамонька (да 1917 двойчы, 1917, 1918, 1920, 1921, 1928), гісторык і публіцыст Стасіс Матулайціс (1898, 1937), дзеяч рэвалюцыйнага руху, публіцыст Станіслаў Мертэнс (1913, 1925, 1937), дзяржаўны дзеяч і публіцыст Васіль Рагуля (1906, 1928, 1939), грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, педагог Сымон Рак-Міхайлоўскі (1905, 1927, 1933), літаратуразнавец, краязнавец і гісторык Уладзімір Стукаліч (1889, 1918), выдавец, публіцыст, грамадскі дзеяч, рэдактар «Нашай нівы» Аляксандр Уласаў (1910, 1921, 1939).

ПЕРШЫМІ бальшавікі арыштавалі (18 снежня 1917 г.) культурнага і палітычнага дзеяча, публіцыста Аляксандра Бурбіса, грамадскага дзеяча, паэта Аляксандра Вазілу, паэта і літаратуразнаўца Ігната Дварчаніна. Неўзабаве былі забраны грамадскі і ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык і педагог Кастусь Езавітаў, палітычныя дзеячы Язэп Мамонька і Васіль Захарка.

ПЕРШЫМ, каго новыя ўлады расстралялі, быў літаратуразнавец, гісторык, краязнавец Уладзімір Стукаліч (18 кастрычніка 1918 г. ў Віцебску).

ПЕРШЫ МАСАВЫ расстрэл беларускіх літаратараў адбыўся ў маі 1934 г. Тады ў ноч з 17 на 18-га энкавэдысты расстралялі грамадскага і палітычнага дзеяча, празаіка, паэта і журналіста Андрэя Ка-

пуцкага, педагога і публіцыста Міхаіла Кахановіча, загадчыка аддзела газеты «Звязда» Аляксандра Нікалаева-Астравецкага, аспіранта БДУ, паэта Алеся Салагуба, навуковага супрацоўніка Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР, публіцыста Лявона Бабровіча. Усяго 17 мая 1934 г. было расстраляна 25 чалавек.

АПОШНІМІ літаратарамі, знішчанымі ў «амерыканцы»[4], сталі адзін з першых, каго бальшавікі арыштавалі — Кастусь Езавітаў, юрыст, гісторык Мікалай Шкялёнак, удзельнік антысавецкага руху, публіцыст Янка Філістовіч і, верагодна, літаратуразнавец, лінгвіст, педагог, рэдактар, аўтар «Практычнага расійска-беларускага слоўніка» (з М.Гарэцкім) і «Беларуска-расійскага слоўніка» (разам з С.Некрашэвічам) Мікола Байкоў.

ПЕРШЫМ у ссылцы загінуў паэт Уладзімір Жылка (1.3.1933). АПОШНІМ — празаік Барыс Мікуліч (17.6.1954).

ПЕРШАЯ хваля арыштаў беларускіх літаратараў пачалася ў канцы чэрвеня 1930 г. На працягу двух месяцаў былі арыштаваны больш за 50 лепшых сыноў Беларусі: А.Адамовіч, М.Азбукін, А.Бабарэка, П.Бузук, М.Грамыка, У.Дубоўка, А.Дудар (у ссылцы), Я.Дыла, Ф.Ждановіч, У.Жылка, В.Ластоўскі, Я.Лёсік, С.Некрашэвіч, У.Пічэта, Я.Пушча, А.Сак, В.Шашалевіч, Б.Эпімах-Шыпіла, Аляксандр

[4] Унутраная турма НКВД.

і Іван Цвікевічы, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, Чэслаў і Леапольд Родзевічы.

Пра арышты, праведзеныя польскімі ўладамі ў Заходняй Беларусі ў 1927 — 1929 гг., калі былі арыштаваны Ф.Акінчыц, А.Альшэўскі, Я.Бабровіч, П.Валошын, М.Гурын-Маразоўскі, М.Дварэцкі, Х.Ільяшэвіч, Ф.Каравацкі, С.Клінцэвіч, М.Краўцоў, А.Луцкевіч, А.Любецкая, Я.Мамонька, М.Машара, П.Мятла, С.Новік-Пяюн, У.Паўлюкоўскі, П.Пестрак, В.Рагуля, С.Рак-Міхайлоўскі, Б.Тарашкевіч, В.Таўлай, С.Хмара і іншыя, трэба гаварыць асобна.

ДРУГАЯ буйная хваля арыштаў пачалася 23 лютага 1933 г. Толькі за адну ноч энкавэдысты арыштавалі: С.Астрэйку, З.Віталіна (Сергіевіча), Ф.Гінтаўта, У.Дудзіцкага, М.Кавыля, Л.Калюгу, С.Ліхадзіеўскага, М.Лужаніна, С.Русаковіча.

ТРЭЦЯЯ і самая працяглая хваля арыштаў пачалася (па гэтак званай «разнарядке») увосень 1936 г. і доўжылася да пачатку—сярэдзіны 1938 г. За паўтара года было рэпрэсавана больш за 200 літаратараў (шмат хто паўторна): А.Адамовіч, М.Азбукін, М.Аляхновіч, З.Астапенка, А.Бабарэка, М.Багун, С.Баранавых, П.Бузук, Я.Бяганская, А.Вольны, І.Воўк-Левановіч, П.Галавач, У.Галубок, Ц.Гартны, браты Максім і Гаўрыла Гарэцкія, С.Грахоўскі, У.Дубоўка, А.Дудар, А.Дзяркач, Ф.Ждановіч, І.Замоцін, М.Зарэцкі, А.Звонак, В.Каваль, У.Клішэвіч, Т.Кляшторны, Ф.Куляшоў, В.Ластоўскі, Т.Лебяда, Я.Лёсік, Ю.Лявонны, В.Маракоў, Б.Мікуліч, Я.Нё-

манскі, А.Пальчэўскі, М.Піятуховіч, П.Прруднікаў, С.Рак-Міхайлоўскі, А.Сак, Я.Скрыган, Л.Случанін, А.Смоліч, В.Сташэўскі, М.Сяднёў, А.Сянкевіч, Б.Тарашкевіч, Ю.Таўбін, У.Хадыка, І.Харык, В.Хомчанка, М.Чарот, К.Чорны, С.Шушкевіч і інш.

ЧАЦВЁРТАЯ хваля пачалася ўвосень 1939 г. пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР і ўваходу ў Вільню Чырвонай Арміі. Арыштавалі Ф.Абрантовіча, В.Багдановіча, Д.Бохана, Я.Быліну, В.Жук-Грышкевіча, М.Краўцова, Ф.Кушаля, А.Луцкевіча, А.Неканда-Трэпку, Я.Міско, Я.Найдзюка, С.Новіка-Пеюна, Я.Пазняка, В.Рагулю, У.Самойлу, Я.Станкевіча, П.Сыча, А.Уласава, Ф.Умястоўскага, С.Хмару, М.Чатырку… Лёс злітаваўся толькі над М.Машарам, М.Танкам, В.Таўлаем і яшчэ некалькімі «заходнікамі».

ПЯТАЯ хваля арыштаў пачалася ў канцы 1944 г. і працягвалася амаль да смерці І.Сталіна. Арыштоўвалі вернутых з Захаду падманам або сілай «уцекачоў» К.Езавітава, Т.Лебяду, Л.Случаніна, М.Шкялёнка і паўторна «недабітых» у 1930-я гг. нацдэмаў А.Александровіча, М.Ганчарыка, С.Грахоўскага, У.Дубоўку, Б.Мікуліча, А.Пальчэўскага, С.Сахарава, Я.Скрыгана, М.Улашчыка, М.Хведаровіча, С.Шушкевіча і інш.

Наймаладзейшымі сярод больш чым 500 арыштаваных беларускіх літаратараў былі: паэт Міхась Кавыль (Язэп Лешчанка), празаік Васіль Хомчанка, літаратар Аўген Калубовіч (усе рэпрэсаваны ў

18 гадоў). Найстарэйшым, у 71 год, арыштавалі мовазнаўца Браніслава Эпімах-Шыпілу (1930).

Наймаладзейшымі сярод расстраляных, верагодней за ўсё, былі аўтар паэмы «Бенгалія» (пакуль не знойдзена), выпускнік славутага Мінскага Белпедтэхнікума Сяргей Астрэйка (расстраляны ў 24 гады), паэт Уладзімір Кавальскі (пісаў на польскай мове) і выпускнікі яшчэ аднаго «гнязда нацдэмаў», мінскага вышэйшага Белпедінстытута, крытыкі Саламон Левін і Пятро Хатулёў (расстраляны ў 25 гадоў). Найстарэйшым, у 69 гадоў, расстралялі (відаць, у Маскве) пісьменніка Гілеля Калмансона (магчыма, разам з сынам, літаратурным крытыкам і паэтам Г.Лялевічам).

Па колькасці арыштаў (улічаны арышты, якія былі праведзены расійска-царскімі, савецкімі, польскімі, літоўскімі і нямецкімі ўладамі) «чэмпіёнамі» з'яўляюцца: Язэп Мамонька (7 разоў), Анатоль Бонч-Асмалоўскі, Міхаіл Гольман, Барыс Брэслаў (усе па 6 разоў), Вінцэнт Гадлеўскі, Клаўдзій Душэўскі, Кастусь Езавітаў, Андрэй Капуцкі, Язэп Лёсік, Аляксандр Лупіновіч, Антон Луцкевіч, Сяргей Новік-Пяюн (па 5), Варвара Бонч-Асмалоўская, Максім Бурсевіч, Аляксандр Вазіла, Палута Бадунова, Уладзіслаў Галубок, Максім Гарэцкі, Гаўрыла Гарэцкі[5], Хаім Гельфанд, Восіп Гласко, Аляксандр Данялюк, Ігнат

[5] Па іншых звестках – пяць.

Дварчанін, Абрам Кіржніц, Сямён Клінцэвіч, Міхась Кукабака, Мікалай Марцінчык, Паўліна Мядзёлка, Антон Неманцэвіч, Мікола Улашчык (па 4 разы).

Тройчы арыштоўваліся: М.Абрамовіч, М.Азбукін, Ф.Аляхновіч, С.Анісаў, М.Анішчык, А.Бабарэка, Я.Бабровіч, В.Багдановіч, І.Баранкевіч, У.Беняшэвіч, Р.Бонч-Асмалоўскі, Б.Будкевіч, П.Бузук, А.Бурбіс, А.Вайнштэйн, А.Гародня, У.Гінтаўт-Дзевалтоўскі, С.Грынкевіч, А.Дабулявічус, У.Дубоўка, А.Дудар, Я.Дыла, Н.Емяльянаў, П.Жаўрыд, П.Ільючонак, У.Каліноўскі, П.Каравайчык, Б.Кіт, І.Краскоўскі, Ф.Купцэвіч, В.Ластоўскі, П.Лепяшынскі, Ю.Лістапад, А.Лябецкая, М.Маёраў, М.Машара, Мелхіседэк, С.Мертэнс, Я.Міско, П.Мятла, У.Паўлюкоўскі, К.Петрусевіч, М.Пецюкевіч, Ф.Пірышка, У.Пракулевіч, В.Рагуля, С.Рак-Міхайлоўскі, Л.Родзевіч, Д.Розеншэйн, Р.Сабаленка, А.Салагуб, А.Сузін, Б.Тарашкевіч, В.Таўлай, А.Уласаў, А.Цвікевіч.

Вельмі нечаканыя вынікі высвятляюцца, калі супаставіць колькасць рэпрэсаваных літаратараў Беларусі з колькасцю рэпрэсаваных літаратараў іншых рэспублік былога СССР. Рускі журналіст і даследчык Эдуард Белтаў (цяпер жыве ў Ізраілі) ужо больш за чвэрць стагоддзя збірае матэрыялы пра незаконна рэпрэсаваных у 1930 — 1950-я гг. дзеячаў культуры, вучоных, ваенных і асоб-

на (паводле прафесійных прыхільнасцяў) пісьменнікаў. Па звестках Э.Белтава, на Украіне было рэпрэсавана каля 500 літаратараў (загінула больш за 150). У Расіі — каля 600. У гутарцы з журналістам штотыднёвіка «Книжное обозрение» (1988. № 25. 17 июля. С. 7.; пазнейшых публікацый расійскага даследчыка няма нават у «персаналіях» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі) Э.Белтаў расказаў, што «вопреки моим предположениям, репрессированных русских литераторов оказалось меньшинство. Из тысячи погибших (маецца на ўвазе ўвесь СССР; паводле дадзеных Э.Белтава, у час культу асобы было рэпрэсавана каля 2000. – *Л.М.*) примерно семьсот — писатели союзных и автономных республик. По национальным литературам был нанесен такой сокрушительный удар, что некоторые из них от него еще не оправились и вряд ли оправятся в ближайшее время».

Дык вось: з 2000 рэпрэсаваных у СССР літаратараў каля 500 (чвэрць) прыходзіцца на Беларусь, колькасць насельніцтва якой складала ў час рэпрэсіяў у СССР менш за 5 працэнтаў.

У 1958 г. Інстытутам вывучэння СССР (ЗША) была выдадзена манаграфія Уладзіміра Сядуры «Доля беларускай культуры пад Саветамі» (у 1959 г. выйшла на нямецкай мове). Аўтар разбівае паслякастрычніцкі час гісторыі Беларусі на пяць перыядаў, «якія вызначаліся галоўнымі

зменамі ў галіне нацыянальнай палітыкі савецкае ўлады»:

1. Перыяд адноснага рэнесансу (1920 — 1929).

2. Трагічны перыяд змагання партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам і нацыянальнымі ўхіламі (1930—1940).

3. Перыяд вымушаных уступак нацыянальнай культуры ў часе вайны (1941 — 1945).

4. Перыяд жданаўскай рэакцыі і сталінскай кананізацыі (1946 — 1952).

5. Перыяд замены сталінскай кананізацыі г. зв. «калектыўным кіраўніцтвам» партыі (1953—1958)».

Здаецца, толькі з характарыстыкай другога перыяду гісторыі Беларусі можна паспрачацца. Відаць, больш правільна было б казаць не пра «змаганне партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам», а пра ЗНІШЧЭННЕ партыяй беларускай эліты, мозгу нацыі, яе інтэлектуальнага генафонду. На гэты перыяд прыпадае 4 з 5 хваляў арыштаў.

Сёння мы ўжо можам прадоўжыць перыядызацыю У.Сядуры:

6. Перыяд «хрушчоўскай адлігі» (1957—1965). Закрануў ён і Беларусь. Найбольш характэрным паказчыкам гэтага перыяду з’яўляецца выхад шэрагу твораў рэпрэсаваных пісьменнікаў, з’яўленне артыкулаў пра жыццёвы і творчы шлях пакутнікаў, успамінаў ацалелых.

7. Перыяд застою, або перыяд «ціхай», але сталай і нязменнай палітыкі антыбеларусізацыі (1966—1986). За дваццаць гадоў у выніку поўнай русіфікацыі ўсёй сістэмы адукацыі колькасць насельніцтва, якое размаўляла па-беларуску, значна зменшылася.

8. Перыяд другога адноснага рэнесансу, або перыяд дэмакратызацыі (галоснасці) (1987 — 1994). Упершыню пачалі выходзіць творы пісьменнікаў-эмігрантаў. Колькасць беларускіх школ пачала павялічвацца (упершыню за апошнія 60 гадоў).

9. Перыяд, які яшчэ працягваецца, чакае свайго вызначэння, даследчыкаў (ад 1994 і да нашых дзён).

Першага жніўня 1937 г. на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» гарэла некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў. Гарэлі творы, якія не праскочылі цэнзуру або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў. Гарэлі рукапісы М.Багуна, С.Баранавых, А.Вольнага, П.Галавача, У.Галубка, Ц.Гартнага, М.Гваздова, С.Дарожнага, А.Дзеркача, А.Дудара, М.Зарэцкага, С.Знаёмага, В.Каваля, Т.Кляшторнага, Ю.Лявоннага, В.Маракова, Я.Нёманскага, З.Півоварава, С.Ракіты, А.Розны, В.Сташэўскага, Б.Тарашкевіча, У.Хадыкі, І.Харыка, М.Чарота, В.Шашалевіча і многіх іншых. Гарэла амаль уся спадчына пісьменнікаў «першага прызыву».

Няма чалавека — няма толькі адной праблемы. Няма рукапісаў — няма паэтаў, няма гісторыі, няма народа!

Нашу гісторыю разам з нашым народам ЯНЫ увесь час і выкарчоўваюць. Калі мячом, калі агнём.

А выслоўю «рукапісы не гараць» я цяпер не веру.

# ПРАДМОВА

## Частка I

## Рэпрэсіі супраць беларускіх дзеячаў культуры ў XIX— пачатку XX стагоддзя

З 1795 г., пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, беларускія землі з насельніцтвам каля трох мільёнаў чалавек апынуліся пад уладай Расіі. У адносінах да беларускай арыстакратыі (адрозна ад сялянства) царскі ўрад спачатку быў асцярожны. Нават канфіскаваныя ў шляхціцаў, якія змагаліся ў войсках Напалеона, маёнткі былі неўзабаве вернутыя іх гаспадарам. Але ў 20–я гг. XIX ст. пад уплывам рэвалюцыйных падзей у Заходняй Еўропе значна ўзмацніўся грамадска–палітычны, нацыянальна–вызваленчы рух і на беларускіх землях. Гэта і стала прычынай таго, што царская палітыка да заходніх губерняў набыла больш жорсткі характар[1].

ПЕРШАЯ хваля пераследаванняў і арыштаў ахапіла край у 1823—1824 гг. у сувязі са справай філаматаў—філарэтаў. Цікава, што на пачатку XIX ст. дзейнасць тайных таварыстваў моладзі Беларусі і

[1] Гісторыя Беларусі (у дзвюх частках). Мн. 2000. Ч. I. С. 263—272.

Літвы мела яшчэ мірны, асветніцкі характар. Так, калі 1 кастрычніка 1817 г. ў Віленскім універсітэце з ініцыятывы Тамаша Зана, Адама Міцкевіча, Анупрэя Петрашкевіча і іншых узнікла *Таварыства філаматаў* (сяброў навук), яго ўдзельнікі ставілі перад сабой мэты маральнага, творчага ўдасканалення, узаемадапамогі ў атрыманні ведаў. У 1818 г. яны запісалі ў статуце, што імкнуцца «па меры магчымасці садзейнічаць усеагульнай асвеце». Адзін раз на тыдзень філаматы збіраліся на пасяджэнні, дзе чыталі свае літаратурныя творы і рэфераты па выніках навуковых даследаванняў. У тым самым годзе філаматы стварылі два аддзелы: літаратуры і вольных навук, а таксама фізікі, матэматыкі і медыцыны. Першы ўзначаліў А.Міцкевіч, другі — А.Петрашкевіч. Філаматы распрацавалі праграму збору статыстычных і этнаграфічных звестак пра родны край. Па прапанове Францішка Малеўскага паўстаў Статыстычны камітэт і было падрыхтавана «Геаграфічнае апісанне, ці Інструкцыя ў збіранні звестак для вывучэння парафіі». Потым расійскі сенатар Мікалай Навасільцаў так ахарактарызаваў гэта: «…без одобрения цензуры напечатали секретно в ночное время в виленской базилианской типографии, подкупив там на сей конец наборщиков…» Названую інструкцыю філаматы распаўсюджвалі ў 1821 г.

Найбольш небяспечным для расійскіх уладаў было тое, што філаматы пачалі рэалізоўваць стра-

тэгію пашырэння асветы на ўсе саслоўі, перайшлі да нацыянальна–патрыятычных дзеянняў. Яшчэ ў 1819 г. па ініцыятыве Адама Міцкевіча было створана першае адгалінаванне Таварыства — *Саюз сяброў*, у які за год уступіла 30 студэнтаў універсітэта. У 1820 г. Тамаш Зан арганізаваў *Таварыства прамяністых* (іншая назва — *Таварыства сяброў карыснай забавы*), якое ставіла мэтай прыцягнуць да дзейнасці шырэйшае кола моладзі. Распушчаная універсітэцкім кіраўніцтвам арганізацыя аднавілася як тайнае *Таварыства філарэтаў* (прыхільнікаў маральнай чысціні).

Рэпрэсіі супраць сяброў згаданых вышэй таварыстваў распачаліся пасля таго, як 3 мая 1823 г. (гадавіна ліберальнай Канстытуцыі 1791 г.) у Віленскай гімназіі крэйдай на дошцы было напісана «Няхай жыве Канстытуцыя 3 мая!» Менавіта тады ў Вільню быў накіраваны сенатар Навасільцаў, якому ўдалося натрапіць на след філарэтаў. Не абышлося і без здрады — Ян Янкоўскі назваў імёны сяброў Таварыства. Такім чынам, у 1823 г. былі арыштаваны: Антон Адынец, Ян Вернікоўскі, Ігнат Дамейка, Тамаш Зан, Восіп Кавалеўскі, Ян Станіслаў Казакевіч, Фелікс Кулакоўскі, Мікалай Маліноўскі, Іосіф Масальскі, Адам Міцкевіч, Юльян Міцкевіч, Міхал Рукевіч, Адам Сузін, Аляксандр Ходзька, Дамінік Ходзька, Ян Чачот, Юзаф Яжоўскі. Францішка Малеўскага затрымалі ў Берліне і перадалі расійскім уладам. На пачатку 1824 г.

у келлі былога базыльянскага кляштара трапілі Цыпрыян Дашкевіч, Анупрэй Петрашкевіч і інш.

Лёс філаматаў і філарэтаў вырашыла спецыяльная камісія, прызначаная царом Аляксандрам I. Дваццаць чалавек назаўсёды выслалі ў аддаленыя губерні Расіі. Самае жорсткае пакаранне вынеслі Тамашу Зану, Яну Чачоту і Адаму Сузіну, якіх адправілі на Урал. 80 філаматаў і філарэтаў адпусцілі пад нагляд паліцыі.

Праслед закрануў і універсітэцкіх выкладчыкаў, якія так ці інакш падтрымлівалі тайныя таварыствы — знакамітага славіста і біблеіста Міхала Баброўскага выслалі ў Жыровіцкі базыльянскі кляштар, вядомага гісторыка права Ігната Даніловіча звольнілі з пасады і вымусілі пакінуць Вільню і беларуска–літоўскія землі. Рэха працэсу адгукнулася і ў 1826 г., калі за сувязь з Таварыствам філаматаў у Пецярбургу быў арыштаваны і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць драматург Ян Ходзька.

Пасля такіх захадаў інтэлектуальны патэнцыял Беларусі значна паслабеў. Менавіта гэта і было галоўнай мэтай уладаў. Але высылкай філаматаў і філарэтаў рэпрэсіі ў 1820–х гг. не абмежаваліся.

Асобны сюжэт — арышты беларускіх удзельнікаў дзекабрысцкага руху. Сябра *Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў* Фёдара Вадкоўскага затрымалі 21 снежня 1825 г. ў Курску. У час паўстання Чарнігаўскага пяхотнага палка Іван Гарбачэўскі

спрабаваў узняць суседнія вайсковыя часці. Яго арыштавалі 20 студзеня 1826 г. і зняволілі ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Заснавальніка таварыства «Ваенных сяброў» і натхняльніка выступлення Літоўскага піянернага батальёна філамата Міхала Рукевіча арыштавалі (паўторна) 15 студзеня 1826 г.

У 1828 г. расійскія ўлады абвінавацілі яшчэ аднаго прафесара Віленскага універсітэта — Ігната Анацэвіча — у сувязях са студэнцкай арганізацыяй «*Плямёны сарматаў*», адхілілі яго ад выкладчыцкай дзейнасці і выслалі на Радзіму — у Малую Бераставіцу Гродзенскага павета.

У тым жа 1828 г. адбылася падзея, вельмі важная для гісторыі беларускай літаратуры. У сувязі з сялянскімі хваляваннямі ў Крашыне і за распаўсюджанне верша «*Бунт хлопаў*» быў прыцягнуты да следства Паўлюк Багрым. Ад літаратурнай спадчыны паэта захаваўся толькі адзін верш — «*Зайграй, зайграй, хлопча малы…*», які стаў хрэстаматыйным. Мясцовы ксёндз і Багрымаў выхавальнік польскі паэт Войцех Магнушэўскі быў узяты спачатку пад ваенны нагляд, потым пад паліцэйскі. У такой неспрыяльнай псіхалагічнай атмасферы ён і памёр.

Лад жыцця краю сапраўды перавярнуў разгром паўстання 1830—1831 гг., пасля якога ўзнялася ДРУГАЯ хваля рэпрэсій. Само паўстанне распачалося 30 лістапада 1830 г. ў Варшаве, калі распаў-

сюдзіліся чуткі, што цар Мікалай I, будучы адначасова польскім каралём, вырашыў накіраваць польскую армію на задушэнне рэвалюцыі ў Францыі. У студзені—лютым 1831 г. быў створаны яшчэ адзін падпольны кіраўнічы орган — Віленскі цэнтральны паўстанцкі камітэт. Але на пачатку жніўня 1831 г. паўстанне ў Беларусі і Літве было задушана, хоць у заходняй Беларусі асобныя атрады працягвалі дзейнічаць. Паражэнне паўстання прынесла вялікія страты духоўнаму патэнцыялу Беларусі. Паводле ўказа цара пачаўся «разбор» шляхты і перавод значнай яе часткі ў аднадворцы. Быў закрыты Віленскі універсітэт (1832), ліквідавана Уніяцкая царква (1839), спынена дзеянне Статута ВКЛ (1840). Многія слынныя людзі краю былі арыштаваны (Міхал Балінскі, Пётр Высоцкі, Язэп Ходзька, Ян Ходзька, Адольф Янушкевіч). Ануфрэя Петрашкевіча арыштавалі ўжо ў Маскве. Сярод рэпрэсаваных зноў бачым імёны філаматаў і філарэтаў. Некаторыя з іх ужо ніколі не вернуцца з высылкі (Іосіф Масальскі). Частка паўстанцаў эміgравала (Ігнат Дамейка, Ільдафонс Анцыпа і інш.), вымушаны былі эміграваць і прыхільнікі паўстання (Адам Міцкевіч). У выніку развіццё грамадскай думкі і адукацыі на беларускіх землях запаволілася.

Але махавік рэпрэсій не спыніўся і пасля 1831 г. Удзельнік тайнага студэнцкага згуртавання Маскоўскага універсітэта ўраджэнец Віцебска Тадэвуш

Лада–Заблоцкі за вершы антыцарскага зместу ў 1833 г. быў выключаны з універсітэта, высланы на Радзіму і зняволены ў віцебскай турме. Увосень 1833 г. ўлады зноў арыштавалі ў ссылцы Адама Сузіна і абвінавацілі яго ў падрыхтоўцы захопу Арэнбурга з дапамогай салдат, сярод якіх было шмат высланых. З–за адсутнасці доказаў праз месяц ён быў вызвалены. Па слядах паўстання паліцыя ў 1833 г. арыштавала ксяндза Паўла Шышку. А Міхала Бабро ўскага, які ў 1826 г. вярнуўся да выкладчыцкай дзейнасці, у 1833 г. зноў адхілілі ад прафесарскай кафедры і выслалі ў мястэчка Шарашова, дзе ён заставаўся святаром да канца жыцця. У 1836 г. быў арыштаваны польскі паэт Каятан Лапатэцкі.

Але рэвалюцыйны запал тады не згас. Удзельнік паўстання 1830—1831 гг. Шыман Канарскі ў 1835 г. нелегальна вярнуўся з эміграцыі ў Расію і стварыў падпольную арганізацыю «*Садружнасць польскага народа*». Тады прыметнік «польскі» меў яшчэ больш шырокі сэнс, чым сёння, і азначаў таксама прыналежнасць да тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Фактычна Шыман Канарскі рыхтаваў новае паўстанне. У Беларусі ён знайшоў немалую колькасць прыхільнікаў, а яго арганізацыя пачала разрастацца, была нават створана філія «*Жаночае таварыства*». Але ў маі 1838 г. самога кіраўніка арыштавалі. Як вынік — на працягу 1838—1839 гг. па Беларусі пракацілася ТРЭЦЯЯ хваля арыштаў.

У вязніцы трапілі: Тамаш Булгак, Эдвард Жалігоўскі, Ян Станіслаў Казакевіч, Франц Савіч, Адам Сузін, Людвік Трынкоўскі, Ева Фялінская, Ян Ястржэмбскі. У 1840 г. быў схоплены ўдзельнік звязанага з Ш.Канарскім «Дэмакратычнага таварыства» філосаф і медык Мацей Лавіцкі.

Інерцыйны механізм рэпрэсій не спыняўся, арышты працягваліся. У 1840 г. зноў быў зняволены Каятан Лапатэцкі, у 1842 г. за вальнадумства высланы ў цэнтральныя губерні Расіі мастак і мастацтвазнавец Адам Шэмеш. Нават гімназісты не маглі разлічваць на спагаду — у 1840–х гг. удзельніка патрыятычнай суполкі Віленскай гімназіі Баляслава Длускага саслалі ў салдаты на Каўказ. Арышты па справе Канарскага працягваліся і ў 1845 г., як гэта здарылася з Максіміліянам Ятаўтам. Арыштанту ўдалося ўцячы, але ў 1848 г. ён зноў трапіў у астрог. За ўдзел у нелегальных студэнцкіх гуртках у 1846 г. быў зняволены ўраджэнец Случчыны мастак і літаратар Браніслаў Залескі (пазней – сябар Тараса Шаўчэнкі). Тлела таксама вуголле і ўзброеных выступаў — у 1846 г. арыштавалі за спробу ўзняць паўстанне Апаліна Гофмейсцера (т. зв. «справа Рэра»); у 1848 г. ён быў публічна ганьбаваны ў Вільні і сасланы ў арыштанцкія роты.

Працаваў механізм цэнзуры. Філосаф і пісьменнік Аляксандр Незабытоўскі з–пад Нясвіжа быў арыштаваны 12 ліпеня 1847 г. за спробу

ўвезці ў Расію нелегальныя выданні; паўторна арыштаваны 5 лістапада таго самага года ўжо ў сувязі з пачаткам следства па змесце кніг, але не дачакаўся прысуду — памёр у турме. У 1849 г. арыштавалі публіцыста Паўла Крунeвіча. За сваю публіцыстычную дзейнасць пацярпеў Рамуальд Падбярэскі, якога ў 1850 г. саслалі ў Архангельскую губерню, дзе ён і памёр.

Аднак прыдушыць адкрытую апазіцыйнасць уладам удалося толькі крыху больш чым на дзесяцігоддзе.

Наступныя арышты фіксуюцца ўжо ў 1861 г. У той перыяд Расія падыходзіла да вялікіх пераўтварэнняў у гаспадарцы і палітыцы — адмены прыгону, судовай, адміністрацыйнай, вайсковай рэформаў.

Такім чынам, у 1861 г. ўзнялася новая, ЧАЦВЁРТАЯ хваля рэпрэсій. У той год былі арыштаваны: Іван Гольц–Мілер — за друкаванне і распаўсюджванне нелегальнай літаратуры; публіцыст Баляслаў Дэнель; гісторык з Мінска Тадэвуш Корзан — за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях; схоплена і прымусова змешчана ў псіхіятрычную бальніцу Каміла Марцінкевіч; вядомы польскі і беларускі паэт, краязнавец Уладзіслаў Сыракомля — за выступленне на патрыятычнай маніфестацыі. Арышт стаў для яго фатальным — у час следства пісьменнік памёр.

Аднак арышты 1861 г. пацьмянелі на фоне крывавых падзей 1863—1864 гг.

Як і ў 1830 г., рашэнне пра пачатак паўстання прымалася ў Польшчы без узгаднення з беларуска–літоўскімі лідэрамі. Калі *Цэнтральны нацыянальны камітэт* у Варшаве абвясціў 22 студзеня 1863 г. днём узброенага выступу, то *Літоўскі правінцыяльны камітэт* (ЛПК) у Вільні на чале з Кастусём Каліноўскім быў абураны такім рашэннем і яшчэ дзесяць дзён вагаўся. Але Рубікон быў пяройдзены, і 1 лютага 1863 г. ЛПК заклікаў жыхароў Літвы і Беларусі падтрымаць пачатае ў Польшчы паўстанне. Пры гэтым ЛПК ператварыўся ў Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі. У самы разгар паўстання яго лідэры не маглі паразумецца адзін з адным, ад кіраўніцтва агульнакраёвага органа быў адхілены К.Каліноўскі, Варшава намагалася ўсталяваць свой кантроль над падзеямі ў Беларусі і Літве, рэгулярна дасылаючы сваіх эмісараў, якія часта вялі інтрыгі. Самаахвярнасць і мужнасць удзельнікаў паўстанцкіх атрадаў не маглі выратаваць сітуацыю, хоць на іх рахунку былі і вайсковыя перамогі.

Да пачатку верасня 1863 г. ў Беларусі і Літве паўстанне было практычна задушана магутнай ваеннай і карнай машынай Расіі.

ПЯТАЯ хваля рэпрэсій у Беларусі і Літве ўражвае маштабамі — 128 чалавек было пакарана смерцю, 12483 адпраўлены на катаргу і пасяленне ў Сібір, арыштанцкія роты і г. д. Маёнткі шляхты, якая мела дачыненне да паўстання, канфіскоўва-

ліся і на вельмі ільготных умовах передаваліся царскім генералам і чыноўнікам — ураджэнцам цэнтральных губерняў Расіі. Астатнія памешчыкі краю, нават расійскія паводле паходжання, былі абкладзены кантрыбуцыяй. За актыўны ўдзел студэнтаў у паўстанні ўлады зачынілі адзіную на той час у Беларусі вышэйшую навучальную ўстанову — Горы–Горацкі земляробчы інстытут, скарацілі колькасць сярэдніх навучальных устаноў.

Вось імёны рэпрэсаваных тады беларускіх дзеячаў культуры і навукі: Альгерд Абуховіч (пісьменнік), Аскар Авейдэ (гісторык), Іасафат Агрызка (выдавец), Аляксандр Акінчыц, Ільдафонс Анцыпа, Аляксандр Аскерка (публіцысты), Адольф Белакоз (выдавец; арыштоўваўся двойчы), Юзаф Беркман (мастак), Ігнат Бжастоўскі (публіцыст), Тамаш Булгак (мемуарыст), Аляксандр Валіцкі (літаратар і выдавец), Ялегі Пранціш Вуль (Э. Карафа–Корбут) (паэт), Арцём Вярыга–Дарэўскі (паэт, драматург), Станіслаў Горскі (прыродазнавец), Апалін Гофмейсцер (мемуарыст), Тамаш Грыневіч (паэт, продак Уладзіміра Караткевіча), Апалонія Далеўская (мемуарыстка), Вінцук Дунін–Марцінкевіч (паэт, драматург, класік беларускай літаратуры), Бенядзікт Дыбоўскі (прыродазнавец, даследчык Байкала), Уладзіслаў Дыбоўскі (прыродазнавец, фальклярыст), Аляксандр Здановіч (гісторык), Ігнат Здановіч (публіцыст), Фелікс Зянковіч (мемуарыст), Кастусь Каліноўскі (адзін з лідэ-

раў паўстання 1863–1864 гг., публіцыст, паэт), Юзаф Каліноўскі (рэлігійны дзеяч, мемуарыст, кананізаваны каталіцкім касцёлам), Адам Кіркор (выдавец, вучоны), Максіміліян Маркс (мемуарыст; арыштоўваўся двойчы), Зыгмунт Мінейка (нацыянальны герой Грэцыі), Тэадор Нарбут (гісторык, археолаг), Эдвард Паўловіч (мемуарыст, мастак), Адам Плуг (польскі і беларускі пісьменнік), Раман Рагінскі (мемуарыст), Людвіка Радзевіч (Ямант) (гісторык, мемуарыстка), Феліцыян Сурын (белетрыст), Фелікс Тапчэўскі (паэт), Мельхіёр Чыжык (вайсковец, паэт), Іван Чэрскі (географ, даследчык Сібіры). Яну Козел–Паклеўскаму ў той час удалося ўцячы, але ў 1872 г. яго арыштавалі як удзельніка паўстання.

Паўстанне 1863—1864 гг. як бы падвяло вынік цэламу этапу гісторыі Беларусі, яно сталася апошнім, дзе лідэрамі выступалі шляхецкія дэмакраты, а падзеі прымалі форму арганізаваных узброеных выступленняў. 1870–я гады сталі перыядам панавання народніцкіх ідэй, звязаных з цікавасцю да народа і верай у тое, што праз сельскія арцель і абшчыну можна перайсці да сацыялізму.

У Беларусі народніцкім ідэям былі адданыя цэлыя сем'і інтэлігентаў, напрыклад, Бонч–Асмалоўскіх. У 1872—1874 гг. яны арганізавалі «хаджэнне ў народ», на што ўлады адказалі новымі арыштамі. Былі арыштаваны Варвара Бонч–Асмалоўская (двойчы), Кацярына Брэшка–Брашкоўс-

кая, Сяргей Кавалік. Івана Гласку арыштавалі пазней — у 1877 г. У 1878—79 гадах ахвярамі сталі Анатоль Бонч–Асмалоўскі (усяго яго арыштоўвалі шэсць разоў), Іван і Восіп Гласкі, Уладзіслаў Гінтаўт–Дзевалтоўскі, Ісак і Яўгенія Гурвіч, Эдуард Пякарскі (даследчык Якуціі).

Названыя хвалі арыштаў былі рэпрэсіўнымі кампаніямі, арганізаванымі ўладамі ў кароткія перыяды. Арышты ж народнікаў і звязаных з імі людзей адбываліся праз усе 1880–я і 1890–я гг. Многіх народнікаў арыштоўвалі некалькі разоў. У сярэдзіне тых жа 1880–х гадоў былі рэпрэсаваны народнікі–гоманаўцы Марчанка, Ратнер, выдаўцы падпольнага часопіса «Гоман».

У апошняй трэці XIX ст. палітра грамадскай думкі станавілася ўсё больш разнастайнай. Побач з постнароднікамі ў Беларусі і Расіі пачалі з’яўляцца першыя марксісты, развіваўся сацыял–дэмакратычны рух. Прычым сацыял–дэмакраты мелі ў Беларусі розную нацыянальную афарбоўку — агульнарасійскую, польскую, яўрэйскую, літоўскую.

Канец XIX — пачатак XX ст. адзначаны яшчэ адной прынцыповай з’явай — узнікненнем беларускага нацыянальнага руху. Нацыянальна–культурніцкая актыўнасць была, асабліва на першым часе, спалучана з сацыяльнымі ідэямі. І вось уявіце сабе гэты клубок, гэтае перапляценне нацыянальных і сацыяльных лозунгаў — а менавіта так

выглядала грамадская думка Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. Таму мы не вылучаем асобна прадстаўнікоў той ці іншай плыні, а прыводзім агульны спіс арыштаваных у перыяд да рэвалюцыі 1905 г. дзеячаў культуры з указаннем гадоў затрымання: Ангел Багдановіч (1883), Мікалай Забела (1883), Восіп Вайніловіч (1884), Марыя Багушэвіч (1885), Дзмітрый Лапо (1885), Міхаіл Манцэвіч (1885, 1894), Аляксандр Мартынаў (1886, 1900), Уладзімір Горын–Галкін (1887), Уладзімір Стукаліч (1889), Мар'ян Абрамовіч (1890, 1892), Антон Лявіцкі (Ядвігін Ш.; 1890), Станіслаў Трусевіч (1892, потым неаднаразова арыштоўваўся і ссылаўся, з 1906 г. ў эміграцыі), Адам Гурыновіч (1893), Сяргей Галюн (1894), Панцеляймон Лепяшынскі (1895, 1902, 1909), Казімір Петрусевіч (1898, 1905), Яфім Гальперын (1900), Зыгмунт Нагродскі (1901), Барыс Брэслаў (1901, усяго арыштоўваўся чатыры разы), Іван Бонч–Асмалоўскі (1902, 1907), Іван Луцкевіч (1903), Антон Луцкевіч (1904).

ШОСТАЙ хваляй рэпрэсій можна лічыць арышты ў час рэвалюцыі 1905—1907 гг. — гэта сапраўды была запланаваная кампанія па ізаляцыі грамадска актыўных людзей. Вось іх імёны: Стафан Багушэўскі (1905), Іван Баранкевіч (1905—1907), Алесь Бурбіс (1906), Барбара Будкевіч (1906, 1909), Карусь Каганец (1905), Язэп Лёсік (1905, 1911), Лявон Лобік (1905), Васіль Рагуля (1906), Сымон

Рак–Міхайлоўскі (1905), Янка Сваяк (1907). Асобна назавём літаратараў і журналістаў, рэпрэсіі супраць якіх пачаліся ў сувязі з цэнзурным пераследам: Дарафей Бохан (1907), Алесь Гарун (1907), Міхаіл Мысаўской (1905).

Сярод тых, каго арыштоўвалі ўжо пасля рэвалюцыі, прыкметна больш нацыянальных беларускіх дзеячаў: Анатоль Дзяркач (Зіміёнка) (1908), Віктар Зелязей (1908), Якуб Колас (1908), Радаслаў Астроўскі (1911), Язэп Мамонька (да 1917 двойчы). За публіцыстыку арыштоўваліся і прыцягваліся да судовай адказнасці Аляксандр Уласаў (1910), Францішак Аляхновіч (1913). Сярод арыштаваных былі таксама палітычныя дзеячы — эсэры і сацыял–дэмакраты: Радзівон Бонч–Асмалоўскі (1908), Саламон Мілер (1910), Іван Батрак (Казлоўскі) (1915), Аляксандр Данілевіч (1915). Да 1917 года неаднаразова арыштоўваліся Арон Вайнштэйн, Хаім Гельфанд, Абрам Кіржніц, Міхаіл Маёраў.

Тое, што шмат каго арыштоўвалі па некалькі разоў, было парадаксальным наступствам існавання ў Расійскай імперыі ўжо ў другой палове XIX ст. паўнавартаснай судовай сістэмы. Здаралася, што суд мог нават апраўдаць арыштаванага. Такой прывілеі беларускія і расійскія дзеячы ў савецкі час не мелі, любы арышт мог стаць для іх фатальным. Апрача таго, нельга параўнаць тыя ўмовы для інтэлектуальнай працы, якія існавалі ў месцах

ссылкі царскай Расіі, куды можна было выпісваць перыёдыку, кнігі, дзе ссыльныя мелі магчымасць публікаваць свае творы, і ссылку ў СССР, больш падобную да лагернага ўтрымання. У царскай Расіі даволі актыўна практыкавалася эміграцыя, чым пакарысталіся многія дзеячы беларускай культуры. У СССР жа магчымасці для добраахвотнай эміграцыі практычна адсутнічалі.

Найбольш жорсткай царская адміністрацыя рабілася ў час паўстанняў, якія ахоплівалі Беларусь у першай палове і сярэдзіне XIX ст., — тады выкарыстоўваўся арсенал дзеянняў і паводзін ваеннага часу. Але пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг. Расія была адносна ліберальнай краінай, а на кароткі перыяд пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і да кастрычніцкага перавароту стала адной з самых дэмакратычных краін свету. Гэта мы можам прасачыць па дынаміцы рэпрэсій.

Паказальна, што свой рэпрэсіўны характар бальшавіцкая ўлада праявіла ўжо 18 снежня 1917 г., калі былі арыштаваны ўдзельнікі Першага Усебеларускага кангрэса Алесь Бурбіс, Аляксандр Вазіла, Ігнат Дварчанін і інш. Гэтыя арышты сталіся, што сёння відавочна, сімваламі новай эпохі.

Частка II

## Генацыд

Беларускае адраджэнне 1918—1920–х гг. мінулага стагоддзя абяцала вяртанне да актыўнага палітычна–грамадскага і культурнага жыцця аднаго з найстарэйшых этнасаў Еўропы, які гістарычна жыў на мяжы заходняй і ўсходняй культур.

Многія беды і пакуты беларускага народа абумоўлены тым, што беларусам–адраджэнцам не ўдалося адстаяць абвешчаную 25 сакавіка 1918 года дзяржаўную незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, рэалізаваць мару пра Беларускі дом. Толькі нацыянальная дзяржаўнасць рэальна здольная абараніць этнас ад дэструктыўных уплываў, асіміляцыі, забяспечыць умовы для ўсебаковага развіцця народа як суб’екта гісторыі, цывілізацыі.

На працягу XX ст. Беларусь некалькі разоў была арэнай ваеннага супрацьстаяння еўрапейскіх дзяржаў. Ахвяры яе — нязмерныя.

За гады першай сусветнай і грамадзянскай войнаў з Беларусі вымушана выехалі ў Расію і іншыя краіны больш за два мільёны чалавек[1] . У бежанстве знаходзіліся і дзесяткі сем’яў, з якіх пасля выйшлі пісьменнікі *Н.Арсеннева, В.Вальтар,*

---

[1] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1. С. 239.

*З.Віталін, Н.Вішнеўская, Ю.Гаўрук, С.Дарожны, А.Дудар, У.Жылка, Х.Ільяшэвіч, Р.Крушына, Ф.Купцэвіч, В.Маракоў, А.Мардвілка, П.Мядзёлка, А.Салагуб, Ю.Таўбін, М.Цэлеш, Н.Чарнушэвіч* і іншыя. Трэць бежанцаў з чужыны на Радзіму не вярнулася.

За гэты перыяд на тэрыторыі Беларусі з ліку карэннага насельніцтва загінула не менш за мільён чалавек[2]. Такім чынам, на працягу сямі гадоў (1914—1920) Беларусь страціла каля ДВУХ З ПАЛОВАЙ МІЛЬЁНАЎ сваіх сыноў і дачок.

З той пары, калі ў Беларусі канчаткова згарнулі «праграму беларусізацыі» (1929—1930), і да пачатку другой сусветнай вайны, за нейкія дванаццаць гадоў сталінскага тэрору, было пасаджана ў турмы, саслана ў канцлагеры і расстраляна, па розных падліках, ад ШАСЦІСОТ ТЫСЯЧ[3] да ДВУХ МІЛЬЁНАЎ беларусаў[4]. У мірны час, калі так можна назваць перыяд перманентнага тэрору, Беларусь страчвала людзей, як у вайну.

Карныя органы савецкага таталітарнага рэжыму ОГПУ — НКВД знішчылі практычна ўсіх

---

[2] Лічба склалася з дадзеных пра агульныя страты царскай імперыі за той самы перыяд, якія прыведзены ў «Беларускай энцыклапедыі» (Мн., 1997. Т. 5. С. 393.).

[3] *Адамушка У.* Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гадоў на Беларусі. Мн., 1994. С. 10.

[4] *Запруднік Я.* Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. Мн., 1996. С. 101, 113.

выдатных прадстаўнікоў беларускага народа, яго інтэлектуальную сілу, духоўную апору — вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, педагогаў, грамадскіх і дзяржаўных дзеячаў: *А.Бабарэку, А.Баліцкага, С. Баранавых, П.Бузука, А.Вазілу, А.Вольнага, П.Галавача, У.Галубка, Ц.Гартнага, М.Гарэцкага, С.Дарожнага, І.Дварчаніна, А.Дзеркача, А.Дудара, П.Жаўрыда, Ф.Ждановіча, У.Жылку, Т.Забелу, І.Замоціна, М.Зарэцкага, В.Каваля, Л.Калюгу, М.Каспяровіча, Т.Кляшторнага, Ф.Купцэвіча, В.Ластоўскага, Я.Лёсіка, А.Луцкевіча, Ю.Лістапада, Я.Мамоньку, В.Маракова, С.Рак–Міхайлоўскага, Я.Нёманскага, М.Піятуховіча, Б.Тарашкевіча, Ю.Таўбіна, А.Уласава, С.Фаміна, У.Хадыку, М.Чарота, А.Чарвякова, А.Цвікевіча* і многіх–многіх іншых.

За гады другой сусветнай вайны ад рук нацысцкіх акупантаў, «акаўцаў» і ў выніку дзейнасці чэкісцкіх дыверсантаў у Беларусі загінула больш за ДВА МІЛЬЁНЫ ШЭСЦЬСОТ ТЫСЯЧ жыхароў[5] . Каля ЧАТЫРОХСОТ ТЫСЯЧ было вывезена на прымусовую працу ў Германію[6] . Не менш за

5 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1994. Т. 2. С. 433; *Запруднік Я.* Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. С. 114; Наша ніва. 2001. 25 чэр. № 26 (235).

6 Белорусские остарбайтеры. Угон населения Беларуси на принудительные работы в Германию. Документы и материалы. Кн. первая. Мн., 1996. С. 26.

СТО ТЫСЯЧ беларусаў з’ехала на Захад ад рэпрэсій савецкіх карных органаў, улічваючы досвед 1939 — 1941 гг.[7]

Ад ДВУХСОТ ПЯЦІДЗЕСЯЦІ[8] да СЯМІСОТ ТЫСЯЧ[9] пераважна заходніх беларусаў пакінула бацькаўшчыну пасля падпісання дакументаў аб межах паміж Польшчай і СССР у 1944. Каля СТА ТЫСЯЧ выехала ў Польшчу ў 1956—1959 гг.

Фашысцкія прыхадні знішчалі ў асноўным просты народ. «Акаўцы» і бальшавікі рабілі стаўку пераважна на знішчэнне ацалелых пасля тэрору 30–х гадоў рэштак інтэлігенцыі. Нейкая частка з іх цудам выжыла, не ператварылася ў лагерны пыл у ГУЛАГу, выратавалася ад рэпрэсій *(Ант. Адамовіч, Н.Арсеннева, У.Дудзіцкі, Х.Ільяшэвіч, М.Кавыль, А.Калубовіч, Я.Кіпель, У.Клішэвіч, Р.Крушына, Л.Савёнак, Ф.Кушаль, Я.Найдзюк, В.Рагуля, Я.Станкевіч, П.Сыч, М.Сяднёў, У.Сядура, С.Хмара).*

Бальшавіцкія лазутчыкі–тэрарысты вырашылі знішчыць шэраг прадстаўнікоў заходнебе-

---

[7] Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы. Мн., 2001. С. 133.

[8] *Вялікі А.* Ажыццяўленне абмена насельніцтвам паміж БССР і Польшчай. 1944—1946 гг. Аўтарэферат дыс. канд. гіст. навук. Мн., 2002. С.12.

[9] *Запруднік Я.* Беларусь на гістарычных скрыжаваннях. С. 115.

ларускай інтэлігенцыі, недаступнай ім у даваенны час з–за дзяржаўнай мяжы з Польшчай. У 1943—1944 гг. пад Мінскам мела базу дыверсійна–тэрарыстычная група, спецзаданнем якой было фізічнае знішчэнне беларускіх кадраў, што працавалі ў грамадскай адміністрацыі Мінска, выступалі ў друку з выкрыццём савецкага тэрору 30–х гадоў. Імі былі забіты вядомы драматург *Ф.Аляхновіч*, рэдактар газеты *«Беларускі голас»* публіцыст *Ф.Акінчыц*, рэдактар «*Беларускай газэты*» (спачатку Менскай. — ***Л.М***.) *У.Казлоўскі*, грамадскі дзеяч і выдавец *В.Іваноўскі*. Неаднаразова рабіліся спробы забіць *Ант.Адамовіча*, які ўзначальваў выдавецкі аддзел, створаны пры Мінскай гарадской управе для арганізацыі выпуску газет, і адначасова з'яўляўся галоўным рэдактарам Краявога выдавецтва «*Менск*», займаўся апякунствам «*Беларускай газэты*», найбуйнейшай у Беларусі ў гады акупацыі. У планах засланых з–за лініі фронту энкавэдыстаў было зліквідаваць яшчэ цэлы шэраг вядомых беларускіх інтэлігентаў, у тым ліку паэтку Наталлю Арсенневу, што пазней стала найбуйнейшай постаццю ў літаратуры беларускай эміграцыі на Захадзе.

За перыяд з ліпеня 1944 г., з часу пераходу Беларусі з рук немцаў у рукі бальшавікоў, і да смерці Сталіна (1953) у рэспубліцы было арыштавана, пасаджана ў турмы, расстраля-

на і этапавана ў канцлагеры каля СТА ТЫСЯЧ чалавек[10].

Савецкая разведка і пасля вайны працягвала паляванне на беларускіх літаратараў, якія апынуліся на Захадзе. Так, былі вымануты з–за мяжы і сасланы ў лагеры *Тодар Лебяда* і *Вольга Тапо-ля*. Паэт *Уладзімір Дудзіцкі*, які, засумаваўшы па Радзіме, стаў наведваць савецкія пасольствы, аднаго дня знік без вестак. Праз некалькі гадоў бясследна знік і пісьменнік–эмігрант *Мікола Цэлеш*.

Усяго за трыццаць пяць гадоў (з 1914 да 1950 — адно пакаленне) іншаземнымі захопнікамі было знішчана або выгнана з Радзімы больш за ВОСЕМ МІЛЬЁНАЎ прадстаўнікоў карэннага насельніцтва Беларусі. Па падліках некаторых вучоных, беларусаў цяпер магло быць каля САРАКА МІЛЬЁНАЎ![11]

Пасля вайны заправілы Савецкай імперыі наступальна працягвалі палітыку каланізацыі і асіміляцыі нацыянальных ускраін, пачатую ў т.зв. «год вялікага пералому» (1929). У Беларусь, паводле стратэгіі ЦК КПСС, як і ў іншыя рэспублікі, для фарміравання дзяржаўна–ўпраўленчых структур была накіравана вялікая колькасць «тавары-

[10] *Адамушка У.* Палітычныя рэпрэсіі 20—50-х гадоў на Беларусі. Мінск, 1994. С. 9—10.

[11] Беларускія ведамасьці. 2001. № 6 (36). С. 3.

шаў» з цэнтра, прадстаўнікоў рускай наменклатуры.

З канца 1950–х гг., паводле дактрыны т. зв. зліцця нацый, стварэння супольнасці «адзіны савецкі народ», аб'яўленага пераходу да пабудовы камунізму, адбывалася масавае закрыццё беларускіх школ.

Супраціў гэтаму гвалтоўнаму працэсу, якому негалосна надавалася форма законнасці, выклікаў новыя пераследы і арышты сярод інтэлігенцыі. За пратэст супраць беспардоннай русіфікацыі былі арыштаваны і асуджаны на працяглыя тэрміны зняволення дацэнт Гродзенскага універсітэта *Браніслаў Ржэўскі,* выкладчык БДУ *Лявон Белы*, журналіст *Фёдар Кардаш* і іншыя. Як дысідэнты без ніякіх праўных падстаў былі пазбаўлены работы ў Акадэміі навук Беларусі кандыдаты навук мовазнавец Алесь Каўрус, мастацтвазнаўцы Сцяпан Міско і Зянон Пазьняк, гісторык Міхась Чарняўскі, літаратуразнаўцы Вячаслаў Зайцаў і Мікола Прашковіч, супрацоўнік рэдакцыі «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» літаратар Валянцін Рабкевіч. На працягу 1970–х—1980–х гг. неаднойчы арыштоўваўся і накіроўваўся на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне або прыгаворваўся да пазбаўлення волі праваабаронца і публіцыст Міхась Кукабака.

У планах пашырэння савецкай ідэалогіі на Захад кіраўнікамі СССР Беларусі надавалася асаблі-

вае значэнне, зважаючы на яе геаграфічнае і геапалітычнае становішча.

Беларусь у былым Саюзе цанілася найперш як стратэгічна актуальная тэрыторыя, транзітная зона, буйны пастаўшчык «цэнтру» якасных сельгаспрадуктаў ды надзейных салдат для т.зв. інтэрнацыянальных кантынгентаў, што вялі войны за мяжой.

Адсюль і палітыка, якая праводзілася ў дачыненні да яе. Крамлём нават быў абяцаны Беларусі, вядома ж, крывадушна, прывілей першай уступіць у камуністычны рай. А для гэтага, безумоўна, трэба было ўсё уніфікаваць згодна з таталітарнай ідэалогіяй.

І сёння для рэваншысцкіх таталітарных сілаў, што мараць пра рэстаўрацыю Савецкай імперыі, Беларусь — ласы кавалак. Без яе, як і без Украіны, няма вялікай Расіі, няма сапраўднай імперыі. Адсюль і рэанімацыя эксплуатаванай царызмам састарэлай славянскай ідэі[12], актывізацыя палітызаванага прарасійскага праваслаўя і камунафашызму.

Актуалізацыя адраджэння Беларусі сёння важная не толькі для здэнацыяналізаваных, спаралізаваных адкрытай рэваншысцка–імперскай прапа-

[12] Яна, як і аналагічныя пангерманская, панцюркісцкая, панамерыканская ідэі, неадэкватныя цывілізаванаму грамадству, даўно здадзена ў архіў гісторыі.

гандай беларусаў, але і для іх суседзяў, якія на руінах таталітарызму будуюць нацыянальныя дзяржавы, паклаўшы ў аснову ідэі дэмакратыі і гуманізму.

1997—2002 гг.

P.S.

Аўтар будзе шчыра ўдзячны сваякам рэпрэсаваных, даследчыкам, чытачам за дапамогу па ўдакладненні прыведзеных звестак.

Кантакт з аўтарам:
<moryakov@tut.by>, <moryakov@email.ru>

# Спіс скарачэнняў

## Крыніцы і літаратура

*АЗБ — Асветнікі зямлі Беларускай: X — пачатак XX ст.: Энцыклапедычны даведнік.* Мн.: БелЭн, 2001.

*Антысавецкія рухі — Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*Археалогія і нумізматыка Беларусі — Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя.* Мн.: БелЭн, 1993.

*Беларуская мова — Беларуская мова: Энцыклапедыя.* Мн.: БелЭн, 1994.

*БП — Беларускія пісьменнікі*: *Біябібліяграфічны слоўнік.* У 6 т. Мн.: БелЭн, 1992—1995.

*БЭ — Беларуская энцыклапедыя.* У 18 т. Мн.: БелЭн, 1996—2001.

*Возвращенные имена — Возвращенные имена*: *Сотрудники АН Беларуси, пострадавшие в период сталинских репрессий* / Сост. и авт. предисл. Н.В.Токарев. Мн.: Навука і тэхніка, 1992.

*Вынішчэнне* — М а р а к о ў Леанід. *Вынішчэнне.* Мн.: ЛМФ «Нёман», 2000.

*Гарбінскі БРД* — Г а р б і н с к і Юрась. *Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя*: *Жыццярысы, мартыралогія, успаміны.* Мінск—Мюнхен, 1999.

*Дэмакратычная апазыцыя — Дэмакратычная апазыцыя Беларусі: 1956—1991. Пэрсанажы і кантэкст. Даведнік* / Пад рэдакцыяй Алега Дзярновіча. Мн.: Архіў Найноўшае Гісторыі, 1999.

*ЛіМ* — газета «*Літаратура і мастацтва*».

*МАБ — Мысліцелі і асветнікі Беларусі*: *Энцыклапедычны даведнік*. Мн.: БелЭн, 1995.

*Мальдзіс. На скрыжаванні…* — М а л ь д з і с А. *На скрыжаванні славянскіх традыцый: Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII—XVIII ст.).* Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

*НАРБ, ІКР* — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, Індывідуальная картатэка рэпрэсаваных.

*Нацдэмы* — М я с н і к о ў А. *Нацдэмы: Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка*. Мн.: Беларусь, 1993.

*ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі*.

*Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў* — Я н к а С а л а м е в і ч. *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI—XX стст.).* Мн.: Мастацкая літаратура, 1983.

*Сачанка Б. Сняцца сны...* — С а ч а н к а Б. *Сняцца сны аб Беларусі... Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю*. Мн.: Мастацкая літаратура, 1990.

*Улащик. Введение* — У л а щ и к Н.Н. *Введение в изучение белорусско-литовского летописания.* М.: Наука, 1985.

*Улащик. Очерки* — У л а щ и к Н. Н. *Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода*. М.: Наука, 1973.

*ЭГБ — Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* У 6 т. Мн.: БелЭн, 1993—2001.

*ЭЛіМБел — Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі*. У 5 тамах. Мн.: БелСЭ, 1984—1987.

*BS — Byelorussian statehood: Reader and bibliography* / Edited by Vitaut Kipel and Zora Kipel. New York: Byelorussian Institute of Arts and Sciences, 1988.

*EK — Encyklopedia katolicka*. T. 1—2. Lublin, 1985.

Nowy Korbut — Bibliografia literatury polskiej «Nowy Korbut».

*PSB — Polski słownik biograficzny*. Kraków — Warszawa: Wydawnictwo PAN, 1935—2001.

*SHP — Słownik historyków polskich* / Koncepcja i opracowanie redakcyjne Maria Prosińska-Jackl. Warszawa: Wiedza powszechna, 1994.

## Бібліяграфічныя, палітычныя і геаграфічныя скарачэнні

абл. — абласны (-ая)

АДПУ — Аб'яднанае галоўнае палітычнае ўпраўленне СССР

арт. — артыкул

б. — былы (-ая)

БАН, БелАН — Беларуская Акадэмія Навук (таксама АН БССР, НАН Беларусі), да 1929 Інбелкульт

БАПЦ — Беларуская Аўтакефальная праваслаўная царква

б. г. — без году (выдання)

БДТ — Беларускі дзяржаўны тэатр

БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт

бел. — беларускі

БелАПП — Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў

БНР — Беларуская Народная Рэспубліка

БПС-Р — Беларуская партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў

БРГ — Беларуская рэвалюцыйная грамада

БСГ — Беларуская сацыялістычная грамада

БСГА — Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія

БСРГ — Беларуская сялянска-работніцкая грамада

БССР — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка

БХД — Беларуская хрысціянская дэмакратыя

БЦР — Беларуская цэнтральная рада

в. — вёска

в. а. — выконваючы абавязкі

ваяв. — ваяводства

вер. — верасень

ВКЛ — Вялікае Княства Літоўскае

ВКП(б) — Усесаюзная Камуністычная партыя (бальшавікоў)

ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова

вобл. — вобласць

вол. — воласць

ВРК — Ваенна-рэвалюцыйны камітэт

ВСНГ — Вышэйшы савет народнай гаспадаркі

ВЧК (ЧК ) — Усерасійская Надзвычайная Камісія пры Савеце Народных Камісараў па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам

выбр. тв. — выбраныя творы

вып. — выпуск

г. — горад

газ. — газета

губ. — губерня

ГУЛАГ — Галоўнае ўпраўленне папраўча-працоўных лагераў

г. п. — гарадскі пасёлак

жн. — жнівень

зах. — заходні

зб. тв. — збор твораў

Інбелкульт — Інстытут беларускай культуры (з 1929 БелАН)

К. — Кіеў

кастр. — кастрычнік

КДБ — Камітэт дзяржаўнай бяспекі

КК — Крымінальны Кодэкс

кн. — кніга

КП(б)Б — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Беларусі

КП(б)ЛіБ — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Літвы і Беларусі

КП(б)У — Камуністычная партыя (бальшавікоў) Украіны

КПЗБ — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі

КПП — Камуністычная партыя Польшчы

КПСС — Камуністычная партыя Савецкага Саюза

крас. — красавік

КСМЗБ — Камуністычны Саюз Моладзі Заходняй Беларусі

ліп. — ліпень

ліст. — лістапад

літ. — літаратура

ЛКП -— Літоўская Камуністычная партыя

ЛКСМБ -— Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі Беларусі

лют. — люты

М. — Масква

МБПТ — Мінскі Белпедтэхнікум

МВПІ — Мінскі Вышэйшы педінстытут

МДБ — Міністэрства дзяржаўнай бяспекі

МДУ — Маскоўскі дзяржаўны універсітэт

МЗС — Міністэрства замежных спраў

Мн. — Мінск, Менск

МУС — Міністэрства ўнутраных спраў

мяст. — мястэчка

нам. — намеснік

НАНБ — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі

нар. — нарадзіўся (нарадзілася)

НАРБ — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь

Наркамасветы — Народны камісарыят асветы

НГАБ — Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі

НДІ — Навукова-даследчы інстытут

НКВД (НКУС) — Народны камісарыят унутраных спраў

НКДБ — Народны камісарыят дзяржаўнай бяспекі

пав. — павет

паліт. — палітычны

ПАРП — Польская Аб’яднаная Рабочая Партыя

паўдн. — паўднёвы

паўн. — паўночны

Пг. — Петраград

ПНР — Польская Народная Рэспубліка

ППЛ — Папраўча-працоўны лагер

РВС — Рэвалюцыйны ваенны савет

РКП(б) — Расійская Камуністычная Партыя (бальшавікоў)

р-н — раён

РСДРП — Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя

с. — сяло

сак. — сакавік

сапр. — сапраўднае

с.-г. — сельскагаспадарчы (-ая)

СДКПіЛ — Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы

снеж. — снежань

СНК — Савет народных камісараў

СП — Саюз пісьменнікаў

СПб. — Санкт-Пецярбург

ССРБ — гл. БССР

студз. — студзень

ст. — станцыя

СШ — сярэдняя школа

т. — том

ТАСС — Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза

ТБШ — Таварыства Беларускай школы

тв. — творы

тыс. — тысяча

УНР — Украінская Народная Рэспубліка

ун-т — універсітэт

усх. — усходні

ф-т — факультэт

ЦК — Цэнтральны Камітэт

час. — часопіс

чэрв. — чэрвень

z. — zeszyt (сшытак)

**АБРАМОВІЧ Марыян Станіслаў** [25.3.1871, Цвер, Расія — 7.1.1925, Варшава], рэвалюцыянер-народнік, публіцыст, дзеяч культуры Беларусі і Польшчы. Вучыўся ў Маскве — спачатку ў гімназіі, потым на матэматычным ф-це Маскоўскага ун-та, дзе ўзначальваў гурток сацыялістычнага кірунку. Захоплены ідэямі народнікаў, вывучаў на Навагрудчыне бел. мову. Быў вельмі актыўны ва ўсталяванні сувязей з паліт. эміграцыяй, дзеля гэтага неаднаразова выязджаў за мяжу. 9.3.1890 арыштаваны за ўдзел у студэнцкіх выступленнях і зняволены ў маскоўскай турме «Бутырка». У турме ўдзельнічаў у заснаванні бел. гуртка моладзі. У Тыльзіце (ва Усх. Прусіі) выдаваў агітацыйную літаратуру, а потым перапраўляў яе ў Расію. Там у 1892 пад назваю «Дзядзька Антон» выдаў бел. пераклад польскай публіцыстычнай брашуры «Бацька Шыман». У тым жа годзе за распаўсюджанне пракламацый арыштаваны царскай паліцыяй у Варшаве. Два гады пад следствам адбыў у Варшаўскай цытадэлі, а затым быў асуджаны на 3 гады зняволення ў пецярбургскай турме «Кресты» і 6 гадоў пасялення ў Сібіры. У 1894 быў адным з трох вязняў, якія адмовіліся прысягаць новаму імператару Мікалаю II. У час ссылкі ў Верхаянску вёў метэаралагічныя даследаванні, што дазволіла яму вярнуцца ў Еўропу пры дапамозе Расійскай АН. Пасля вяртання са ссылкі

кіраваў у Пецярбургу рабочай кнігарняй «Праца». З 1908 жыў у Варшаве. Арыштоўваўся за ўдзел у арганізацыі Народнага ун-та. Пасля аднаўлення незалежнасці Польшчы ў 1918 займаўся архіўнай і бібліятэчнай справамі. Меў вялікую ўласную бібліятэку (каля 8 тыс. тамоў), дзе захоўваліся рэдкія бел. выданні.

Літ.: *Czarnocki N*. Przyczynki do historii PPS // *Księga pamiątkowa PPS*. Warszawa, 1923; *Turonek J*. Wokół genezy Dziadźki Antona // *Slavia orientalis*. 1983, № 3; *Durko J*. Abramowicz Marian Stanisław // *Słownik biograficzny działaczy polskiego ruchu robotniczego*. Warszawa, 1985; *Скалабан В*. Працяг гісторыі з «Дзядзькам Антонам» // *Полымя*. 1988, № 2; *ЭГБ*, т. 1; *МАБ*.

**АБРАНТОВІЧ Фабіян** [псеўд. Фабіч / Fabič; 14.9.1884, засценак Вераскоўшчына Навагрудскага пав. — 2.1.1946, Масква, турма «Бутырка»], бел. рэлігійны і грамадскі дзеяч, каталіцкі святар усх. абраду, публіцыст, філосаф. Духоўную адукацыю атрымаў у Пецярбургу ў семінарыі і ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі. 9.9.1909 пасвечаны ў святары. Працягваў вучобу ў каталіцкім ун-це ў Лёвене (Бельгія, 1912—14), дзе абараніў доктарскую дысертацыю па філасофіі. Адзін з заснавальнікаў у маі 1917 бел. хрысціянскага руху і яго саюза «Хрысціянская дэмакратычная злучнасць». З'яўляўся

адным з ініцыятараў і арганізатараў правядзення ў маі 1917 у Мінску з'езда бел. каталіцкага духавенства. 6.8.1918 А. разам з біскупам Лазінскім адправіў першую бел. імшу ў Мінску. Сябраваў з Б.Эпімах-Шыпілам і Я.Купалам (у студз. — лют. 1920 дзяжурыў каля ложка хворага паэта ў мінскім шпіталі). Актыўна выступаў за ўвядзенне бел. мовы ў набажэнства ў каталіцкім касцёле і духоўных навучальных установах, пра што неаднаразова пісаў на старонках перыядычных бел. рэлігійных выданняў «Kryniсa» (1917—20, Петраград — Мінск — Вільня) і «Chryścijanskaja Dumka» (1928—29, Вільня). З 1918 рэктар Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Выкладаў у семінарыі і пасля эвакуацыі яе спачатку ў Навагрудак, а потым у Пінск. З 1926 ў Ордэне айцоў марыянаў у Друі. У 1929—38 вёў місіянерскую дзейнасць у Харбіне (Кітай) сярод рускай эміграцыі. У 1939 вярнуўся ў Зах. Беларусь, дзе ў канцы вер. арыштаваны савецкімі ўладамі і зняволены ў турму ў Львове. Закатаваны ў Бутырскай турме. Месца пахавання невядома.

Літ.: *Stankievič A.* Biełaruski chryścijanski ruch. Vilno, 1939; *Божым шляхам* (Парыж). 1957, № 76—81; *Гарбінскі БРД*, с. 3—4, 233—256; *Dzwonkowski R.* Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Царква* (Мінск). 1998, № 1; *ЭГБ*, т. 1.

**АБУХОВІЧ Альгерд Рышардавіч** (Альгерд-Якуб) [псеўд.: Граф Бандынэлі; Olgerd gr. Bandinelli; 25.7(6.8).1840, в. Калацічы Бабруйскага пав. (цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл.) — 10(22).8.1898, Слуцк], бел. паэт, мемуарыст, перакладчык. Паходзіў з шляхецкай сям'і, звязанай па жаночай лініі з італьянскім графскім родам Бандынэлі (адсюль і псеўданім). У 1852—54 вучыўся ў Слуцкай кальвінісцкай гімназіі, што паўплывала на фарміраванне яго светапогляду. Ужо пазней, у час падарожжаў па Еўропе, і асабліва тады, калі А. жыў у Жэневе, узмацнілася яго цікавасць да кальвінізму. Адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў бел. літаратуры; пісаў у рэчышчы крытычнага рэалізму. Перакладаў на бел. мову творы польскай, рускай і заходнееўрапейскіх літаратур. Пры жыцці не меў магчымасці друкавацца, і да нас дайшла толькі невялікая частка яго літаратурнай спадчыны; вельмі адметны твор — мемуары А. (надрукаваны ў газ. «Гоман», 1916). Аўтар паэмы пра шведскага караля Карла XII («Дума аб Каралю XII»), праблеме свабоды чалавечай асобы («Ваўкалак»), сацыяльнай сатыры на парэформенную Расію («Старшына»). Вёў дыскусію з Ф.Багушэвічам аб пурызме і дыялектнай аснове бел. мовы («Мне перш за ўсё ідзе аб тое, ...каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як нашырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і

звароты агульнабеларускія... У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа»). Удзельнічаў у паўстанні 1863—64, за што быў сасланы царскімі ўладамі ў Сібір. Пасля вяртання намерваўся раздаць зямлю сялянам, але з-за апазіцыі сям'і вымушаны быў пакінуць фамільны маёнтак; заняўся рэпетытарствам у Слуцку. Там вакол яго збіралася творчая моладзь, будучыя ўдзельнікі незалежніцкага і вызваленчага руху — Язэп Дыла, Пётр Карповіч і інш.

Тв.: Творы. Мн., 1991.

Літ.: *Родчанка Р.* Альгерд Абуховіч-Бандынэлі: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1984; *Альгерд Абуховіч* // *Пачынальнікі*. Мн., 1977; *Гарэцкі М.* Альгерд Абуховіч // *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920; *Дыла Я.* Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч // *Дыла Я.* Творы. Мн., 1981; *Кісялёў Г.* Дзекабрыст у мемуарах Абуховіча // *Кісялёў Г.* Героі і музы. Мн., 1982; *БП,* т. 1; *ЭГБ*, т. 1; *МАБ*.

**АВЕЙДЭ Аскар** [1837, Марыямпаль Аўгустоўскай губ., цяпер Літва — 8(20).7.1897, Вяцкая губ., Расія], гісторык, журналіст. У 1858 скончыў юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та, у 1859—61 працягваў вучыцца за мяжою. Служыў практыкантам у судовых установах Варшавы. Актыўны ўдзельнік паўстання 1863—64. З восені 1862 увайшоў у склад Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Варшаве па падрыхтоўцы паўстання. У канцы ліп. 1863 пры-

ехаў у Вільню як камісар паўстанцкага варшаўскага ўрада. Належаў да памяркоўнага крыла «чырвоных», крытыкаваў К.Каліноўскага за «сепаратызм». Арыштаваны ў Вільні 22.8.1863. Падчас следства, якое вялося ў Вільні і Варшаве, выдаў многіх удзельнікаў паўстання. Напісаў пра паўстанне падрабязныя нататкі, якія ўпершыню надрукаваны ў 1866 у Варшаве абмежаваным накладам; перавыдадзены ў 1961 у Маскве. Гэтыя нататкі сталі надзвычай важнай гістарычнай крыніцай пра паўстанне. У 1866 сасланы на пасяленне ў Вяцкую губ., дзе і памёр.

Тв.: *Записки Оскара Авейде о польском восстании 1863 года*. Варшава, 1866; *Авейде О*. Краткий очерк последних событий в Польше 1861—1864 гг. // *Красный Архив*. 1933, т. 2 (57); Показания и записки о польском восстании 1863 г. О.Авейде // *Восстание 1863 г. Материалы и документы*. М., 1961.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АГОЛ Іосіф Іосіфавіч** (Ізраіль) [2.12.1891, Бабруйск — 10.3.1937, Мінск], філосаф, біёлаг, публіцыст, паліт. дзеяч. Член РСДРП з 1915. За ўдзел у рэвалюцыйным руху ў Бабруйску высланы ў Туруханскі край. Са жн. 1918 член Краявога камітэта камуністычных арганізацый Беларусі і Літвы, які кіраваў дзейнасцю падпольных арганізацый. Са студз. 1919 сакратар Мінскага гарвы-

канкама, намеснік камісара па справах фінансаў БССР. Дэлегат Першага Усебеларускага з'езда Саветаў (лют. 1919), член ЦВК Літоўска-Беларускай ССР. З 1921 слухач Інстытута чырвонай прафесуры ў Маскве. З 1924 супрацоўнік Інстытута філасофіі (секцыі прыродазнаўчых навук) у Маскве, пазней — лабараторыі генетыкі Біялагічнага інстытута. Па праблемах генетыкі дразафілы некалькі гадоў працаваў у ЗША. З 1934 акадэмік АН Украінскай ССР. Распрацоўваў філасофскія праблемы біялогіі, асабліва генетыкі. У 1936 арыштаваны. Расстраляны 10 сак. 1937. Рэабілітаваны пасмяротна.

Тв.: Новый мятеж // *Правда.* 4.3.1921; *Происхождение животных и человека.* М., 1924 (К., 1935); *Диалектический метод и эволюционная теория.* М.; Л., 1927; *Хочу жить: повесть.* М., 1936.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АГРЫЗКА Іасафат Пятровіч** [1826, Лепельскі пав. Віцебскай губ. — 30.3.1890, Іркуцк], выдавец, журналіст, грамадска.-паліт. дзеяч. Скончыў Лепельскае павятовае вучылішча, Мінскую гімназію, юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та (1849). З 1850 служыў у Кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага, якая ў сталіцы Расійскай імперыі займалася ўпарадкаваннем, а таксама распра-

цоўкай законаў для гэтай аўтаномнай правінцыі. У Санкт-Пецярбургу заснаваў друкарню (1859—63), у 1859 выдаваў на польскай мове газ. «Słowo» (забаронена ўладамі) і альманах «Pismo zbiorowe» (т. 1—2), выдаў першы зб. тв. М.Дабралюбава (т. 1—4, 1862), перавыдаў старажытныя законы ВКЛ і Польшчы «Volumina Legum» («Збор законаў», т. 1—8, 1859—60). Сябраваў з М.Чарнышэўскім. У час паўстання 1863—64 стаў галоўным прадстаўніком паўстанцкага варшаўскага ўрада (камісар Нацыянальнага ўрада) у Санкт-Пецярбургу (прызначаны ў лют. 1863). Сучаснікі адзначалі, што ў той перыяд А. быў перакана765 ў непазбежнасці сутыкнення Расіі з Англіяй і Францыяй, што і вызначыла яго паводзіны. Арыштаваны 14.11.1864 і пасля працяглага следства ў Вільні прыгавораны да смяротнага пакарання, замененага на 20 гадоў катаргі, якую адбываў у Сібіры (Акатуй, Вілюйск, Якуцк). У 1877 вызвалены з забаронаю вяртацца на тэрыторыю Беларусі, Літвы, Польшчы.

Літ.: *Баренбаум И.Е.* Иосафат Огрызко (1826—1890): Очерк литературно-издательской деятельности. М., 1964; *Гогель Н.В.* Иосафат Огрызко и Петербургский революционный ржонд в деле последнего мятежа. Вильно, 1866—1867; *МАБ*; Pamięci Józefata Ohryzki przez dr. Dybowskiego // *Biblioteka Warszawska*. 1907, Maj, t. 2, cz. 2; *Смирнов А.Ф.* Революционные связи народов России и Польши: 30—60 годы XIX века. М., 1962; *Шалькевич В.* Первый издатель сочинений Н.А. Добролюбова // *Неман*. 1986, № 2; *Шостако-*

*вич Б.С.* Сибирские годы Юзефата Огрызко // *Ссыльные революционеры в Сибири (XIX в. — февраль 1917 г.).* Иркутск, 1974. Вып. 2; *SHP*; *ЭГБ*, т. 1.

**АГУЛЬНІК Мянахім Тэвелевіч** [1889 — пасля 1956, Чувашыя ?], гісторык. Працаваў загадчыкам яўрэйскага аддзела БелАН. Арыштаваны 6.12.1937. 10.10.1938 прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Паўторна арыштаваны 5.4.1949 МДБ Чувашскай АССР. 15.6.1949 прыгавораны да ссылкі ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны 20.6.1956. Пасля 1956 жыў у Ібрэсі ў Чувашыі. Далейшы лёс невядомы.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**АГУРСКІ Самуіл Хаімавіч** [29.4.1884, Гродна — 19.8.1947, Паўладар, Казахстан], гісторык і публіцыст. Член Бунда, удзельнік рэвалюцыі 1905, у 1906—17 у вымушанай эміграцыі ў Англіі і ЗША. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Беларусь. У 1918 быў ваенным камісарам у Віцебску. Працаваў у гісторыка-партыйных установах у Мінску і Маскве: у 1924—29 загадчык Гістпарта ЦК КП(б)Б, нам. дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б; у 1930—33 дырэктар

Гіспарта пры Маскоўскім камітэце ВКП(б). З 1934 дырэктар Інстытута яўрэйскай пралетарскай культуры, намеснік дырэктара Інстытута нацыянальных меншасцей БелАН. З 1936 член-карэспандэнт БелАН. Шмат займаўся гісторыяй Бунда і рэвалюцыйнага руху. У «Нарысах па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі (1863—1917)» (1928) зрабіў спробу сістэматызаваць гісторыю рознанацыянальнага рэвалюцыйнага руху. Многія палажэнні гэтай кнігі спрэчныя, але на той час, калі ў савецкай гістарыяграфіі масава прадукавалася канцэпцыя апалагетыкі Бунда, замоўчванне дзейнасці іншых арганізацый, «Нарысы» мелі пэўнае станоўчае значэнне. Адным з першых распачаў барацьбу супраць т. зв. беларускага нацыянал-дэмакратызму. Паліт. абвінавачванні А. паўплывалі на трагічныя лёсы Ігнатоўскага, Жылуновіча і інш. Ва ўмовах вострай ідэйна-паліт. барацьбы і прычэплівання ярлыкоў падпаў пад крытыку сам. Арыштаваны 4.3.1938, па пастанове Асобай нарады пры НКВД СССР ад 15.8.1939 сасланы ў Казахстан на 5 гадоў. Памёр у Паўладары ад кровазліцця ў мозг. Рэабілітаваны 7.4.1956 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР.

Тв.: Борьба против уклонов на историческом фронте // *Пролетарская революция*. 1929, № 11; Октябрьские бои в Москве. М., 1932.

Літ.: *Михнюк В.Н.* Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.). Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 1; *Возвращенные имена*.

**АДАМАЎ Уладзімір** [12.6.1875, Санкт-Пецярбург — 1937 ?] батанік, адзін з першых даследчыкаў расліннага свету Беларусі. Выпускнік Пецярбургскага ун-та (1899). Працаваў у навуковых установах Беларусі: загадчык аддзела Мінскай балотнай доследнай станцыі, секцыі Беларускага аддзялення Усесаюзнага Інстытута прыкладной батанікі, кіраўнік геабатанічнай экспедыцыі Наркамзема БССР. Заснавальнік батанічных садоў БДУ і Вялікалятчынскага (каля Віцебска). Ахвяра рэпрэсій.

Тв.: Бачэйкаўскі сад і палац // *Віцебшчына*. Т. 1. Мн., 1925; Обзор растительности Белорусского Полесья. Мн., 1928 (разам з А.Д.Лазук).

Літ.: *БЭ*, т. 1.

**АДАМОВІЧ Антон Яўстаф'евіч** [псеўд. Альгердзіч Г., Бірыч В., Забранскі Д., Недасек Н., Склют Р., Юстапчык С.; крыпт. А.Ан.; 26.6.1909, Мінск — 12.6.1998, ЗША], бел. літаратуразнавец, гісторык, празаік. У 1920-х г. пісаў пра творчасць сучасных яму бел. літаратараў, у тым ліку манаграфічнае даследаванне пра творчасць М.Гарэцкага. Першая друкаваная праца — рэцэнзія на зборнік В.Маракова «Пялёсткі» («Чырвоны сейбіт», 1926). У 1928 скончыў МБПТ, паступіў у БДУ. 25.7.1930 арыштаваны па справе «Саюза

вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Глазаў, у 1934 пераведзены ў Вятку (Кіраў), дзе працаваў у навучальных установах. Арыштоўваўся зноў 25(?).6.1937. Вызвалены ў 1938, вярнуўся ў Мінск. Скончыў БДУ, працаваў настаўнікам у сярэдняй школе. У час вайны заставаўся ў Мінску. З ліп. 1941 — адзін з арганізатараў выдання шэрагу бел. газет, часопісаў, кніг. Узначаліў выдавецкі аддзел, створаны пры Мінскай гарадской управе для арганізацыі выпуску газет. Адначасова з'яўляўся галоўным рэдактарам Краявога выдавецтва «Менск», кіраваў Беларускім навуковым таварыствам, працаваў у «Менскай (Беларускай) газэце». У канцы 1943 пераехаў у Германію. Працаваў у газ. «Раніца» (Берлін). У лагеры для перамешчаных асоб выдаваў газ. «Ведамкі», «Бацькаўшчына», час. «Конадні» і «Сакавік». Напісаў рэцэнзіі на рукапіс кнігі Н.Арсенневай «Сягоння» (1944), паэму Л.Случаніна «Рагнеда» (1944), зборнік А.Салаўя «Звіняць званы Святой Сафіі» (1947) і інш. Аўтар грунтоўных прадмоў да эміграцкіх выданняў У.Дубоўкі («Credo», 1949), Я.Коласа («Новая зямля», 1952), У.Жылкі («Творы. Да 20-годдзя ўгодкаў смерці», 1953), А.Мрыя («Запіскі Самсона Самасуя», 1953), Л.Калюгі («Нядоля Заблоцкіх», 1953), Я.Купалы («Раскіданае гняздо» і «Тутэйшыя», 1953), М.Кавыля («Пад зорамі белымі», 1955), Я.Юхнаўца («Шорах моўкнасці»,

1955), М.Сяднёва («Ля ціхай брамы», 1955). Падрыхтаваў шэраг т. зв. угодкавых артыкулаў — «Каб так любілі Беларусь» (Да 15-х угодкаў смерці П.Труса), «Usievalod Ihnatouski» (Да 65-годдзя з дня нараджэння У.Ігнатоўскага), «Паўлюк Трус» (Да 25-х угодкаў смерці і 50-х угодкаў народзінаў), «Дзесятая гадавіна смерці Кузьмы Чорнага», «30-я ўгодкі заснавання «Узвышша», «Юбілейны год: «Наша доля», «Наша ніва» (1956), «Да 40-годдзя савецкае літаратуры» (1956), «З нагоды 30-х угодкаў дзейнасці Рыгора Крушыны» (1957), «Да 40-годдзя Купалавага антыбальшавізму» і «Некатарыя Купалавы балады 1918 г.» (1958), «Пяцьдзесят гадоў беларускага адраджэння» (1959), «На ўгодкі Слуцкае бітвы» (1959) і інш. Надрукаваў шэраг антыбальшавіцкіх рэфератаў, артыкулаў, кніг — «Яны зноў на Беларускай зямлі» (1944), «Арыентацтва — хвароба беларуская» (1944), «Очерки истории большевизма в Белоруссии» (1954), «Саветызацыя беларускай літаратуры» (1955), »Пантэон пісьменнікаў БССР» (1959). У газ. «Бацькаўшчына» апублікаваў манаграфію «Званар Адраджэння — Вацлаў Ластоўскі» (1954). Нацыянальнай ідэяй прасякнуты такія празаічныя творы А., як «Афрадыта ОСТ», «Каханы горад» і інш. З 1960 г. жыў у ЗША. Тады ж стаў адным з кіраўнікоў радыёстанцыі «Свабода». Працягваў пісаць гісторыка-літаратурныя і крытычныя артыкулы: «Алесь Гарун: жыццё і творы»

(1961), «Лірнік краіны ветлай (З успамінаў пра Міколу Равенскага)» (1961), «70-годдзе Максіма Гарэцкага» (1963), «Да пытання пра месца Францішака Багушэвіча ў гісторыі беларускай літаратуры» (1964—1965), «Да ўгодкаў Цёткі…» (1966), «Аспекты <…> творчасці Наталлі Арсеневай» (1971), «90 год Купалы й Коласа» (1972), «Успаміны <…> памяці Лявона Савёнка» (1974), «Успаміны пра Уладзіміра Дубоўку» (1976), «Наталля Арсеннева» (1979) і шмат іншых. Вывучэнне творчай спадчыны А. (каля 250 прац, у тым ліку на англійскай, нямецкай і рускай мовах) яшчэ наперадзе.

Тв.: Максім Гарэцкі: (Спробы манаграфіі аб творчасці) // *Узвышша*. 1928, № 1—6; Большевизм на путях установления контроля над Белоруссией. Мюнхен, 1954; Якуб Колас у супраціве саветызацыі: доследы і матэрыялы. Мюнхен, 1955; Большевизм в революционном движении в Белоруссии: Исследования и материалы. Мюнхен, 1956; Супраціўленне саветызацыі ў беларускай літаратуры. Мюнхен, 1956, (англ. пераклад 1958); Як дух змагання Беларусі (да 100-х угодкаў нараджэння Івана Луцкевіча) (1981).

Літ.: *Пастанова* беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» аб палітычных памылках у літаратурна-публіцыстычнай творчасці // *Узвышша*. 1930, № 1; *Куніцкі С*. Крытычныя артыкулы Антона Адамовіча як адлюстраванне буржуазнай нацыянал-дэмакратычнай ідэалогіі // *Полымя*. 1931, № 2; *Мальдзіс А*. Адамовіч Антон // *БП*, т. 1; *Маракоў Л*. Антон Адамовіч // Голас Радзімы. 1999, 13—20 мая.

**АДАМОВІЧ Язэп** [26.12(7.1).1897, Барысаў — 22.4.1937], дзяржаўны дзеяч. Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне, ваяваў на Паўднёва-Зах. і Румынскім франтах (старшы унтэр-афіцэр; узнагароджаны 3 Георгіеўскімі крыжамі). У войску (1916) далучыўся да сацыялістычнага руху. У канцы таго ж года быў паранены і знаходзіўся на лячэнні ў Харкаве, дзе і сустрэў Лютаўскую рэвалюцыю 1917. Праводзіў актыўную рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат, выбіраўся членам палкавога камітэта і Харкаўскага Савета. Каб нейтралізаваць яго ўплыў, камандаванне зноў адправіла А. на фронт. Увосень 1917 дэмабілізаваны, працаваў сакратаром Барысаўскага павятовага Савета. Летам 1918 начальнік гарнізона і ваенны камісар Смаленскай губ.; з вер. 1918 — ваенны камісар Магілёўскага і Лепельскага ваенных Саветаў, потым ваенны камісар Мінскай губ. З вер. 1920 народны камісар па ваенных справах БССР, адначасова з 1921 народны камісар унутраных спраў БССР і намеснік старшыні ЦВК і СНК БССР. Браў удзел у падрыхтоўчай рабоце па ўтварэнні СССР. Актыўна займаўся ўзбуйненнем тэрыторыі БССР — з'яўляўся ўпаўнаважаным СНК БССР па далучэнні Віцебскай губ. У сак. 1924 — маі 1927 старшыня СНК БССР. Паводле слоў Я.Пушчы, у А. знаходзілі падтрымку нацыянальна арыентаваныя літаратары. У сувязі з канфліктам з Першым сакратаром ЦК КП(б)Б А.Крыніцкім быў пераведзены на працу ў Маскву.

З мая 1927 старшыня праўлення Цукратрэста СССР, з 1932 працаваў на Далёкім Усходзе начальнікам Камчацкага акцыянернага таварыства, кіраўніком цукровых і рыбакансервавых прадпрыемстваў. У атмасферы масавых рэпрэсій і цкаванняў скончыў жыццё самагубствам. Яго імем названа вуліца ў Барысаве.

Літ.: *Шамардзіна С.* Старонкі з біяграфіі Язэпа Адамовіча // *Полымя*. 1966, № 4; *ЭГБ*, т. 1.

**АДВАЖНЫ Вінцук** [сапр.: Германовіч Язэп; псеўданімы: Лявон Ветрагон, Хлопчык з-пад Горадні; крыптанімы: А.В., В.Адв., A.W., W.A.; 4.3.1890, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 26.12.1978, Лондан], каталіцкі святар усх. абраду, паэт, публіцыст. Пераследаваўся польскімі і савецкімі ўладамі. Вучыўся ў Гальшанскай пачатковай і Ашмянскай гарадской школах; у 1913 скончыў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. 29.6.1913 пасвечаны ў святары; працаваў у розных парафіях Беластоцкага дэканата. У 1921 уступіў у Таварыства беларускай школы; арганізаваў адну з бел. школ, у касцёле гаварыў казанні на бел. мове. Гэта выклікала незадаволенасць найвышэйшай іерархіі, і А. вымушаны быў пераехаць у Друю, дзе ў 1924 уступіў у ордэн марыянаў. Служыў там пробашчам, адначасова выкладаў

Закон Божы і лацінскую мову ў мясцовай гімназіі. Празаічныя і паэтычныя творы А. рэгулярна з'яўляліся на старонках перыядычнага друку («Kryniсa», «Chryścijanskaja Dumka»). З 1932 на місіянерскай працы ў Харбіне, дзе таксама быў дырэктарам гімназіі. У 1936 вярнуўся ў Вільню, кіраваў Беларускім марыянскім домам студэнтаў. У 1938 дэпартаваны разам са студэнтамі ў Цэнтральную Польшчу. Зноў выехаў у Харбін. У 1948 арыштаваны кітайскай паліцыяй і перададзены савецкім органам бяспекі. Быў прысуджаны да 25 гадоў прымусовых работ у лагерах. Знаходзіўся ў зняволенні ў Сібіры. Пасля смерці Сталіна вызвалены. Выехаў у Польшчу, а ў 1959 у Італію, затым у Вялікабрытанію. Пра сваё знаходжанне ў лагерах напісаў успаміны «Кітай — Сібір — Масква». Жывыя, яскрава пададзеныя сведчанні чалавека, які прайшоў праз ГУЛАГ, выклікалі вялікую цікавасць, былі апублікаваныя на бел., італьянскай, польскай, літоўскай мовах. У эміграцыі рэдагаваў час. «Божым шляхам» (Лондан).

Тв.: *А.В.* Унія на Палессі: Вершаваная дыскусія уніята, праваслаўнага манаха і р.-к. ксяндза. Альбертын, 1932; *W.A.* Biełaruskija Cymbały (Zbornik wieršau). Wilnia, 1933; Chłapiec: Powieść. Wilnia, 1935; Na Daloki Uschod. Wilnia, 1937 (пад сваім прозвішчам); *Вінцук Адважны*. Кітай — Сібір — Масква. Мюнхен, 1962; *Вінцук Адважны*. Байкі і іншыя вершы. Лондан, 1973.

Літ.: *Ласкоў І.* Шлях пакутніка: Па старонках адной малавядомай кнігі // *ЛіМ*, 9.2.1990; *Сачанка Б.* Сняцца сны... С. 12—14; *Станкевіч А.* Аб жыцці і творчасці В.А. (Вінцука Адважнага) // *W.A.* Biełaruskija Cymbału. Wilnia, 1933; *Юрэвіч Л.*

Літаратурная спадчына: новы погляд // *Беларус* (Нью-Йорк). 1997. Жнівень; *Гарбінскі БРД* С. 51—52, 289—296; *БП*, т. 1.

**АДЗІНЕЦ Аркадзь Якаўлевіч** [9.8.1895, в. Парэчча Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл. — пасля 1957, Башкірыя ?], мовазнавец. У 1915—18 служыў у царскай арміі. У 1918—19 вучыўся на педкурсах, працаваў загадчыкам Народнага дома ў в. Рудабелка. У 1920 мабілізаваны ў Чырвоную Армію, у якой служыў да канца 1921. У 1922—23 настаўнічаў на вёсцы. У 1924 скончыў Бабруйскі педтэхнікум, працаваў настаўнікам у Мазыры. У 1928 скончыў БДУ, вучыўся ў аспірантуры БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Чэбаксары Чувашскай АССР на 5 гадоў. 25.7.1935 пастановай Асобай нарады тэрмін высылкі падоўжаны на 3 гады. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, бухгалтарам Водаканалтрэста. З 1941 ва Уфе, працаваў бухгалтарам трэста «Стэрлітамакбуд». Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 15.11.1957. Пасля рэабілітацыі жыў у Стэрлітамаку Башкірскай АССР. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**АДЗЯРЫХА Міхась Якубавіч** [1904, в. Белічы Слуцкага пав. — 1938, ?], краязнавец. З 1922 вучыўся на педагагічным ф-це БДУ. Даследаваў руіны замка ў Койданаве. Удзельнічаў у краязнаўчым руху. У 1927 арыштаваны ДПУ БССР, як «удзельнік маладзёжнай контррэвалюцыйнай арганізацыі». Сасланы ў Вятку. Абставіны і дата смерці невядомыя.

Тв.: Апісанне Койданаўскага замка // *Наш край*. 1926, № 1.

Літ.: *Вяргей В.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *Улашчык М.* Краязнаўства. Мн., 1999. С.13.

**АДЫНЕЦ Антон Эдвард** [псеўданім: Inocenty Staruszkiewicz; 25.1.1804, Гейстуны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл.) — 15.1.1885, Варшава], паэт, перакладчык, мемуарыст, выдавец. Пісаў на польскай мове. Скончыў Барунскую базыльянскую школу ў 1820 і Віленскі ун-т у 1823 (магістр права). Ва ун-це стаў сябрам таварыства філарэтаў, якому прысвяціў «Песню філарэтаў» (пазней Ф.Багушэвіч зрабіў пераробку гэтага твора пад назваю «Песня»). Сябраваў з А.Міцкевічам, Я.Чачотам, Т.Занам, І.Дамейкам, І.Ходзькам, І.Лялевелем. Пабачыўшы паэтычныя здольнасці А., Чачот узяў яго пад сваю апеку, за гэта сябры празвалі Чачота Ментарам, а

А. — Тэлемакам (паводле грэчаскай міфалогіі, Ментар быў выхавальнікам Тэлемака). Па справе таварыства быў зняволены ў ліст. 1823 — лют. 1824. У 1829—37 вандраваў па Зах. Еўропе, часам спадарожнічаў А.Міцкевічу. У 1837 вярнуўся ў Гейстуны, а з 1838 жыў у Вільні. Быў рэдактарам альманаха «Melitele» (1829) і газеты на расійскай і польскай мовах «Виленский вестник» (1841—59). Паступова погляды А. сталі больш кансерватыўнымі. У прыватнасці, у 1858 ён удзельнічаў у выданні «Віленскага альбома» у гонар Аляксандра II. З 1866 жыў у Варшаве. Ёсць звесткі, што ў 1884, калі разам з Дамейкам А. наведваў Беларусь, сустракаўся ў Крошыне з П.Багрымам. У сваёй творчасці часта выкарыстоўваў сюжэты з гісторыі Беларусі, перакладаў сусветную класіку.

Тв.: У кн: *Філаматы і філарэты*. Мн., 1998. С. 352—360.

Літ.: *Mikołaitis J.* Odyniec wśród przyjaciół. Częstochowa, 1938; *Цвірка К.* Тэлемак з-пад Ашмянаў: Жыццё і творчасць А.Э. Адынца // *Роднае слова*. 1994, № 3; *МАБ*; *ЭГБ*, т. 1.

**АЗБУКІН Мікалай** [1894, Бабруйск — 24.11.1943, ?], географ, краязнавец, публіцыст, дзеяч бел. нацыянальнага руху. Паходзіў з сям'і патомных дваранаў. У 1912—17 вучыўся ў Пецярбургскім ун-це. Пасля сканчэння вучобы выкладаў геаграфію і прыродазнаўства ў Бабруйскай

гімназіі. Далучыўся да бел. нацыянальнага руху, член камітэта Беларускага культурна-асветнага таварыства ў Бабруйску. Падчас польскай акупацыі ў 1919 арыштаваны. Восенню 1920 стаў дырэктарам бабруйскай школы імя Я.Купалы. Увесну 1921 зноў арыштаваны ўжо савецкімі ўладамі па падазрэнні ў прыналежнасці да партыі бел. эсэраў. З 1921 працаваў у Мінску: у Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у Інстытуце беларускай культуры, з 1929 на кафедры геаграфіі БелАН. У кнізе «Географія Эўропы» трактаваў Беларусь як самадастатковую краіну. Адзін з галоўных арганізатараў краязнаўчага руху ў Беларусі, сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства, першы рэдактар часопіса «Наш край». У пачатку 1928 у БССР існавала ўжо 301 краязнаўчая арганізацыя, якія аб’ядноўвалі 10510 чалавек. Імклівае пашырэнне краязнаўчага руху, глыбока патрыятычнага па сутнасці, выклікала занепакоенасць камуністычных уладаў, і на краязнаўцаў абрынуліся рэпрэсіі. А. быў арыштаваны 21.7.1930 па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі» і па пастанове Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы ў Налінск на 5 гадоў. Ёсць звесткі, што зноў быў асуджаны ў 1937 (?). Загінуў у 1943 у зняволенні. Паводле сведчання Ю.Бібілы, расстраляны нібыта за спробу перайсці мяжу на поўдні СССР. Рэабілітаваны 15.11.1957 Вярхоўным судом БССР.

Тв.: Географія Эўропы. М.; Л., 1924 (у сааўтарстве з А.Смолічам); Географія па-заэўрапейскіх краёў. Мн., 1925 (у сааўт.); Школьная карта Беларусі. Мн., 1925 (разам з А.Смолічам); Нашы мястэчкі (Матэрыялы да геаграфічнага слоўніка) // *Наш край*. 1925, № 2—3; Мястэчка Шацак // *Тамсама*. 1927, № 1.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *Возвращенные имена*.

**АКІНЧЫЦ Аляксандр** [9.2.1839, в.Сялец Пружанскага пав. (па іншых звестках нарадзіўся 28.8.1839, Гродна) — 20.4.1886, Парыж], медык, публіцыст, мемуарыст. У 1856—61 вучыўся на медыцынскім ф-це Маскоўскага ун-та, доктар медыцыны. У 1861 распачаў лекарскую практыку ў Шарашове. Арыштаваны за аказанне медыцынскай дапамогі параненым паўстанцам 1863. Атрымаў 12 гадоў катаргі. На этапе паміж Табольскам і Томскам А. і яшчэ двое вязняў здолелі схавацца пад імёнамі памерлых ад тыфу ссыльных. А. застаўся ў Томску пад прозвішчам Малеўскі. На конях і пешшу дабраўся да цэнтральных р-наў Расіі. Пры дапамозе расійскіх рэвалюцыйных груп з фальшывым пашпартам у жн. 1865 разам з З.Мінейкам даехаў да Парыжа. Пачаўся новы, знешне больш спакойны перыяд жыцця А. У сувязі з тым, што яго дыплом не прызнаваўся ў Францыі, мусіў прайсці адпаведныя курсы і ў ліп. 1867 паспяхова здаў іспыт на званне доктара ме-

дыцыны. Займаўся лекарскай практыкай. Як згадваюць сучаснікі, быў адданы ідэі дапамогі людзям, якія пакутуюць. Браў актыўны ўдзел у дзейнасці эмігранцкіх арганізацый уцекачоў з тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. Выступаў з публікацыямі ў прэсе. Напісаў мемуары «Успаміны з побыту ў Расіі ў 1863 г.», якія не былі апублікаваны і захоўваюцца ў архіве сям'і.

Літ.: *Kulczykowski M*. Okińczyc (Okieńczyc) Aleksander // *PSB*. T. XXIII/4, Zeszyt 99, 1978. S. 664—666.

**АКІНЧЫЦ Фабіян** [20.1.1886, в. Акінчыцы Мінскага пав., цяпер у межах Стоўбцаў — 7.3.1943, Мінск], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, рэдактар. Па адукацыі юрыст (скончыў Пецярбургскі ун-т у 1913). У 1906—17 член партыі эсэраў. Па некаторых звестках, у 1918 камісарыў у Ноўгарадзе. З 1923 жыў на Стаўбцоўшчыне: дырэктар пачатковай школы ў в. Засулле, у 1926 адкрыў у Стоўбцах бюро юрыдычных парад. У жн. 1926 уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, а ў вер. таго ж года пераехаў у Вільню, дзе ўзначаліў юрыдычны аддзел Цэнтральнага сакратарыята БСРГ. Член Галоўнай управы і Надзорчай рады Таварыства беларускай школы. За сваю актыўную дзейнасць у студз. 1927 арыштаваны польскімі ўладамі і ў

маі 1928 асуджаны на 8 гадоў зняволення ў турме. Але ў 1929 тэрмін зняволення быў скарочаны на 2 гады. Прэзідэнт Польшчы І.Масціцкі сваім распараджэннем датэрмінова вызваліў А. ў ліп. 1930. Пасля вызвалення актыўна займаўся публіцыстыкай, уваходзіў у рэдкалегіі газ. «Наперад», «Беларускі звон», «Народны звон». У маі 1931 стварыў прапольскую групу «Адраджэнне». Эвалюцыянаваў у бок нацыянал-сацыялізму, з 1933 выдаваў часопіс адпаведнай арыентацыі «Новы шлях». Распачаў працу па стварэнні Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі, якая ў кастр. 1937 была забаронена польскімі ўладамі. З ліп. 1939 у Берліне, старшыня Беларускага бюро прапаганды пры Міністэрстве прапаганды. Падчас наведвання Мінска быў застрэлены партызанамі.

Тв.: Чаму гэта так сталася? (Да справы выезду за граніцу былых правадыроў Грамады). Вільня, 1931; Правакацыя беларускага народа (Да справы б. старшыні Грамады Б.Тарашкевіча). Вільня, 1933; Аграрна-кааператыўная палітыка будучыні. Вільня, 1936; Jak Komintern organizował ruch białoruski. Wilno, 1936.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АКСЕЛЬРОД Зэлік** [30.12.1904, Маладзечна — 26.6.1941, Мінск], паэт, перакладчык. Брат ма-

стака Меера Аксельрода (1902, Маладзечна — 1970; мастацкую адукацыю атрымаў у прыватных выкладчыкаў у Мінску, а таксама ў М.Шагала і Ю.Пэна ў Віцебску; пасля 2-й сусветнай вайны стварыў серыю карцін пра гета). А. пачаў выступаць у друку з 1921. Пісаў на мове ідыш. У 1922—25 вучыўся ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В.Брусава ў Маскве, у 1928 скончыў літаратурны ф-т Маскоўскага пед-інстытута. Менавіта мастацкая атмасфера Масквы 1920-х паўплывала на фарміраванне паэтычнага густу А., творы якога вылучаліся лірызмам. Перакладаў бел. і расійскую класіку (Я.Купала, А.Пушкін, М.Някрасаў). Член БелАПП з 1928, член СП СССР з 1934. Пасля вяртання ў Беларусь працаваў у Дзяржаўным выдавецтве БССР, а з 1931 адказны сакратар яўрэйскага час. «Штэрн» («Зорка»). Пераклаў паэму «Вялікаму Сталіну ад беларускага народа», але гэта не выратавала яго ад рэпрэсій. Арыштаваны НКВД 30.5.1937; расстраляны 26.6.1941 у Мінску. Рэабілітаваны ў 1957.

Літ.: *БП*, т. 1.

**АКСЕЛЬРОД Любоў Ісакаўна** [літаратурны псеўданім: Артадокс; 1868, мяст. Дунілавічы Вілейскага пав. Віленскай губ, цяпер Пастаўскі

р-н Віцебскай вобл. — 5.2.1946, Масква], філосаф, літаратуразнавец. З 1884 у рэвалюцыйным руху. У 1887 эмігравала ў Францыю. Член групы «Вызваленне працы», паслядоўніца Г.В.Пляханава. У 1900 скончыла Бернскі ун-т. Уступіла ў «Саюз рускіх сацыял-дэмакратаў за мяжой». Супрацоўнічала ў газ. «Заря» (1901—02), «Искра» (1901—05). У 1903 пасля II з’езда РСДРП далучылася да меншавікоў. Вярнулася ў Расію (1906). Друкавалася ў газ. «Северо-Западный край», час. «Наша заря», «Современный мир», «Дело». Распрацоўвала пытанні эстэтыкі, гісторыі філасофіі і гістарычнага матэрыялізму. У 1915 выслана з Петраграда. У 1917 член ЦК партыі меншавікоў, пляханаўскай групы «Адзінства». У 1918 адышла ад паліт. дзейнасці. З 1921 у Маскве, выкладала філасофію ў Інстытуце чырвонай прафесуры, Дзяржаўнай акадэміі мастацкіх навук, распрацоўвала пытанні сацыялогіі мастацтва. Аўтар прац «В защиту диалектического материализма. Против схоластики» (1928), «Идеалистическая диалектика Гегеля и материалистическая диалектика Маркса» (1934). Рэпрэсавана ў 1930-я г.

Тв.: Философские очерки. М., 1906.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Андрэй** [псеўданімы: А.А-віч, А.Андр., Андр. Ал-іч, А.Худніцкі, Чыгуначнік Бэцін; 9(22).1.1906, Мінск — 6.1.1963, Падмаскоўе], паэт, перакладчык, публіцыст, член-карэспандэнт АН БССР. Сярэднюю і вышэйшую адукацыю атрымаў у Мінску: скончыў МБПТ (1925), БДУ (1930). Яшчэ ў гады 1-й сусветнай вайны стаў удзельнікам хору У.Тэраўскага. Наведваў «Беларускую хатку». Адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк». У 1925 рэдактар час. «Малады араты», працаваў у рэдакцыях розных рэгіянальных і мінскіх выданняў («Наш працаўнік», «Чырвоная Полаччына», «Бальшавік Беларусі», «Заклік»). Першыя паэтычныя зборнікі «Па беларускім бруку», «Прозалаць». Кар'ера А. развівалася даволі паспяхова: у 1934—37 намеснік старшыні праўлення СП БССР, дырэктар Інстытута мовы БелАН, у 1931—37 член ЦВК БССР, у 1936—37 кандыдат у члены ЦК КП(б)Б. У 1930-я ў час цкавання бел. руху далучыўся да гэтай кампаніі. У паэме «Цені на сонцы» (1930) «выкрыў» вядомых бел. літаратараў і вучоных. Разгромным у дачыненні да бел. літаратуры было і яго выступленне на III пленуме праўлення СП СССР. Вылучыўся ў русіфікацыі бел. мовы — у падрыхтаваным пад яго рэдакцыяй «Руска-беларускім слоўніку» (1937) былі парушаны лексічныя нормы бел. мовы. Але карная машына не абмінула і яго. Першы раз арыштаваны 2.7.1938 і асуджаны на 15 гадоў лагераў; у 1938—47 на Край-

няй Поўначы, працаваў на будоўлі Нарыльскага металургічнага камбіната. Тэрмін зняволення быў скарочаны да 8 гадоў, і ў 1947 ён выйшаў на волю. У 1947—48 — літсупрацоўнік шматтыражкі Мінскага трактарнага завода, але ў 1948 яму забаранілі працаваць у друку, нейкі час быў брыгадзірам будаўнікоў. Зноў арыштаваны 26.2.1949 і сасланы ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны ў 1955. Потым жыў і працаваў у Мінску. Памёр у санаторыі ў Падмаскоўі. Пахаваны ў Мінску.

Тв.: Зб. тв. Т. 1—2. Мн., 1963; Творы. Мн., 1981.

Літ.: *Да дзесяцігоддзя творчай працы Андрэя Александровіча: Спіс літаратуры // Кніга масам*. 1932, № 1; *БП*, т. 1.

**АЛЬШЭЎСКІ Анатоль** [партыйны і публіцыстычны псеўданім і крыптанім: Юрка Пружанскі, Ю.Пружанскі, Ю.П.; 21.6(4.7).1904, мяст. Бяроза-Картузская Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер г. Бяроза Брэсцкай вобл. — 1937, Мінск], публіцыст, дзеяч рэв. руху ў Зах. Беларусі. Даволі рана далучыўся да левага руху, у 1919 у 15-гадовым узросце ўступіў у Чырвоную Армію, ваяваў на Палессі; тады ж стаў членам РКП(б). У 1920 быў накіраваны на вучобу ў Камуністычны ун-т імя Свярдлова ў Маскве. У 1925, як ураджэнец Зах. Беларусі, накіраваны туды на падпольную работу. Быў сакратаром ЦК КСМЗБ, членам ЦК КСМ

Польшчы. У 1926 і 1928 выбіраўся членам ЦК КПЗБ. Актыўна займаўся публіцыстыкай і рэдактарскай справай — рэдагаваў цэнтральныя органы ЦК КПЗБ «Бальшавік» і «Чырвоны сцяг». Друкаваўся ананімна і пад псеўданімамі ў падпольных выданнях. Асноўная тэма яго публіцыстыкі — вострая крытыка палітыкі польскага ўраду ў Зах. Беларусі. Гэтая дзейнасць не магла быць незаўважана: у 1927 арыштаваны польскімі ўладамі і зняволены ў Варшаве. У 1928 па абмене паліт. вязнямі трапіў у СССР. У 1932 зноў закінуты ў заходнебел. камуністычнае падполле, але ў ліп. таго ж года вернуты ў Мінск. Працаваў у рэдакцыі Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б. З 1933 на прафсаюзнай рабоце. У час найбольшага ўздыму масавых рэпрэсій у 1937 арыштаваны; загінуў у засценках НКВД. Рэабілітаваны пасмяротна. Імя Альшэўскага нададзена вуліцам у Бярозе і Пружанах. У Бярозе захаваўся дом, дзе ён жыў; там устаноўлена мемарыяльная шыльда.

Літ.: *Орехво Н.С.* Дела и люди КПЗБ: Воспоминания. Мн., 1983; *Калеснік Ул.* Пасланец Праметэя: Дакум. аповесць. Мн., 1984; *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*; *ЭГБ*, т. 1.

**АЛЯХНОВІЧ Мікола** [крыптанімы: А-ч; А—ч, М.; Ал.; Ал-іч; Аліг; Аліч; Аліч. Мік.; Мік.А.; 8(21).4.1903, Барысаў — 9.4.1959, Ленінград], літа-

ратурны крытык. Паводле ўласных прызнанняў (у анкеце «Маладняка») літаратурнай дзейнасцю пачаў займацца з 1918, друкавацца — з 1919. З 1919 да 1921 удзельнічаў у грамадзянскай вайне на баку «чырвоных»: спачатку партызаніў на Барысаўшчыне, потым у складзе стралковай дывізіі ваяваў на Зах. фронце. Пасля вяртання ў 1921 да цывільнага жыцця пачаў вывучаць медыцыну ў БДУ, але ў 1924, на трэцім курсе, пакінуў вучобу. На працягу года выкладаў бел. мову і літаратуру ў працоўнай школе, а потым на агульнаадукацыйных курсах у Барысаве. З 1925 належаў да літаратурнага аб'яднання «Маладняк», у 1925—27 кіраўнік Барысаўскай філіі аб'яднання. 24.11.1925 удзельнічаў у першым з'ездзе «Маладняка». Пры ацэнцы літаратурных твораў часам кіраваўся больш ідэалагічнымі, чым эстэтычнымі крытэрыямі. У 1930 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Вучыўся ў аспірантуры, у 1932—34 быў навуковым супрацоўнікам секцыі літаратуры Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Беларускай Акадэміі навук. У 1930—36 — выкладчык МВПІ; у 1935 атрымаў званне дацэнта. Арыштаваны НКВД 26.11.1936, у 1938 асуджаны на 12 гадоў зняволення. Высланы на Калыму, працаваў доктарам у лагерным медпункце, пазней — у псіхіятрычным аддзяленні клінікі. У 1945 пераведзены ў Тайшэт (Іркуцкая вобл.), у 1956 — у Карагандзінскую вобл. Рэабілітаваны ў 1957. Па-

сля вызвалення жыў у Ленінградзе. Да літаратурнай дзейнасці не вярнуўся, займаўся медыцынскімі даследаваннямі.

Літ.: *Саламевіч Я.* Адзін з першых // *ЛіМ*. 1978, 21 крас.; *БП*, т. 1.

**АЛЯХНОВІЧ Францішак** [Аляхновіч-Алекна; псеўданімы і крыптанімы: А-віч; Ф.А.; Ф.О.; Фр.; Я.Монвід; І.Монвід; Ю.Монвід; 9.3.1883, Вільня — 3.3.1944, Вільня], драматург, тэатральны дзеяч, публіцыст. З дзяцінства выхоўваўся ў артыстычным асяроддзі: бацька працаваў скрыпачом у тэатры. Сістэматычнай агульнай адукацыі не атрымаў, хоць і рабіў некалькі спроб вучыцца ў Віленскай гімназіі, Віленскай хімічна-тэхнічнай школе і ў Кракаўскім ун-це. У 1904 паступіў у Варшаўскую драматычную школу, пасля сканчэння якой у 1907 вандраваў з трупай акцёраў. У 1908 вярнуўся ў Вільню, дзе ўладкаваўся рэпарцёрам, пачаў выдаваць на польскай мове гумарыстычны час. «Perkunas». Тады ж далучыўся да бел. нацыянальнага руху. За публікацыю антыцарскага артыкула часопіс «Perkunas» быў закрыты, а рэдактар трапіў пад следства. Уцёк у Аўстра-Венгерскую імперыю, дзе працаваў акцёрам у Кракаве і ў польскіх тэатрах Галіччыны. У 1913 у Расійскай імперыі была абʼяўлена амністыя, і хоць пад яе трапляла толькі

частка «злачынстваў» рэдактара час. «Perkunas», А. вярнуўся ў Вільню, дзе яго асудзілі на год астрога. Менавіта ў Лукішскай турме Вільні А. пачаў пісаць п’есы. У чэрв. 1918 перабраўся ў Мінск. Увесну 1919 вярнуўся ў Вільню і выдаваў час. «Беларускае жыццё», спрабаваў арганізаваць тэатр. Восенню 1919 зноў пераехаў у Мінск, дзе быў дырэктарам і рэжысёрам Беларускага тэатра, які субсідзіраваўся польскімі ўладамі. З ліп. 1920 у Вільні, у 1921—23 рэдагаваў газ. «Беларускі звон». Кніжка «Беларускі тэатр» (1924) засведчыла А. як першага бел. тэатразнаўца. У ліст. 1926 прыехаў у Мінск на Акадэмічную канферэнцыю, застаўся ў Савецкай Беларусі; працаваў літаратурным кіраўніком у адкрытым БДТ-2 у Віцебску. Там і быў арыштаваны 1 студз. 1927; атрымаў 10 гадоў зняволення на Салаўках. У вер. 1933 абменены ўладамі на вязня польскай турмы Б.Тарашкевіча. Пасля вяртання ў Вільню напісаў свой самы вядомы твор — успаміны пра знаходжанне ў сав. лагерах «У капцюрох ГПУ». Твор упершыню надрукаваны ў польскай віленскай газ. «Słowo»; рускі пераклад успамінаў апублікавала парыжская газ. «Возрождение». У 1935 у Вільні ўспаміны выйшлі асобнай кнігай на польскай мове пад назвай «Siedem lat w szponach G.P.U.» У 1937 у Варшаве выдадзены яшчэ адзін польскі варыянт кнігі пад назвай «Prawda o Sowietach». Твор перакладаўся на італьянскую мову («La verita sulla Russia

Bolscevica») і на партугальскую ў Бразіліі («Sete annos nas garras sovieticas»). Украінскі пераклад друкавала газ. «Діло», рэдакцыя якой затым выпусціла ўспаміны асобнай кнігай «7 літ на Соловках». Толькі ў канцы 1937 аўтар здолеў выдаць кнігу на бел. мове. Вядома, такая актыўнасць А. не магла застацца незаўважанай НКВД. Калі ў 1940 у Вільню ўвайшлі савецкія войскі, то А. апынуўся на нелегальным становішчы. У час нямецкай акупацыі рэдагаваў газ. «Biełaruski hołas». У сак. 1944 застрэлены на сваёй кватэры савецкімі дыверсантамі, засланымі з-за лініі фронту. А. — аўтар 20 п’ес. Творы А. зноў пачалі друкаваць і ставіць на бел. сцэне ў 1990-х г.

Тв.: Беларускі тэатр. Вільня, 1924; У капцюрох ГПУ. Мн., 1994.

Літ.: *Крывіцкі Л.* (Луцкевіч Л.). Францішак Аляхновіч // *Ніва* (Беласток).1990, № 2—3; *Сабалеўскі А.* Адметны след // *Спадчына*. 1990, № 3; *Яго ж*. На адраджэнскай хвалі // *Полымя*. 1992, № 5; Бяляцкі А. «Як я памру…» // Маладосць. 1990, № 10; *Няфёд У.І.* Францішак Аляхновіч: Тэатральная і грамадска-палітычная дзейнасць. Мн., 1996; *БП*, т.1; *ЭГБ*, т. 1.

**АНАЦЭВІЧ Ігнат** [Жэгота Анацэвіч; псеўданім: Жэгота з Малой Бераставіцы; 1780 ці 1781, в. Малая Бераставіца Гродзенскага пав., цяпер

Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 18.2.1845, Пецярбург], гісторык, археограф, архівіст. Паходзіў з сям'і уніяцкага святара, вучыўся ў Ваўкавыскай і Гродзенскай школах, Беластоцкай гімназіі. Па універсітэцкую адукацыю накіраваўся ў Прусію, дзе скончыў Кёнігсбергскі ун-т (1805); нейкі час выкладаў там рускую і польскую мовы. Жадаючы вывучаць гісторыю ВКЛ, у 1809 накіраваўся ў Вільню, дзе ў 1811 скончыў ун-т і застаўся ў ім выкладчыкам усеагульнай гісторыі. Важным для А. стала знаёмства з вядомым мецэнатам і калекцыянерам графам М.Румянцавым. Пазней А. каля года жыў і працаваў у яго гомельскім маёнтку, дзе зрабіў шмат выпісак, даследуючы зборы графа. У 1818 абраны ад'юнктам Віленскага ун-та, а ў 1827 стаў прафесарам. У 1828 расійскія ўлады абвінавацілі яго ў сувязях са студэнцкай арганізацыяй «Плямёны сарматаў», адхілілі ад выкладчыцкай дзейнасці і выслалі на Радзіму. Ад суда яго выратавала заступніцтва Румянцава. З 1834 А. у Пецярбургу, прысвяціў сябе навуковай дзейнасці, супрацоўнічаў з Археаграфічнай камісіяй. Шмат падарожнічаў і вывучаў архіўныя калекцыі Пецярбурга, Дэрпта, Рыгі, Кёнігсберга, Варшавы, прыватныя зборы ў Гродзенскай губ. Вынікі сваіх вандровак публікаваў у час. «Северный архив», «Северная пчела», «Вестник Европы»; збіраў і апрацоўваў матэрыялы да зборніка дакументаў «Акты Западной России». Яму дазволілі супрацоўнічаць з

Археаграфічнай камісіяй крыху больш, чым два гады — у 1839 у Расіі была праведзена чыстка дзяржаўнага апарата ад асоб каталіцкага веравызнання. Галоўная праца А. «Гісторыя Літвы» засталася неапублікаванай.

Літ.: *Iwaszkiewicz J.* Ignacy Żegota Onacewicz — historyk Litwy // Studia i materiały z dziejów nauki polskiej. Ser. A, z. 4. Warszawa, 1961; *МАБ*; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 1.

**АНІСАЎ Сяргей** [партыйныя псеўданімы: Пеця, Мікалай Казлоўскі; 6(19).10.1906, в. Тур'я Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н — 7.3.1987, Мінск], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, журналіст. У 1927—32 на камсамольскай рабоце ў БССР; працаваў нам. галоўнага рэдактара газ. «Чырвоная змена» і «Рабочий». У маі 1932 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Быў членам сакратарыята ЦК КСМЗБ; актыўна працаваў як журналіст, быў рэдактарам газ. «Малады камуніст» і «Poborowiec», час. «Маладая гвардыя» і «Камсамолец». Са снеж. 1934 першы сакратар ЦК КСМЗБ, са жн. 1935 першы сакратар Брэсцкага акруговага камітэта КПЗБ. У 1932—33 арганізоўваў забастоўкі рабочых лясных промыслаў у Белавежскай і Ружанскай пушчах, беластоцкіх тэкстыльшчыкаў. З кастр. 1935 зняволены ў польскай турме. У 1939—45 у

нямецкім лагеры ваеннапалонных. Пасля вайны працаваў у друку. Арыштаваны савецкімі ўладамі 10.2.1950. Аўтар прац па гісторыі Зах. Беларусі і КСМЗБ: «З гісторыі камсамольскага падполля Заходняй Беларусі» (1958), «За волю і шчасце народа» (1959), «Крутымі шляхамі» (1960), «Палымянае юнацтва» (1969), «У змаганні гартаваліся» (1975).

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *БЭ*, т. 1.

**АНІСЬКА Дамінік** [7.1.1888, в. Слойнікі Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча— 28.12.1971, Лондан, Вялікабрытанія], бел. рэлігійны і грамадскі дзеяч, публіцыст. Скончыў рускую пачатковую школу ў в. Яноўшчына (Сакольскі пав.), у 1906 — гарадскую школу ў Саколцы. У 1907—09 служыў у рускай арміі. Аўтар віленскай газ. «Беларус». Ваяваў у 1-ю сусветную вайну ў складзе рускай арміі. Вярнуўшыся ў родныя мясціны ў 1918, быў мабілізаваны ў польскае войска. З 1923 афіцэр запасу. Браў удзел у бел. рэлігійным і грамадскім руху, быў аўтарам бел. каталіцкага час. «Хрысціянская думка». Выдаў некалькі брашур: «Да беларускага народу», «Усё у міласці». У 1939 мабілізаваны ў польскае войска. Да 1940 знаходзіўся ў Літве. Быў арышта-

ваны бальшавікамі, спачатку знаходзіўся ў лагеры ў Казельску, пасля — у Валагодскай вобл. У 1942 уступіў у армію генерала Андэрса, разам з ёю выйшаў у Іран, а адтуль у Палестыну. З 1949 жыў у Вялікабрытаніі. Быў аўтарам бел. рэлігійнага час. «Божым шляхам» (Парыж—Лондан).

Літ.: Дамінік Аніська: Некралог // *Беларус* (Нью-Ёрк). 1972, № 178.

**АНІХОЎСКІ Аляксандр Георгіевіч** [29.5.1897, в. Старыца Слуцкага пав. — пасля 1956], педагог, дацэнт. У 1915—24 працаваў настаўнікам на Случчыне, затым загадчыкам акруговых аддзелаў палітасветы і народнай асветы ў Клімавічах. У 1927 скончыў педагагічны ф-т БДУ. У 1927—30 інспектар педагагічных тэхнікумаў Наркамасветы БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 13.7.1930, праходзіў па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі. Пакаранне адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобл. З 1934 жыў у Вятцы. Працаваў эканамістам на заводзе безалкагольных напояў. Паўторна арыштаваны ў пачатку жн. 1935 за адказ ад супрацоўніцтва з НКВД; сасланы на 5 гадоў у Іванава. Зноў арыштаваны 31.7.1943. Ваенным трыбуналам войск НКВД 14.10.1943 асуджаны на 10 гадоў лагераў. З 1956 жыў у Іванава-Вазня-

сенску, працаваў эканамістам на мэблевым камбінаце. Рэабілітаваны па першым прыгаворы 15.11.1957, па другім — 15.10.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Илькевич Н.* Адам Бабарека: арест, лагерь, смерть. Смоленск, 1999; *Міхнюк У.* «Забраны ў астрог мы з забранага краю» // *Полымя*. 1999, № 5.

**АНІШЧЫК Аляксей Сцяпанавіч** [псеўданімы: Андрэй Чэмер; А.Шпак; нар. 19.7.1912, хутар Мондзіна Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл.], мемуарыст, педагог, журналіст, грамадскі дзеяч. Скончыў Навагрудскую гімназію і эканамічны ф-т Пазнанскага ун-та; магістр эканамічных навук. Працаваў у Катавіцах, кіраваў курсамі для інжынераў і тэхнікаў. У вер. 1939 запісаўся ў батальён, які абараняў Варшаву ад немцаў, за што пазней быў узнагароджаны медалём. Пасля капітуляцыі Польшчы вярнуўся ў Навагрудак, дзе выкладаў у школе бел. мову і літаратуру. Потым на Беласточчыне быў дырэктарам школы. У 1941 выкладчык і загадчык школы ў мяст. Уселюб Навагрудскага р-на. З 1942 выкладчык Навагрудскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Публікаваўся ў газ. «За праўду», са студз. 1944 яе рэдактар. У лют. — маі 1944 загадчык Навагруд-

скай друкарні, у маі—чэрв. супрацоўнік сектара радыёперадач Беларускага культурнага цэнтра ў Мінску. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса 1944. Пры адступленні нямецкіх войск выехаў у Германію. У 1945—46 жыў у Кракаве, працаваў у газетах. Потым узначаліў ваяводскі аддзел выдавецтва «Czytelnik» у Вроцлаве і Шчэціне. Арыштаваны савецкімі спецслужбамі ў маі 1948; вывезены ў Мінск. За супрацоўніцтва з немцамі прысуджаны да расстрэлу, замененага 25 гадамі зняволення. Правёў у лагерах Запаляр'я і Мардовіі 14 гадоў. Вызвалены ў 1962. Вярнуўся на Радзіму. Працаваў эканамістам у Навагрудскім р-не і ў Лідзе. Потым пераехаў у Літву (Эйшышкі). Цяпер жыве ў Вільні. Узначальвае суполку віленскіх бел. палітвязняў. Піша на бел., рускай, польскай мовах. Член СП Беларусі з 2000. Падрыхтаваў кнігу мемуараў.

Тв.: Мондзінская балада: Дакументальная аповесць. Вільня, 1996; За калючым дротам: (Нарысы, вершы). Вільнюс, 1996; Жизнь живым принадлежит: (Стихи). Вильнюс, 1996; Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997; Сяргей Хмара. Вільнюс, 1998; Выбраныя Богам. Вільнюс, 1999; Партрэты. Вільнюс, 2001.

Літ.: *Мілаш Л.* Аляксею Анішчыку — 90 // *Кантакты і дыялогі*. 2002, № 5—6.

**АНІШЧЫК Міхаіл** [3(16).10.1905, в. Була Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Іва-

цэвіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 8.2.1973, Мінск], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, журналіст. У 1926 уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую грамаду, з 1925 у КПЗБ. У 1929 стаў сакратаром Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ, а з 1934 — сакратаром Слонімскага акруговага камітэта КПЗБ. Тройчы быў зняволены польскімі ўладамі. Пасля ўз'яднання Беларусі быў старшынёй Слонімскага гарвыканкама. З чэрв. 1943 у тыле нямецкіх войск, памочнік упаўнаважанага Беларускага штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобл., у жн.—снеж. 1943 кіраўнік Слонімскага падпольнага міжрайпартцэнтра. Рэдагаваў падпольную газ. «Вольная праца». Пасля вайны на партыйнай і савецкай рабоце. Яго імем названа вуліца ў Слоніме.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**АНУФРОВІЧ-ПЛОСКАЯ Марыя Софія** [псеўданім: Стрыенка; 15.3.1862, Калінкавічы Мазырскага пав. Мінскай губ. — 2.9.1922, Кракаў, Польшча], грамадская дзеячка. Паходзіла з сям'і дробнай шляхты. Вучылася на фельчарскіх курсах у Пецярбургу. Мела кантакт з польскімі нелегальнымі арганізацыямі «Воля народа» і «Вогнішча».

У 1882 разам з мужам Эдмундам Плоскім пераехала ў Варшаву, дзе ўвайшла ў кіраўніцтва партыі «Пралетарыят», якую ўзначальвала Марыя Багушэвіч. Кіравала дзейнасцю нелегальнай друкарні «Воля народа». У сувязі з арыштам мужа была выслана ў Кракаў з заданнем стварыць там адгалінаванне «Пралетарыята». Была пад наглядам аўстрыйскай паліцыі. 19.12.1883 арыштавана з групай сацыялістаў. 30.3.1884 кракаўскі суд прыгаварыў яе да 4 месяцаў турмы і выдалення за межы Аўстра-Венгрыі. Пасля сканчэння тэрміну пакарання была перададзена царскім уладам і заключана ў 10-ы павільён Варшаўскай крэпасці. 29.7.1885 прыгаворана да 4 гадоў ссылкі. Адбывала яе разам з мужам на Сахаліне. Пасля сканчэння тэрміну ёй забаранілі вяртацца на Радзіму. З 1897 жыла з мужам у Благавешчанску. У 1906 яны разам уцяклі ў Японію, а адтуль у Трыест. З 1907 зноў жыла ў Кракаве. У час 1-й сусветнай вайны даглядала параненых салдат. Пасля вайны кіравала гаспадарнымі курсамі.

Літ.: *PSB*

**АНЦЫПА Ільдэфонс [Анцыпа-Чыкунскі]** [1815(?), в. Мілавань каля Гродна — 6.6.1863, Магілёў], удзельнік рэвалюцыйнага руху, публіцыст. Вучыўся ў Слонімскім павятовым вучылішчы. Браў

удзел у паўстанні 1830—31. Быў вымушаны эміграваць у Францыю. Там праявіў сябе як публіцыст, друкуючы артыкулы пра паўстанцкую ўзброеную барацьбу. Калі ў Еўропе пачалася рэвалюцыя 1848, ён быў на Пазнаншчыне, якая ў той час належала Прусіі; камандаваў паўстанцкім сялянскім аддзелам. У 1859 здолеў вярнуцца на Радзіму і жыў у Быхаўскім пав. Магілёўскай губ. ў маёнтку свайго брата. За А. быў наладжаны паліцэйскі нагляд. Калі пачалося паўстанне 1863, адразу далучыўся да яго і 24.4.1863 узначаліў паўстанцкі атрад у Быхаўскім пав. 28.4.1863 яго атрад быў разбіты расійскімі войскамі. Ваенна-палявы суд прыгаварыў А. да смяротнага пакарання. Быў расстраляны ў Магілёве.

Літ.: *В.[Ратч].* Очерки мятежного движения в Могилёвской губернии в 1863 году. Вильна, 1865; *ЭГБ*, т. 1.

**АПАЦЁНАК Фёдар (Тодар) Андрэевіч** [1902, Мінск — ?], педагог. У 1921 скончыў бел. настаўніцкія курсы. Вучыўся ў БДУ. Выкладаў у школе, на вышэйшых курсах беларусазнаўства, Мінскім палітэхнікуме. 25.7.1930 арыштаваны, 25.4.1931 асуджаны і высланы на Поўнач (Кем). Рэабілітаваны 28.12.1989.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**АРАНШТАМ Лазар Навумавіч** [псеўданімы: Артур; Якуб Чарняк; 9(21).6.1896, Роўны, Украіна — 1939, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч. З 1915 у РСДРП(б). Удзельнічаў у Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Маскве. Служыў у Чырвонай Арміі — камісар дывізіі, камісар інспекцыі артылерыі. У 1924 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Сакратар ЦК КПЗБ, член ЦК КПП. Арыштаваны ў лют. 1924. Па абмене палітзняволенымі ў 1928 апынуўся ў СССР. Жыў і працаваў у Беларусі (сакратар Віцебскага акруговага камітэта КП(б)Б). З 1929 член РВС і начальнік Палітупраўлення Беларускай вайсковай акругі. У 1933 накіраваны на Далёкі Усход начальнікам Палітупраўлення Асобай арміі. Арыштаваны ў 1937, загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1956.

Літ.: *Орехво Н.С.* Дела и люди КПЗБ: Воспоминания. Мн., 1983; *ЭГБ*, т. 1.

**АРСЕННЕВА [Кушаль] Наталля** [20.9.1903, Баку — 25.7.1997, ЗША], паэтэса, перакладчыца, драматург. У час вайны ў 1914 сям’я Арсенневых жыла ў бежанстве ў Яраслаўлі, дзе будучая паэтка напісала свой першы верш на рускай мове. Радавод бацькі А. узыходзіць да роду маці М.Ю.Лермантава. У 1920 сям’я вярнулася ў Вільню, там А. скончыла Віленскую Першую беларускую гімназію,

паступіла ва ун-т. На яе паэтычныя здольнасці звярнуў увагу М.Гарэцкі. У 1922 А. выйшла замуж за Ф.Кушаля, якога, як афіцэра польскага войска, накіравалі служыць у зах. рэгіён Польшчы. Пасля вер. 1939 А. жыла ў Вілейцы, працавала ў абл. «Сялянскай газеце». У крас. 1940 як жонка палоннага польскага афіцэра была выслана з сынамі ў Казахстан. У маі 1941 А. вярнулася з ссылкі ў Мінск. Тут яе напаткала вайна. У акупіраваным Мінску супрацоўнічала з «Беларускай газэтай». Напісала некалькі лібрэта да опер, займалася перакладамі. У 1944 эмігравала ў Германію, з 1949 жыла ў ЗША. Працавала ў эмігранцкай бел. газ. «Беларус», на радыё «Свабода», у Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. У даваеннай лірыцы замыкалася на інтымных і пейзажных матывах. У час вайны і ў эмігранцкі перыяд стварыла шэраг тэкстаў грамадзянскай лірыкі, гістарычнай бел. тэматыкі. У 1970—80-я г. адышла ад актыўнага ўдзелу ў паліт. жыцці бел. эміграцыі. З сярэдзіны 1980-х г. яе творы зноў робяцца вядомымі і папулярнымі на Радзіме.

Тв.: Пад сінім небам: Вершы (1921—1925 г.). Вільня, 1927 (факс. выд.: Мн., 1991); Сягоньня: Вершы, 1941—1943. Мн., 1944; Між берагамі: Выбар паэзіі, 1920—1970. Нью-Ёрк, Таронта, 1979; Яшчэ адна вясна: Выбраныя вершы. Мн., 1996; Выбраныя творы. Мн., 2002.

Літ.: *Байкоў М.* Аб творчасці Наталлі Арсеньевай // *Полымя.* 1927, № 8; *Сачанка Б. Сняцца сны...* С. 43—48; *Мішчанчук М.* «Між берагамі» // *Культура беларускага замежжа.* Кн. 1. Мн., 1993; *Тарасюк Л.* Праз акіян забыцця //

*ЛіМ*. 1993, 5 лют.; *Яе ж*. Пад небам паэзіі // *Полымя*. 1995, № 6; *Сямёнава А*. Лёс — і над лёсам // *Голас Радзімы*. 1993, 30 верас.; *Калеснік У*. Наталля Арсеннева // *ЛіМ*. 1994, 9 снеж.; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1; *Савік Л*. Жывём Айчынай мы...// Пакліканыя. Літаратура Беларускага Замежжа. Мн., 2001.

**АСКЕРКА [Oskierka] Аляксандр** [1830, маёнтак Рудакова Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Хойніцкі р-н Гомельскай вобл. — 11(24).1.1911, мяст. Відзы Лаўчынскія, цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл.], грамадскі дзеяч, публіцыст, выдавец. Паходзіў са старажытнага шляхецкага роду герба «Мурдэлія». Скончыў Пецярбургскі ун-т, у 1853—57 на вайсковай службе. Вылучаўся ліберальнымі поглядамі, удзельнічаў у падрыхтоўцы і ажыццяўленні сялянскай рэформы 1861 — быў членам Мінскага губернскага камітэта па ўладкаванні побыту сялян, браў удзел у рабоце рэдакцыйных камісій у Пецярбургу, быў членам установы па сялянскіх справах Вільні. У друку прапагандаваў ідэю земскага крэдыту. Удзельнічаў у рабоце Віленскай археалагічнай камісіі. У 1862 у Варшаве выдаў бел. буквар-катэхізіс «Элементаж для добрых дзетак каталікаў». У канцы лют. 1863 увайшоў у склад паўстанцкага Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы, дзе загадваў вайсковымі справамі, быў начальнікам Вільні. Не падтрымліваў радыкальна-рэвалюцыйнай праграмы паўстанцаў і стаў

адным з кіраўнікоў партыі «белых» у Беларусі і Літве. 31.5.1863 арыштаваны царскімі ўладамі, сасланы на катаргу ў Сібір. З 1872 жыў у Варшаве, рэдагаваў час. «Ateneum». Вярнуўся ў Вільню ў 1885, да 1904 працаваў дырэктарам філіі страхавога таварыства. Пахаваны на могілках Роса ў Вільні.

Літ.: *Beynar L.* Działalność Aleksandra Oskierki w Wilnie w latach 1861—1863 // *Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwersytetu Stefana Batorego w Wilnie, 1923—1933*. Wilno, 1933; Kosman M. Dalewski i Oskierka bojownicy o sprawę narodową // *Ciechanowicz J., Kosman B., Kosman M.* Na wileńskiej Rossie. Poznań, 1990; *МАБ*; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 1.

**АСКЕРКА Міхал** [1836, Мінск — 2.5.1864, Магілёў], лекар, дзеяч лагера «чырвоных» у паўстанні 1863. Паходзіў з апалячанай бел. шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі. У 1860 скончыў медыцынскі ф-т Маскоўскага ун-та і выехаў за мяжу. З 1862 працаваў хатнім лекарам у Сенненскім і Ашмянскім пав. Даведаўшыся пра пачатак паўстання, паехаў у Вільню, дзе яму ад імя «чырвоных» даверылі стаць камісарам Магілёўскай губ. Затым паехаў у Пецярбург, каб знайсці там патрыятычна настроеных афіцэраў. Паўстанне на Магілёўшчыне пачалося 5.5.1963, але хутка пацярпела паражэнне. Пасля гэтага А. перанёс сваю дзейнасць у Мінск і Ігуменскія лясы. У жн. пераняў ад Б.Свентажэцкага функцыі паўнамоц-

нага камісара Мінскай губ. Арганізаваў выезд за мяжу некалькіх паўстанцаў. 21 кастр. выехаў у Пецярбург з падробленым пашпартам, на станцыі Астроўская быў арыштаваны. У час следства ў Пецярбургу і Магілёве адмаўляўся даваць паказанні. Але яго паплечнікі, якім сказалі, што ён памёр, раскрылі ролю А. ў паўстанні. 22.4.1864 Мураўёў падпісаў смяротны прыгавор. Родныя і сябры стараліся дабіцца змякчэння прысуду. Мураўёў крывадушна пагадзіўся. Але паведамленне пра адмену смяротнага пакарання было накіравана ў Магілёў вечарам пасля экзекуцыі, якая адбылася 28 крас. Дадзеная калізія апісана У.Караткевічам у рамане «Нельга забыць» («Леаніды не вернуцца на зямлю»).

Літ.: *PSB.*

**АСТАПЕНКА Змітрок** [Дзмітрый Емяльянавіч; псеўданімы: З.Лірнік; К.Качкін (з Ю.Таўбіным); Клім Качкін (з Ю.Таўбіным); Мсьціслаўцы (з А.Куляшовым і Ю.Таўбіным; 10(23).11.1910, в. Сяргееўка Шумілінскага (цяпер Хіславіцкага) р-на Смаленскай вобл. — кастр. 1944 (?), Славакія (?)], паэт, перакладчык. Друкаваўся з 1926. У 1929 перавёўся з Мсціслаўскага педтэхнікума ў МБПТ, які скончыў у 1931. Працаваў у рэспубліканскай прэсе. У 1931—32 выйшлі кнігі вершаў «На ўсход сонца: Першая кніжка вершаў», «Краіне», «Абураныя».

Стаяў ля вытокаў беларускай навукова-фантастычнай літаратуры (раман «Вызваленне сіл»), перакладаў на бел. мову творы расійскай літаратуры XX ст. Арыштаваны 16.3.1933 па справе «Беларускай народнай грамады». Асуджаны на тры гады высылкі, але пакаранне адбываў у Арлова-Розаўскім аддзяленні Сіблага. У 1935 вызвалены з канцлагера. Некаторы час жыў у Маскве. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў СШ № 252. Паўторна арыштаваны 5.12.1936. Асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. У час вайны А. ўдаецца вырвацца з канцлагера. Некаторы час жыў у Маскве, працягваў пісаць вершы. У канцы вер. 1944 ў складзе падраздзялення разведчыкаў быў перакінуты на тэрыторыю Славакіі, дзе, па некаторых звестках, і загінуў.

Тв.: Выбранае. Мн., 1957; Вершы і паэмы. Мн., 1968.

Літ.: *Бярозкін Р.* Выпрабаванне гісторыяй // Бярозкін Р. Кніга пра паэзію. Мн., 1974; *Шушкевіч С.* Лёс паэта // Шушкевіч С. Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1978; *Арочка М.* Беларуская савецкая паэма. Мн., 1979. С. 139—140, 186—191; *Скрыган Я.* Рэквіем // Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. 2 выд. Мн., 1990; *Маракоў Л.* Шасцёра на фотаздымку // *Роднае слова.* 1999, № 6.

**АСТРАМОВІЧ Аляксандр** [псеўданімы і крыптанім: A.Ziaziula; А.Зязюля; Andrej Ziaziula; Андрэй Зязюля; A.Z.; 26.11(7.12).1878, в. Навваса-

ды Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі р-н Гродзенскай вобл. — 17.1.1921, Сянно Віцебскай вобл.], рыма-каталіцкі святар, паэт. Вучыўся ў Гальшанскім народным (1888—90) і Ашмянскім павятовым (1890—92) вучылішчах. У 1901—03 на вайсковай службе. У 1903—04 няўдала спрабаваў паступіць у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. У 1905 выехаў у Пецярбург, зноў пачаў рыхтавацца да паступлення ў семінарыю. У студз. 1906 вытрымаў іспыты на званне аптэкарскага вучня. У 1906—11 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Пасвечаны ў святары ў 1910. Падчас вучобы пад уплывам земляка А.Лісоўскага далучыўся да бел. культурніцкага і рэлігійнага руху. Арганізаваў аб’яднанне клірыкаў-беларусаў. З 1909 друкаваўся ў бел. прэсе. Служыў ксяндзом у мяст. Трабы, Ракаў, Свержань, Смілавічы, Абольцы, Сянно. Прыхільнік беларусізацыі рэлігійнага жыцця беларусаў-католікаў. Практыкаваў бел. казанні ў душпастырскай дзейнасці. Аўтар зборніка паэзіі «Z rodnaha zahonu» (Вільня, 1914, перавыдаваўся ў 1931). Патрыятычны верш «Słowa praudy ab mowie i doli biełarusa: (Paświačaju biełaruskaj moładzi)» быў выдадзены асобнай брашурай (1917). Прыхільнік хрысціянска-маралізатарскай паэзіі, яго вершы маюць дыдактычны характар. У асобных творах паэтычна адлюстроўваў працу бел. селяніна. Запісваў і апублікаваў разам з А.Грыневі-

чам бел. народныя песні. Быў адным з арганізатараў 1-га з'езда беларускіх каталіцкіх святароў (Мінск, 24—25.5.1917). Пасля абвяшчэння БНР па даручэнні Народнага сакратарыята арганізоўваў рэгіянальныя Рады ў Магілёўскай губ. За нацыянальна-рэлігійную дзейнасць праследаваўся бальшавіцкімі ўладамі, быў арыштаваны і некалькі тыдняў сядзеў у турме Віцебскай ЧК. Апошні год свайго жыцця працаваў у мяст. Сянно. Пахаваны на мясцовых могілках.

Літ.: *Раніца П.* Вясковы лірнік // *Беларус.* 1914, 2 крас.; *Гарэцкі М.* Андрэй Зязюля // Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920; *Краўцоў М.* Аляксандр Астрамовіч: Кароткі ўспамін // *Беларускі звон*. 1921, 16 снеж.; *Станкевіч А.* Кс. А. Астрамовіч (А. Зязюля) // *Беларуская крыніца*. 1923, 13 студз.; *Сакалінскі А.* [*Станкевіч А*]. У дзесятыя ўгодкі смерці Андрэя Зязюлі // *Шлях моладзі*. 1931, № 1; *Беларуская крыніца*. 1931, 27 лют.; *Божым шляхам* (Лондан). 1951, № 3; 1965, № 2; 1968, № 6 (перадрукі: *Гарбінскі БРД*, с. 269—274); *Саламевіч Я.* Паэт-святар Андрэй Зязюля // *Беларуская мова і літаратура ў школе*. 1991, № 7—8; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3; *BS*; *Гарбінскі БРД*.

**АСТРОЎСКІ Радаслаў Казіміравіч** [псеўданімы: Эра; Kalush V.; 25.10.(6.11).1887, фальварак Заполле Слуцкага пав. Мінскай губ. — 17.10.1976, ЗША], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. За ўдзел у рэвалюцыі 1905—07 выключаны са Слуцкай

гімназіі. У 1908 паступіў на матэматычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Як удзельнік рэвалюцыйных хваляванняў ў лют. 1911 арыштаваны. Быў зняволены ў турмах Пецярбурга і Пскова. Пасля вызвалення жыў у бацькоў на Пружаншчыне пад наглядам паліцыі. Аднавіўся ва ун-це ў сак. 1912, у студз. 1913 перавёўся ў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т і скончыў там фізіка-матэматычны ф-т. Працаваў настаўнікам у Чанстахове (Польшча) і Мінску; у 1915—17 выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 — камісар Часовага ўрада па Слуцкім павеце; арганізатар і дырэктар Слуцкай беларускай гімназіі (вер. 1917). Выступаў супраць Кастрычніцкай рэвалюцыі. Дэлегат 1-га Усебеларускага з'езда (Мінск, снеж. 1917). Выступаў у прэсе за ідэю незалежнасці Беларусі. Удзельнік Слуцкага паўстання 1920. З 1921 у Зах. Беларусі. Дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924—36). У другой палове 1920-х г. рэзка змяніў свой паліт. курс. У лют. 1924 стаў ініцыятарам стварэння праўрадавага прапагандысцкага Польска-Беларускага Таварыства. Пасля яго распаду ў 1924 супрацоўнічаў з КП(б)Б і КПЗБ, курыраваў падпольны камсамол у сваёй гімназіі. У 1925—26 віцэ-старшыня ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, старшыня Таварыства беларускай школы, Беларускага дабрачыннага таварыства, дырэктар Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні, праз які праходзілі

сродкі ДПУ на фінансаванне Грамады. У 1926 уступіў у КПЗБ. У студз. 1926 арыштаваны польскімі ўладамі. На судовым працэсе супраць Грамады апраўданы. З 1928 прапагандаваў ідэі супрацоўніцтва з польскай санацыяй. Настроіў супраць сябе многіх дзеячаў заходнебел. нацыянальнага руху, якія ў маі 1934 — снеж. 1935 правялі над ім грамадскі суд. Пад псеўданімам «Эра» друкаваўся ў бел. кнігах–календарах, газ. «Родны край» (1933—36). У 1936 вымушаны пакінуць Вільню і пераехаць у Лодзь. З пачаткам вайны актыўна супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Увосень 1941 прыехаў у Мінск, працаваў у цывільнай адміністрацыі; пасля быў бургамістрам у Смаленску, Бранску, Магілёве. Са снеж. 1943 прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады; адзін з галоўных арганізатараў у чэрв. 1944 2-га Усебеларускага кангрэса. Пасля вайны жыў у Зах. Германіі, з 1956 у ЗША. Кіраўнік і ідэолаг «бэцээраўскай» плыні бел. эміграцыі.

Тв.: Космографія. Вільня, 1924; Арытмэтычны задачнік для 4, 5, 6 аддзелаў пачатковых школ. Ч. 2. Вільня, 1929. Беларускі правапіс. Выд. 2-е. Вільня, 1930; Лічба і лік. Увагі да тэорыі ліку і беспасрэдных лічбовых уяўленняў // *Гадавік БНТ у Вільні*. 1933. Кн. 1.; *Kalush V.* [Астроўскі Р.]. In the service of the peopl for a free Byelorussia: biographical notes on Professor Radaslau Ostrowski. London, 1964.

Літ.: *Соловьев А.К.* Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Мн., 1995. *BS*; *ЭГБ*, т. 1.

**АСТРЭЙКА Сяргей Адамавіч** [25.7.1913 (па іншых звестках 9.7.1912), в. Каласоўшчына Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 14.9.1937, Чэлябінская вобл., НКВД], паэт, перакладчык. Падчас вучобы ў Капыльскай сямігодцы пачаў пісаць вершы. У 1928 паступіў у МБПТ, які скончыў у 1930. У 1928 па рэкамендацыі Ц.Гартнага вершы А. з'явіліся ў газ. «Чырвоная змена». Працаваў літрэдактарам выданняў Беларускага НДІ прамысловасці. З 1932 навуковы супрацоўнік Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва БАН, працаваў у Камісіі па складанні слоўнікаў. Яго паэму «Бенгалія» ўхваліў Я.Купала. А. рыхтаваў да выдання паэтычны зборнік «Смарагды кроз», які не выйшаў. 23.2.1933 арыштаваны ДПУ БССР па справе «Беларускай народнай Грамады». Высланы ў Ірбіт Свярдлоўскай вобл. Працаваў бухгалтарам. У ссылцы зрабіў пераклад «Яўгенія Анегіна» А.Пушкіна (рукапіс не збярогся). Тэрмін ссылкі яшчэ не скончыўся, калі ў вер. 1937 паэта зноў арыштавалі. 13.9.1937 быў вынесены смяротны прысуд, на наступны дзень А. расстралялі. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: [Вершы] // *Полымя.* 1965, № 8; [Вершы] // *Дзень паэзіі.* Мн., 1965; Смарагды кроз: (Паэма) // *Шляхам гадоў.* Мн., 1990.

Літ.: *Салаўёва А.* Недапетая песня // *Дзень паэзіі.* Мн., 1965; *БП*, т. 1.

**АЎРАЛЁЎ Іван Афанасьевіч** [1.2.1904, в. Гарошкава Магілёўскай губ., цяпер Дубровенскі р-н Віцебскай вобл. — 10.2.1942 ?], хімік. У 1931 быў залічаны ў аспірантуру БелАН. У ліп. 1933 пераведзены на 3 курс хімічнага аддзялення аспірантуры. Арыштаваны 26.9.1933. Пастановай «тройкі» АДПУ ад 13.12.1933 прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Рэабілітаваны 16.7.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**АФАНАСЬЕЎ Якаў Мікітавіч** [21.10.1877, Балашоў Саратаўскай вобл., Расія — 20.12.1937, Мінск, НКВД], глебазнавец. У 1901 скончыў Пецярбургскі ун-т. Выкладаў на Галіцынскіх жаночых курсах у Маскве. З 1913 член Глебазнаўчага камітэта Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі. З 1921 прафесар, загадчык кафедры глебазнаўства Горацкага сельскагаспадарчага інстытута (з 1925 Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі). Акадэмік БелАН (1928). У 1931—37 дырэктар Інстытута аграглебазнаўства БелАН. Кіраваў складаннем першай карты глебаў Беларусі і адной з першых глебазнаўчых карт свету. Арыштаваны 9.8.1937. 19.12.1937 прыгавораны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да расстрэлу. Рэабілітаваны 18.7.1957.

Тв.: Глебавыя раёны БССР. Мн., 1931; Як павысіць ураджайнасць на глебах БССР. Мн., 1933; Аб мерах барацьбы са збыткоўнай вільгаццю і недахопам аэрацыі ў глебах БССР у сувязі з іх рэльефам і тыпам. Мн., 1935.

Літ.: *Возвращенные имена*; *Энцыклапедыя прыроды Беларусі*. Т. 1. Мн., 1983.

**АШАРОВІЧ Ілья** [1879, Панявеж Ковенскай губ., цяпер Паневяжыс, Літва — 29.11.1938, Мінск, НКВД], рэдактар, гісторык, паліт. дзеяч. Уваходзіў у яўрэйскія партыі Паалей-Цыён (1902—04), Бунд (1904—19). З 1919 у ВКП(б). У гады грамадзянскай вайны быў на падпольнай рабоце ў Вільні, Гродне, Беластоку. З 1921 у Мінску рэдагаваў газеты на ідыш «Штэрн» і «Вэкер». Член Камісіі па нацыянальнай палітыцы ў БССР. Уваходзіў у Праўленне беларускага філіяла Таварыства гісторыкаў-марксістаў. Даследаваў гісторыю рэвалюцыйнага руху яўрэйскіх рабочых арганізацый, выступаў супраць канцэпцыі «двухкарэннасці» — узнікнення КП(б)Б з арганізацый РСДРП і Бунда. Арыштаваны 29.10.1937, 29.11.1938 расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Супраць бундаўскага скажэння гісторыі бальшавізму. 2-е выд. Мн., 1934.

Літ.: *Білявичюс Э.* Человек удивительной судьбы // *Коммунист* (Вильнюс). 1966, № 12; *ЭГБ*, т. 1.

**БАБАРЭКА Адам Антонавіч** [псеўданімы і крыптанімы: А.Б.; А.Ч.; А-м Б-а; А. Б-ка; А. Б-рэка; Адам Гаротны; Я. Каліна; Якім Каліна; Малады настаўнік; А.Рэка; Чырвоны; А.Чырвоны; Адам Чырвоны; А.Чэмер; 2(14).10.1899, в. Слабада-Кучынка Слуцкага пав., цяпер Капыльскі р-н — 10.10.1938, Паўночлаг], празаік, літаратуразнавец. Вучыўся ў Слуцкай школе і Мінскай духоўнай семінарыі (скончыў у 1918). Настаўнічаў на Случчыне. Удзельнік антыпольскага падполля і партызанскага руху. У 1920 арыштаваны польскімі ўладамі. У 1922—27 вучыўся ў БДУ на этнолага-лінгвістычным аддзяленні. Адначасова працаваў у рэдакцыі газ. «Савецкая Беларусь». Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» (1923) і «Узвышша» (1926). Публікаваўся з 1918. У 1925 выдаў кнігу «Апавяданні». Распрацоўваў метадалагічныя прынцыпы літаратуразнаўства і эстэтыкі. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобл. і ў Кіраве (Вятка). Працаваў бухгалтарам. Тэрмін ссылкі быў падоўжаны на 2 гады ў адміністрацыйным парадку. Паўторна арыштаваны 24.7.1937 у рамках сфабрыкаванай маштабнай акцыі па рэпрэсаванні беларусаў, сасланых АДПУ у пачатку 1930-х г. Паводле пастановы «тройкі» па Кіраўскай вобл. ад 15.2.1938 атрымаў 10 гадоў зняволення ў лагерах. Пакаранне

адбываў у пас. Княж-Пагост Комі АССР. Памёр у Паўночным чыгуначным лагеры НКВД. Рэабілітаваны 4.7.1959. У Маскве жыве дачка А. Алеся.

Літ.: *Конан У*. Адам Бабарэка: Крытычна-біяграфічны нарыс. Мн., 1976; *Бабарэка Алеся*. Слова пра бацьку // *Скарыніч*. Мн., 1999. Вып. 4.; *Илькевич Н.Н*. Адам Бабарека: арест — лагерь — смерть. Расправа со ссыльными белорусами в Кирове в 1937—1938 гг.: Документальный очерк. Смоленск, 1999; *Угасание. Письма Адама Бабареки из ссылки, тюрем и лагеря. Материалы к биографии* /Сост. и вступ. ст. Н.Н.Илькевич. Смоленск, 2001; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1; *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*; *Возвращенные имена*.

**БАБРОВІЧ Лявон Андрэевіч** [крыптанім: Б.Л.; 1904, в. Мацкі Пастаўскага пав. Віленскай губ. — 17.5.1934, Мінск, НКВД), гісторык і публіцыст. У 1932 скончыў аспірантуру БелАН, працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі. Займаўся гісторыяй мяст. Койданава і Койданаўшчыны, а таксама БСРГ; аўтар кніг на гэтыя тэмы. Арыштаваны 21.9.1933 ДПУ БССР па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 Судовай калегіяй АДПУ СССР прыгавораны да расстрэлу. Прысуд выкананы 21.5.1934. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Тв.: Мястэчка Койданава. Мн., 1929; *Шпілеўскі І., Бабровіч Л*. Гістарычны нарыс Дзяржыншчыны (Койданаўшчы-

ны). Мн., 1932; *Багданскі Я., Бабровіч Л.* Аб класавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Мн., 1932.

Літ.: *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў,* с. 23, 168; *Возвращенные имена*.

**БАБРОВІЧ Ян Станіслававіч** [псеўданімы: Борскі Казімір Іванавіч; Сымон; Казік; 2(15).6.1902, в. Параф'янава Вілейскага пав., цяпер Докшыцкі р-н — 8.1.1943, Паўночлаг], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. З 1916 у войску. У 1918—20 вучыўся ў гімназіі і на рабфаку ў Вільні. У 1921 працаваў школьным інспектарам у Польшчы. У 1922—25 вучыўся ў Пражскім ун-це. Там далучыўся да левых рухаў. З 1925 член Кампартыі Чэхаславакіі, з 1926 член КПЗБ. У Зах. Беларусі быў прадстаўніком КПЗБ пры ЦК БСРГ, паліт. рэдактарам газет БСРГ «Беларуская ніва», «Беларуская справа», «Жыццё беларуса», «Народная справа», «Наша справа». 23.12.1928 арыштаваны, прыгавораны да 15 гадоў турмы. У вер. 1932 у выніку абмену палітвязнямі з Польшчы перададзены ў СССР. Узначальваў Камісію па вывучэнні Зах. Беларусі пры АН БССР. 18.10.1933 арыштаваны па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 судовай калегіяй АДПУ прыгавораны да 10 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў на

Далёкім Усходзе. 14.8.1939 Амурскі абл. суд прыгаварыў яго яшчэ да 10 гадоў пазбаўлення волі. Накіраваны ў Паўночнадзвінскі лагер (Архангельская вобл.), дзе і памёр. Рэабілітаваны па абодвух прысудах 16.8.1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1; *Возвращенные имена*.

**БАБРОЎСКІ Міхал Кірылавіч** [8(19).11.1784 ці 1785, в. Волька Бельскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 21.9(3.10).1848, мяст. Шарашова Пружанскага пав.], славіст, арыенталіст, багаслоў. Вучыўся ў Драгічынскім вучылішчы піяраў, Беластоцкай гімназіі (скончыў у 1806), Галоўнай духоўнай семінарыі пры Віленскім ун-це (скончыў у 1812). Паходзіў з сям'і уніяцкага святара і сам прыняў пасвячэнне ў 1815, з 1817 канонік брэсцкі. У 1817—22 у замежнай навуковай камандзіроўцы ад Віленскага ун-та, даследаваў унікальныя калекцыі славянскіх рукапісаў і старадрукаў, увёў у навуковы ўжытак многія помнікі пісьменства. Адзін з пачынальнікаў скарыназнаўства, які нанова адкрыў для еўрапейскай навукі імя Ф.Скарыны. З 1822 прафесар Віленскага ун-та. Доктар тэалогіі (1823). Заснавальнік бел. гуртка ў Віленскім ун-це. У 1824 абвінавачаны ў падтрымцы тайнага Таварыства філаматаў і сасланы ў базыльянскі кляштар у мяст. Жыровічы. У 1826 вяр-

нуўся да выкладчыцкай дзейнасці. Але ў 1833 практычна быў сасланы ў мяст. Шарашова, дзе быў святаром да канца жыцця. У сувязі з пераследаваннем грэка-католікаў перайшоў у праваслаўе. Памёр ад халеры. Толькі невялікая частка яго рукапіснай спадчыны апублікавана пры жыцці, частка знікла адразу пасля смерці даследчыка. Імя Б. нададзена Лабараторыі вывучэння духоўнай культуры Падляшша (Масква).

Літ.: *Бобровский П.О.* М.К.Бобровский (1785—1848), ученый славист-ориенталист. СПб., 1889; *Яго ж*. К биографии М.К.Бобровского (славянского филолога-ориенталиста). СПб., 1890; *Charkiewicz W.* Bez steru i busoli (sylwetka ks. prof. Michała Bobrowskiego). Wilno, 1929; *Станкевіч А.* Магнушэўскі, Паўлюк Багрым, Баброўскі: (Да вытокаў беларускага адраджэння). Вільня, 1937; *Лабынцев Ю.А.* Первая книга, напечатанная глаголицей, и ее исследователь Михаил Бобровский // *Сов.Славяноведение.* 1983. № 4; *Cieplak Jan ks.* Ks. Michał Bobrowski: Profesor Uniwersitetu Wileńskiego. SPb, 1894; *Улащик. Введение*; *Латышонак А.* Народзіны беларускай нацыянальный ідэі // *Спадчына*. 1992, № 1; *Ліс А.* Беларуская ідэя ў кантэксце адраджэння славян // *Ліс А.* Цяжкая дарога свабоды. Мн., 1994; *Białokozowicz B.* Między Wschodem a Zachodem: Z dziejów formowania się białoruskiej świadomości narodowej. Białystok, 1998; *PSB*; *SHP*; *ЭГБ*, т. 1; *МАБ*; *АЗБ*.

**БАГАРОДСКІ Мікалай Мікалаевіч** [2(14).6.1877, в. Барыса-Глеб Бежацкага пав. Цвярской губ. — 27.11.1937, Віцебск, НКВД],

гісторык, краязнавец, публіцыст. Вучыўся на гістарычным аддзяленні Маскоўскай духоўнай акадэміі (скончыў у 1904). Вучань В.В.Ключэўскага (пакінуў пра яго ўспаміны). У 1904—17 выкладаў у Віцебскай духоўнай семінарыі лацінскую мову і царкоўную даўніну. Тады стаў актыўна займацца грамадскай дзейнасцю па захаванні і папулярызацыі віцебскіх старажытнасцей: з 1908 грамадскі загадчык царкоўна-археалагічнага сховішча старажытнасцяў; у 1910 стварыў у семінарыі гурток царкоўнай даўніны; адзін з ініцыятараў і арганізатараў Віцебскай вучонай архіўнай камісіі (1909—18). Рэдактар неафіцыйнай часткі «Полоцких епархиальных ведомостей» (1914—16). У 1918—28 працаваў настаўнікам у Віцебску, у 1928—37 у Віцебскім культурна-гістарычным музеі, адначасова ў 1930—37 у Віцебскім гістарычным архіве. Аўтар артыкулаў пра гісторыка А.Сапунова, гісторыю Віцебскай духоўнай семінарыі. 1.11.1937 арыштаваны; загінуў у засценках НКВД. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: А.П.Сапуноў і значэньне яго прац па дасьледаваньню Віцебшчыны // *Віцебшчына*. Т.1. Віцебск, 1925; Горад як прадмет крыніцазнаўчага даследавання // *Там жа*.

Літ.: *Падліпскі А. М.* З любоўю да роднага краю // *ПГКБ*. 1981, № 2; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГДАНОВІЧ Адам Ягоравіч (Адольф Георгіевіч)** [20.3(1.4)1862 (паводле аўтабіяграфіі 25.3(6.4)), мяст. Халопенічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 16.4.1940, Яраслаўль], этнограф, фалькларыст, мемуарыст, гісторык. Бацька М.Багдановіча. У 1882 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Падчас вучобы там арганізаваў гурток самаразвіцця і самаадукацыі, пачаў збіраць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы. У жн. 1882 уступіў у «семінарскую» групу нарадавольцаў Мінска. На працягу 3 гадоў вёў прапагандысцкую работу ў вёсках Ігуменшчыны (цяпер Чэрвеньшчына). У 1885—91 загадчык 1-га гарадскога пачатковага вучылішча ў Мінску. З 1886 выступаў у перыядычным друку з артыкуламі па этнаграфічнай тэматыцы («Минские губернские ведомости», «Минский листок», «Гродненские губернские ведомости», «Виленский календарь», «Нижегородский листок» і інш.). Уваходзіў у кіраўніцтва мінскай арганізацыі «Народная воля». Пасля рэзкага пагаршэння здароўя адышоў ад рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1892 пераехаў у Гродна, дзе паступіў на службу ў мясцовае аддзяленне Сялянскага пазямельнага банка. Адначасова быў дырэктарам публічнай бібліятэкі. З 1896 жыў у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1907 у Яраслаўлі. У 1920—31 загадчык навуковай бібліятэкі Яраслаўскага дзяржаўнага музея. Адначасова

выкладаў гісторыю культуры ў мастацкім, музычным і тэатральным тэхнікумах. У 1932 арыштаваны ДПУ. Правёў у зняволенні 3 тыдні, вызвалены па хадайніцтве Кацярыны Пешкавай. Б. быў сябрам М.Горкага і яго сям'і, вёў актыўную перапіску з дзеячамі бел. і рускай культуры, напісаў пра іх успаміны.

Тв.: Про панщину: Рассказ из белорусской жизни времен крепостного права. Гродно, 1894; Пережитки древнего миросозерцания у белорусов: Этнографический очерк. Гродно, 1895; Страницы из жизни Максима Горького. Материалы к биографии Максима Богдановича. Мои воспоминания. Мн., 1965; Язык земли: Этнологический очерк. Ярославль, 1966.

Літ.: *Бандарчык В.К.* Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст. Мн., 1964; *Пширков Ю.С.* А.Е.Богданович. Мн., 1966; *Шлях паэта* / Склад. Н.Б.Ватацы. Мн., 1975; *Зуборев Л.* Крик буревестника: Ист.-докум. повесть о М.Горьком и Богдановичах. Мн., 1989; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГДАНОВІЧ Анатоль Васілевіч** [28.8.1888, в. Мікольскае Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Луначарскае Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. — 2.8.1969, Херсон, Украіна], бел. і рускі мовазнавец, педагог. Брат Генадзя Багдановіча. Скончыў гісторыка-філалагічны ф-т Варшаўскага ун-та (1913). Настаўнічаў у Беларусі. З 1925 пачаў друкавацца па пытаннях бел. мовазнаўства. З лют.

1926 дацэнт кафедры бел. мовы БДУ, адначасова ў Інбелкульце сакратар Арфаграфічнай камісіі, потым Камісіі бел. літаратурнай мовы. Як лінгвіст высокай кваліфікацыі браў дзейсны ўдзел у стварэнні праектаў бел. правапісу 1930 і 1933. Не страціў навукова-пазнавальнага значэння і практычнай актуальнасці яго падручнік для тэхнікумаў і самаадукацыі «Беларуская мова». «Самавучыцель беларускай мовы» застаўся ў рукапісе. Пасля хвалі рэпрэсій супраць бел. мастацкай і навуковай інтэлігенцыі, арышту брата Г.Баградановіча ў 1930 пазбаўлены права выкладання ва ун-це. Пад пагрозай арышту ў 1934 пакідае Беларусь. Працаваў у Астраханскім, Магнітагорскім, Краснадарскім педінстытутах, дзе выкладаў рускую мову. Падчас працы ў Краснадары ў суаўтарстве з іншымі педагогамі выдаў падручнік рускай мовы для адыгейскіх школ. Апошнія гады жыцця працаваў у Херсонскім педінстытуце на кафедры рускай мовы.

Тв.: Беларуская мова. Мн., 1927.

**БАГДАНОВІЧ Ангел Іванавіч** [2(14).10.1860, Гарадок Віцебскай губ. — 24.3(6.4).1907, Санкт-Пецярбург], публіцыст, крытык, рэдактар. З 1880 вучыўся на медыцынскім ф-це Кіеўскага ун-та.

Падчас вучобы далучыўся да нарадавольскага руху, быў членам рэвалюцыйнага гуртка, вёў прапаганду сярод рабочых. Гэта выклікала рэпрэсіі з боку ўладаў — яму не далі давучыцца ва ун-це і саслалі ў Ніжні Ноўгарад (1883). Там пазнаёміўся з вядомым расійскім літаратарам У.Караленкам; супрацоўнічаў з шэрагам волжскіх выданняў. З 1887 жыў у Казані, быў адным з рэдактараў газ. «Волжский вестникъ». У 1893 разам з іншымі арганізаваў нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную партыю «Народнае права»; напісаў яе праграмны дакумент, выдадзены ў выглядзе брашуры «Надзённае пытанне» (1894). З 2-й паловы 1890-х г. на пазіцыях «легальнага марксізму». Выступаў супраць «народніцкіх трафарэтаў» у літаратуры, найперш — ідэалізацыі вёскі. Працаваў у рэдакцыях час. «Русское богатство» (1893—94), «Мир Божий» (1894—1906), дзе прапагандавалася ідэя адукацыі для шырокіх мас. Пасля публікацыі яго артыкула пра Снежаньскае ўзброенае паўстанне 1905 час. «Миръ божий» забаронены. У 1906 заснаваў час. «Современный миръ», які рэдагаваў да канца жыцця.

Тв.: Насущный вопрос. Смоленск, 1894 [нелегальнае выданне]; Насущный вопрос. Лондон, 1895; Годы перелома. 1895—1906: Сборник критических статей. СПб., 1908.

Літ.: *Корнилович Э.А.* Оружие публициста // *Корнилович Э.А.* Люди революционного подвига. Мн., 1985. С. 19—30; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГДАНОВІЧ Вячаслаў Васілевіч** [псеўданім: Віцяблянін; 1878, Лепельшчына Віцебскай губ. — 1941 (?), Вілейка], царкоўны дзеяч, публіцыст. Паходзіў з сям'і праваслаўнага святара. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю і Кіеўскую духоўную акадэмію; кандыдат багаслоўя (1903). З канца 1903 выкладчык біблейскай і царкоўнай гісторыі ў Віцебскай праваслаўнай семінарыі; з мая 1907 інспектар Мінскай праваслаўнай семінарыі; з восені 1907 інспектар Літоўскай духоўнай семінарыі (Вільня); у пачатку 1920-х г. выконваў абавязкі рэктара Літоўскай духоўнай семінарыі; у 1920—30-я г. выкладаў у Віленскай рускай гімназіі і жаночым епархіяльным вучылішчы. У 1921—22 адказны рэдактар «Литовских епархиальных ведомостей». З 1920-х г. актыўна далучыўся да бел. культурніцкага і паліт. руху: у вер. 1921 уступіў у Таварыства беларускай школы; у 1920—30-я г. член Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК) у Вільні; да снежня 1933 старшыня Царкоўнай праваслаўнай камісіі пры БНК; адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускага праваслаўнага аб'яднання ў Вільні. Б. вядомы і як кампазітар, аўтар музыкі да некалькіх рамансаў на словы А.Пшчолкі. Паводле звестак А.Клімовіча, у 1920-я г. Б. прыпісвалася аўтарства раманса «Зорка Венера» на словы М.Багдановіча. З-за рознагалоссяў у рэлігійнай палітыцы першы раз арыштаваны польскімі ўладамі ў кастр. 1922 і вывезены ў Кракаў. Але ў кан-

цы 1922 быў абраны ў Сенат Польскай Рэспублікі; уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. У 1932 зноў арыштаваны польскімі ўладамі. 1.9.1939 зняволены без суда ў Бяроза-Картузскім канцэнтрацыйным лагеры. 30.9.1939 арыштаваны органамі НКВД. Расстраляны.

Тв.: Церковно-славянский язык как религиозно-культурная ценность. Гродно, 1938; Царква і Дзяржава // *Праваслаўная Беларусь*. 1927, № 1; Патрыярх Ціхан // *Праваслаўная Беларусь*. 1928, № 9.

Літ.: *Лабынцев Ю.А.* Литературное наследие В.В.Богдановича — белорусского сенатора II Речи Посполитой // *Славяноведение* (Москва). 1997, № 3; *Праваслаўе* (Мінск). 1997, № 5; *Гарбінскі* БРД; *Чэмер А.* [Анішчык А.]. Партрэты. Вільнюс, 2001; *Kazłowska-Głogowska H.* Białoruski senator // *Czasopis*. 2001, №№ 10—12; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГДАНОВІЧ Генадзь Васілевіч** [31.8.1885, в. Мікольскае Дрысенскага пав. Віцебскай губ., цяпер в. Луначарскае Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. — 15.1.1938 (?)], педагог, рэдактар. Брат Анатоля Багдановіча. Скончыў Віцебскую духоўную семінарыю (1907), Яраслаўскі юрыдычны ліцэй (1911), Віленскі настаўніцкі інстытут. З 1911 настаўнічаў у Вілейцы і Кастрамской губ. У 1916 — лют. 1919 працаваў у Міністэрстве (з кастр. 1917 Народны камісарыят) поштаў і тэлеграфаў у Маскве. Далучыўся да бел. нацыянальнага руху. У 1917

ад БСГ увайшоў у Асобую нараду па падрыхтоўцы праекта закона аб выбарах ва Устаноўчы сход Расіі. У пачатку 1918 загадчык юрыдычнага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыята ў Петраградзе. З 1919 настаўнік у Дрысе, пазней — у Віленскай беларускай гімназіі. Рэдагаваў час. «Незалежная думка». У 1924 пераехаў у СССР; выкладаў у Віцебскіх педагагічным тэхнікуме і ветэрынарным інстытуце. Арыштаваны ДПУ БССР па справе «Саюза вызвалення Беларусі» 15.7.1930; Калегія АДПУ 10.4.1931 прыгаварыла яго да 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Слабадскім Кіраўскай вобл. Падлягаў пільнаму нагляду АДПУ СССР, трактаваўся як «нераззброены нацдэм». Паўторна арыштаваны 25.7.1937. Загінуў у зняволенні. Абставіны смерці невядомыя. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**БАГДАНОВІЧ Глеб Вячаслававіч** [1913, Вільня — 1960-я г.?, г.п. Рудзенск, Пухавіцкі р-н Мінскай вобл.], бел. паліт. і вайсковы дзеяч, публіцыст, доктар медыцыны. Сын В.Багдановіча. Скончыў Віленскую беларускую гімназію, медыцынскі ф-т Віленскага ун-та. Быў сябрам Беларускай студэнцкай карпарацыі «Скарынія» ў Вільні, друкаваўся ў час. «Новая варта». Падчас нямецкай

акупацыі спачатку працаваў доктарам у Івянцы на Валожыншчыне. Удзельнічаў у нацыянальным падпольным руху, быў сябрам Беларускай незалежніцкай партыі. З мая 1944 афіцэр Беларускай краёвай абароны. З ліп. 1944 знаходзіўся ў дэсантным батальёне «Дальвіц». Браў удзел у падпольным антыкамуністычным руху, спачатку ў Беларусі, а з 1945 у Польшчы, куды прарваўся з групай АК «Лялюся». З лета 1945 жыў і працаваў доктарам на Беласточчыне. Быў прызваны ў польскае войска, у рангу паручыка служыў старшым палкавым урачом. 14.4.1949 арыштаваны польскай Службай бяспекі і дэпартаваны ў СССР. Зняволенне адбываў у Варкуце. Пасля вяртання ў Беларусь жыў у Рудзенску, працаваў доктарам.

Літ.: *Антысавецкія рухі*.

**БАГДАНОВІЧ Янка Антонавіч** [псеўданімы і крыптанім: Я. Ваўштолскі; Янка Ваўштолскі; Я.Б.; 4(17).11.1906, в. Гібінята Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 13.7.1990, Вільня], празаік, паэт, публіцыст, мемуарыст. Пасля смерці бацькоў у 1918 жыў і выхоўваўся ў Барунскім і Віленскім дзіцячых прытулках, якія былі арганізаваны ў час 1-й сусветнай вайны бел. інтэлігенцыяй. У 1927 скончыў Віленскую беларускую гімназію. Да 1941 працаваў у друкарні

імя Ф. Скарыны. Публікаваўся з 1930. Адзін з выдаўцоў час. «Шлях моладзі» (1929—38). У гады 2-й сусветнай вайны вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі; адначасова і пасля заканчэння яе настаўнічаў. У 1952 паступіў у Нова-Віленскі педагагічны інстытут, але ў жн. таго ж года арыштаваны і сасланы ў Варкуту. Рэабілітаваны ў вер. 1956. Вярнуўся ў Вільню, дзе працягваў настаўнічаць. Скончыў педагагічны інстытут. Напісаў кніжку ўспамінаў, якая выйшла пасля яго смерці. Пахаваны на віленскіх могілках Саўлес.

Тв.: На жыццёвым шляху: Успаміны. Мн., 1992.

Літ.: *БП*, т. 6; *Саламевіч. Слоўнік псеўдонімаў*.

**БАГДАНЧУК Аляксандр Іванавіч** [падпольныя псеўданімы: Волкаў; Віктар; Стах; 15.6.1905, Ляхавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Брэсцкай вобл. — 26.11.1976], грамадска-паліт. дзеяч, рэдактар, мемуарыст. Падчас 1-й сусветнай вайны знаходзіўся ў эвакуацыі ў Пензенскай губ. У 1922 вярнуўся ў Зах. Беларусь, стаў членам КПЗБ. У 1926—35 сакратар Слонімскага райкама КСМЗБ, сакратар Слонімскага, Навагрудскага акруговых камітэтаў КПЗБ. У ліп. 1935 рэдактар газ. «На акупанта!» — органа Навагрудскага акруговага камітэта КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі

ўладамі; правёў у турмах каля 7 гадоў. У 1935 перайшоў у СССР. Рэпрэсаваны ў 1937, асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. У 1953 рэабілітаваны. З'явіўся прататыпам аднаго з герояў паэмы М.Танка «Нарач». Аўтар мемуараў.

Тв.: Як мы выдавалі нелегальную газету «На акупанта!» // *У суровыя гады падполля*. Мн., 1958; На озере Нарочь // *Годы испытаний и мужества*. Мн., 1973; У суровыя гады падполля // *Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Мядзельскага р-на*. Мн., 1998.

Літ.: *ЭГБ*, т 1.

**БАГРЫМ Паўлюк** [2 (14).11.1812, в. Крошын Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 1891 (?), в. Крошын], паэт. Вучыўся ў пачатковай парафіяльнай школе, фундатарам якой быў ксёндз В.Магнушэўскі. Пазнаёміўся з вальнадумнай паэзіяй; пачаў пісаць сам. У сувязі з сялянскімі хваляваннямі 1828 у Крошыне і за распаўсюджанне верша «Бунт хлопаў» (варыянт «Рабункаў мужыкоў» Я. Баршчэўскага) прыцягваўся да следства. Ад літаратурнай спадчыны паэта захаваўся толькі адзін верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы…», які стаў хрэстаматыйным для бел. літаратуры. Упершыню гэты верш апублікаваў у сваіх успамінах навагрудскі адвакат І.Яцкоўскі («Powieść czasu mojego, czyli Przygody litewskie». Londyn, 1854; Выд. 2: Poznań, 1858). Б.,

як і яго бацька, быў кавалём. У гэтым рамястве дасягнуў мастацкіх вяршыняў, пра што сведчыць зробленая ім металічная каваная жырандоль, якая і сёння захоўваецца ў Крошынскім касцёле. Пахаваны на мясцовых могілках. У 1985 у Крошыне адкрыты музей народнага мастацтва і рамёстваў імя Б.

Літ.: *Станкевіч А.* Магнушэўскі. Паўлюк Багрым. Баброўскі: (Да вытокаў беларускага адраджэння). Вільня, 1937; *Бас І.* Паўлюк Багрым // *Полымя.* 1955. № 3; *Александровіч С.* Слядамі легенды // *Александровіч С.* Тут зямля такая. Мн., 1974; *Паўлюк Багрым*. Мн., 1994; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГУН Міхась** [сапр. Блошкін Міхаіл Фёдаравіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: Асака М; Багунец; М.Б.; Міх. Б.; Баг.;9.11.1908, Мінск — 17.2.1938], паэт, празаік, перакладчык. Пачаў друкавацца ў 1925; у сваёй рамантычнай творчасці адгукаўся на падзеі ў краіне. Асаблівы ўплыў на яго аказала паэзія У.Маякоўскага. У 1928 скончыў курсы пры МБПТ; настаўнічаў у в. Рожна Бягомльскага р-на. У 1931—32 супрацоўнічаў з газ. «Чырвоная Полаччына». У 1932 вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў стыльрэдактарам Белдзяржвыдавецтва. У 1935—36 літсупрацоўнік газ. «Літаратура і мастацтва». Некаторыя яго вершы, пакладзеныя на музыку, шырока вядомыя ў народзе, увайшлі ў

фальклорныя запісы. Займаўся перакладамі з рускай мовы. Арыштаваны 4.11.1936, прыгавораны да 8 гадоў пазбаўлення волі. Знясілены і хворы памёр у перасыльным лагерным пункце. Рэабілітаваны Вярхоўным судом БССР 29.12.1954.

Тв.: Рэха бур: Выбр. вершы. Мн., 1931; Выбр. Мн., 1961.

Літ.: *Звонак А*. Паэзія Міхася Багуна // *ЛіМ*. 1958, 2 жн.; *Грахоўскі С*. Другое жыццё паэта // *ЛіМ*. 1961, 5 мая; *Хведаровіч М*. Пясняр залатой рані: Да 60-годдзя з дня нараджэння М. Багуна // *ЛіМ*. 1968, 15 ліст.; *БП*, т. 1.

**БАГУШЭВІЧ Марыя Уладзіміраўна** [партыйныя псеўданімы: Рэгіна, Ванда, Вянеда; 4.1.1865, в. Цапэрка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Клецкі р-н Мінскай вобл. — 1887, Краснаярск], дзяячка польскага і бел. рэвалюцыйнага руху, рэдактар, мемуарыстка. Па мацярынскай лініі паходзіць з роду Касцюшкаў. З 1874 жыла ў Варшаве. У 1881 здала экзамен на званне настаўніцы. З вер. 1882 працавала ў Таварыстве Чырвонага Крыжа, якое было дапаможнай арганізацыяй партыі «Пралетарыят». У пачатку 1884 уступіла ў самую партыю і ўзначаліла Таварыства. У ліп. 1884 пасля масавых арыштаў кіраўнікоў партыі ўзначаліла яго ЦК. Арганізавала выданне партыйнай газ. «Proletariat», работу падпольнай друкарні. Наладзіла цесныя кантакты з рэвалюцыянерамі

Вільні, Мінска, Гродна, Брэста, Беластока, Магілёва, Нясвіжа, Слуцка. 30.9.1885 арыштавана царскімі ўладамі разам з братам Іванам. Пасля зняволення ў Варшаўскай цытадэлі ў 1887 выслана ў Сібір. У дарозе вяла «Дзённікі». Цяжка захварэла і, не даехаўшы да месца ссылкі, памерла ў краснаярскай перасыльнай турме.

Тв.: Pamiętnik. Wrocław, 1955.

Літ.: *Wawrzykowska-Wierciochowa D.* Maria Bohuszewiczówna. Warszawa, 1968; *Czerepica W.* Związki rewolucjonistów Białorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Warszawa, 1985; *ЭГБ*, т. 1.

**БАГУШЭЎСКІ Стафан** [26.12.1876, маёнтак Ізабелава Мінскай губ. — 16.4.1938], дзеяч рэвалюцыйнага руху, рэдактар. Скончыў гімназію ў Пецярбургу (1899), вучыўся ў Інстытуце сельскай гаспадаркі і лясніцтва ў Пулавах (Люблінская губ.), быў вольным слухачом Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1901—05). Пасля вяртання на Радзіму ў 1905 удзельнічаў у рабоце Беларускай сацыялістычнай грамады. У снеж. 1905 арыштаваны разам з К.Каганцом; быў зняволены ў Мінскай турме. Потым знаходзіўся пад наглядам паліцыі; напярэдадні суда ўцёк у Кракаў, які тады быў ў Аўстра-Венгерскай імперыі. У Кракаве скончыў вучобу і атрымаў дыплом агранома. Па гэтай спецыяльнасці

працаваў у 1907—14. У 1-ю сусветную вайну служыў у польскіх легіёнах аўстра-венгерскай арміі. У 1918—28 працаваў выкладчыкам, займаўся навуковай і грамадскай дзейнасцю. У 1928 і 1930 абіраўся ў польскі сенат. Падтрымліваў кантакты з Кампартыяй Польшчы. Пад уплывам сустрэчы з А.Барбюсам у 1932 у Парыжы далучыўся да міжнароднага антываеннага руху; у маі 1933 заснаваў Польскі антыфашысцкі і антываенны камітэт. З канца 1934 рэдагаваў час. «Kolumna» («Калона»), у якім выступаў з крытыкай санацыйнага ўрада Польшчы. Выданне канфіскоўвалася ўладамі. 1.8.1936 арыштаваны і зняволены ў турме. Пасля вызвалення аслабіў кантакты з КПП, пачаў крытыкаваць сталінскія рэпрэсіі ў СССР.

Літ.: *Najnowsze dzieje Polski: Materiały i studia z okresu 1914—1939*. T. 14. Warszawa, 1969; *ЭГБ*, т. 1.

**БАДУНОВА Палута** [Пелагея Аляксандраўна; 1885, Навабеліца, цяпер у межах Гомеля — 29.11.1938, Мінск, НКВД], паліт. дзеячка, публіцыст. У 1917 у Петраградзе скончыла вышэйшыя гісторыка-літаратурныя курсы. Уступіла ў Беларускую сацыялістычную грамаду, у чэрв. 1917 абрана членам ЦК БСГ. Удзельнічала ва Усебеларускім з’ездзе 1917 у Мінску. З сак. 1918 народны сакратар апекі ў Нацыянальным сакратарыяце Беларусі.

У 1918—25 член Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сакратар ЦК партыі. У 1919 увайшла ў Раду БНР. Арыштоўвалася польскімі ўладамі. У 1921 зняволена савецкімі ўладамі; вызвалена па хадайніцтве А.Чарвякова. Выехала ў Польшчу. Напісала ўспаміны пра А.Бурбіса і Ядвігіна Ш. (Адраджэнне. 1922. Сшытак 1). У 1923—25 жыла ў Празе. У ліст. 1925 пераехала ў СССР. Працавала настаўніцай Навабеліцкай школы, на курсах беларусазнаўства ў Гомелі. Абвінавачаная ў антысавецкай дзейнасці, 3.9.1937 арыштавана. 30.11.1937 асуджана на 10 гадоў лагераў. 25.5.1938 паўторна асуджана па абвінавачанні ва ўдзеле ў «Аб‘яднаным антысавецкім падполлі», прыгаворана да смяротнага пакарання. Расстраляна ў Мінску. Рэабілітавана ў 1989.

Літ.: *Луцкевіч А.* За дваццаць пяць гадоў (1903—1928). Вільня, 1928 (перавыданне: Мн., 1991); *Лебедзева В.* Старонка ў мартыралогу: Палута Бадунова // *Палітычныя рэпрэсіі на Беларусі ў XX стагоддзі.* Мн., 1998; *ЭГБ*, т. 1.

**БАЙКОЎ Мікола** [Мікалай Якубавіч; псеўданімы і крыптанімы: Аглядальнік; Асветнік; Дашкольнік; М.К-ч; М.Кр.; Кр-іч; Крывіч; Мікола Крывіч; Настаўнік; 10(22).2.1889, Бежацк Цвярской губ. — пасля 1946 ?], мовазнавец і літаратуразнавец, педагог. Нарадзіўся ў сям'і святара. Па-

чатковую адукацыю атрымаў у Бежацкім мужчынскім духоўным вучылішчы, сярэднюю — у Цвярской духоўнай семінарыі, вышэйшую — у Маскоўскай духоўнай акадэміі (скончыў у 1913). Накіраваны выкладчыкам філасофскіх і педагагічных дысцыплін у Мінскую духоўную семінарыю. Адначасова выкладаў у гарадской гімназіі і ў прыватных навучальных установах. З 1918 чытаў лекцыі ў Мінскім настаўніцкім інстытуце. З 1921 выкладчык МБПТ. Рэдактар час. «Школа и культура Советской Белоруссии» (1919, 1921), з 1924 супрацоўнік час. «Асвета». З 1921 вучоны сакратар Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, у 1922—28 Слоўнікавай камісіі Інбелкульта, потым Інстытута мовазнаўства АН БССР. Атрымаў вядомасць як аўтар прац па літаратуразнаўстве, крытыцы і педагогіцы, але асабліва як укладальнік слоўнікаў: «Практычны расійска-беларускі слоўнік» (1924, разам з М.Гарэцкім), «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925), «Расійска-беларускі слоўнік» (1928, абодва разам з С.Некрашэвічам), «Практычны беларускі вайсковы слоўнік» (1927, разам з А.Бараноўскім). Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі». Вызвалены 2.9.1930. На акадэмічную працу вярнуцца яму не дазволілі. У 1931—41 літсупрацоўнік Мінскага рэкламнага бюро, стыліст у газ. «Чырвоная змена». Падчас вайны знаходзіўся ў Мінску, супрацоўні-

чаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. У 1944 выехаў у Германію. Працаваў у прапагандысцкім бюро «Вінэта». Па некаторых звестках, арыштаваны савецкай ваеннай контрразведкай «Смерш» у Берліне і перавезены ў Мінск. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: На літаратурныя тэмы: Зб. артыкулаў. Мн., 1929 (пад псеўданімам М. Крывіч).

Літ.: *Булахов М.* Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977. С. 42—43; *Германовіч І.* Беларускія мовазнаўцы. Мн., 1985; *Мушынскі М.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30-я гады. Мн., 1975. С. 21—28, 54; *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*, с. 168; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 1.

**БАКАЧ Пётр** [каля 1910, Вільня — ?], грамадска-культурны дзеяч. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У ліст. 1932 асуджаны на чатыры гады зняволення. Пасля вызвалення выехаў у Прагу, скончыў Карлаў ун-т, браў удзел у працы бел. эміграцыі ў Чэхіі. Аўтар «Падручніка нямецкага языка для Беларусаў», артыкулаў у час. «Іскры Скарыны» (Прага) і «Рэха» (Парыж), даследчык гісторыі бел. літаратуры. Напрыканцы 1943 узначаліў берлінскі філіял Беларускага камітэта самапомачы, працаваў у бел. аддзеле міністэрства прапаганды. 20 студз. 1945 быў уведзены ў склад Беларускай цэнтральнай рады. Пас-

ля капітуляцыі Германіі арыштаваны СМЕРШам у Берліне, высланы ў Магаданскі лагер, з якога пасля смерці Сталіна быў вызвалены. Далейшы лёс невядомы.

Творы: Падручнік нямецкага языка для Беларусаў. Берлін. 1941.

Літ.: *Туронак Ю.* Беларуская кніга пад нямецкім кантролем. Мн., 2002.

**БАЛІНСКІ Міхал Ігнатавіч** [псеўданім: Auszlawis; 14.8.1794, маёнтак Цярэспаль Полацкага пав. — 22.12.1864 Вільня], гісторык, краязнавец, публіцыст, рэдактар. Скончыў Віленскі ун-т (1818). Вывучаў літаратуру і гісторыю ў І.Лялевеля і права ў І.Даніловіча. У 1816—22 і 1829—30 супрацоўнік час. «Dziennik Wileński». З 1818 разам з І.Лялевелем рэдагаваў час. «Tygodnik Wileński». Належаў да Таварыства шубраўцаў, адзін з рэдактараў яго газ. «Wiadomości brukowe». У 1818—22 сакратар Віленскага друкарскага таварыства. У 1831 арыштаваны за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830—31. З 1836 жыў у Варшаве, працаваў ва ўстановах асветы. У 1841 ініцыятар стварэння і адзін з рэдактараў навукова-літаратурнага час. «Biblioteka Warszawska». З 1847 канчаткова пасяліўся ў сваім маёнтку Яшуны каля Вільні. Віцэ-старшыня Віленскай археалагічнай камісіі, член Рускага геаграфічнага таварыства. Аўтар

прац па гісторыі ВКЛ. Супольна з Т.Ліпінскім выдаў працу «Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym…» (t. 1—3, 1843—46; 2-е выданне: t. 1—4, 1885—86), трэці том якой, падрыхтаваны Б., прысвечаны населеным пунктам Беларусі.

Тв.: Opisanie statystyczne miasta Wilna. Wilno, 1835; Historya miasta Wilna. T. 1—3. Wilno, 1836—37; Dawna Akademia Wileńska. Petersburg, 1862; Pamiętniki o Janie Śniadeckim… T. 1—2. Wilno, 1864—65.

Літ.: *Каханоўскі Г.А.* Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984. С. 42—43; *Nowy Korbut*, t. 7; *PSB*; *SHP*; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 1.

**БАЛІЦКІ Антон Васілевіч** [4(16).9.1891, в. Балічы Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 31.10.1937, Мінск], дзяржаўны дзеяч, публіцыст. У 1910 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Працаваў настаўнікам. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. З 1916 у арміі, ваяваў на Румынскім фронце. У 1917—20 браў удзел у бел. грамадска-паліт. жыцці — гуртаваў беларусаў-вайскоўцаў, арганізоўваў бел. школы ў Адэсе. З 1921 у Мінску, з кастр. 1921 намеснік наркама, у 1926—29 наркам асветы БССР. Адзін з праваднікоў палітыкі беларусізацыі. Аўтар артыкулаў па пытаннях нацыянальнай і культурнай палітыкі.

Правадзейны член Інбелкульта, старшыня секцыі бел. мовы і літаратуры. У 1929—30 член ЦВК БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 3.9.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ ад 18.3.1931 атрымаў 10 гадоў лагераў. Пры паўторным разглядзе справы 30.10.1937 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да смяротнага пакарання. Расстраляны ў Мінску. Па першым прысудзе рэабілітаваны 14.6.1988, па другім — 25.3.1958.

Тв.: Інстытут беларускай культуры // *Асвета*. 1924, № 3; Беларусізацыя культурна-асветных устаноў // *Полымя*. 1925, № 4.

Літ.: *Васілеўская Н.У.* Абвінавачваецца ў нацыянал-дэмакратызме (пра наркома асветы Беларусі А. В. Баліцкага). Мн., 1995; [Біяграфія Баліцкага] // *Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ*. 1922, № 4. С. 21—22; *Цыхун А.* Памяць жыве // *ЛіМ*. 1988, 30 снеж.; *Возвращенные имена*, с. 20—21; *ЭГБ*, т. 1.

**БАРАДЗІН (Грузенберг) Міхаіл Маркавіч** [9.7.1884, мяст. Янавічы Віцебскага пав., цяпер Віцебскі р-н — 29.5.1951], паліт. дзеяч, рэдактар. З 1900 член Бунда, у 1905—06 сакратар камітэта Рыжскай арганізацыі РСДРП. З 1907 да 1918 жыў у ЗША. У 1908 стварыў у Чыкага спецыяльную школу для паліт. эмігрантаў; удзельнічаў у рабоце Сацыялістычнай партыі Амерыкі. Быў казначэем

Таварыства дапамогі рускім палітвязням. З 1919 генеральны консул РСФСР у Мексіцы. Працаваў у Камінтэрне. У 1923—27 па запрашэнні Сун Ят-Сена жыў у Кітаі, быў паліт. дарадцам ЦВК партыі Гаміньдан. Пасля вяртання ў СССР працаваў нам. наркама працы. Быў нам. дырэктара ТАСС, з 1932 галоўны рэдактар газ. «Moscow News». У 1941—45 у рэдакцыі Саўінфармбюро. У 1951 падчас кампаніі «барацьбы з касмапалітызмам» рэпрэсаваны. Рэабілітаваны пасмяротна.

Літ.: *Мировицкая Р.Л.* Михаил Бородин // *Видные советские коммунисты — участники китайской революции*. М., 1970. С. 22—40; *ЭГБ*, т. 1.

**БАРАН (Баранаў) Сяргей** [27.9.1892, в. Віцькі Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — ?, ГУЛАГ], грамадскі і культурны дзеяч, педагог. Член Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У час 1-й сусветнай вайны ўзначаліў Гродзенскае таварыства дапамогі ахвярам вайны. У 1919 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Гродне. Заснаваў Гродзенскую беларускую гімназію, выкладаў у ёй. У 1922 абраны паслом у сейм Польшчы. У 1923 арыштаваны польскімі ўладамі, абвінавачаны ў падрыхтоўцы паўстання ў Зах. Беларусі. На судовым працэсе ў Беластоку атрымаў 8 гадоў турмы. У канцы 1920-х г. пасля выхаду з турмы эміграваў у СССР. 25.9.1933 арышта-

ваны ДПУ БССР па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Апошні раз яго бачылі жывым 25.4.1935 у Дальлагу. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 1.

**БАРАНАВЫХ Сымон** [сапр. Баранаў (Баран) Сымон Якаўлевіч; 1.9.1900, в. Рудакова Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Уздзенскі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1942], празаік. У 1920—23 служыў у Чырвонай Арміі, прымаў удзел у баях з польскімі войскамі. У 1924—25 старшыня сельсавета, загадчык хаты-чытальні, адначасова карэспандэнт бел. газет. У 1925—28 вучыўся на Мінскім рабфаку, у 1931 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. Уваходзіў у літаратурныя аб'яднанні «Маладняк» (з 1927) і БелАПП (з 1928). Пасля сканчэння БДУ працаваў у Беларускім радыёцэнтры, потым адказным сакратаром час. «Беларусь калгасная». Сябраваў з Я. Купалам. Асноўная тэма творчасці — бел. вёска і сацыяльныя працэсы, якія адбываліся там у 1920—30-я г. Член СП СССР з 1934. Пасля выхаду ў 1936 у свет аповесці «Новая дарога» пакінуў службу і вырашыў цалкам аддацца мастацкай творчасці. Арыштаваны 4.11.1936; асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Загінуў на Калыме. Рэабілітаваны ў 1954.

Тв.: Злосць: Апавяданні. Мн., 1930; Межы: Аповесць. Мн., 1930; Чужая зямля: Аповесць. Мн., 1930; Пастка: Аповесць. Мн., 1935; Калі ўзыходзіла сонца: Раман. Мн., 1957; Новая дарога: Апавяданні, аповесці, раман, лісты. Мн., 1989.

Літ.: *Пальчэўскі А.* Сябар далёкіх гадоў // *Пальчэўскі А.* Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1975; *Казека Я.* Сымон Баранавых // *Казека Я.* Падарожжа ў маладосць. Мн., 1984; *Савік Л.* Сымон Баранавых // *Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гадоў*. Мн., 1985; *БП*, т. 1.

**БАРАНКЕВІЧ Іван Міхайлавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Белорус; Быховец; И.Быховский; Гвоздь; Иван Лапоть; И.Б.; Б.; Ив.Б-ич; 1888, в. Трасцівец Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 27.6.1942, Караганда, Казахстан], празаік, журналіст, перакладчык. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. За правядзенне прапагандысцкай работы сярод сялян Быхаўскага пав. затрымліваўся паліцыяй. Пачаў друкавацца ў 1913. З 1914 працаваў у час. «Вестник Могилевского земства»; у 1918—19 супрацоўнічаў з газ. «Чырвоны шлях», быў рэдактарам час. «Белорусская криница»; у 1923—25 — вядучы аўтар газ. «Соха и молот» (з 1924 — «Магілёўскі селянін»). У 1927—29 выступаў як празаік у ленінградскім час. «Резец» (цыкл нарысаў «Новые люди деревни»). Літаратурная студыя «Резец» у 1929 выпусціла «Альманах белорусской литературы», усю

прозу для якога пераклаў Б. Вядомы таксама як перакладчык на рускую мову твораў Я.Коласа. Арыштоўваўся ў 1924, 1931 і 1939. Загінуў у ГУЛАГу. Рэабілітаваны ў 1982.

Тв.: Н.Ленин. Пг., 1919; Старый Нил. М., 1920.

Літ.: *Скалабан В.* Под псевдонимом «Белорус»: История одного поиска // *Нёман*. 1983, № 12; *Яго ж*. Сцежкі вяртання // *Братэрства-83*. Мн., 1983.

**БАРАНОЎСКАЯ Ганна Паўлаўна** [17.4.1907, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1937, Орша, НКВД], мовазнавец. Скончыла літаратурна-лінгвістычны ф-т БДУ. З кастр. 1934 працавала ў Інстытуце літаратуры і мовы АН БССР малодшым навуковым супрацоўнікам. Арыштавана 27.8.1937. Прыгаворана да расстрэлу 29.10.1937. Рэабілітавана 13.9.1966.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**БАРКОЎСКІ Сцяпан Андрэевіч** [псеўданімы і крыптанімы: Бар.; С.Бар.; С.Бар-і; С.Бар-кі; Барскі; Б-скі; С.Кожаны] (28.3(10.4).1905, Слуцк — 11.6.1966, Мінск], крытык, літаратуразнавец, этнограф. Падлеткам браў удзел у Слуцкім паўстанні

1920. У 1926 скончыў педагагічны ф-т БДУ. Пасля сканчэння ў 1931 аспірантуры працаваў у Інстытуце гісторыі АН БССР. Першыя публікацыі па этнаграфіі з’явіліся ў 1925. Як літаратурны крытык сфарміраваўся ў «Маладняку». У сярэдзіне 1920-х г. у яго на кватэры ўтварыўся своеасаблівы «літаратурны салон» маладых літаратараў. 14.11.1936 арыштаваны; атрымаў 10 гадоў лагераў. У 1936—46 як зняволены працаваў у лагерах Краснаярскага краю і Сярэдняй Азіі. З канца 1946 жыў у Фрунзе (Кыргыстан); у 1950 накіраваны ў Казахстан на асваенне цаліны. Рэабілітаваны ў 1955; змог вярнуцца ў Беларусь. З 1956 працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Займаўся этнаграфіяй Беларусі 19 ст. Укладальнік кніг твораў В.Маракова (1959), А.Дудара (1959), В.Каваля (1959), М. Нікановіча (1960). Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

Тв.: 1 мая на Беларусі. Мн., 1927 (3-е выд. 1932).

Літ.: *БП*, т. 1; *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*.

**БАТРАК Іван** [сапр. Казлоўскі Іван Андрэевіч; 17(29).2.1892, в. Малое Гальцэва Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 1938 (?)], паэт, публіцыст, перакладчык. З 1911 рабочы ў Пецярбургу. Удзельнік літаратур-

нага гуртка паэта А.І.Машырава-Самабытніка. У 1914 уступіў у РСДРП(б). Арганізаваў у Пецярбургу падпольную друкарню, удзельнічаў у выданні нелегальнага час. «Рабочий голос», газ. «Пролетарский голос». З 1913 публікаваўся ў газ. «Правда». У 1915 за ўдзел у рэвалюцыйнага руху арыштаваны, асуджаны на 8 гадоў катаргі. Правёў 2 гады ў зняволенні ў Шлісельбургскай крэпасці. Вызвалены падчас Лютаўскай рэвалюцыі 1917. Са снеж. 1917 сакратар Аршанскага павятовага камітэта РКП(б), адказны рэдактар аршанскай газ. «Набат». У 1920 пераведзены ў Растоў-на-Доне. З 1921 у Маскве, працаваў у газ. «Беднота», «Правда», час. «Комбайн». Адзін з кіраўнікоў Усесаюзнага таварыства сялянскіх пісьменнікаў. У 1924 скончыў Маскоўскі ун-т. Аўтар зборнікаў баек і вершаў. Пісаў на рускай мове; перакладаў творы Я.Коласа і К.Крапівы. У 1930-я г. арыштаваны. Абставіны і месца смерці невядомыя.

Тв.: Обручи и клепки. М.; Л., 1926; Басни. М.; Л., 1928; Пауки и мухи. М., 1931; Фабричная труба. М., 1931; Басни. М., 1933; Избранное. М., 1958.

Літ.: *Карніловіч Э.* Рэвалюцыяй мабілізаваны // *Полымя*. 1980, № 3; *Яго ж*. На гребне истории. Мн., 1989. С. 188—198; *Русские советские писатели. Поэты: Биобиблиогр. указ.* Т. 2. М., 1978. С. 254—265; *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*. С. 180; *ЭГБ*, т. 1.

**БЕЛАГАЛОВЫ Язэп Мацеевіч** [11.2.1883, Санкт-Пецярбург — 1928 ?, Масква ?, АДПУ], рыма-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч, педагог. Вучыўся ў Пецярбургу ў прыватнай каталіцкай гімназіі пры касцёле св. Кацярыны і ў 6-й гімназіі. Скончыў у Пецярбургу Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю (1903) і Мітрапалітальную духоўную акадэмію (1907). Кандыдат тэалогіі і магістр кананічнага права. Пасвечаны ў святары ў 1906. У 1907—10 працаваў настаўнікам рэлігіі ў Смаленску ў мужчынскай гімназіі і ў рэальным вучылішчы. 14.8.1910 прызначаны выкладчыкам Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Адмовіўся праспяваць «многие лета» расійскаму цару і быў высланы за мяжу, жыў у Рыме, Інсбруку. У 1913—18 зноў у Пецярбургу, нам. прафесара грамадзянскага і кананічнага права ў духоўнай акадэміі. Адначасова выкладаў Закон Божы ў Інстытуце архітэктуры, у Мікалаеўскай школе кавалерыі і ў Канстанцінаўскай школе артылерыі. У 1918 прызначаны пробашчам і дэканам у Магілёў. Выконваў абавязкі афіцыяла біскупскай курыі ў Мінску. Арыштаваны бальшавіцкімі ўладамі і інтэрніраваны ў Смаленску. Пасля вызвалення вярнуўся ў Магілёў. Актыўна выступаў за беларусізацыю рэлігійнага жыцця. Зняволься ЧК у 1921. У 1926 схоплены АДПУ, асуджаны на 5 гадоў лагераў без права на амністыю. У 1928

з Салаўкоў дастаўлены ў Маскву ў турму на Лубянцы, дзе, верагодна, і быў закатаваны.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998.

**БЕЛАКОЗ Адольф** [каля 1826, маёнтак Лешна Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ, цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — 1895, паводле іншых звестак 1865; Сібір], выдавец, мемуарыст. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. Служыў у Гродзенскім цывільным судзе. У пачатку 1860-х г. жыў у Беластоку. Уваходзіў у канспіратыўную арганізацыю «чырвоных». У беластоцкай падпольнай друкарні надрукаваў (разам з Б.Шварцэ) некалькі рэвалюцыйных выданняў, сярод іх — «Гутарка старога дзеда» і «Гутарка двух суседаў» (вядомы 4 нумары; па сутнасці, гэта было першае перыядычнае выданне на бел. мове). У пачатку 1863 стаў паўстанцкім начальнікам Беластока. У крас. 1863 арыштаваны і знаходзіўся пад следствам. Пасля вызвалення быў пад наглядам паліцыі. Зноў арыштаваны ў чэрв. 1863; высланы ў Пермскую губ. Праз год паводле пастановы ваеннага суда сасланы ў Сібір. Напісаў успаміны пра перыяд 1862—65: пра беластоцкую падпольную арганізацыю, зняволенне ў Віленскай турме, ссылку ў Сібір. Рукапіс мемуараў загінуў.

Літ.: *Александровіч С.Х.* Пуцявіны роднага слова. Мн., 1971. С. 19—24; *Революционная Россия и революционная Польша*. М., 1967. С. 39—63; *Кісялёў Г. В.* Сейбіты вечнага. Мн., 1963. С. 136—145; *ЭГБ*, т. 1.

**БЕЛЫ Лявон** [нар. 1.4.1927, в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл.], публіцыст. Вучыўся ў польскай школе ў Мікалаеўшчыне. У 1943—44 працягваў вучобу ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. У 1947 скончыў сярэднюю школу ў Стоўбцах і ў 1948 паступіў на ф-т бел. і рускай мовы і літаратуры БДУ. У 1953—56 вучыўся ў аспірантуры па спецыяльнасці «Беларуская літаратура». Выказваючы сваё стаўленне да палітыкі русіфікацыі Беларусі, у 1957 напісаў верш у абарону бел. мовы «Усе народы прагнуць сваёй волі, улады, песні...», які пасля размножыў і расклеіў у Мінску разам са сваім братам Міхалам Белым. КДБ вызначыў аўтара ўлётак па почырку, і пасля некалькіх месяцаў следства адбыўся закрыты суд над абодвума братамі. Асуджаны паводле арт. 67 (антысавецкая агітацыя і прапаганда), атрымаў 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапам накіраваны ў лагер Явас на станцыі Поцьма Мардоўскай АССР. Пазней тэрмін зняволення быў скарочаны на 4 гады. Вызвалены ў 1963 і да выхаду на пенсію ў 1992 працаваў у бібліятэцы № 10

Мінска. Б. не атрымаў дазволу абараніць дысертацыю. Друкаваў артыкулы па бел. літаратуры і бібліятэчнай справе ў «Чырвонай змене», «Мінскай праўдзе», «Вечернем Минске», у кнізе свайго брата Сымона Белага «На бацькоўскай зямлі» (пад імем брата там апублікаваны артыкул «Да новага жыцця»). На пенсіі, інвалід 1-й групы.

Літ.: *Кашталян І.* Лявон Белы // *Дэмакратычная апазыцыя.*

**БЕНЯШЭВІЧ Уладзімір Мікалаевіч** [9(21).8.1874, мяст. Друя Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 27.1.1938, НКВД], гісторык (візанцініст, гісторык царкоўнага права, палеограф), публіцыст. У 1897 скончыў юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та; у 1897—1900 слухаў лекцыі ў Лейпцыгскім, Берлінскім, Гейдэльбергскім ун-тах. З 1905 прыват-дацэнт, з 1909 прафесар Пецярбургскага ун-та. Рэдактар перыёдыкаў «Памятники древнерусского канонического права» (ч. 1, 1908; ч. 2, вып. 1, 1920), «Обзор трудов по славяноведению, 1908—1913» (1909—18). Апошняе выданне можна лічыць бібліяграфіяй па гісторыі, этнаграфіі, мовазнаўстве, літаратуры Беларусі. У гады савецкай улады прафесар Ленінградскага ун-та і галоўны бібліятэкар аддзела рукапісаў Публічнай бібліятэкі. У 1925

абраны членам-карэспандэнтам АН СССР; з'яўляўся членам-карэспандэнтам Берлінскай, Мюнхенскай, Страсбургскай акадэмій навук, ганаровы член Афінскага таварыства візанціназнаўства. Першы раз асуджаны па абвінавачанні ў шпіянажы і контррэвалюцыйнай дзейнасці 14.6.1929 на 3 гады турмы. Другі раз — 8.8.1931 на 5 гадоў лагераў. Дзякуючы хадайніцтву А.Эйнштэйна, Ф.Нансена і У.Дз.Бонч-Бруевіча вызвалены ў 1933. 27.11.1937 зноў арыштаваны і расстраляны разам з двума сынамі і братам. Рэабілітаваны ў 1958.

Тв.: Древнеславянская кормчая XIV титулов без толкований. Т. 1. СПб., 1906—07; Описание греческих рукописей монастыря св. Екатерины на Синае. Т. 1, 3. СПб., 1911—17; Очерки по истории Византии. Вып. 1—4. СПб., 1912—15; Синагога в 50 титулов и другие юридические сборники Иоанна Схоластика. СПб., 1914; Сборник памятников по истории церковного права, преимущественно русской церкви до эпохи Петра Великого. Вып. 1—2. Пг., 1914—15.

Літ.: *Гранстрем Е.Э.* В.Н.Бенешевич (к 100-летию со дня рождения) // *Византийский временник*. 1973. Т. 35; *ЭГБ*, т. 2.

**БЕРГМАН Аляксандра Рыгораўна** [Bergman Aleksandra; дзявочае Кучкоўская; падпольныя псеўданімы: Зіна; Стаха; Малеўская; нар. 1.5.1906, Гродна — ?], гісторык, публіцыст. Член КПЗБ з 1925. Вучылася ў партшколах пры ЦК КПЗБ і ЦК ПАРП. Сакратар падпольных акруго-

вых камітэтаў КСМЗБ у Гродне, Вільні, Брэсце, Баранавічах, Беластоку. У 1931 стала членам Краявога Сакратарыята ЦК КПЗБ. У 1934 накіравана ў БССР, працавала нам. сакратара парткама завода «Гомсельмаш». Арыштавана ў 1935, абвінавачаная ў шпіянажы і контррэвалюцыі. 10 гадоў знаходзілася ў зняволенні. У 1946 у рамках праграмы рэпатрыяцыі перасялілася ў ПНР. Рэабілітавана ў 1956. Працавала ў час. «Życie Partii». Даследавала гісторыю КПЗБ, БСРГ, перыядычны друк («Наша ніва», «Вольны сцяг», «Змаганне»). Аўтар манаграфій і артыкулаў пра грамадска-паліт. дзеячаў Зах. Беларусі ў міжваенны перыяд — А.Луцкевіча, Б.Тарашкевіча, У.Самойлу, І.Дварчаніна, Л.Родзевіча, В.Харужую, С.Рак-Міхайлоўскага, М.Перавалоцкага і інш.

Тв.: Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Warszawa, 1977; бел. пераклад — Слова пра Браніслава Тарашкевіча: Гістарычны жыццяпіс. Мн., 1996; Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej. Warszawa, 1984.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**БЕРКМАН Юзаф** [4.8.1838, мяст. Валожын Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер горад Мінскай вобл. — 19.7.1919, Варшава], мастак, публіцыст. Скончыў гімназію ў Вільні. Вывучаў медыцыну ў Маскве, вучыўся на матэматычна-пры-

родазнаўчым ф-це Пецярбургскага ун-та. Адначасова пачаў наведваць заняткі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. За ўдзел у студэнцкай маніфестацыі ў кастр. 1861 арыштаваны; на працягу 3 месяцаў зняволены у Петрапаўлаўскай і Кранштацкай крэпасцях. Пасля вызвалення выехаў у Вільню. Удзельнічаў у друкаванні і распаўсюджанні рэвалюцыйных адозваў. З вер. 1862 зноў працягваў вучобу ў Пецярбургу. З пачаткам паўстання 1863—64 вярнуўся на Радзіму; ваяваў на Ашмяншчыне, у тым ліку ў атрадзе З.Мінейкі. 12.10.1863 у баі каля в. Рудзішкі паранены і трапіў у палон. Асуджаны на 4 гады катаргі, якую адбываў у Нерчынску на сярэбраных капальнях. За спробу ўцячы тэрмін катаргі быў падоўжаны на 4 гады. Пасля вызвалення ў 1870 жыў у Іркуцку, дзе меў жывапісную майстэрню (сёння большасць яго твораў захоўваецца ў Іркуцкім мастацкім музеі). З 1877 жыў у Ніжнім Ноўгарадзе, з 1880 у Лібаве (Ліепая, Латвія). У 1884 пераехаў у Варшаву, дзе жыў да канца жыцця. Асноўныя тэмы жывапісных работ — сцэны паўстання і жыцця ссыльных паўстанцаў («Труна Серакоўскага», «Смерць Нарбута» і інш.). Аўтар «Успамінаў пра паўстанне 1863 ў Ашмянскім павеце і пра побыт у Сібіры» (рукапіс быў у сям’і).

Літ.: *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**БЖАСТОЎСКІ Ігнат** [1823 — 1875, Енісейская губ.], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64. Са старажытнага шляхецкага роду герба «Стрэмя». Вучыўся ў Мінску і Маскве, атрымаў юрыдычную адукацыю. Працаваў старшынёй Палаты крымінальнага суда ў Магілёве. Як прадстаўнік Магілёўскай губ. ў маі 1862 у Вільні ўдзельнічаў у з'ездзе «белых» — аднаго з асноўных паліт. кірункаў паўстанцаў. У час паўстання — магілёўскі паўстанцкі ваявода. Распаўсюджваў сярод сялян нелегальную літаратуру на бел. і польскай мовах. Арыштаваны ў канцы 1863. Сасланы ў Енісейскую губ., дзе і памёр.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**БІБІЛА Юлія Іосіфаўна** [10.1.1897, мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 9.12.1974, Мінск], бібліёграф. З 1922 працавала загадчыкам бел. аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі БССР. Вучылася ў БДУ (скончыла ў 1925). Распачала бібліяграфічную рэгістрацыю друку БССР, складанне краязнаўчай бібліяграфічнай картатэкі. Склала бібліяграфію твораў Ц.Гартнага, надрукаваную ў зборніку «Цішка Гартны ў літаратурнай крытыцы» (1928). Апублікавала матэрыялы да біяграфіі Цёткі (у час. «Запіскі аддзела гуманітарных навук», 1928,

кніга 2, Працы клясы філалогіі). У 1930-я г. рэпрэсавана і выслана за межы Беларусі. У 1937—59 была галоўным бібліёграфам бібліятэкі Саратаўскага ун-та. Вярнулася ў Мінск у 1959. Працавала ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, пакінула ўспаміны пра яе.

Літ.: *БЭ*, т. 3.

**БІРАЛА Захар Якаўлевіч** [псеўданімы: Бульбянік; Захар Бульбянік; Селянін Бульбянік; Зэшка Бірала; Зэшка; 2(15).2.1906, в. Раўнаполле Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 14.9.1993, Мар'іна Горка Пухавіцкага р-на Мінскай вобл.], паэт, сатырык. Пасля сканчэння пачатковай школы актыўна займаўся самаадукацыяй. У 1925—28 працаваў разам з бацькамі на сваёй гаспадарцы. Першыя вершы надрукаваў у 1926 у газ. «Беларуская вёска». У хуткім часе яго творы пачалі з'яўляцца на старонках газ. «Чырвоная змена», «Савецкая Беларусь», час. «Малады араты». У 1931 скончыў рабфак БДУ; у 1934 — МВПТ. У 1934—36 выкладаў бел. і рускую мовы ў Лагойскай сярэдняй школе. Арыштаваны 14.11.1936; у 1937 прыгавораны да 8 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Горкаўскай (цяпер Ніжагародскай) вобл. на станцыі Сухабязводная, дзе працаваў на лесанарыхтоўках. Вызвале-

ны ў 1940. У 1940—41 настаўнічаў у в. Сенніца Мінскага р-на, выкладаў бел. мову і літаратуру. У час вайны жыў з бацькамі ў пас. Астравы на Міншчыне. У 1944—45 у дзеючай арміі, быў цяжка паранены. У 1945—73 выкладчык бел. і рускай мовы і літаратуры Мар'інагорскага сельгастэхнікума. Арганізаваў у тэхнікуме літаратурны гурток. Быў кіраўніком літаб'яднання пры раённай газ. «Сцяг працы». Рэабілітаваны ў 1958. Толькі пасля рэабілітацыі ў Б. з'явілася магчымасць зноў публікаваць свае кнігі. Аўтар зборнікаў гумару і сатыры. Член СП СССР з 1980.

Тв.: Смех і радасць вёскі: Песні, вершы і частушкі. Мн., 1929; Цвітуць кветкі: Вершы. Мн., 1963; У пажарным парадку: Гумарыст. вершы. Мн., 1968; На светлым чорнае: Гумарыст. вершы. Мн., 1974; Прыляцела птушка: Вершы. Мн., 1977; Ружы і крапіва: Лірыка. Сатыра. Гумар. Мн., 1986.

Літ.: *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*, с. 169; *БП*, т. 1.

**БІТЭЛЬ Пятро** [Пётр Іванавіч; псеўданім: Леанід з-пад Вішнева; 6(19).6.1912, мяст. Радунь Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 18.10.1991, в. Вішнева Валожынскага р-на Мінскай вобл.], паэт, перакладчык, мемуарыст, педагог, краязнавец. У 1925 паступіў у Барунскую настаўніцкую семінарыю, вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі імя Тамаша

Зана (скончыў у 1931). Пачаў публікавацца з 1929 у час. «Шлях моладзі». У 1933—34 служыў у польскім войску. З 1934 загадчык пачатковай школы ў в. Даўгінава каля Карэліч. Завочна скончыў гісторыка-філалагічнае аддзяленне Вышэйшых настаўніцкіх курсаў пры Віленскім ун-це. У 1937—39 апублікаваў шэраг артыкулаў па педагогіцы ў час. настаўніцкага прафсаюза Віленскай акругі «Sprawy nauczycielskie». У сувязі з пачаткам вайны Германіі супраць Польшчы (1939) мабілізаваны і накіраваны на фронт. Вярнуўся на Радзіму, дзе ўжо была ўсталявана Савецкая ўлада. Працаваў настаўнікам у мяст. Вішнева, дырэктарам СШ № 2 у Валожыне, інспектарам-метадыстам школ Валожынскага р-на. У раённых газ. «Іскра» (Валожын) і «Уперад» (Ліда) з'явіліся вершы Б. У часы нямецкай акупацыі жыў у Валожыне, настаўнічаў, працаваў у БНС. У чэрв. 1944 разам з сям'ёй быў вывезены ў Германію. Па дарозе ў час аварыі цягніка яму ўдалося ўцячы і знайсці прытулак у Польшчы. Пасля вызвалення Польшчы быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію, служыў да канца 1945. Потым настаўнічаў у Валожынскім р-не. У 1947 беспадстаўна звольнены з працы. Стаў праваслаўным святаром у Докшыцах. Арыштаваны ў 1950, у 1951 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Знаходзіўся ў зняволенні ў Кемераўскай вобл., Омску, Джэзказгане. У той час пераклаў паэмы А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш», «Конрад Валенрод», «Дзяды»,

пішучы на паперы ад мяшкоў з-пад цэменту (рукапісы захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры). У 1956 вызвалены са зняццем судзімасці. Да 1963 служыў святаром у Петрыкаве. У 1963—74 выкладчык бел. мовы і літаратуры і нямецкай мовы ў Вішнеўскай СШ. У 1970 завочна скончыў філалагічны ф-т Мінскага педінстытута. Цалкам рэабілітаваны ў 1978. Аўтар эпічнагістарычных паэм і краязнаўчых нарысаў. Перакладаў з польскай, рускай, украінскай, нямецкай, англійскай, італьянскай моў. Член СП СССР з 1986.

Тв.: Замкі і людзі: Гістарычная паэма. Мн., 1968; Паэмы. Мн., 1984; Дзве вайны: Вершаваныя аповесці. Мн., 1990; Праз церні і завалы: (Успаміны) // *Куфэрак Віленшчыны*. 2001, № 3 (5).

Літ.: *Huszcza J.* Kartki z podróży // *Huszcza J.* Opowieści w czarnych ramkach. Łódź, 1979; *Саламевіч. Слоўнік псеўдонімаў*, с. 169; *БП*, т. 1; *Янушкевіч Я.* Пчала без вулля // *ЛіМ*. 1997, 20 чэрв.; *ЭГБ*, т. 2.

**БЛАЖЭВІЧ Андрэй** [сапр.: Вангін; 1895, мяст. Відзы Новааляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 1977, Польшча]. Вядучы акцёр трупы У.Галубка, выступаў у характарных ролях. Арыштаваны ў 1937. Пасля вайны выехаў у ПНР. Удзельнічаў у аматарскіх спектаклях на Памор'і. Памёр у доме састарэлых.

**БОБІЧ Ільдэфонс** [псеўданімы і крыптанімы: Пётра Просты; Piotra Prosty; P.P.; P.Pr.; 10(22).1.1890, в. Дзедзіна Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 28.4.1944, Іўе Гродзенскай вобл.], рымска-каталіцкі святар, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык. У 1909 скончыў Ковенскую гімназію, у 1911 Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Сябра бел. гуртка семінарыстаў. Вышэйшую духоўную адукацыю атрымаў у Рыме ў *Collegium Germanicum* (вучыўся з 1912), доктар філасофіі. Дамогся папскага бласлаўлення часопісу для беларусаў-католікаў «Biełarus». 15(28).7.1915 пасвечаны ў святары. Служыў вікарыем у Друі і пробашчам на Дзісеншчыне (1917—20). У 1921—23 выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. З 1923 пробашч у мяст. Германавічы. У 1930—44 пробашч і дэкан у мяст. Іўе. Першае апавяданне «Слёзы» надрукаваў 25.1.1907 у «Нашай ніве». Друкаваўся таксама ў «Першым беларускім календары «Нашай нівы», газ. «Biełarus», а пазней у заходнебел. выданнях «Наша думка» і «Беларускія ведамасці». Частка твораў засталася ў рукапісах, асобныя перакладаліся на польскую і ўкраінскую мовы. Выступаў у польскіх рэлігійных час. «Przegląd Homiletyczny», «Nowa Biblioteka Kaznodziejska». Пераклаў на польскую мову працы св. Бернара Клервоскага. Да 1930 актыўна выступаў за шырокае ўвядзенне бел. мовы ў каталіц-

кае богаслужэнне. Пераследаваўся польскім святарствам Віленшчыны. На пачатку 1930-х г. адышоў ад бел. паліт. дзейнасці. У гады 2-й сусветнай вайны арыштаваны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Памёр неўзабаве пасля вызвалення з турмы. Па іншых звестках — расстраляны фашыстамі. Пахаваны ў Іўі.

Тв.: *Bobič Ild*. Niadzielašnija ewanhielii i nawuki: Try častki. Wilnia, 1912; Na szto biełarusam hazety? Wilnia, 1914.

Літ.: *БП*, т. 5; *ЕК*, t. 2; *Гарбінскі БРД*.

**БОЙКА Іван** [? — 1933], аграном. Арыштаваны ў 1930. Расстраляны ў 1933.

Літ.: *Кандыбовіч С*. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКАЯ Варвара Іванаўна** [дзявочае: Вахоўская; 1855, Херсонская губ. — 1929, Масква], грамадска-паліт. дзеячка, публіцыстка, мемуарыстка. Яшчэ падчас вучобы ў гімназіі ў Камянец-Падольску далучылася да рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1872 вучылася ў Швейцарыі (Цюрых), дзе ўступіла ў бакунінскі гурток М.Сажына; наведвала гурток П.Лаўрова. У 1873 вярнулася ў Расію. Арыштоўвалася ў пачатку 1874 і 1875. Па-

сля 3-гадовага турэмнага зняволення прыгаворана да ссылкі («працэс 193-х»). Па хадайніцтве бацькі перададзена яму на парукі. Каб вызваліцца з-пад нагляду паліцыі, узяла фіктыўны (першапачаткова) шлюб з А.В.Бонч-Асмалоўскім, пасялілася ў маёнтку Блонь Ігуменскага пав. Уваходзіла ў народніцкую арганізацыю «Чорны перадзел», падтрымлівала сувязі з кіраўніцтвам «Народнай волі». У пачатку 1882 выехала ў Адэсу. Арыштавана ў сак. 1882, з восені 1882 жыла ў Блоні пад наглядам паліцыі. У сярэдзіне 1880-х г. разам з мужам арганізавала ў Блоні асяродак рэвалюцыйнай прапаганды, стварыла бібліятэку нелегальнай літаратуры. Арыштавана ў крас. 1908, у лют. 1910 разам з мужам аддадзена пад суд. Прыгаворана да 8-месячнага зняволення. Апошні год жыцця правяла ў Доме ветэранаў рэвалюцыі ў Маскве. Пакінула ўспаміны.

Тв.: *Вахоўская В.І.* Успаміны рэвалюцыянеркі // *Полымя*. 1925, № 2; Жизнь революционерки. М., 1928.

Літ.: *Бонч-Осмоловский А.* Памяти В.И.Бонч-Осмоловской // *Каторга и ссылка*. 1930, № 2; *Клейн Б.* Дело Бонч-Осмоловских // *Клейн Б.* В годину испытаний: Ист.-лит. очерки. Мн., 1986; *ЭГБ*, т. 2.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Анатоль Восіпавіч** [10.7.1857, Віцебск — 23.9.1930, Масква], грамад-

ска-паліт. дзеяч, публіцыст, мемуарыст. Са старажытнага шляхецкага роду герба «Бонча». Пасля Маскоўскага ліцэя ў 1875 пастуліў у Інстытут інжынераў шляхоў зносін. У 1876 перайшоў на юрыдычны, а затым на прыродазнаўчы ф-т Пецярбургскага ун-та. Стаў прыхільнікам арганізацыі народнікаў «Зямля і воля», распаўсюджваў сярод студэнтаў нелегальныя выданні. У 1879 увайшоў у гурток «Маладыя землявольцы», які пасля расколу ў жн. 1879 «Зямлі і волі» далучыўся да арганізацыі «Чорны перадзел». У ліст. 1879 арыштаваны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях; пазбаўлены права вучыцца ў ВНУ і высланы ў бацькоўскі маёнтак Блонь Ігуменскага пав. (цяпер Пухавіцкі р-н). У 1880 садзейнічаў арганізацыі друкарні «Чорнага перадзелу». Арыштаваны ў крас. 1882, зняволены ў Мінскай турме на працягу 5 месяцаў. Разам з жонкай Варварай і пры ўдзеле А.Я.Багдановіча арганізаваў у Блоні сялянскі гурток самаадукацыі. Арыштаваны ў крас. 1886 у Канатопе Чарнігаўскай губ., дзе быў па справах нелегальнай друкарні. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Рабочай партыі паліт. вызвалення Расіі (канец 1890-х г.). Арыштаваны ў 1901 разам з сынам Іванам і сасланы ва Усх. Сібір. У 1904 вярнуўся па амністыі і ўвайшоў у партыю эсэраў, у 1905 кааптаваны ў ЦК. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У крас. 1908 арыштаваны, у лют. 1910 аддадзены пад суд. У 1911 апраўданы, але ў 1912 зноў арыш-

таваны і прыгавораны да 8 месяцаў зняволення. У час 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі, працаваў у арганізацыях дапамогі бежанцам-беларусам. Дэлегат 1-га Усебеларускага з'езда (1917). З 1918 у Мінску, удзельнічаў у кааператыўным руху. У час акупацыі Беларусі польскімі войскамі на нелегальным становішчы. З 1926 у Маскве, член Усесаюзнага таварыства паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Пісаў успаміны.

Тв.: Эпоха 1905 г. // *Полымя*. 1925, № 6—7; Ліберальна-апазіцыйны рух на Беларусі // *Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху*. Мн., 1924. С. 169—176; Памяти В.И. Бонч-Осмоловской // *Каторга и ссылка*. 1930, № 2.

Літ.: *Попов И.* А.О.Бонч-Осмоловский // *Каторга и ссылка*. 1931, № 4; *Савіцкая Л.* Група Бонч-Асмалоўскага // *Полымя*. 1967, № 5; *Клейн Б.* Дело Бонч-Осмоловских // *Клейн Б.* В годину испытаний: Ист.-лит. очерки. Мн., 1986; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Глеб Анатолевіч** [22.10(3.11).1890, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 1.11.1943, Казань], антраполаг і археолаг. Доктар гістарычных навук. Сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. Скончыў Мінскае камерцыйнае вучылішча і Петраградскі ун-т (1923). У 1-ю сусветную вайну на фронце. У 1924—30 працаваў

у Ленінградскім ун-це. З 1930 супрацоўнік Геалагічнага інстытута АН СССР і Дзяржаўнай акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. У 1926—27 і 1934 разам з К.Палікарповічам праводзіў раскопкі палеалітычных паселішчаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне. Удзельнік этнаграфічных і археалагічных экспедыцый на Каўказе і ў Крыме. Арыштаваны АДПУ у 1934. Асуджаны на 3 гады лагераў. Пакаранне адбываў у Варкуце. Пасля вызвалення жыў пад Ленінградам. Рэабілітаваны ў 1942. Памёр у эвакуацыі ў Казані.

Тв.: Грот Киик-Коба. М.; Л., 1940.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Іван Анатолевіч** [20.5.1881, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 16.9.1969], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Старэйшы сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. Пад уплывам бацькоў з юнацтва далучыўся да рэвалюцыйнай дзейнасці. У 1902 за арганізацыю ў Блоні нелегальнага сялянскага гуртка разам з бацькам сасланы ва Усх. Сібір (Усць-Каменагорск). Вызвалены ў 1904 па амністыі; выехаў на вучобу ў Цюрых. Перапраўляў у Расію нелегальную літаратуру. Восенню 1905 прыехаў у Расію, дзе быў адным з арганізатараў Усерасійскага ся-

лянскага саюза. У 1-й і 2-й Дзяржаўнай думе сакратар фракцыі «Трудовая группа». Пра дзейнасць фракцыі выпусціў кнігу «Работы первой Государственной думы», якая адразу ж была канфіскавана ўладамі. У 1907 паступіў на юрыдычны ф-т Маскоўскага ун-та, але быў арыштаваны. У сак. 1912 прыгавораны Віленскай судовай палатай да 6 месяцаў зняволення. У савецкі перыяд працаваў служачым у дзяржаўных установах Мінска і Масквы.

Тв.: Работы первой Государственной думы. СПб., 1906.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**БОНЧ-АСМАЛОЎСКІ Радзівон Анатолевіч** [1884, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — 10.10.1938, Чымкент Паўднёва-Казахстанскай вобл., НКВД], эканаміст, публіцыст. Сын А.В. і В.І. Бонч-Асмалоўскіх. У 1904—08 член партыі эсэраў, за што быў асуджаны на 3 гады зняволення. Спрабаваў уцячы праз падкоп; закаваны ў кайданы. Пасля вызвалення ў 1912—15 вучыўся на Пецярбургскіх вышэйшых сельскагаспадарчых курсах, затым працаваў у земскім харчовым камітэце. У 1916—17 у арміі. У 1917—21 у земскіх установах Ігумена (Чэрвеня) і Мінска. З 1923 сакратар, загадчык сельскагаспадарчай секцыі Дзяржплана БССР.

Распрацоўваў праблемы аднаўлення народнай гаспадаркі, хутарызацыі, развіцця кааперацыі. Па гэтых тэмах выступаў у друку. Арыштаваны ДПУ БССР 5.7.1930 па справе «Беларускага філіяла Працоўнай сялянскай партыі». У 1931 асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Прысуд заменены на 10 гадоў ППЛ. Да 1936 працаваў на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. За ўзорную працу датэрмінова вызвалены. У 1938 быў эканамістам-планавікам у Чымкенце. Арыштаваны органамі НКВД у чэрв. 1938. «Тройка» пры Упраўленні НКВД па Паўднёва-Казахстанскай вобл. 10.10.1938 вынесла рашэнне аб расстрэле Б.-А. Рэабілітаваны.

Тв.: Земельная площадь БССР и ее распределение по угодиям, землевладению и формам землепользования // *Советское строительство БССР*. 1926, № 10—11.

Літ.: *Микула Е.* Забытые имена: Родион Бонч-Осмоловский // *Человек и экономика*. 1992, № 10; *ЭГБ*, т. 2.

**БОРЗАБАГАТЫ Уладзіслаў Канстанцінавіч** [крыптанім: К.В.; 23.4(5.5).1831, маёнтак Рутка Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Рутка Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 28.3.1886, мяст. Любяшова Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Валынская вобл., Украіна], рэвалюцыянер-дэмакрат, мемуарыст. Вучыўся ў Слуцкай,

потым у Мінскай гімназіях. За ўдзел у тайнай арганізацыі «Братні саюз літоўскай моладзі» ў 1849 выключаны з Мінскай гімназіі без права паступлення ў іншыя навучальныя ўстановы. Пасля амністыі 1855 паступіў на медыцынскі ф-т Маскоўскага ун-та. У час вучобы далучыўся да канспіратыўнай суполкі «Агул». Пасля атрымання дыплома працаваў урачом у Навагрудку. У 1863 паўстанцкі камісар Навагрудскага пав. Пасля задушэння паўстання быў на нелегальным становішчы. Завочна прыгавораны да пакарання смерцю. У 1865 эміграваў у Італію, з 1869 жыў у Парыжы, меў медыцынскую практыку. Удзельнік франка-прускай вайны 1870—71. У часы Парыжскай камуны галоўны медык Парыжскага шпіталя. Быў арыштаваны, сасланы на галеры; потым вызвалены, але мусіў пакінуць Францыю. У 1872 жыў у Кракаве. У 1874 вярнуўся на Радзіму, быў арыштаваны і сасланы ў Архангельскую губ., потым у Кастрамскую губ. Там працаваў земскім урачом. У 1884 атрымаў дазвол вярнуцца на Радзіму. Пасяліўся ў мяст. Любяшова, дзе працаваў урачом. Яго імем у Навагрудку названа вуліца (1982), у Рутцы пастаўлены памятны знак (1991).

Тв.: *K.B.* Życiorys powstańca z 1863 r. Wilno, 1938.

Літ.: *Ігнатовіч Ф.І.* Уладзіслаў Борзабагаты. Мн., 1993; *Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.* М., 1965; *Грицкевич В.П.* С факелом Гиппократа. Мн., 1987; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**БОХАН Дарафей Дарафеевіч** [псеўданімы і крыптанімы: Д.Дорофеев; Пешком-бегающий; Н.Серебрянский; Д.Слижень; Д.Б.; Д.Б-н; 4.2.1878, Мінск — 1942, Тэгеран], паэт, празаік, перакладчык, крытык. Пісаў на рускай мове. Вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе і Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы (Пецярбург). Служыў у арміі (штабс-капітан артылерыі). З канца 1890-х г. у Мінску, журналіст — супрацоўнік газ. «Минский листок», «Северо-Западный край», «Голос провинции» (у 1907 адзін з яе рэдактараў), «Минские ведомости» і інш. Збіраў і апрацоўваў мясцовыя паданні, на аснове якіх выдаў 2 кніжкі. Перакладаў на рускую мову творы польскіх паэтаў. У 1905 планаваўся ў рэдактары бел. час. «Палессе», які меркавалася выдаваць у Мінску. У 1907 асуджаны Віленскай судовай палатай на 8 месяцаў турмы за публікацыю антыўрадавых матэрыялаў у газ. «Голос провинции». У 1919 быў супрацоўнікам Наркамасветы БССР. У 1919—20 друкаваўся ў газ. «Минский курьер». У 1920—30-х г. жыў у Вільні. Супрацоўнічаў з віленскім рускім друкам. У 1939 арыштаваны савецкімі ўладамі. У ссылцы ў Сібіры ўступіў у польскую армію Андэрса. Памёр у Іране, дзе знаходзіўся з войскам.

Тв.: Глаз Христов: Минское предание. Мн., 1898; Минские предания и легенды. Мн., 1902; *Игорь, князь Северский*: Древнерусская поэма в поэтическом переложении Д. Бохана. Мн., 1897; *Из польской поэзии*. Мн., 1906; Адам Мицкевич. Вильно, [1911].

Літ.: *Бас І.* Літаратуразнаўчыя эцюды. Мн., 1977; *Яго ж.* Справа аб Дарафею Бохану // *Маладосць*. 1976, № 8; *Зарэмба Л.І.* Новыя звесткі пра літаратурную дзейнасць Д.Д. Бохана // *Веснік БДУ*. Серыя 4. 1993, № 3; *Дорошевич Э., Конон В.* Очерк истории эстетической мысли Белоруссии. Мн., 1972. С. 220—224; *Zienkiewicz T.* Dorofiej Bochan — tłumacz literatury polskiej na język rosyjski i krytyk // *Polsko-wschodniosłowiańskie powiązania kulturowe, literackie i językowe*. 1. Literatura i kultura. Olsztyn, 1994; *«Zachodnia Białorus» 17.IX.1939 – 22.VI.1941. Wydarzenia i losy ludzkie.* T. 1. Warszawa, 1998. S. 410, 411, 414; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 2.

**БРАНШТЭЙН Якаў Анатолевіч** [крыптанім: Я. Бр.; 10.11.1897, Бельск Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык і літаратуразнавец. У 1914—18 жыў у Варшаве. Друкавацца пачаў у 1918. У 1919 пераехаў у Савецкую Расію (Арол). Дабраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі з 1921 працаваў у рэдакцыі газ. «Орловская правда». У 1925 скончыў літаратурны ф-т 1-га Маскоўскага ун-та; у 1926—30 вучыўся ў Камуністычнай акадэміі ў Маскве. У 1930—37 навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР; з 1932 аднначасова прафесар МВПІ. У 1932—37 быў адказным сакратаром СП БССР. Член СП СССР з 1934. Член-карэспандэнт АН БССР з 1936. Як крытык пачаў выступаць з 1925. Прытрымліваўся вульгарна-сацыялагічных пазіцый. Арышта-

ваны 6.6.1937. Асуджаны ў кастр. 1937 да расстрэлу. Рэабілітаваны 27.7.1956.

Тв.: Атака: (Зборнік артыкулаў). Мн., 1930 / Ідыш; Аб стане яўрэйскай літаратуры ў перыяд рэканструкцыі. Мн., 1932 / Ідыш; Літаратурная вучоба: У дапамогу выкладчыкам літаратуры і кіраўнікам літгурткоў. Вып. 1. Мн., 1935.

Літ.: *Бародзіч Д.* Спадчына Я. Бранштэйна // *ЛіМ*. 1958, 23 ліп.; *Лынькоў М.* Ён быў сярод нас… // *ЛіМ*. 1962, 25 снеж.; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 1.

**БРАХОЦКІ Уладзіслаў** [24.1.1810, маёнтак Гаўе Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — 1896, Вераскова на Навагрудчыне], грамадскі дзеяч. Скончыў Віленскі ун-т. Увайшоў у склад Віленскай археаграфічнай камісіі. У 1858—63 апошні маршалак шляхты Навагрудскага пав. Змагаўся з алкагалізмам, закрыў усе шынкі на тэрыторыі сваіх маёнткаў. У 1860 быў адным з заснавальнікаў грамадскай бібліятэкі ў Навагрудку, затым яе куратар. Як удзельнік паўстання 1863—1864 паводле рашэння Часовага ваеннага аўдытарыята (Вільня) ад 8.12.1864 сасланы ў Перм. У ссылку былі таксама адпраўлены яго жонка Галена і брат. Вярнуўшыся на Радзіму ў 1874, Б. жыў у маёнтку сваёй жонкі ў Вераскове.

Літ.: *PSB.*

**БРАЎКОВІЧ Фадзей Аляксеевіч** [1894, в. Слабодка Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шклоўскі р-н Магілёўскай вобл. — ?, ГУЛАГ], партыйны і дзяржаўны дзеяч. Скончыў Аршанскае гарадское вучылішча. У 1915 мабілізаваны ў царскую армію. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі. З 1918 у Чырвонай Арміі. У 1918—27 на ваеннай, партыйнай і савецкай рабоце ў Магілёўскай акрузе, затым вобл. У 1920-х г. быў наркамам фінансаў БССР, старшынёй Полацкага акруговага камітэта КП(б)Б. З 1927 пастаянны прадстаўнік урада БССР пры СНК СССР у Маскве. З 1928 другі саветнік Паўпрэдства СССР у Варшаве. У 1933—36 дырэктар Белдзяржвыдавецтва ў Мінску. Член ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР у 1924—35. Арыштаваны ў 1936. Асуджаны на 10 гадоў лагераў. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1956.

Літ.: *Платонаў Р.* Лёсы. Мн., 2000; *ЭГБ*, т. 2.

**БРУН Юльян** [партыйныя псеўданімы: Спіс; Брановіч; 21.4.1886, Варшава — 28.4.1942], публіцыст. З 1905 член партыі Сацыял-дэмакратыя Каралеўства Польскага і Літвы; з 1919 — КПП. Удзельнічаў у рэвалюцыі 1905—07. Ратуючыся ад рэпрэсій царскіх улад, эмігрыраваў у Францыю, потым у Балгарыю. У 1924 арыштаваны польскімі ўладамі, асуджаны на 8 гадоў турмы. З 1926 у выніку абмену

палітвязнямі — у СССР. Жыў у Маскве, працаваў у ТАСС. У 1929 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь, прадстаўнік ЦК КПЗБ пры ЦК КП(б)Б. У 1928—38 адзін з рэдактараў час. «Nowy przegląd» — тэарэтычнага органа ЦК КПП. У 1936—41 у эміграцыі ў Бельгіі і Францыі. Вясною 1941 прыехаў у СССР. Займаўся публіцыстыкай.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**БРЫЛЕЎСКІ Уладзімір** [1917, Лоск, цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 2002], грамадскі дзеяч. Скончыў афіцэрскую школу ў Дэмбліне, вучыўся ў сельскагаспадарчым інстытуце ў Пулавах. Падчас нямецкай акупацыі ў нацыянальным руху. У канцы 1943 арыштаваны, знаходзіўся у Вілейскай турме. Быў адпраўлены ў лагер у Германію, уцёк, жыў у Рызе, працаваў карэктарам час. «Новы шлях». З канца 1944 у Германіі, арганізаваў у 1947 бел. школку ў Гановеры. З 1949 жыў у ЗША (Саўт-Рывер, штат Нью Джэрсі), потым у Фларыдзе. Аўтар нізкі ўспамінаў пра дзеячаў нацыянальнага руху, што друкаваліся ў «Беларусе» ў 1970—80-х г.

Тв.: Аўтабіяграфія. Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі. *Укл. Юрэвіч Л.* Нью-Ёрк, 1998. С. 299-304; Лоск і яго мінуўшчына // *Беларус*. Нью-Ёрк. 1979. № 262; Беларусы ў даваеннай Варшаве // *Беларус*. 1978, №250, лют.; Мае суст-

рэчы з Вінцэнтам Гадлеўскім // *Беларус*. 1980. № 273; Мае сустрэчы з Вацлавам Іваноўскім // *Беларус*. 1981. № 286.

Літ.: *Юрэвіч Л.* Літаратурны рух на эміграцыі. Мн., 2002.

**БРЫЛЬ Янка** [Іван Антонавіч; іншыя псеўданімы: Іван Асцюк, Сымон Бобрык, Пятрусь Дубец (з К.Кірэенкам), Рыгор Іванавіч Лапцік, Я.Лупаты (з М.Лужаніным, П.Панчанкам, М.Танкам), Ілюк Прышчэпа (з В.Таўлаем), Я.Пчала, Іван Сведка; крыптанімы: Я.Б-ль, Янка Б.; нар. 22.7(4.8).1917, Адэса], празаік, перакладчык. У 1922 пераехаў з бацькамі на іх Радзіму (в. Загора Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.). У 1931 скончыў польскую сямігадовую школу. Са сваімі першымі вершамі выступіў у 1938 у час. «Шлях моладзі». З сак. 1939 служыў у польскай марской пяхоце ў Гдыні. У вер. 1939 трапіў у нямецкі палон. Знаходзіўся ў лагеры для ваеннапалонных у Памераніі (Старгард), потым у Баварыі (Вайдэн), быў на прымусовых працах на шкляной гуце. Уцёк з лагера ўвосень 1941; перабраўся да бацькоў. Увесну 1944 разам з маці і братамі пайшоў у партызаны. Супрацоўнічаў у газ. «Сцяг свабоды» — органе Мірскага падпольнага РК КП(б)Б, наладзіў выданне пры гэтай газеце сатырычнага лістка «Партызанскае жыгала». З кастр. 1944 у Мінску. Загадваў аддзелам рэдакцыі час. «Во-

жык», быў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, намеснікам рэдактара час. «Маладосць», «Полымя». Член СП СССР з 1945. У 1946 выдаў першы зборнік «Апавяданні». Аўтар рамана «Птушкі і гнёзды», аповесцей «Ніжнія Байдуны», «Золак, убачаны здалёк», «Муштук і папка», некалькіх кніг мініяцюр. Яго творчасць вызначаецца лірычным пачаткам, філасафічнасцю, высокай культурай пісьма. У 1966—71 сакратар праўлення СП БССР. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі БССР імя Я.Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі БССР (1982). Народны пісьменнік Беларусі (1981). Жыве ў Мінску.

Тв.: Зб. тв. Т. 1—2. Мн., 1960; Зб. тв. Т. 1—4. Мн., 1967—68; Зб. тв. Т. 1—5. Мн., 1979—81; Выбр. тв. Т. 1—3. Мн., 1992—93; Пішу як жыву. Мн., 1994; Сцежкі, дарогі, прастор. Мн., 2001.

Літ.: *Майхровіч С*. Янка Брыль: Жыццё і творчасць. Мн., 1961; *Канэ Ю*. Янка Брыль: Критико-биографический очерк. М., 1964; *Гусева Л*. Янка Брыль — мастак. Мн., 1968; *Аляхновіч Р.В*. Янка Брыль у школе. Мн., 1979; *Калеснік У*. Янка Брыль: Нарыс жыцця і творчасці. Мн., 1990; *БП*, т. 1.

**БРЭСЛАЎ Барыс Абрамавіч** [29.9 (10.10).1882, в. Мікуліна Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 20.4.1943, НКВД], публіцыст, гісторык. У 1901 за кіраўніцтва забастоўкай на фабрыцы Калбаноў-

скага ў Віцебску сасланы ва Усх. Сібір. Пасля вызвалення ў 1904 працаваў у розных гарадах Расіі, удзельнічаў у рэвалюцыйным руху (Пецярбург, Нікалаеў, Днепрапятроўск, Масква, Екацярынбург). У 1909—11 слухач партыйнай школы ў Лонжумо (Францыя). За рэвалюцыйную дзейнасць арыштоўваўся 4 разы, каля 10 гадоў правёў на катарзе. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 супрацоўнік газ. «Правда», рэдактар газ. «Голос правды» ў Кранштаце. З 1918 на гаспадарчай і дыпламатычнай рабоце. Аўтар кніг і артыкулаў пра рэвалюцыйны рух. Арыштаваны ў 1937. Памёр у турме. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Характер и этапы русской революции: К 1-й годовщине русской революции 27 февраля 1917 — 27 февраля 1918 г. Витебск, 1918.

Літ.: *Корнилович Э.А.* Слушатель школы в Лонжюмо // *Корнилович Э.А.* Люди революционного подвига. Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 2.

**БРЭШКА-БРАШКОЎСКАЯ Кацярына Канстанцінаўна** [дзявочае: Вярыга; 21.1(3.2).1844, Чарнігаўская губ. — 12.9.1934, Чэхаславакія], публіцыстка, мемуарыстка. Адна са стваральнікаў «Кіеўскай камуны» — групы ўдзельнікаў «хаджэння ў народ». У маёнтку Гараны Полацкага пав. (цяпер Полацкі р-н), што належаў стрыечнай сястры

І.Вярыга (Філіп), арганізавала пункт збору прапагандыстаў і іх падрыхтоўкі да «хаджэння ў народ». У вер. 1874 арыштавана ў Падольскай губ. Пасля 3-гадовага зняволення ў турме на «працэсе 193-х» асуджана на 5 гадоў катаржных работ. Пакаранне адбывала ў Забайкаллі, адкуль беспаспяхова спрабавала ўцячы. У 1896 вызвалена па амністыі. У канцы 1890-х г. жыла ў Мінску. Арганізавала перапраўку з-за мяжы нелегальнай літаратуры. Разам з А.В.Бонч-Асмалоўскім удзельнічала ў стварэнні Рабочай партыі паліт. вызвалення Расіі. У 1903 эмігравала ў Швейцарыю. У 1905 вярнулася ў Расію, была адным з лідэраў правага крыла эсэраў. У рэвалюцыйным руху стала вядома як «бабуля рускай рэвалюцыі». Арыштавана ў 1907, пасля 2-гадовага зняволення саслана ў Сібір. Вызвалена Лютаўскай рэвалюцыяй 1917. Падтрымлівала Часовы ўрад. Непрыхільна сустрэла Кастрычніцкую рэвалюцыю. У 1919 эмігравала ў ЗША. У 1924 пераехала ў Чэхаславакію, дзе і памерла.

Тв.: Из моих воспоминаний. СПб., 1906; Воспоминания пропагандистки // *Былое*. 1903, № 4.

Літ.: *Коварский Б.* Е.К.Брешковская. Пг., 1917; *ЭГБ*, т. 2.

**БУДЗІНСКІ Станіслаў Янавіч** [Budzyński; партыйныя і літаратурныя псеўданімы: Стах; Тра-

дыцыя; С.Бяднарскі; Я.Марыянскі; 9.9.1894, Варшава — 22.8.1937, НКВД], рэвалюцыйны дзеяч, публіцыст. У 1912—15 член Варшаўскага камітэта СДКПіЛ. З чэрв. 1917 член Выканкама груп СДКПіЛ у Расіі. Удзельнік Кастрычніцкага ўзброенага паўстання 1917 у Маскве. У снеж. 1917 — сак. 1918 наркам сацыяльнага забеспячэння Масквы і Маскоўскай губ. Са снеж. 1918 у Польшчы. У 1919 арыштаваны польскімі ўладамі. У 1920 па абмене палітвязнямі ў Савецкай Расіі. Рэдактар польскамоўных газет Ваенна-рэвалюцыйнага савета Зах. фронту. З 1930 рэдактар газ. «Звязда», член рэдкалегіі час. «Бальшавік Беларусі». Член ЦК і Бюро ЦК КП(б)Б у 1929—32. З 1934 прафесар Міжнароднай ленінскай школы ў Маскве. Аўтар грамадска-паліт. брашур і артыкулаў. Спрабаваў падвесці ідэалагічную і тэарэтычную аснову пад паліт. кампанію па выкрыцці бел. нацдэмаў (артыкул «Вораг у доме» пра раман М.Зарэцкага «Крывічы»). Арыштаваны ў чэрв. 1937. Рэабілітаваны пасмяротна.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**БУДЗЬКА Францішак Карлавіч** [23.1.1884, в. Вознаўшчына Вілейскага пав. Віленскай губ. — 2.1.1920, в. Янатруда на Полаччыне], рымакаталіцкі святар, культурна-асветны дзеяч,

пісьменнік, перакладчык. У 1899 скончыў Вілейскае павятовае вучылішча. У 1901 здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1901—05 вучыўся ў Пецярбургу ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі, дзе пачаў перакладаць на бел. мову рэлігійныя кнігі. У 1906 працягваў вучобу ў Пецярбургскай Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі. У 1907 вымушаны адмовіцца ад далейшай вучобы з-за цяжкага фінансавага становішча. У 1907 пасвечаны ў святары. З 9.1.1908 вікарый Полацкага касцёла. У 1912—17 у Пецярбургу, дзе служыў вікарыем і вёў заняткі ў Сестржанцэвіцкім павятовым вучылішчы пры касцёле св. Станіслава. Матэрыяльна падтрымліваў выданне першай бел. каталіцкай газ. «Biełarus» (Вільня, 1913—15). Пасля 1917 служыў у Полацкім дэканаце. Член арганізацыйнага камітэта і ўдзельнік 1-га з’езда бел. каталіцкага духавенства (Мінск, 24—25.5.1917). Адзін з пачынальнікаў бел. каталіцкага выдавецкага руху. З усталяваннем ва Усх. Беларусі савецкай улады пераследаваўся органамі бяспекі.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankievič A*. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939.

**БУДКЕВІЧ Барбара** [Budkiewiczowa Barbara; з Цеханоўскіх; 20.11(2.12).1886, маёнтак Глухавец Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ. — 21.8.1937, НКВД], гісторык. Паходзіла са шляхецкай сям'і. З 1904 працавала на варшаўскай фабрыцы. Дзяячка ППС, з 1906 — ППС-лявіцы. Арыштоўвалася царскімі ўладамі ў 1906 і 1909. Вывучала эканоміку ва ун-це *Nouvelle* ў Бруселі. З 1913 у Пецярбургу. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працавала ў Польскім нацыянальным камісарыяце пры Наркамнацы РСФСР. У 1921—23 кіраўнік польскіх сектараў Камуністычнага ун-та імя Свярдлова і Камуністычнага ун-та нацыянальных меншасцей Захаду. У 1926—30 выкладчык гісторыі ВКП(б) у Камуністычным ун-це Беларусі. З 1931 навуковы супрацоўнік польскага сектара, вучоны сакратар Інстытута польскай пралетарскай культуры АН БССР. Арыштавана і расстраляна ў 1937. Рэабілітавана ў 1956.

Тв.: Ruch robotniczy w Królestwie Polskim w latach 1870—1890. Cz. 1. Mińsk, 1934.

Літ.: *Горяинов А.* Славяноведы — жертвы репрессий 1920—1940-х годов: Некоторые неизвестные страницы из истории советской науки // *Советское славяноведение*. 1990, № 2; *SHP*; *ЭГБ*, т. 2.

**БУЗУК Пётр Апанасавіч** [псеўданім і крыптанімы: П.Росіч; П.Б.; П.Р.; П.Р-ч; Р-ч; 2.7.1891, в. Шарпены Бендэрскага пав. — 7.12.1938, Волагда, НКВД], лінгвіст-славіст, літаратуразнавец, паэт, празаік, педагог. Вучыўся ў Ціраспальскім рэальным вучылішчы (1904—10), потым на гісторыка-філалагічным ф-це Новарасійскага ун-та ў Адэсе (скончыў у 1916), выкладаў у гэтым ун-це рускую мову. З 1920 дацэнт гэтага ун-та. З 1924 — доктар філалагічных навук. Па запрашэнні рэктара БДУ У.Пічэты з восені 1925 працаваў у Мінску. У 1926 перайшоў у Інбелкульт, з 1929 старшыня дыялекталагічнай камісіі. Арыштаваны ДПУ БССР 6.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі», праз некаторы час вызвалены. З 1931 дырэктар Інстытута мовазнаўства АН БССР. Адначасова з 1931 загадваў кафедрай мовазнаўства ў МВПІ. Вывучаў праблемы праславянскай мовы, пытанні агульнага і параўнальнага мовазнаўства, распрацоўваў пытанні бел. лінгвістычнай геаграфіі. Пад псеўданімам выступаў у друку з апавяданнямі, вершамі, перакладамі. У 1928 стаў сябрам «Маладняка». Зноў арыштаваны 9.2.1934. Па пастанове «тройкі» пры ДПУ БССР ад 3.4.1934 высланы ў Волагду тэрмінам на 3 гады. У 1934—35 працаваў бібліятэкарам, потым выкладаў нямецкую мову ў Валагодскім педінстытуце. Пасля сканчэння тэрміну высылкі зноў арыштаваны 15.7.1937. Прысуджаны да расстрэлу. Па першым прысудзе рэабілі-

таваны 26.10.1956; па другім — 31.1.1956; цалкам рэабілітаваны 1.6.1988.

Тв.: Очерки по психологии языка. Одесса, 1918; Основные вопросы языкознания. М., 1924; Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў: Гутаркі Невельскага і Вяліскага паветаў. Мн., 1926; Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі. Ч. 1. Мн., 1928.

Літ.: *Рамановіч Я., Юрэвіч А.* П.А.Бузук. Мн., 1969; *Яны ж*. Бузук П.А. // *Беларуская мова*; Бузук П.А. // *Булахов М.* Восточнославянские языковеды: Библиографический словарь. Т. 2. Мн., 1977; *Зленко Г.* Страницы биографии П.А.Бузука: (Несколько существенных уточнений) // *Кодры* (Кишинев). 1973, № 2; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 1.

**БУКЛЯРЭВІЧ Міхаіл Піліпавіч** [12.10.1884, в. Лінгі Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 27.6.1919, в. Бігосава Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл.], рыма-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч. Вучыўся ў гарадскім 2-класным вучылішчы пры Віленскім настаўніцкім інстытуце, якое скончыў у чэрв. 1901. У 1-й Віленскай мужчынскай гімназіі здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня. З 1904 вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасвечаны ў святары ў 1908. З 1908 адміністратар парафіі Нараўка Сакольскага пав. З 1917 адміністратар парафіі ў мяст. Іказнь Дзісенскага пав. Займаўся бел. культурна-асветнай дзейнасцю, адкры-

ваў бел. школы. Прымаў удзел у з'ездзе каталіцкага духавенства Дзісенскага дэканата (6—7.8.1918). У час ваенных падзей 1919 выступіў супраць бальшавіцкіх улад. За антыбальшавіцкую дзейнасць 27.6.1919 асуджаны на смяротнае пакаранне. Расстраляны ў в. Бігосава. 24.3.1920 урачыста перазахаваны ў Іказні (Браслаўскі р-н).

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankiewicz A*. Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia, 1929.

**БУЛГАК Тамаш** [псеўданім: Gulicz; 1811 (1801?), фальварак Міцкевічы на Навагрудчыне — 16.2.1895], публіцыст, мемуарыст. Вучыўся ў Віленскім ун-це. Быў блізкі да філаматаў і філарэтаў. Удзельнічаў у паўстанні 1830—31. З 1836 выконваў даручэнні Ш.Канарскага, які рыхтаваў новае паўстанне. Пасля правалу тайнай арганізацыі ў 1839 Б. сасланы на залатыя капальні ў Зах. Сібір. Дзякуючы сваім вынаходніцтвам і арганізацыйным здольнасцям, стаў кіраўніком шклозавода. З ссылкі дасылаў публікацыі ў «Rocznik Literacki» («Літаратурны штогоднік», 1843—49). У 1857 вярнуўся на Радзіму. Удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання 1863—64. Арыштаваны ў 1863 і сасланы на катаргу ў Томскую губ. У 1869 пераведзены ў Цывільск (Чувашыя), потым у Казань, дзе пачаў

пісаць успаміны. У 1871 амніставаны, вярнуўся дамоў. Пісаў філасофскія трактаты. Лёс многіх рукапісаў невядомы.

Літ.: *Каханоўскі Г.А.* Дарогамі паўстанцаў // *Полымя*. 1989, № 8; *ЭГБ*, т. 2.

**БУРБІС Алесь** [Аляксандр Лаўрэнавіч; псеўданімы і крыптанім: Стары Пілір; А.Алексенка; А.В.; 8(20).10.1885, Вільня — 20.3.1922, Мінск], паліт. дзеяч, публіцыст. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. Адзін з заснавальнікаў БСГ, член яе ЦК. З пачатку 1906 вёў агітацыю і арганізоўваў забастоўкі ў Мінску і ў Навагрудскім пав. Арыштаваны царскімі ўладамі 24.8.1906 у Шчорсаўскай вол. на Навагрудчыне, у зняволенні да канца ліп. 1909. Пасля працаваў у Віленскім таварыстве сельскай гаспадаркі. Адзін са стваральнікаў бел. прафесійнага тэатра. Удзельнічаў у Першай беларускай трупе І.Буйніцкага, у Беларускім музычна-драматычным гуртку ў Вільні. Паставіў спектаклі «Па рэвізіі» (1906) і «Пашыліся ў дурні» (1910) М.Крапіўніцкага, «Залёты» В.Дуніна-Марцінкевіча (1915). З 1915 — у Народным банку (Масква). У 1918 консул БНР у Маскве. Арыштоўваўся органамі Савецкай улады 18.12.1917 і ў 1918. З мая 1919 у Наркамземе Літоўска-Беларускай ССР. У 1920 удзельнічаў у выданні газ. «Савецкая Беларусь». З

ліп. 1921 нам. наркама замежных спраў БССР. Актыўна выступаў за ўзбуйненне тэрыторыі БССР. Адзін з арганізатараў Таварыства Чырвонага Крыжа Беларусі.

Тв.: Кароткі агляд беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху // *Вести народного комиссариата просвещения ССРБ*. 1921, № 1—2; Кароткі нарыс па эканамічнай геаграфіі Беларусі // *Народное хозяйство Белоруссии*. 1922, № 4; Беларуская сацыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы (1903—1907) // *Беларусь*. Мн., 1924.

Літ.: *П. Б*[адунова]. Памяці А. Бурбіса // *Адраджэнне*. 1922. Сш. 1; *Байкоў М*. Памяці А. Бурбіса // *Вести народного комиссариата просвещения ССРБ*. 1922, № 3—4; *Луцкевіч А*. Аляксандр Бурбіс // *Беларускі звон*. 1922, 22 крас.; *Хлебцевич Е*. Памяти А. Л. Бурбиса // *Каторга и ссылка*. 1923, № 5; *Жылуновіч З*. Алесь Бурбіс // *Полымя*. 1927, № 2; *Пазняк З*. Бурбіс і Цётка — на сцэне // *ЛіМ*. 1972, 17 сак.; *Біч М*. «Стары змаганец» // *Мастацтва Беларусі*. 1986, № 3; *ЭГБ*, т. 2.

**БУРДЗЕЙКА Андрэй Вікенцевіч** [8(20).6.1899, Мінск — 1941 ?], гісторык. У 1925 скончыў БДУ. Працаваў навуковым супрацоўнікам у Беларускім дзяржаўным музеі. Вывучаў Статуты ВКЛ. Даказаў існаванне прыгонніцтва ў ВКЛ. Упершыню ў бел. гістарыяграфіі адзначыў ролю Навагрудка як сталіцы ВКЛ у XIII ст. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5

гадоў ссылкі, якую адбываў у Елабузе (Татарстан). Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Нарыс сацыяльна-эканамічнага жыцця места Навагрудку ў XVI ст. // *Гістарычна-археалагічны зборнік*. 1927, № 1; Землеўласнік і земляроб па Літоўскаму статуту 1566 г. // *Працы БДУ*. 1927, № 14—15; 1928, № 20.

Літ.: *Пичета В.* Изучение Литовских статутов в новейшей историко-юридической литературе (1918—1940 гг.) // *Пичета В*. Белоруссия и Литва в XV—XVI в. М., 1961; *ЭГБ*, т. 2.

**БУРСЕВІЧ Максім Тарасавіч** [псеўданім: Трыліснік; 9.8.1890, в. Чамяры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 13.11.1937, Салаўкі, НКВД], дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, педагог, публіцыст. Скончыў Слонімскае вучылішча. З 1911 настаўнічаў на Палессі. У 1915—21 жыў на Украіне (Харкаўшчына). Вярнуўся на Радзіму ў 1921; працаваў настаўнікам на Віленшчыне. У першай палове 1920-х г. двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі за спробы арганізаваць прыватныя бел. школы на Навагрудчыне і Слонімшчыне. У 1925 увайшоў у актыў Беларускага пасольскага клуба. З 1926 член БСРГ, кіраўнік яе Цэнтральнага сакратарыята. Арыштаваны польскімі ўладамі ў лютым 1927. На «працэсе 56-і» ў 1928 прыгавораны да 8 гадоў турмы; у 1929 апеляцыйны суд

скарацій тэрмін да 4 гадоў. Пасля вызвалення жыў у Вільні. У 1931 у выніку абмену палітвязнямі трапіў у СССР, жыў у Мінску. Працаваў у Дзяржплане БССР і ў Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі пры АН БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 21.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Прысуджаны 9.1.1934 да расстрэлу, які быў заменены 10 гадамі зняволення. Пакаранне адбываў на Салаўках і на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. 9.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух прысудах 16.8.1956.

Літ.: *Бергман А.* Максім Бурсевіч: (Кароткі біяграфічны нарыс) // *Беларускі каляндар — 1981*. Беласток, 1981; *Микула Е.* Максим Бурсевич: «Я — из венка Громады» // *Чалавек і закон*. 1993, № 1; *ЭГБ*, т. 2.

**БУРСТЫН Цэлясцін Лявонавіч** [28.1.1888, Цярнопаль, Аўстра-Венгрыя, цяпер Украіна — 21.10.1938, Мінск, НКВД], матэматык, філосаф. Нарадзіўся ў яўрэйскай купецкай сям'і. У 1911 скончыў Венскі ун-т. Доктар філасофіі (1912). З 1925 член Камуністычнай партыі Аўстрыі. З-за левых поглядаў не мог знайсці працу ў Аўстрыі па спецыяльнасці. У 1929 па запрашэнні БДУ пераехаў у Мінск. Прафесар, загадчык кафедры вышэйшай матэматыкі БДУ. З 1931 дырэктар Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН. Акадэмік БелАН (1931).

Апрача навуковых прац напісаў на бел. мове вучэбны дапаможнік. Арыштаваны 10.12.1937. Памёр у мінскім турэмным шпіталі ад хваробы сэрца. Рэабілітаваны 2.3.1956.

Тв.: Матэматычныя працы. Мн., 1932; Курс дыферэнцыяльнай геаметрыі. Мн., 1933; Фізічныя метады матэматыкі. Мн., 1933.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**БЫЛІНА Янка** [сапр.: Семашкевіч Янка; псеўданім: Ядловец; крыптанімы: Я.Б.; J.B.; 1883, в. Лакцяны Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Астравецкі р-н Гродзенскай вобл. — 18.2.1956, мяст. Мар'янава, Польшча], рыма-каталіцкі святар, паэт, драматург. У 1907 скончыў Віленскую духоўную семінарыю. У гэтым жа годзе пасвечаны ў святары. Служыў у касцёлах на Слонімшчыне, Вілейшчыне, Ашмяншчыне, Віленшчыне, Беласточчыне. За ўжыванне бел. мовы ў казаннях праследаваўся польскімі ўладамі. Пачаў друкавацца з 1917 (газ. «Гоман»). Публікаваўся ў перыядычных выданнях Зах. Беларусі, у тым ліку ў рэлігійных («Kryniса», «Chryścijanskaja Dumka»), сатырычных (час. «Авадзень» і «Маланка»), дзіцячым (час. «Пралескі», пад псеўд. Ядловец). Патрыятычныя і гумарыстычныя творы Б. выкарыстоўваліся аматарскімі калектывамі ў Зах. Беларусі. Арыштава-

ны савецкімі ўладамі ў канцы вер. 1939 (?). Апошнія гады жыцця правёў на Беласточчыне.

Тв.: Na pryzbie. Wilnia, 1918 (2-е выд.: 1924); Wybar staršyni: Wiaskowaja trahikamedyja u 3-ch dziejach z časou carskich. Wilnia, 1926 (2-е выданне: Выбар старшыні. Вільня, 1938); Daroha kryža. Wilnia, 1930; Na pokuci: Bajki i roznyja wieršy. Wilnia, 1934.

Літ.: *Гарэцкі М.* Быліна Я. // Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992; *БП*, т. 1; *Гарбінскі БРД*.

**БЯГАНСКАЯ Ядвіга Іосіфаўна** [псеўданім: Ядвіга Рута; 16(29).2.1908, Верхне-Удзінск, цяпер Улан-Удэ — 3.4.1992, Мінск], празаік, перакладчыца. Нарадзілася ў сям'і бел. перасяленцаў у Сібір, якія вярнуліся на Беларусь у 1922. З 1924 у Мінску. У 1924 паступіла на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ, якое скончыла ў 1930. Настаўнічала. Пачала публікаваць вершы з 1926. У 1937 былі арыштаваны яе муж паэт А.Сак і бацька Іосіф Вікенцевіч (абодвух расстралялі). 6.11.1937 арыштавана і сама Б. і 4.1.1938 асуджана на 10 гадоў лагераў; адпраўлена на Калыму. Вызвалена 6.11.1947. У пачатку 1948 узяла шлюб з мастаком М.Леберфарбам, жыла на Чукотцы. У 1948 ёй дазволілі вярнуцца на Беларусь. Да 1955 жыла ў Рэчыцы. Рэабілітавана ў 1954. Пасля рэабілітацыі першага мужа ў 1955

пераехала з сям’ёй у Мінск. У 1956—63 працавала рэдактарам на Беларускім радыё. З 1963 на пенсіі. З 1953 пачала выступаць як празаік. Перакладала з польскай і славацкай моў. Член СП СССР з 1957.

Тв.: Далёка на Поўначы. Мн., 1954; Нечаканая сустрэча: Аповесці і апавяданні. Мн., 1978; Сланечнікі: Апавяданні. Мн., 1980; Ля самага сіняга мора: Аповесці і апавяданні. Мн., 1982; Сонцу і ветру насустрач: Аповесці і апавяданні. Мн., 1988.

Літ.: *Агняцвет Э.* Слова пра сяброўку // *ЛіМ*. 1968, 27 лют.; *Васілеўская Г.* Вытокі творчасці // *Работніца і сялянка*. 1978, № 2; *БП*, т. 1.

**БЯЛЬКЕВІЧ Янка** [Іван Кандратавіч; крыптанім: І.Б.; 22.2(6.3).1883, в. Варонічы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 18.10.1960, Жданаў, цяпер Марыупаль Данецкай вобл., Украіна], мовазнавец, педагог. У 1909 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю; выкладаў у школах Слонімшчыны. З 1915 у эвакуацыі ў Саратаўскай губ. (Расія), у 1919—20 зноў на Слонімшчыне. Са жн. 1920 працаваў у Наркамаце асветы БССР, у школах Мінска. У пачатку 1920-х г. быў членам БПС-Р. У 1925 скончыў этнолага-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. У 1925—27 выкладчык і дырэктар Мсціслаўскага педтэхнікума. З 1927 навуковы

супрацоўнік Інбелкульта і Інстытута мовазнаўства АН БССР. Вывучаў дыялекталогію і культуру бел. літаратурнай мовы. Аўтар «Краёвага слоўніка Усходняй Магілёўшчыны» (падрыхтаваны ў 1920-х г., выдадзены ў 1970). Арыштаваны ДПУ БССР 17.2.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Вінаватым сябе не прызнаў. Паводле пастановы калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Іашкар-Алу. Працаваў на лесапавале. Пасля вызвалення выехаў у Данецкую вобл., дзе выкладаў у школах рускую мову і літаратуру. У 1948—58 працаваў у розных навучальных установах Жданава. Да канца жыцця не атрымаў дазволу вярнуцца на Радзіму. Рэабілітаваны 19.9.1960.

Тв.: Слоўнік граматычна-лінгвістычны // *Узвышша*. 1928, № 2(8).

Літ.: *Германовіч І.К.* Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навуковай дзейнасці. Мн., 1985. С. 133—179; *ЭГБ*, т. 2; *Беларуская мова*.

**БЯРОЗКА Анатоль** [сапр.: Смаршчок Мітрафан (Мацвей); 19.2.1915, в. Падлессе Баранавіцкага пав. цяпер Ляхавіцкі раён Брэсцкай вобл.]. Скончыў медыцынскі ф-т Віленскага ун-та (1939). Браў удзел у студэнцкім руху. У 1939—41 працаваў урачом у Баранавічах і Пінску. Падчас нямец-

кай акупацыі працаваў урачом у Баранавічах, быў дырэктарам мясцовай медыцынскай школы. У 1944 арыштаваны немцамі і заключаны ў канцлагер. Вызвалены. З 1948 жыве ў ЗША. Быў адным з заснавальнікаў Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны. Працаваў лекарам у доме для састарэлых ва універсітэцкай клініцы ў Мантысэле (штат Мінесота). У 1989 выдаў зборнік «Адзінаццаць вершаў» (на бел. і англійскай мовах). На эміграцыі фактычна не пісаў.

Літ.: *Багдановіч І.* Канваліі Радзімы. // *ЛіМ.* 2001. 6 ліп. (№ 27); *Юрэвіч Л.* Літаратурны рух на эміграцыі. Мн., 2002.

**БЯРОЗКІН Рыгор Саламонавіч** [псеўданімы: Р.Барута; С.Тарасаў; 3.7.1918, Магілёў — 1.12.1981, Мінск], крытык, журналіст. Вучыўся на педрабфаку ў Магілёве, у 1933—38 на літаратурным ф-це МВПІ. Пачаў друкавацца ў 1935. У 1938—41 працаваў загадчыкам аддзела крытыкі час. «Полымя рэвалюцыі», лікуансультантам у кабінеце маладога аўтара пры СП БССР (1938—39), загадчыкам аддзела крытыкі газ. «Літаратура і мастацтва» (1939—41). Член СП СССР з 1939. Арыштаваны НКВД БССР у крас. 1941. Знаходзіўся пад следствам у Мінску. Па адной з версій, калі 26.6.1941 калону зняволеных, сярод якіх быў Б., пакінуў канвой, ён уцёк. Удзельнічаў у баях пад Сталінградам, Кіевам, у Карпатах.

Атрымаў баявыя ўзнагароды. Пасля вайны быў карэспандэнтам газеты савецкай ваеннай адміністрацыі ў Германіі «Советское слово». Паўторна арыштаваны 9.8.1949; у чэрв. 1950 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Знаходзіўся ў зняволенні ў Карагандзінскай і Омскай абласцях. У 1955 вызвалены; рэабілітаваны ў 1956. З 1960 працаваў у час. «Советская Отчизна», газ. «Літаратура і мастацтва», літсупрацоўнікам бюлетэня «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі». У канцы 1950 — пачатку 1960-х г. шмат публікаваўся, імкнуўся аднавіць імёны рэпрэсаваных паэтаў. Пісаў на бел., рускай, яўрэйскай мовах. Пахаваны на Усх. могілках Мінска.

Тв.: Кніга пра паэзію. Мн., 1974; Свет Купалы. Мн., 1981; Человек на заре: Рассказ о Максиме Богдановиче — белорусском поэте. М., 1970; Паэзія — маё жыццё. Мн., 1989.

Літ.: *Клышко А.* Мастерство критика // *Дружба народов*. 1960, № 1; *Адамовіч А.* Талент крытыка // *Полымя*. 1962, № 6; *Лойко О.* Открытие поэта // *Вопросы литературы*. 1967, № 3; *Каваленка В.* Крытык і паэт // *Полымя*. 1969, № 5; *Бечик В.* В неразрывном единстве // *Нёман*. 1978, № 6; *БП*, т. 1.

**ВАДКОЎСКІ Фёдар Фёдаравіч** [1800, Віцебская губ. — 20.1.1844, Іркуцкая губ.], дзекабрыст, паэт. Паходзіў з дваранскай сям'і. Выхоўваўся ў Маскоўскім універсітэцкім пансіёне (1810—12) і ў прыватных пансіёнах Пецярбурга. Вайсковую службу пачаў у прэстыжных Сямёнаўскім (1818) і Кавалергардскім палках. У 1824 за жарты на адрас цара і сатырычную песню пераведзены прапаршчыкам у Нежынскі конна-егерскі полк. Член тайнага Паўночнага таварыства, а з 1823 — Паўднёвага таварыства; прыхільнік радыкальнай праграмы — знішчэння царскай сям'і і ўсталявання рэспубліканскага ладу ў Расіі. Арыштаваны 21.12.1825 у Курску; асуджаны на вечную катаргу; пазней тэрмін катаргі скарочаны да 20 і 13 гадоў. З 1839 на пасяленні ў Іркуцкай губ. Пісаў рэвалюцыйныя вершы на рускай мове, аўтар музыкі да песні «Славянскія дзевы».

Літ.: *Восстание декабристов: Материалы*. Т. 1. М.; Л., 1925; *Декабристы: Новые материалы*. М., 1955; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**ВАЗІЛА Аляксандр Цімафеевіч** [псеўданімы і крыптанім: Алек де-Вазиллини; Клим Злобич; Правдолюб; Антон Хатыня; Саша Косматый; Аль-Вэ; 28.8(9.9).1888, мяст. Прапойск Быхаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Слаўгарад Магілёўскай

вобл. — 4.12.1937, Уладзімір, НКВД], грамадскі дзеяч, паэт, публіцыст. Вучыўся на Вышэйшых курсах Т.Лесгафта ў Пецярбургу; у 1908 выключаны за ўдзел у рэвалюцыйным руху і, па некаторых звестках, сасланы ў Сібір. У 1912—13 друкаваўся ў газ. «Белорусский вестник». Выдаў у 1914 у Златавусце Уфімскай губ. зборнік паэзіі «Волны», які быў канфіскаваны цэнзурай (у кнізе была і аўтабіяграфічная частка пра жыццё ссыльных у Сібіры); супраць аўтара распачата судовая справа. Гэта перашкодзіла выданню В. заяўленага ім штотыднёвіка «Уральская искра». У 1916—17 займаўся на курсах каапераціі ў Петраградзе. У 1917—18 сацыял-дэмакрат-інтэрнацыяналіст, старшыня Быхаўскай пав. земскай управы. На 1-м Усебеларускім з’ездзе 1917 выступіў супраць намеру абвясціць бел. дзяржаўнасць. Яго прамова была надрукавана асобнай брашурай. У 1918 быў рэдактарам час. «Чырвоны шлях». З 1919 адышоў ад паліт. дзейнасці. Арыштоўваўся 18.12.1917, у 1924 і 1932. Пасля арышту 1937 загінуў у следчым ізалятары Уладзіміра. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Волны: Стихи. Златоуст, 1914; Речь, произнесенная на 1-м Всебелорусском съезде. Пг., 1918.

Літ.: *Мельнікаў М.* Ці ведаеце вы Аляксандра Вазілу? // *ЛіМ*. 1963, 2 жн.; *Белюшин М.* Арестованная брошюра // *Неман*. 1975, № 1; *БП*, т. 1; *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЙНІЛОВІЧ Восіп Мікалаевіч** [1860, Віцебск — 24.5.1890, Віцебск], рэвалюцыянер-народнік, публіцыст. Са старажытнага шляхецкага роду герба «Габданк». У час вучобы ў Віцебскай гімназіі быў членам Віцебскага рэвалюцыйнага гуртка. З 1882 вучыўся на медыцынскім ф-це Варшаўскага ун-та, дзе стаў адным са стваральнікаў Варшаўскага нарадавольскага гуртка бел. студэнтаў. Варшаўская кватэра В. выкарыстоўвалася нарадавольцамі для канспіратыўных сувязей з польскай партыяй «Пралетарыят»; сюды паступала пошта, друкарскае абсталяванне. У крас. 1883 за ўдзел у выступленні варшаўскіх студэнтаў выключаны з ун-та. Жыў у Віцебску пад наглядам паліцыі. Арыштаваны 8.3.1884; вызвалены ў снеж. 1884. Даваў прыватныя ўрокі. Займаўся літаратурнай творчасцю.

Літ.: *Czerepica W.* Związki rewolucjonistów Białorusi i Polski w latach 70—80 XIX wieku. Warszawa, 1985; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**ВАЙНОЎ [ВОЙНАЎ] Віктар Лявонцевіч** [23.2.1904, в. Палужжа Навагрудскага пав. Мінскай губ. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], журналіст. У 1926—27 сакратар Магілёўскага акружкама КП(б)Б. Быў загадчыкам сельгассектара газ. «Звязда». На момант арышту праца-

ваў на фабрыцы «Камунарка». Прысуджаны да расстрэлу 28.10.1937. Рэабілітаваны 28.4.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ВАЙНШТЭЙН Арон Ісакавіч** [партыйныя псеўданімы: Рахміэль; Рахмілевіч; 23.11.1877, Вільня — 1938], палітычны дзеяч, публіцыст. У 1897 скончыў Віленскі яўрэйскі настаўніцкі інстытут. Працаваў на педагагічных курсах у Варшаве. Удзельнічаў у выданні газ. «Варшаўскі рабочы». З 1897 член Бунда, з 1901 член яго ЦК, у 1917—21 старшыня ЦК Бунда (да яго роспуску). Неаднаразова арыштоўваўся царскімі ўладамі; у 1914—17 сасланы ў Сібір. У 1917 старшыня Мінскай гарадской думы. 31.7.1920 ад імя Бунда падпісаў Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці Беларускай ССР. У снеж. 1920—21 старшыня Саўнаргаса БССР. У канцы 1921 накіраваны ў Кіргізію, нам. старшыні СНК Кіргізіі. З 1923 у Наркамаце фінансаў СССР. Арыштаваны ў 1938; загінуў у зняволенні.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЙШНАРАС Феліксас** [Vajšnoras Feliksas; псеўданімы: М.Дзегас; Ф.Садайніс; 18.5.1897, в. Пільвішкіс Ковенскай губ., цяпер Вілкавішскі р-н,

Літва — 21.8.1972, Вільнюс], літоўскі паэт, перакладчык, журналіст. У 1916—18 знаходзіўся ў працоўным лагеры, арганізаваным нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. У 1919 стаў членам ВКП(б). Арганізоўваў прафсаюзны рух у родных мясцінах. У 1921—23 зняволены ў каўнаскай турме, дзе пачаў пісаць вершы. У 1923 у выніку абмену палітвязнямі апынуўся ў Маскве. У 1925 скончыў Камуністычны ун-т нацыянальных меншасцей Захаду. Працаваў у розных выдавецтвах Масквы і Смаленска. З 1930 у Мінску, працаваў у газ. «Raudonasis artojas» («Чырвоны араты»), у 1934—37 — яе рэдактар. З 1934 член СП СССР. Быў членам бюро літоўскай секцыі БелАПП, сакратаром літоўскай секцыі СП БССР. Перакладаў на літоўскую мову творы Я.Купалы, Я.Коласа, Т.Кляшторнага, І.Харыка, рускіх і латышскіх пісьменнікаў. Арыштаваны 23.8.1937; у 1939 прысуджаны да 5 гадоў ссылкі, якую адбываў у Казахстане. Пасля вызвалення ў 1944—45 служыў у 16-й літоўскай дывізіі Чырвонай Арміі. З 1945 у Вільнюсе, працаваў у розных выдавецтвах і грамадскіх арганізацыях. З 1957 на пенсіі. У 1965 стаў заслужаным дзеячам культуры Літоўскай ССР. Напісаў і апублікаваў кнігу ўспамінаў.

Тв.: Po darbo ir kovos vėliavą. Minskas, 1934; Į šviesų gyvenimą: Atsiminimas. Vilnius, 1960.

Літ.: *Мальдзіс А.* Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час // *Старонкі літаратурных сувязей*. Мн., 1970; *БП*, т. 1.

**ВАЛАДКЕВІЧ Каспар Восіпавіч** [8.2.1891, в. Слабада Віленскага пав. — 1970], рыма-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч. У 1909 скончыў гарадское 3-х класнае вучылішча ў Ашмянах. У ліст. 1911 атрымаў пасведчанне на званне аптэкарскага вучня ў навучальнай акрузе Пецярбурга. З 1912 вучыўся ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі. Пасвечаны ў святары (1920). Быў прызначаны вікарыем у Саколку. У 1921—28 пробашч у парафіі Маева. Прыхільнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Распаўсюджваў сярод сваіх парафіян бел. выданні. На пачатку ліп. 1921 абвінавачаны польскімі ўладамі ў антыдзяржаўнай дзейнасці. 26.10.1923 акруговым судом у Вільні апраўданы. У 1929—33 служыў святаром у Малой Бераставіцы. З 1934 пробашч у мясцовасці Квасоўка каля Гродна. У перадваенныя гады служыў у парафіі Анжадаў.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**ВАЛАСЕВІЧ Янка** [1912 — 1937, Мінск, НКВД], паэт. Скончыў літаратурны ф-т МВПІ. Арыштаваны ў 1936 (?). Закатаваны ў мінскай «амерыканцы».

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ВАЛІЦКІ Аляксандр** [псеўданімы і крыптанімы: Міськюк; Міншчук; Miściuk; Nowogrodzianin; Nowogrodzianin W.M.; Pauza Symforjan; W.; Z.; Żeleźniak; Alexander Żeleźniak; 27.1(8.2).1826, Вільня — 13.6.1893, Варшава], літаратар, музычны крытык, выдавец. Скончыў Слуцкую гімназію, філалагічны ф-т Харкаўскага ун-та. Вучыўся музыцы ў Слуцку і Вільні (скрыпка і фартэпіяна). У 1858—62 дасылаў музычныя агляды і рэцэнзіі ў варшаўскі час. «Ruch muzyczny». У 1863 заснаваў у Мінску кнігарню, вакол якой утварыўся літаратурны клуб. У 1863 за ўдзел у антыўрадавых дэманстрацыях сасланы ў Тамбоў. Кнігарню В. прыняла яго сястра Соф'я Савіцкая. З 1868 жыў у Варшаве, быў журналістам і выдаўцом. У 1890—93 быў захавальнікам бібліятэкі і архіва Радзівілаў у Нясвіжы. Сябраваў з С.Манюшкам, В.Дуніным-Марцінкевічам, А.Кіркорам, Я.Лучынам (дапамагаў яму выдаваць свае творы). Пісаў на польскай, а паводле ўспамінаў Р.Зямкевіча, і на бел. мове (гэтыя творы не знойдзены).

Тв.: Stanisław Moniuszko. Warszawa, 1873.

Літ.: *Słownik muzyków polskich*. T. 2. Kraków, 1967; *Słownik pracowników książki polskiej*. Warszawa—Łódź, 1972; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**ВАЛОВІЧ Міхал Казіміравіч** [18.6.1806, маёнтак Парэчча Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 2.8.1833, Гродна], кіраўнік сялянскага паўстання на Слонімшчыне. Скончыў Віленскі ун-т. Прыняў удзел у паўстанні 1831—32, у сувязі з яго паражэннем быў вымушаны эміграваць у Францыю, дзе зблізіўся з дэмакратычнымі арганізацыямі, рухам карбанарыяў. Пад уплывам Ю.Заліўскага вырашыў прыняць удзел у яго ваеннай экспедыцыі на тэрыторыю Беларусі і Літвы, каб узняць там (у адрозненне ад папярэдняга) сялянскае паўстанне. Меркавалася, што карбанарыі Зах. Еўропы, перамогшы ў сябе, дапамогуць паўстанцам. Па рашэнні Ю.Заліўскага В. узначаліў слонімска-навагрудскую акругу. 19.3.1833 паўстанцы перайшлі расійскую мяжу і пачалі дзейнічаць на Слонімшчыне і Гродзеншчыне. У атрад В. прыйшлі сяляне з Парэчча, Вострава і Бардашоў. Каб здабыць грошы, паўстанцы напалі на пошту. Меркавалася ўзяць штурмам турму ў Слоніме з тым, каб вызваленыя вязні далучыліся да паўстанцаў. Але такія дзеянні ўстрывожылі ўлады. Гродзенскі губернатар Мураўёў даў загад акружыць атрад В. над Шчарай. В. спрабаваў скончыць жыццё самагубствам, але пісталет даў асечку. Паўстанцы трапілі ў палон. Усяго па Гродзеншчыне было арыштавана звыш 150 чалавек. На допыце В. сведчыў, што «хацеў выкарыстаць мяркуемае паўстанне, каб здзейсніць свой намер і *выз-*

*валіць сялян»* (апошнія два словы падкрэслены следчым). 11.6.1833 у Гродне пачаўся судовы працэс. Побач з В. на лаве падсудных сядзелі 10 сялян. В. быў прысуджаны да пакарання смерцю праз чацвертаванне, аднак князь Далгарукаў змякчыў прысуд. В. павесілі ў Гродне 2.8.1833. Астатнія паўстанцы былі высечаны нагайкамі і сасланы ў Сібір — на катаржныя работы, у арыштанцкія роты, на пасяленне. У ссылку адправілі таксама паўстанцаў з Воранава на чале з М.Шыманскім.

Літ.: *Мальдзіс А.* «...Прыгавораны да пакарання праз павешанне» // Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; *Sidorowicz-Czerniawska K.* Sprawa emisarjusza Michała Wołłowicza w r. 1833. Grodno, 1934.

**ВАЛОШЫН Павел Пятровіч** [28.6(10.7).1891, в. Гаркавічы Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Беластоцкае ваяв., Польшча — 3.11.1937, Салаўкі, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. У 1908—12 працаваў паштовым служачым у Крынках (Беласточчына). У 1912 прызваны ў войска. Удзельнічаў у 1-й сусветнай вайне, быў паранены, трапіў у нямецкі палон. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў міліцыянерам у Екацярынаславе. У жн. 1919 у дзянікінскай арміі. Потым ваяваў на баку Чырвонай Арміі (у атрадзе Р.Катоўскага). У 1922 вяр-

нуўся на Радзіму. Уваходзіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю, потым у Беларускую партыю незалежных сацыялістаў. 31.7.1923 абраны дэпутатам польскага сейма, увайшоў у Беларускі пасольскі клуб. Стаў адным з заснавальнікаў БСРГ, у 1926—27 член яе ЦК. У 1926 увайшоў у КПЗБ. Пасля забароны БСРГ арыштаваны польскімі ўладамі ў лют. 1927; на працэсе над грамадоўцамі («працэс 56-і») асуджаны на 12 гадоў турмы. У выніку абмену паліт. зняволенымі з 1932 у СССР. Выступаў з лекцыямі і публікацыямі. З сак. 1933 у Мінску. Працаваў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы і ў Бібліяграфічным інстытуце пры гэтай бібліятэцы, займаўся грамадскай дзейнасцю. Арыштаваны 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 Калегіяй ДПУ БССР прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў. Сасланы на Салаўкі. 9.10.1937 Асобай «тройкай» УНКВД па Ленінградскай вобл. зноў прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 16.8.1956.

Літ.: *Бергман А.* Павел Валошын // *Беларускі каляндар на 1983 год*. Беласток, 1983; *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЛЫНЕЦ Флягонт Ігнатавіч** [27.12.1878 (8.1.1879), Вілейка — 27.11.1937, Салаўкі, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, педагог. У 1900

скончыў курсы па падрыхтоўцы народных настаўнікаў пры Свянцянскім народным вучылішчы. Настаўнічаў на Віленшчыне. За паліт. ненадзейнасць пазбаўлены права выкладаць. Працаваў страхавым агентам. У 1916—17 служыў вайскоўцам у Мінску. З ліст. 1917 гарадскі галава Вілейкі, з лютага 1918 старшыня гарсавета; у час нямецкай акупацыі абраны жыхарамі горада бургамістрам. У 1920-х г. неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. З 1926 у БСРГ, са снеж. 1927 член Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Разам з сенатарам А.Уласавым і Р.Шырмам актыўна ўдзельнічаў у працы павятовых і акруговых упраў ТБШ. У 1928 і 1930 абіраўся дэпутатам польскага сейма. Адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнай арганізацыі «Змаганне». Пасля роспуску сейма 30.8.1930 арыштаваны; член КПЗБ з 1932. 15.9.1932 у выніку абмену паліт. зняволенымі пераехаў у Мінск. Працаваў у Наркамаце камунальнай гаспадаркі БССР. Арыштаваны 31.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 Калегіяй ДПУ БССР прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі лагераў. Сасланы на Салаўкі. 9.10.1937 Асобай «тройкай» УНКВД па Ленінградскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух прыгаворах 16.8.1956.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ВАЛЬКОВІЧ Аляксандр Іванавіч** [21.4(3.5).1892, Мінск (?) — 4.11.1937, Мінск, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч. У 1914—15 працаваў у Віленскім аддзяленні Дзяржаўнага зямельнага банка. У пачатку 1-й сусветнай вайны ў эвакуацыі ў Тамбове. З вер. 1915 у арміі, у 1916 скончыў школу прапаршчыкаў (Горы). Член БПС-Р. З 1918 у Мінску. Прадстаўнік БНР пры ўрадзе Грузіі, міністр фінансаў БНР. У час польскай акупацыі Беларусі 1919—20 арыштоўваўся, уцёк за мяжу. У снеж. 1925 вярнуўся ў Мінск. Працаваў інспектарам у Наркамаце фінансаў. У выніку чысткі апарату Наркамфіна ў сак. 1930 пазбаўлены работы. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы АДПУ СССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Белябей (Башкірыя). 25.5.1937 арыштаваны НКУС Башкірскай АССР па абвінавачанні ў прыналежнасці да «Польскай вайсковай арганізацыі». 28.10.1937 «двойкай» (наркам унутраных спраў і пракурор СССР) прыгавораны да расстрэлу. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 10.6.1988.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ВАНСОЎСКІ Баніслаў Антонавіч** [1898, Варшава — 1.9.1938, Мінск, НКВД], публіцыст. На момант арышту дырэктар «Белсельгасэлектра».

Арыштаваны 26.3.1937. Асуджаны 17.12.1937. Расстраляны. Рэабілітаваны 18.10.1963.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**ВАСІЛЕВІЧ Язэп Ігнатавіч** [4(16).9.1870, мяст. Крывічы Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 1934, Башкірыя], грамадска-паліт. дзеяч, педагог, археолаг, публіцыст. Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі, Маскоўскім археалагічным інстытуце (скончыў у 1914), Маскоўскім юрыдычным інстытуце (1914—17). У 1917 стаў адным з лідэраў Беларускай народнай грамады. Адзін са стваральнікаў і ў 1917—19 дырэктар Будслаўскай беларускай гімназіі. У 1919—20 жыў у Маскве. У жн. 1920 вярнуўся ў Будслаў, да кастр. быў дырэктарам школы. З 1921 дырэктар МБПТ. Адначасова выкладаў у БДУ археалогію. У 1924 перасяліўся ў Віцебск і стаў дырэктарам культурна-гістарычнага музея. Браў удзел у падрыхтоўцы і скліканні Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Арыштаваны ДПУ БССР 1.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 высланы ва Уфу (Башкірыя), дзе і памёр. Рэабілітаваны.

Тв.: Віцебскі дзяржаўны культурна-гістарычны музей // *Віцебшчына*. Т. 2. Віцебск, 1928.

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *ЭГБ,* т. 2.

**ВАСІЛЕЎСКІ Даніла Мінавіч** [псеўданімы і крыптанім: А.Вітэнь; Д.Вітэнь; Д.В.; М.Доброведовский; Шчыры; Д.Шчыры; Шчырый; Д.Шчырый; 17.12.1889, в. Новае Сяло Віцебскага пав., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 28.12.1963, Феадосія, Крым], краязнавец, гісторык, літаратуразнавец, педагог. Вучыўся ў Полацкай настаўніцкай семінарыі, дзе ўвайшоў у гурток «Вястун ведаў», што знаходзіўся пад уплывам народніцкіх і сацыял-дэмакратычных ідэй. З 1910 пачаў збіраць фальклор на Полаччыне. Працягваў адукацыю ў Віцебскім настаўніцкім інстытуце. У 1914—15 на педагагічнай рабоце. Дасылаў свае допісы ў час. «Школа и жизнь» (псеўдзанім М.Доброведовский) і ў газ. «Наша ніва» (псеўданімы Шчыры і Вітэнь). З 1919 інструктар школ на Віцебшчыне, пасля — інспектар народнай асветы ў Оршы. У 1920-я г. актыўна далучыўся да краязнаўчага руху: у 1923 арганізоўвае Віцебскае губернскае бюро краязнаўства, з 1924 намеснік старшыні Аршанскага акруговага таварыства краязнаўства. У 1925 стаў кандыдатам Аршанскай філіі «Маладняка». Публікаваўся ў газ. «Савецкая Беларусь» і «Придвинский край». З 1930 у Магілёве, дэкан геаграфічнага ф-та Магілёўскага педінстытута. Удзельнік раскопак верхнепалеалітычнай стаянкі Бердыж. Даследаваў гісторыю бел. літаратуры XIX ст., бел. кнігадрукавання, пытанні этнаграфіі і сацыяльна-эканамічнага развіцця. Арыштаваны 9.12.1936, высланы ў

Котлас. Потым працаваў буравіком у Варкуце. Пасля вызвалення з 1945 тэхнік-геолаг у Варкуце. Рэабілітаваны ў 1956. Апошнія гады жыў у Феадосіі.

Тв.: Друк на Аршаншчыне. Ворша, 1927; Паэт Ян Баршчэўскі аб Беларусі: (З уласных лістоў яго да пані Карсак) // *Аршанскі маладняк*. 1925, № 2; Краязнаўчая праца на ўсходзе Беларусі // *Аршаншчына*. 1926. Ч. 1; Сталецце краязнаўчай працы на Беларусі // *Наш край*. 1926, № 2—3; Друк на Аршаншчыне // *Аршаншчына*. 1927; Паэма «Тарас на Парнасе» ў краязнаўчым асвятленні // *Наш край*. 1929, № 5; Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадская чыннасць // *Полымя*. 1929, № 6.

Літ.: *Васілеўская А.* Памяць // *Полымя*. 1990, № 7; *Кісялёў Г.В.* Пошукі імя. Мн., 1978; *Яго ж.* Разыскивается классик… Мн., 1989; *Яго ж.* Ад Чачота да Багушэвіча. Мн., 1993; *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *БП*, т. 1; *ЭГБ,* т. 2.

**ВАЎЖЭЦКІ Тамаш** [7.3.1753, маёнтак Мейшты Браслаўскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 5.8.1816, Відзы Лоўчынскія Браслаўскага пав.], адзін з кіраўнікоў паўстання 1794. Вучыўся ў езуіцкай школе ў Відзах. Пасля шлюбу жыў у маёнтку жонкі Кавалёва на Ковеншчыне. Дэпутат ад шляхты Браслаўскага пав. на Чатырохгадовым сейме Рэчы Паспалітай 1788—92, дзе выступаў 169 разоў з палымянымі прамовамі, настойваючы на прыняцці канстыту-

цыі. У пачатку паўстання 1794 дзейнічаў у чыне генерала ў Браслаўскім пав., потым — у Курляндыі. Вызначыўся ў штурме Лібавы і ў бітве пад Брэстам. Пасля паланення Т.Касцюшкі ўзначаліў усё паўстанне. Узяты ў палон, быў перавезены ў Пецярбург, дзе два гады знаходзіўся ў зняволенні. Пасля ўступлення на трон Паўла І вызвалены з турмы, вярнуўся на Радзіму. З цягам часу змяніў сваю арыентацыю на прарасійскую. У час вайны 1812 знаходзіўся ў Пецярбургу. Займаў у Царстве Польскім пасады сенатара, ваяводы і міністра юстыцыі. Памяць пра В. ўшанавана ў Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Літ.: *Szyndler Bartłomiej.* Tomasz Wawrzecki: Ostatni naczelnik powstania Kościuszkowskiego. Warszawa. 1976.

**ВЕРАМЕЙ Мікалай Сцяпанавіч** [канспіратыўны псеўданім: Пабядзінскі; 1898, в. Кавальцы Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 22.10.1937, Хабараўскі край], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Вучыўся ў Невельскай настаўніцкай семінарыі. Працаваў настаўнікам на Маладзечаншчыне. У 1919 уступіў у Камуністычную рабочую партыю Польшчы (КРПП); з 1922 член Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі; з 1923 член КПЗБ. У 1922 выехаў на вучобу ў Чэхаславакію; у 1929 скончыў Пражскі электратэхніч-

ны інстытут. Вярнуўся ў Зах. Беларусь. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выбараў у сейм, друкаваў улёткі і іншую нелегальную літаратуру; арганізоўваў бел. школы. Фактычна знаходзіўся на нелегальным становішчы. У 1930 перапраўлены ў СССР. У 1930 арганізатар і дырэктар Энергетычнага інстытута ў Мінску. З 1931 у Маскве — у польскай секцыі Камінтэрна. Прозвішча «Пабядзінскі» нададзена вясною 1931 з канспіратыўных меркаванняў. Арыштаваны ДПУ БССР 16.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра»; высланы ў Хабараўскі край (Арцёмаўск), дзе і загінуў. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Літ.: *ЭГБ,* т. 2.

**ВЕРНІКОЎСКІ Аляксандр Львовіч** [25.7.1884, Вільня — 6.7.1984, Орша], праваслаўны святар, грамадскі і культурны дзеяч, педагог. Паходзіў з сям'і псаломшчыка Віленскага Прачысценскага сабора. У 1893—97 вучыўся ў Замкавым 2-класным прыходскім вучылішчы. У 1901 скончыў Віленскае андрэеўскае духоўнае вучылішча. У 1901—07 вучыўся ў Мінскай духоўнай семінарыі. З чэрв. 1907 — канцылярскі служачы Віленскага філіяла Дзяржаўнага банка. 5.5.1908 прызначаны псаломшчыкам у царкву Казанскага пяхотнага юнкерскага вучылішча. 25.8.1909 паступіў

у Казанскую духоўную акадэмію, скончыўшы якую атрымаў ступень кандыдата багаслоўя. Са жн. 1914 канцылярскі служачы Казанскай кантрольнай палаты. У канцы 1914 прызначаны на пасаду нам. інспектара Тульскай духоўнай семінарыі; адначасова выкладаў у ёй нямецкую і французскую мовы. Вярнуўся ў Зах. Беларусь у лют. 1922. Працаваў псаломшчыкам Нараўскай царквы Белавежскага пав. У 1922—23 дырэктар бел. гімназіі ў Радашковічах. З 16.10.1923 настаўнік гісторыі, царкоўных спеваў і бел. мовы ў Віленскай праваслаўнай духоўнай семінарыі. Пэўны час жыў у Беластоку. Пазней пераехаў у Мінск, дзе служыў настаяцелем Свята-Петрапаўлаўскай царквы на Нямізе. У жн. 1944 браў удзел у сходзе духавенства, дзе выступіў з асуджэннем камуністычных парадкаў. Арыштаваны савецкімі ўладамі 3.1.1945, асуджаны на 5 гадоў лагераў. Пакаранне адбываў на Урале, у Сібіры і Казахстане. У Беларусь вярнуўся ў 1950. Служыў настаяцелем у мяст. Дварэц (Дзятлаўскі р-н) і ў мяст. Леніна (Слуцкі р-н), дзе выйшаў на пенсію. Потым пераехаў да сына Святаслава ў Оршу.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**ВЕРНІКОЎСКІ Ян Непамук** [сапр.: Іван Антонавіч; 1799, Ігуменскі пав. Мінскай губ.; па

іншых звестках пад Мазыром — 1877, Казань], гісторык, мовазнавец, арыенталіст, паэт. Паходзіў са шляхты. У 1820 скончыў філасофскі ф-т Віленскага ун-та. Выкладаў там сусветную гісторыю. Арыштаваны царскімі ўладамі 23.10.1823 па справе філаматаў. Сасланы ў Казань, дзе ва ун-це выкладаў усх. мовы, старажытную гісторыю і геаграфію. Быў пад наглядам паліцыі і універсітэцкай адміністрацыі. У 1827—30 выкладчык арабскай і персідскай моў у Казанскай гімназіі. Зноў арыштаваны ў жн. 1834 (абвінавачаны ў прыналежнасці да антыдзяржаўнай арганізацыі). Перасёлены ў Вятку. У 1853 прызначаны дырэктарам школ Сімбірскай губ., пазней перасяліўся ў Харкаў. Пісаў вершы на польскай мове. Перакладаў паэзію Піндара і Хафіза.

Літ.: *PSB*; *БЭ*, т. 4.

**ВЕЧАР Алесь** [сапр.: Аляксандр Сцяпанавіч; псеўданім: Алесь Раніца; 12(25).3.1905, в. Машчыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 4.4.1985, Мінск], паэт, біёлаг. Пачатковую адукацыю атрымаў у Слуцку. У 1923 паступіў у Слуцкі сельгастэхнікум. У 1925—29 студэнт агранамічнага ф-та Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (Горкі). Першы верш апублікаваў у 1926 у час. «Аршанскі маладняк». Быў адным з

кіраўнікоў Аршанскай філіі «Маладняка», у 1928—30 узначальваў Мінскую філію БелАПП. Першую кніжку вершаў апублікаваў у 1930. У 1930—31 працаваў выкладчыкам у Гарадоцкім тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі. У 1931 паводле абвінавачання ў прыналежнасці да кулацкай сям'і выключаны з КП(б)Б. У пошуках працы выехаў за межы Беларусі. У 1932—33 аграхімік Сочынскай заалагічнай доследнай станцыі. У 1933 вярнуўся ў Беларусь. Паводле сведчання С.Кандыбовіча, у 1933 быў арыштаваны, але неўзабаве вызвалены. З 1933 працаваў у НДІ харчовай прамысловасці БССР. З 1937 у Інстытуце харчовай прамысловасці ў Краснадары. З 1959 у Інстытуце біялогіі АН БССР, з 1970 у Інстытуце эксперыментальнай батанікі АН БССР. Доктар біялагічных навук, прафесар (1951). Акадэмік АН БССР (1966). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі (1975). Член СП Беларусі з 1978.

Тв.: Кола дзён: Вершы. Мн., 1930; Основы физической биохимии. Мн., 1966; Зварот да слова: Вершы. Мн., 1977; Фізіялогія і біяхімія бульбы. Мн., 1979 (у сааўт. з М.Ганчарыкам); Водородные ионы в биосфере. Мн., 1986.

Літ.: *Гарэцкі М*. «Маладняк» за пяць гадоў. Мн., 1928; *Кандыбовіч С*. Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000; *Шушкевіч С*. Шчодрасць душы // *ЛіМ*. 1980, 21 сак.; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ВІР Васіль** [псеўданім С. Пінскі; ?, Піншчына — пасля 1991, Канада], педагог, журналіст, паліт. дзеяч. У 1920—30-х г. актыўна ўдзельнічаў у Беларускай сялянска-работніцкай грамадзе на Піншчыне, спрыяў Таварыству беларускай школы. У Пінску імкнуўся стварыць бел. газету, чаго не дазволілі ўлады. Быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі. У вер. 1939 прымаў удзел у антыпольскім паўстанні на заходнебел. Палессі. Падчас нямецкай акупацыі арганізоўваў бел. школьніцтва на Піншчыне і Століншчыне, друкаваўся ў віленскай газ. «Беларускі голас». Прымаў удзел у бел. нацыянальным падполлі, арганізоўваў нацыянальную партызанку. У канцы 1943 арыштаваны СД у Пінску і высланы на прымусовую працу ў Германію. Напрыканцы 1940-х г. з Зах. Германіі выехаў у Канаду. Браў удзел у бел. жыцці, уваходзіў у рэдкалегію газ. «Беларускі голас» (Таронта, Канада), дзе выступаў як публіцыст, друкаваў успаміны.

Літ.: *Ёрш С*. Беларуская партызанка. Мн., 1999.

**ВІТАЛІН Змітро** [сапр.: Сергіевіч Зміцер Рыгоравіч; іншыя псеўданімы: Байструк; Клоп; П.Прыпецкі; нар. 8.8.1912, в. Сухое Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Іванаўскі р-н Брэсцкай вобл.], паэт, празаік, журналіст. З 1915 знаходзіўся з бацькамі ў эвакуацыі ў Бранску. Летам 1919 вяр-

нуліся ў Беларусь у Калінкавічы. У 1928 скончыў Калінкавіцкую васьмігодку. З 1929 у Мінску. Набыў спецыяльнасць электраманцёра і працаваў у Радыёцэнтры БССР радыёманцёрам, потым карэспандэнтам. Друкуецца з 1930. Член БелАПП з 1930. Сакратар час. «Шляхі калектывізацыі». З вясны 1932 адказны сакратар крычаўскай раённай газеты. У вер. 1932 паступіў вучыцца на творчае аддзяленне МВПІ. Арыштаваны ДПУ БССР 23.2.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». Асуджаны на ссылку 10.8.1933. Знаходзіўся ў «Сіблагу» каля Томска. Вярнуўся ў Калінкавічы ў канцы 1935. Адбыўшы ваенную службу, працаваў на фанернай фабрыцы ў Мазыры. Быў карэспандэнтам газ. «Бальшавік Палесся». У вайну на фронце. З канца 1943 карэспандэнт дывізіённай газеты «Вперёд за Родину!». З чэрв. 1945 у рэдакцыі газ. «За честь Родины», якая дыслакавалася ў Вене. У 1950 пераведзены ў адэскую акруговую газ. «Защитник Родины». У 1956 накіраваны ў Будапешт, дзе працаваў у рэдакцыі газеты групы войск «Ленинское знамя». Дэмабілізаваны ў 1961 у чыне маёра. Вярнуўся ў Адэсу. З 1961 на творчай рабоце. Працуючы ў армейскім друку і жывучы ў Адэсе, пісаў на рускай мове. Пад уласным прозвішчам выдаў кнігі на ваенную тэматыку «На голубом Дунае» (Адэса, 1955), «Первый бой» (Адэса, 1957), «Мы служим Родине» (Масква, 1962), «Приветствие из юности» (Адэса, 1964),

«Начало легенды» (Масква, 1966), «Тревожная осень» (Адэса, 1966), «Десять дней отдыха» (Масква, 1967), «Высокий остров» (Адэса, 1969), «Маршевая рота» (Адэса, 1971), «Товарищи огненных лет» (Масква, 1972), «Гроза на рассвете» (Адэса, 1973), «Сосны среди поля» (Адэса, 1975), «Хорошие приметы» (Адэса, 1978), «Нет последних рубежей» (Адэса, 1982), «Личная война» (Кіеў, 1983). Жыве ў Адэсе.

Тв.: Будзем жыць: Вершы. Мн., 1932.

Літ.: *Пруднікаў П.* Абарваная струна // *Чырвоная змена.* 1985, 17 кастр.; *БП*, т. 2, 6.

**ВІТКОЎСКІ Іван Антонавіч** [20.4(2.5).1888, в. Чэрчыцы Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 27.12.1937, Мінск, НКВД], гісторык. У 1912 скончыў Пецярбургскую каталіцкую духоўную семінарыю, 2 курсы Петраградскай духоўнай акадэміі (1914). З канца 1916 вікарый у Мазыры. Пазбаўлены духоўнага сана ў 1918. Пераехаў у Растоўна-Доне, дзе ў гімназіі выкладаў лацінскую мову, гісторыю і псіхалогію. У 1919 добраахвотнікам пайшоў у Чырвоную Армію; у 1920 паранены. У ВКП(б) з 1920. У 1921 вярнуўся на Радзіму; працаваў у савецкіх і партыйных органах у Оршы і Сянно, прарэктарам Віцебскага ветэрынарнага

інстытута. З 1925 у Мінску, выкладчык Камуністычнага ун-та, нам. загадчыка польскага аддзела Інбелкульта, нам. дырэктара, з 1932 дырэктар Інстытута польскай пралетарскай культуры БелАН. Адначасова загадчык кафедры гісторыі МВПІ. Прафесар з 1932. Вывучаў паўстанне 1863—64, сувязі паміж рэвалюцыйнымі рухамі Беларусі, Польшчы, Расіі. Арыштаваны 26.7.1933. Паводле пастановы пазасудовага органа ад 27.2.1934 накіраваны на 3 гады ў лагеры. Знаходзіўся ў Марыінску (Сібір). Пасля вызвалення жыў у Ленінградскай вобл. (Баравічы), працаваў рахункаводам і выкладаў лацінскую мову. Зноў арыштаваны 22.2.1937 па справе «Польскай вайсковай арганізацыі». Этапаваны ў Мінск, дзе расстраляны. Рэабілітаваны ў 1959.

Тв.: 1863 г. на Міншчыне. Мн., 1927 (разам з О.Яневічам, Л.Лехам); Паўстанне 1863 г. і расійскі рэвалюцыйны рух пачатку 1860 гадоў. Кн. 3. Мн., 1931; Рэвалюцыйныя гурткі 70 гг. на Беларусі // *Полымя*. 1929, № 4; «Зямля і воля» 60-х гадоў і сувязь яе з паўстаннем 1863 // *Полымя*. 1930, № 4.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ВІШНЕЎСКАЯ Наталля Вячаславаўна** [3.5.1907, Коўна, цяпер Каўнас, Літва — 3.5.1989, Ленінград], паэтэса, рэдактар. У час 1-й сусветнай вайны з бацькамі ў эвакуацыі ў Самарскай

губ. Пасля грамадзянскай вайны Вішнеўскія жылі на Случчыне. Тады пачала пісаць вершы. Уплыў на фармаванне паэтэсы аказаў Я.Колас, які ўвёў яе ў літаб'яднанне «Маладняк» і дапамог стаць студэнткай МБПТ (1924). Удзельнічала ў 1-м з'ездзе «Маладняка» (1925). Публікавалася з 1926. У 1928, на апошнім курсе вучобы, узяла шлюб з А.Дударом, з якім пазнаёмілася ў «Маладняку». Неўзабаве мужа арыштавалі і выслалі ў Смаленск. Нягледзячы на ярлык жонкі «ворага народа», В. удаецца паступіць у БДУ (1929). Аднак на працягу года яе творы не друкаваліся, яна не магла знайсці працы, часам галадала. У 1930 «Маладняк» і «Савецкая Беларусь» зноў пачалі друкаваць вершы В., але ў сувязі з узбуджэннем новай справы на А.Дудара і выклікам В. на допыты яна шукае паратунку ў Маскве (1930). Тут працавала ў бел. секцыі Дзяржвыдавецтва народаў СССР. Пасля яе ліквідацыі перайшла ў газ. «Гудок», рэдагавала бел. старонку. Там пазнаёмілася са сваім другім мужам А.Звонакам. У 1934 вярнулася ў Мінск. У 1936 па справах А.Дудара і А.Звонака зноў выклікалася на допыты. Арышту пазбегла дзякуючы падказцы знаёмага следчага. Разам з маці падалася на Украіну, потым у Ленінград (1938), дзе выйшла замуж трэці раз за бел. паэта Я.Бобрыка. З 1942 у Горкаўскай вобл. У 1945 вярнулася ў Ленінград, працавала бібліятэкарам. Выгадавала

двух дзетдомаўскіх хлопцаў (абодва сталі капітанамі далёкага плавання). У канцы 1940-х — пачатку 1950-х г. зноў выклікалася на допыты ў МДБ. З 1962 на пенсіі. Да літаратурнай дзейнасці не вярнулася.

Тв.: *Бандарына З., Вішнеўская Н., Пфляўмбаум Я.* Вершы. Мн., 1926.

Літ.: *Маракоў Л.* Тры замужжы Наталлі Вішнеўскай // *Голас Радзімы.* 1999. 10 — 17 чэрв.

**ВОЙЦІК Антон Іванавіч** [псеўданім: А.Войніч; 1898, в. Вярэнькі Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 28.3.1948], журналіст, рэдактар, перакладчык. Муж Зоські Верас. З 17 гадоў працаваў рабочым на Украіне, у рыбалоўнай арцелі ў Саратаве. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У 1918—23 арганізатар спажывецкіх кааператываў на Дзісеншчыне. З 1924 у Вільні як журналіст, затым рэдактар газ. «Сялянская праўда». Арыштаваны польскай дэфензівай у 1924 пасля выдання 50-га нумару газеты. Віленскім акруговым судом прыгавораны да 2-х гадоў турмы. Сядзеў у Лукішках. У зняволенні перакладаў з рускай і ўкраінскай моваў апавяданні і навукова-папулярныя нарысы, потым апублікаваныя ў час. «Заранка». У рукапісе захаваўся пераклад аповесці К.Гамсуна «Голад». У 1930 і 1936 падвяргаўся

судоваму праследаванню як выдавец бел. адрыўных календароў. Пасля 2-й сусветнай вайны ў Савецкай Літве быў кіраўніком рэспубліканскага аддзела Саюздруку. У ЦДА Літвы захоўваюцца 2 судовыя справы В. (Ф. 129, воп. 2, спр. 822, 1511).

**ВОЛЬНЫ Анатоль** [сапр.: Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: А.В.; Акша; Алёша; В.Анатолий; Анатолий Вольный; 19.11(2.12).1902, ст. Пухавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, празаік, кінадраматург, журналіст. Вучыўся ў Ігуменскай гімназіі (паступіў у 1911). У 1920 пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі ў 1921 працаваў у ЦК ЛКСМБ; у газ. «Малады араты». Вучыўся ў БДУ. Публікаваўся з 1921. У 1920—30-х г. быў актыўным удзельнікам літаратурна-мастацкага руху ў Беларусі. З 1923 у літаб'яднанні «Маладняк». Адзін з пачынальнікаў прыгодніцкага жанру ў бел. прозе. Член СП Беларусі з 1934; заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі (1935). Паводле сцэнарыяў В. пастаўлены фільмы «Хвоі гамоняць» (1929, суаўтар К.Дзяржавін), «Атэль «Савой» (1930), «У агні народжаныя» (1930), «Сонечны паход» (1931), «Новая ра-

дзіма» (1935) і інш. Арыштаваны 4.11.1936; вынесены смяротны прысуд. Расстраляны ў Мінску. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Камсамольская нота: Вершы. Мн., 1924 (з А. Александровічам); Ваўчаняты: Раман беларускіх лясоў / Сааўт. А.Александровіч, А.Дудар. Мн., 1925 (2-е выд. 1929); Два: Аповесць. Мн., 1925; Чарнакудрая радасць: Вершы. Мн., 1926; Барацьбіт: Зборнік. Мн., 1927; Зборнік фельетонаў. Мн., 1927; Табе: Вершы. Мн., 1927; Суседзі: Гумарэскі і фельетоны. Мн., 1932; Шасцідзесятая паралель: Кінааповесць. Мн., 1935.

Літ.: *Айзенштадт Г.* Ждите нас, звезды!: Докум. очерк о комс. поэте, журналисте и сценаристе А.Вольном // *Знамя юности*. 1978, 5 окт.; *Айзенштат Г.* З ліку першапраходцаў // *Чырвоная змена*. 1981, 21 крас.; *Брадзянскі Б.* На шляху да рэалізма: Пра творчасць кінадраматурга А.Вольнага // *ЛіМ*. 1935, 16 сак.; *Шушкевіч С.* Талент, загартаваны Кастрычнікам: Да 70-годдзя з дня нараджэння А.Вольнага // *ЛіМ*. 1972, 1 снеж.; *Яго ж*. Яго ўспамінаюць добрым словам // *Шушкевіч С.* Выбр. тв.: У 2 т. Т. 2. Мн., 1978; *БП*, т. 2.

**ВОЎК-ЛЕВАНОВІЧ Іосіф Васілевіч** [6.11.1891, хутар Лявонаўка Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Асіповіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 19.8.1943, ГУЛАГ], мовазнавец. У 1911 скончыў Бабруйскую гімназію і паступіў на гісторыка-філалагічны ф-т Пецярбургскага ун-та. З пачаткам 1-й сусветнай вайны пайшоў добраахвотнікам у войска. Быў паранены. У лют. 1918 дэмабілізаваўся, вярнуўся на Радзіму. Тут пеажыў

нямецкую і польскую акупацыі. Выкладаў у Бабруйскай і Клецкай гімназіях рускую і лацінскую мовы. У жн. 1920 мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Дэмабілізаваўся ў 1922. Скончыў Петраградскі ун-т (1923). Прыехаў у Мінск, дзе выкладаў бел. мову ў польскім і яўрэйскім педтэхнікумах. З лют. 1924 у БДУ на кафедры гісторыі бел. мовы. Адначасова з 1927 навуковы сакратар Камісіі па ўкладанні гістарычнага слоўніка беларускай мовы Інбелкульта. У 1929—30 працаваў у Інстытуце мовазнаўства БелАН. Асноўныя сферы навуковых інтарэсаў — гісторыя бел. мовы і бел. дыялекталогія. У вер. 1930 вымушаны выехаць з Беларусі. Працаваў у Саратаве ва ун-це, з 1931 — у педінстытуце. З вер. 1934 у Арэнбургскім педінстытуце. Арыштаваны 17.9.1937. Сасланы ў лагер на Поўначы. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны.

Тв.: Лекцыі па гісторыі беларускай мовы. Уступ і фанетыка. Мн., 1927 (факсімільнае выд. 1994); Гістарычнае вывучэнне беларускай мовы ў славянскай філалогіі: Гісторыка-метадалагічны нарыс // *Працы БДУ*. 1925, № 6—7; Мова выданняў Францішка Скарыны // *Чатырохсотлецце беларускага друку*. Мн., 1926; Форма «прошлага ў будучым» у мове дакументаў «Літоўскай метрыкі» // *Працы БДУ*. 1927. Т. 16; Ещё к вопросу о «ляшских» чертах в белорусской фонетике // *Slavia* (Praha). 1930. R. 9. Seљ. 3.

Літ.: *Германовіч І.К.* Беларускія мовазнаўцы: Нарысы жыцця і навуковай дзейнасці. Мн., 1985. С. 115—126; *Возвращенные имена*; *Беларуская мова*.

**ВУЛЬ Ялегі Пранціш** [Ul; сапр.: Карафа-Корбут Элігій Францішак Маўрыкіевіч; 9(21).4.1835, Віцебск — 1880-я г., Варшава], паэт. З 1846 вучыўся ў Віцебскай гімназіі, але не скончыў яе. У 1856—62 працаваў пісарам у Віцебску. Літаратурнымі здольнасцямі вылучыўся ў гімназіі. Як паэт фарміраваўся пад уплывам А.Вярыгі-Дарэўскага і Г.Марцінкевіча. У 1859 упісаў у «Альбом» Вярыгі-Дарэўскага верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка», які ацэньваецца як адзін з лепшых узораў бел. грамадзянскай лірыкі сярэдзіны XIX ст. М.Гарэцкі («Гісторыя беларускае літаратуры») паведамляў, што існавалі іншыя бел. вершы В., але яны не захаваліся. Дасылаў агляды культурнага жыцця Віцебска ў варшаўскую «Gazetę codzienną». В. і ўся яго сям'я ўдзельнічалі ў паўстанні 1863—64. В. і яго брат Вільгельм былі сасланы ў Сібір на пасяленне, а іх бацька атрымаў 8 гадоў катаргі. Пасля вяртання з ссылкі пасяліўся ў Варшаве, дзе разам з В.Каратынскім і А.Плугам утварыў бел. гурток. Паэтычныя творы В. не былі надрукаваныя пры яго жыцці.

Тв.: К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка // *Наша ніва*. 1912, 9 ліст.; *Гарэцкі М.* Хрэстаматыя беларускае літаратуры. Вільня, 1922; *Дзень паэзіі — 65*. Мн., 1966; *Беларуская літаратура XIX ст.* Мн., 1988; *Пачынальнікі*. Мн., 1977.

Літ.: *Кісялёў Г.* Хто вы, Карафа-Корбуты? // *Полымя*. 1992, № 3; *Яго ж.* Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971;

*Запрудскі І.* Вядомы адным вершам // *ЛіМ*. 1993, 19 сак.; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ВЫДРА Рувім Маркавіч** [1894, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 28.6.1938, Мінск, НКВД], філосаф, публіцыст. У 1930-я г. прафесар БДУ, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права БелАН. У кастр. 1937 выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 6.3.1938. У чэрв. 1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны 4.8.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ВЫСОЦКІ Пётр Яцак** [10.9.1797, мяст. Варта, цяпер Лодзінскае ваяв., Польшча — 6.1.1875, Варта], адзін з кіраўнікоў паўстання 1830—31, мемуарыст. Паходзіў са старажытнага бел. шляхецкага роду герба «Адравонж». Скончыў школу падхарунжых у Варшаве, у 1827 атрымаў чын падпаручніка і стаў інструктарам школы. У снеж. 1828 заснаваў тайнае таварыства «Ваенны саюз», якое ставіла мэтай падрыхтоўку ваеннага перавароту. З пачаткам паўстання ў Варшаве ў ліст. 1830 пасля некаторых ваганняў далучыўся да яго (лічыў паўстанне заўчасным). Быў ад'ютантам галоўнакамандуюча-

га войскамі паўстанцаў М.Радзівіла. Удзельнічаў у рэйдзе на Валынь і Галіцыю, адкуль вярнуўся ў чыне палкоўніка. Браў удзел у перамовах Нацыянальнага ўрада ў Варшаве з галоўнакамандуючым расійскімі войскамі І.Паскевічам. У вер. 1831 пры абароне Варшавы паранены, трапіў у палон. Судом у Бабруйскай крэпасці прыгавораны да чацвертавання, у 1833 судом у Варшаве — да павешання. Смяротнае пакаранне заменена катаргай у Сібір тэрмінам на 20 гадоў. Адбываў пакаранне на Аляксандраўскай вінакурні. У 1835 спрабаваў уцячы, за што падвергнуты экзекуцыі (1 тыс. шпіцрутэнаў). Адпраўлены ў капальні ў Акатуй, дзе працаваў прыкаваны за нагу да тачкі. Пасля вызвалення ад катаргі застаўся на пасяленні ў Сібіры. У 1857 памілаваны, вярнуўся на Радзіму. Напісаў успаміны пра паўстанне, выдадзеныя ў Парыжы.

Тв.: *Pamiętnik Piotra Wysockiego o powstaniu 29 listopada 1830 roku*. T. 1—2. Paryż, [1863].

Літ.: *Jepkowski T.* Piotr Wysocki. Warszawa, 1972; *Дьяков В.А., Кацнельсон Д.Б., Шостакович Б.С.* Петр Высоцкий на сибирской каторге (1835—1856) // *Ссыльные революционеры в Сибири (XIX в. — февр. 1917 г.).* Вып. 4. Иркутск, 1979; *ЭГБ*, т. 2.

**ВЯРСОЦКІ Янка** [17.2.1888, мяст. Гальшаны Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Ашмянскі

р-н Гродзенскай вобл. — 22.12.1937, Алма-Ата, НКВД], рыма-каталіцкі святар, грамадскі дзеяч. У 1904—08 вучыўся ў Ашмянскім гарадскім 3-класным вучылішчы. 6.4.1909 паспяхова здаў экзамен на званне аптэкарскага вучня пры экзаменацыйнай камісіі Пецярбургскай навучальнай акругі. У 1910—15 вучыўся ў Магілёўскай духоўнай каталіцкай семінарыі ў Пецярбургу. Падчас вучобы наведваў культурна-асветны гурток бел. студэнтаў-клерыкаў. У 1915 пасвечаны ў святары. Служыў вікарыем парафій св. Тройцы ў Мінску і Смаленску. Удзельнік 1-га з'езда беларускага каталіцкага духавенства (Мінск, 24—25.5.1917). Член Саюза ксяндзоў-беларусаў. З 1919 адміністратар парафіі Забелы Дрыса-Себежскага дэканата Віцебскай губ. 8.8.1927 арыштаваны АДПУ. Прыгавораны да 3 гадоў лагераў. З 1.1.1928 — на Салаўках. Пасля сканчэння тэрміну зняволення зноў арыштаваны і высланы ў Алма-Ату (Казахстан). У высылцы арыштаваны чарговы раз; 11.12.1937 прыгавораны да смяротнага пакарання. Расстраляны ў турме НКВД.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R*. Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankievič A*. Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939.

**ВЯРЫГА-ДАРЭЎСКІ Арцём** [псеўданімы і крыптанімы: Artemiusz; Białoruska Duda; A.W.;

D…a B.; D-da B.; 23.10(4.11).1816, мяст. Кублічы Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 1884, Сібір], адзін з пачынальнікаў новай бел. літаратуры, паэт, драматург, публіцыст. Вучыўся ў Забельскай гімназіі (мяст. Валынцы Дрысенскага пав., цяпер Верхнядзвінскі р-н). Служыў у розных установах Віцебска. З 1852 калежскі асэсар. Ажаніўшыся, набыў у Віцебскім пав. маёнтак Стайкі. У 1850-я г. арганізаваў у Віцебску публічную бібліятэку. Збіраў бел. фальклор. Пасылаў допісы ў газ. «Kurjer Wileński» і «Виленский вестник» (Вільня), «Słowo» (Пецярбург), час. «Ruch muzyczny» (Варшава). Стаў вядомы як аўтар паэм, гутарак і драматычных твораў, якія разыходзіліся ў рукапісах: паэмы «Ахульга» (тэматычна звязаная з барацьбой горцаў пад кіраўніцтвам Шаміля), драмы «Гордасць», камедый «Хцівасць» і «Грэх 4-ы — гнеў». Першым пераклаў на бел. мову паэму А.Міцкевіча «Конрад Валенрод». Бел. творы з-за цэнзурных умоў не друкаваліся, рукапісы не знойдзены. Пры жыцці выйшла адзіная кніга на польскай мове «Гутарка пра сваяка». Грамадскі рэзананс мела паездка В.-Д. ў 1858 у Вільню, дзе ён сустрэўся з віднымі прадстаўнікамі культуры. Тады ж быў запачаткаваны знакаміты «Альбом Вярыгі-Дарэўскага» (1858—63), які стаў своеасаблівым літаратурна-грамадскім альманахам. У 1861—62 браў удзел у патрыятыч-

ных дэманстрацыях у Віцебску, за што стаў аб'ектам пільнага нагляду жандараў. У 1863 адзін з кіраўнікоў узброенага выступлення на Віцебшчыне. Арыштаваны 6.5.1863, амаль два гады правёў пад следствам у віцебскай турме. Першапачаткова асуджаны на пажыццёвую катаргу, замененую 8 гадамі катаржных работ. У 1865 сасланы ва Усх. Сібір (саляварны завод ва Усоллі). З 1868 на пасяленні ў Іркуцку. Памёр у Сібіры.

Тв.: *Gawędka o Swojaku przez Białoruską Dudę*. Mohylew; Wilno, 1858; *Пачынальнікі*. Мн., 1977. С. 213—292; *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*. Мн., 1988.

Літ.: *Васілеўскі Д*. Арцём Ігнатавіч Вярыга-Дарэўскі і яго літаратурна-грамадская чыннасць // *Полымя*. 1929, № 6; *Борковский С.А., Мальдис А.И*. Поэтическое наследие Артемия Вериги-Даревского // *Советское славяноведение*. 1971, № 2; *Кісялёў Г*. Арцём Вярыга-Дарэўскі // *Кісялёў Г*. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ*.

**ГАВАРУШКА Яфім Максімавіч** [крыптанім: Я.Г.; 15.10.1911, в. Востраў Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 3.6.1992, Смалявічы Мінскай вобл.], празаік, публіцыст, педагог. Выхоўваўся ў дзіцячым доме ў Бабруйску. У 1935 скончыў МВПІ. Выкладаў бел. мову і літаратуру ў Смалявічах. Арыштаваны 9.12.1936. Асуджаны 2.10.1937 на 6 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Пасля вызвалення вярнуўся ў Смалявічы. Рэабілітаваны ў 1955. Працаваў настаўнікам і дырэктарам дзіцячага дома. Уклаў кнігу рэпрэсаванага акадэміка І.Замоціна «Творы» (Мн., 1991). У апошнія гады жыцця складаў анталогію паэзіі рэпрэсаваных паэтаў «Песня падуладных». Пахаваны ў Смалявічах.

Тв.: Калецтва: Апавяданне // *Узвышша*. 1930, № 6; На дороге // *Советская Отчизна*. 1959, № 6; Колас і Замоцін // *Маладосць*. 1982, № 11.

Літ.: *БП*, т. 6.

**ГАДЛЕЎСКІ Вінцэнт** [Вікенцій Іванавіч; 16.11 (паводле іншых звестак 16.12).1888, мяст. Поразава (паводле іншых звестак в. Шурычы) Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 24.12.1942, Трасцянец пад Мінскам, СД], рыма-каталіцкі святар, публіцыст,

перакладчык, выдавец, педагог. У 1912 скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю, у 1916 — Мітрапалітальную духоўную акадэмію ў Петраградзе. Пасвечаны ў святары 3.6.1914. Служыў вікарыем пры кафедральным касцёле ў Мінску. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда 1917. У 1918 уваходзіў у склад Рады БНР. Адзін з заснавальнікаў і лідэраў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Рэдагаваў газ. «Kryniсa» (Мінск, 1918). Выкладаў у Нясвіжскай беларускай семінарыі. З 1924 пробашч у мяст. Жодзішкі на Віленшчыне (цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.). За актыўную нацыянальна-паліт. дзейнасць арыштоўваўся польскімі ўладамі 25.6.1925 (зняволены ў віленскай турме Лукішкі), 30.9.1925. 1.3.1926 асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі (зняволенне заменена штрафам). Арыштаваны ў сак. 1927; асуджаны на 2 гады зняволення, якія адбыў у Макатоўскай турме ў Варшаве. З 1929 жыў у Вільні. Адзін з заснавальнікаў Беларускага каталіцкага выдавецтва ў Вільні. Пераклаў на бел. мову Новы Запавет (выдадзены ў Вільні, 1939). У 1936 выйшаў з БХД, заснаваў арганізацыю «Беларускі Нацыянальны Фронт», да 1939 выдаваў газ. «Беларускі фронт», у якой выступаў як публіцыст. З пачаткам 2-й сусветнай вайны пераехаў у Каўнас, у 1940 — у Варшаву, дзе арганізаваў легальны «Беларускі Нацыянальны Фронт» як прыкрыццё падпольных структур. Заснавальнік Беларускай Незалежніцкай Партыі.

У чэрв. 1941 увайшоў у склад створанага ў Берліне Беларускага нацыянальнага цэнтра. З вер. 1941 у Мінску; галоўны школьны інспектар пры Генеральным камісарыяце Беларусі, сябра Галоўнай Рады Беларускай Народнай Самапомачы. Ініцыяваў стварэнне падпольнай арганізацыі «Беларускі Цэнтральны Фронт», якой кіраваў. Спрабаваў заснаваць кіруючы цэнтр Беларускага Рэзыстансу. Арыштаваны СД 24.12.1942 і ў той жа дзень расстраляны ў Трасцянцы.

Тв.: Публіцыстыка: Патрэба нацыянальнай ідэі // *Спадчына*. 1993, № 2.

Літ.: *Брылеўскі У.* Мае сустрэчы з ксяндзом Вінцэнтам Гадлеўскім // *Беларус* (Нью-Йорк). 1980, № 273; *З[алескі ?]. А.* Ксёндз Гадлеўскі на фоне гістарычных падзеяў // *Бацькаўшчыны*. 1965. № 5; *Пануцэвіч В.* Кс. Вінцэсь Гадлеўскі — дзяржаўны муж і правадыр народу // *Беларуская царква* (Чыкага). 1965, № 28 (передрук: *Спадчына.* 1993, № 3, 5—6); *Пякарскі А.* Сумная гадавіна (Да дзесятай гадавіна арышту і расстрэлу ксяндза Вінцэнтага Гадлеўскага) // *Бацькаўшчына* (Мюнхен). 1952, 25 снеж.; *Мілаш Ч.* Плебісцыт у Жодзішках // *Спадчына*. 2002, № 2—3; *ЭГБ*, т.2; *Гарбінскі БРД*.

**ГАДЫЦКІ-ЦВІРКА** Кастусь Мардар’евіч [псеўданім: Габрыэль Эмга; 5(17).4.1880, Мінск — пасля 1931], педагог, публіцыст. У 1898 скончыў Мінскую класічную гімназію, у 1903 — фізіка-матэматычнае аддзяленне Маскоўскага ун-та. У

1903—23 выкладчык Слуцкай гімназіі, Дзвінскага і Мінскага рэальных вучылішчаў, Мінскага настаўніцкага інстытута (з 1920 Мінскі інстытут народнай адукацыі), Мінскіх педагагічнага і політэхнічнага тэхнікумаў, рабфака БДУ. Удзельнік 1-га Усебеларускага з'езда (снеж. 1917, Мінск). У чэрв. 1918 член камісіі БНР па арганізацыі Беларускага ун-та; у кастр. 1918 увайшоў у Беларускі вучыцельскі саюз. Друкаваўся ў 1919 у мінскай газ. «Звон». У 1920 ад Інстытута народнай адукацыі абраны ў склад Мінскай камісіі па ўтварэнні БДУ. Выкладаў у БДУ. Удзельнічаў у падрыхтоўцы выдання «Беларускай навуковай тэрміналогіі» («Элементарная матэматыка», 1922; «Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі», 1927). У снеж. 1931 па абвінавачанні ў нацыянал-дэмакратызме выключаны з БДУ. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Дзеці // *Звон*. 1919, № 14; Успамін // *Звон*. 1919, № 19.

Літ.: *Карский Е.Ф.* Белорусы. Т. 3, вып. 3. С. 437; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЙКА Сяргей Андрэевіч** [1912, в. Ясвілы Гродзенскай губ. — 11.5.1989, Сібір], стыльрэдактар. У пачатку 1930-х г. вучыўся ў МБПТ разам з Л.Калюгам, Л.Мараковым (брат В.Маракова), С.Астрэйкам, У.Дудзіцкім, М.Кавылём, Ф.Гінтаўтам, У.Сядурам. Пасля сканчэння працаваў у бел. перыядычных выданнях у Мінску. Арыштаваны

ДПУ БССР 25.2.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». Асуджаны 10.8.1933. Сасланы ў Сібір, дзе і застаўся пасля вызвалення. У 1980-я г. перапісваўся з Я.Брылём. Усё жыццё збіраў кнігі і пакінуў пасля сябе вялікую бібліятэку, якую сваякі пасля яго смерці спалілі. Рэабілітаваны 24.8.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ГАЙЛЕВІЧ Язэп** [26.2.1893, в. Дразды Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 18.10.1971], рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч, педагог. У 1913 паступіў у Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Пецярбургу. З-за падзей 1917—18 у Расіі быў вымушаны перапыніць вучобу. Заняткі прадоўжыў у Мінскай духоўнай каталіцкай семінарыі. 29.2.1920 пасвечаны ў святары. У 1920—21 вікарый у мяст. Друя Браслаўскага пав. У 1921—34 адміністратар у Бальбінаве Дзісенскага пав. У 1934—35 вікарый у касцёле Сэрца Ісуса ў Рэзекне (Латвія). У 1935—43 вікарый у касцёле Панны Марыі ў Дзвінску (Даўгаўпілс, Латвія),адначасова выкладаў Закон Божы ў бел. школах. Прымаў удзел у культурным і грамадскім жыцці беларусаў Латвіі. У 1943—49 адміністратар касцёла ў Бальбінаве. У 1949 арыштаваны органамі МДБ. Па абвінавачанні ў нацыяналістычнай дзей-

насці асуджаны на 10 гадоў лагераў. Да 22.6.1956 знаходзіўся ў лагеры ў Мардовіі. У 1956—59 служыў адміністратарам касцёла ў мясцовасці Рундак (Латвія). У 1959—71 адміністратар касцёла ў Бальбінаве.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**ГАЛАВАЧ Платон Раманавіч** [5(18).4.1903, в. Пабокавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, рэдактар. У 1922—23 інструктар Барысаўскага павятовага камітэта камсамола, з 1926 загадчык аргаддзела, з 1928 першы сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1929—30 нам. наркама асветы БССР. У 1922—23 вучыўся ў Мінскай партшколе, у 1926 скончыў Камуністычны ун-т Беларусі. Быў рэдактарам газ. «Чырвоная змена», час. «Маладняк», «Полымя». З'яўляўся адным з лідэраў літаратурных аб'яднанняў «Маладняк» і БелАПП. Друкавацца пачаў з 1921. Першае бел. апавяданне «Загубленае жыццё» апублікавана ў газ. «Савецкая Беларусь» у 1925. У 1927 выйшла першая кніга апавяданняў «Дробязі жыцця». Тэматыка шматлікіх аповесцей, апавяданняў, нарысаў звязана з грамадзянскай вайной і жыццём вёскі. Яго творы карысталіся поспехам, яны перакладаліся на польскую, украінскую, чэшскую,

яўрэйскую мовы. Арыштаваны 10.8.1937. Прыгавораны да расстрэлу 28.10.1937 выязной сесіяй Вярхоўнага суда СССР. Рэабілітаваны 28.7.1956. Многія творы засталіся няскончанымі, у тым ліку кніга пра паўстанне 1863—64 і К.Каліноўскага. Імем Г. названы вуліца і завулак у Бабруйску; у 1968 на будынку Гарбацэвіцкай школы Бабруйскага р-на, дзе вучыўся Г., адкрыта мемарыяльная дошка.

Тв.: Зб. тв.: У 3 т. Мн., 1958. Т. 1. Апавяданні. Нарысы. Артыкулы. Т. 2. Аповесці. Т. 3. Праз гады: Раман; Пісьмы // *Полымя*. 1963, № 4; Некалькі слоў пра сябе // *Пра час і пра сябе*. Мн., 1966; Праз гады. Мн., 1992; Спалох на загонах. Мн., 1996.

Літ.: *Булацкі Р.В., Карніловіч Э.А.* Платон Галавач — публіцыст. Мн., 1973; *Бугаёў Дз.* З кагорты першых // *Бугаёў Дз.* Талент і праца. Мн., 1979; *Каленкович И.* Творчество Платона Галавача: (Жанрово-стилевое своеобразие): Автореферат дис. … канд. филол. н. Мн., 1979; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЛАВІНСКІ Аляксандр Кузьміч** [кастр. 1886, в. Муравілле Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Касцюковіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 1937 ?, Ніжні Ноўгарад, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, рэдактар. У 1912 скончыў Кіеўскі політэхнічны інстытут. Падтрымліваў кантакты з эсэрамі; арыштоўваўся за ўдзел у студэнцкім руху. З 1918 член прэзідыума Кіеўскай беларускай рады, прад-

стаўнік урада БНР ва Украіне. З канца 1918 у Гродне, дарадца МЗС БНР. У 1919 затрыманы румынскімі ўладамі. З 1921 у Літве, старшыня Беларускай нацыянальнай сувязі, замежнага ЦК БПС-Р (у Каўнасе). Выдаваў час. «Покліч». Удзельнічаў у ліквідацыі ўрада БНР на Берлінскай канферэнцыі ў кастр. 1925. У 1927 арыштаваны літоўскімі ўладамі. Пасля вызвалення пераехаў у СССР. Працаваў у ВСНГ БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Ніжні Ноўгарад. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЛАДЗЕД Мікалай Мацвеевіч** [9(21).5.1894, с. Стары Крывец Навазыбкаўскага пав. Чарнігаўскай губ., цяпер Навазыбкаўскі р-н Бранскай вобл., Расія — 21.6.1937, Мінск, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст. Скончыў рабфак Горы-Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. У 1-ю сусветную вайну ў царскай арміі. Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны ў Расіі. З 1918 у ВКП(б). У 1918—21 на адміністрацыйнай рабоце ў Навазыбкаўскім пав. У 1921—24 старшыня выканкама Горацкага Савета. З

12.12.1925 2-і сакратар ЦК КП(б)Б; з 7.5.1927 да 30.5.1937 старшыня СНК БССР. Арыштаваны 14.6.1937 у Маскве; накіраваны ў Мінск, дзе ў час допыту ў будынку НКВД выкінуўся з акна 5-га паверха. Рэабілітаваны ў 1956. Яго імем названы вуліца і праезд у Мінску.

Літ.: *Якутов В.Д.* Н.М. Голодед: Страницы биографии. Мн., 1981; *Страницы истории Компартии Белоруссии: суждения, аргументы, факты*. Мн., 1990; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЛУБОК Уладзіслаў** [сапр.: Голуб Уладзіслаў Іосіфавіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: В.Галубок; У.Галубок; Уладыслаў Галубок; Hałubok; Сымонка; Symonka; Г-к; В. Г-к; Г-у-к; 3(15).5.1882, станцыя Лясная Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 28.9.1937, Мінск, НКВД], драматург, празаік, рэжысёр, акцёр, мастак. Вучыўся ў мінскіх мастакоў. Пачаў літаратурную дзейнасць як паэт і празаік у 1908: друкаваўся ў газ. «Наша ніва», час. «Лучынка», альманаху «Маладая Беларусь» і інш. У 1913 выдаў зборнік «Апавяданні» (Пецярбург). З 1917 выступаў як драматург; напісаў каля 40 п’ес з жыцця бел. народа, якія шырока ставіліся ў бел. тэатрах. У ліп. 1915 — пачатку 1917 адзін з кіраўнікоў Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны (Мінск). У 1917—20 высту-

паў як акцёр і рэжысёр у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі. Летам 1920 узначаліў Драматычную секцыю культурна-асветніцкай арганізацыі «Папараць-кветка» ў Слуцку. У 1920 арганізаваў у Мінску Трупу беларускіх артыстаў (з 1926 Беларускі дзяржаўны вандроўны тэатр, з 1932 Беларускі трэці дзяржаўны тэатр з базай у Гомелі), дзе яго талент раскрыўся найбольш ярка і поўна. Першы народны артыст Беларусі (1928). Праводзіў вялікую культурна-асветную работу, дапамагаў мастацкай самадзейнасці, выступаў з лекцыямі і дакладамі, публікаваўся ў перыядычным друку. Як мастак-дэкаратар афармляў пастаноўкі ўсіх сваіх п’ес. Арыштоўваўся ў 1919, 15.2.1920 і ў вер. (студз. ?) 1924. З канца 1920-х г. пачаліся ганенні на Г. Ён быў адхілены ад мастацкага кіраўніцтва БДТ-3. Арыштаваны 21.6.1936. Расстраляны ў 1937 г. Жонка Г. пасля арышту мужа спрабавала скончыць жыццё самагубствам. Рэабілітаваны 26.8.1957. У 1982 адкрыта Грамадская гасцёўня імя У.Галубка (Траецкае прадмесце ў Мінску), зняты дакументальны фільм «Уладзіслаў Галубок».

Тв.: П’есы. Мн., 1968; Творы: Драматургія; Паэзія; Проза; Публіцыстыка. Мн., 1983.

Літ.: *Атрошчанка А.* Уладзіслаў Галубок. Мн., 1969; *Адхінуўшы заслону часу...: Успаміны пра Уладзіслава Галубка.* Мн., 1979; *Карабанава Л. В.* Драматургія Уладзіслава Галубка. Мн., 1982; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЛЬПЕРЫН Яфім Абрамавіч** [каля 1855, Мінск — пасля 1924], рэвалюцыянер-народнік, публіцыст. Вучыўся ў Мінскай гімназіі. У 1874 далучыўся да ідэй народніцкага сацыялізму і ў 1875—76 з мэтамі «лятучай прапаганды» накіраваўся ў Смаленскую і Тульскую губ. Вярнуўся ў Мінск, супрацоўнічаў з землявольскім гуртком М.Велера. Пасля расколу «Зямлі і волі» далучыўся да «Чорнага перадзелу», кіраваў яго гуртком у Гродне. З канца 1881 у Мінску, уваходзіў у нарадавольскі гурток Я.Хургіна, з 1885 — у гурток І.Гурвіча. Супрацоўнічаў з газ. «Минский листок». Адзін са стваральнікаў Рабочай партыі паліт. вызвалення Расіі. Арыштаваны ў маі 1900 і пасля 14-месячнага зняволення сасланы на 5 гадоў у Сібір. У 1924 напісаў успаміны пра сваю рэвалюцыйную дзейнасць у 1874—1918 (рукапіс у НАРБ). Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Программные вопросы. Мн., [1885] (разам з І.А. і Я.А. Гурвічамі).

Літ.: *Лосинский Н.Б.* Революционно-народническое движение в Белоруссии, 1870—1884. Мн., 1983; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЛЮН Сяргей Фёдаравіч** [1866, Санкт-Пецярбург — пасля 1917], рэвалюцыянер, публіцыст. У 1891 скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Пецярбургу. З канца 1891 урач у Гродзенскім ваенным шпіталі. Праводзіў дабрачынную дзей-

насць: адзін з арганізатараў нядзельнай школы, народнай бібліятэкі; бясплатны доктар мясцовага прытулку. З 1892 член, з 1893 кіраўнік Гродзенскага рэвалюцыйнага гуртка. З марксісцкіх пазіцый крытыкаваў ідэалогію і тактыку «Народнай волі». Арыштаваны 26.6.1894; выключаны з ваеннага ведамства 18.10.1895; на 3 гады высланы ў Архангельскую губ. Паводле адных звестак уцёк з ссылкі і да канца 1900 жыў за мяжой, паводле іншых — адбыў тэрмін ссылкі да канца. З 1901 працаваў урачом у Варонежскай, Цвярской і Пецярбургскай губ. Пасля 1917 звесткі адсутнічаюць.

Літ.: *Бич М.О.* Развитие социал-демократического движения в Белоруссии. Мн., 1973; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАНСЯРОЎСКІ Віктар**, лацініст, публіцыст, літаратар, падарожнік. У 1920-х — 1-й палове 1930-х г. выкладаў лацінскую мову ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Вязень ГУЛАГу. Пасля вызвалення вярнуўся ў Навагрудак, дзе і памёр.

Літ.: *Чэмер А.* [Анішчык А.] Наваградская Беларуская Гімназія. Вільнюс, 1997.

**ГАНЧАРЫК Міхаіл Мікалаевіч** [псеўданімы і крыптанімы: Ландыш; М.Ландыш; Лясун;

М.Г. Лясун; Я.Сявец; Якім Сявец; Г.М.; М.Г-к; М.Г.; 12(24).11.1899, в. Кляннік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 11.4.1986, Мінск], вучоны-біёлаг, пісьменнік. У 1914 скончыў Ігуменскае пачатковае вучылішча. Першыя вершы апублікаваны ў 1914 у газ. «Наша ніва». У 1917—24 вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце, дзе ўзначальваў Беларускую секцыю студэнтаў. У 1925—28 кіраўнік Аршанскай філіі «Маладняка». Выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі. Друкаваўся ў газ. «Вольная Беларусь», «Беларусь», час. «Аршанскі маладняк», «Рунь», «Зоркі». У 1924—29 працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (БСГА). З 1929 працаваў у Інстытуце біялогіі БелАН, з 1931 нам. дырэктара, в.а. дырэктара. Арыштаваны 14.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Паводле пастановы АДПУ СССР ад 9.1.1934 прыгавораны да 10 гадоў лагераў; накіраваны на будоўлю Байкала-Амурскай магістралі. Пасля вызвалення з 1947 старшы навуковы супрацоўнік Арлоўскай доследнай станцыі. Арыштаваны 15.2.1949 УДБ па Арлоўскай вобл. Пастановай Асобай нарады ад 18.5.1949 высланы на пасяленне ў Краснаярскі край. У 1949—56 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Ігарскай доследнай станцыі Інстытута сельскай гаспадаркі Крайняй Поўначы. Знаходзячыся ў высылцы, распрацаваў асновы палярнага земля-

робства. Вызвалены ў ліп. 1954. Рэабілітаваны 18.4.1956. З 1956 у БСГА, з 1958 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялогіі АН БССР, у 1961—86 загадчык аддзела, дырэктар, загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. З 1960 доктар біялагічных навук, прафесар; з 1969 член-карэспандэнт АН БССР; з 1972 заслужаны дзеяч навукі БССР. Аўтар шматлікіх навуковых прац па фізіялогіі і біялогіі раслін. Аўтар кнігі пра прэзідэнта АН БССР В.Купрэвіча «Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны» (1981). Апошнія гады працаваў над кнігай мемуараў, якія не паспеў скончыць. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках.

Тв.: Фізіялогія і біяхімія бульбы. Мн., 1979 (разам з А.Вечарам); Праз гады і дзесяцігоддзі: [Успаміны] // *ЛіМ*. 1981, 21 жн.

Літ.: *Вечер А.С., Смоляк Л.П., Иванченко В.М.* М.Н.Гончарик // *Весці АН БССР. Серыя біялаг. н.* 1969, № 6; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАНЬКО Міхась** [псеўданімы: В.Аганёк, М.Волат; 1918, в. Каледзіна Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. – ?], грамадска-паліт. дзеяч, рэдактар. У 1938—39 вучыўся на медыцынскім ф-це Віленскага ун-та. У 1939—41 працаваў дырэктарам Лужкоўскай няпоў-

най сярэдняй школы (Маладзечанскі р-н). У чэрв. 1941 мабілізаваны ў Чырвоную Армію. У снеж. 1941 трапіў у нямецкі палон. Вызвалены з лагера па хадайніцтве Ф.Акінчыца. Скончыў школу прапагандыстаў. Працаваў у аддзеле прапаганды пры Генеральным камісарыяце Беларусі. Супрацоўнічаў з бел. прэсай. 22.6.1943 узначаліў Кіраўнічы штаб СБМ. Быў галоўным рэдактарам час. «Жыве Беларусь!», дзе друкаваўся пад псеўданімамі. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса. У ліп. 1944 выехаў у Германію. Імкнуўся перавесці ўзброеныя атрады, сфарміраваныя з ліку сяброў СБМ, пад камандаванне генерала А.Уласава. На пачатку 1945 уступіў у падпольную Беларускую незалежніцкую партыю. Служыў афіцэрам-прапагандыстам у дэсантным батальёне «Дальвіц». Рэдагаваў час. «Змагар». Пасля раззбраення батальёна «Дальвіц» сляды Г. знікаюць. Ёсць звесткі, што ў 1945 нелегальна вярнуўся ў Беларусь, дзе браў удзел у антысавецкай партызанцы.

Літ.: *Соловьев А.К.* Белорусская Центральная Рада. Мн., 1995; *Беларускі нацыяналізм: Даведнік* / Укладальнік Пятро Казак. [Б. м. і г. в.]: Голас краю; *Юрэвіч Л.* Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускае Моладзі. Мн., 2001.

**ГАРАЎСКІ Вільгельм** [19.4.1908, Барысаўшчына — 27.8.1937, Мінск, НКВД], празаік. Як ад-

значаў М.Гарэцкі, «пад уплывам польскага патрыятызму» ў 1921 выехаў у Польшчу. Знаходзіўся там два месяцы. Калі скончыліся грошы, бо працы так і не знайшоў, вярнуўся ў БССР. Трапіў у Інстытут сацыяльнага перавыхавання ў Мінску, адкуль потым уцёк і як беспрытульнік вандраваў па Украіне і Каўказе. У 1922 вярнуўся ў інстытут. Настаўнічаў. Пісаў апавяданні, друкаваўся ў мінскіх і бабруйскіх выданнях. У 1931 браў удзел у Першым усесаюзным з'ездзе польскіх пралетарскіх пісьменнікаў (гл. «Полымя». 1931, № 8). Арыштаваны ў пачатку 1937. Расстраляны.

Літ.: *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992; *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ГАРБАЧЭЎСКІ Іван Іванавіч** [22.9(4.10). 1800, Магілёўская губ., паводле іншых звестак Чарнігаўская губ. — 9(21).1.1869, Пятроўскі Завод, цяпер Пятроўск-Забайкальскі Чыцінскай вобл., Расія], дзекабрыст, мемуарыст. Па маці звязаны сваяцтвам з архіепіскапам Г.Каніскім. У 1808—17 выхоўваўся ў Віцебскай гімназіі. Пасля смерці маці адмовіўся ад маёнтка і перадаў зямлю сялянам. З 1820 служыў падпаручнікам у артылерыйскай брыгадзе ў Наваград-Валынску (цяпер у Жытомірскай вобл., Украіна). Там у 1823 стаў членам «Тавары-

ства аб'яднаных славян», якое пазней прыняло праграму тайнага Паўднёвага таварыства і злілося з ім. Падчас паўстання Чарнігаўскага пяхотнага палка (29.12.1825 — 3.1.1826) спрабаваў узняць суседнія вайсковыя часці. Арыштаваны 20.1.1826 і зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Прыгавораны да смяротнага пакарання. Паводле царскай канфірмацыі пазбаўлены дваранства і 28.9.1827 сасланы на катаржныя работы пажыццёва. Спачатку (са снеж. 1827) змешчаны ў Чыцінскі астрог, у вер. 1830 пераведзены ў Пятроўскі Завод. У 1832 тэрмін скарочаны да 15, пазней да 13 гадоў. Пасля адбыцця пакарання ў 1839 на пасяленні ў Пятроўскім Заводзе. У 1863 яму дазволена жыць у Пецярбургу, але Г. не выкарыстаў гэтай магчымасці. З 1865 выконваў функцыі міравога пасрэдніка Пятроўскай горнай акругі. Пакінуў мемуары і багатую эпісталярную спадчыну. У Пятроўск-Забайкальску ўстаноўлены бюст Г. і мемарыяльная дошка, яго імем названы вуліца і бібліятэка. У Віцебску імем Г. таксама названа вуліца, на будынку былой Віцебскай гімназіі ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Тв.: Записки. Письма. М., 1963.

Літ.: *Алексеев Л.* Витебский декабрист // *Неман.* 1970, № 7; *Павлова В.П.* Из архива С.П. Трубецкого. Письма И.И. Горбачевского // *Сибирь и декабристы.* Вып. 4. Иркутск, 1985; *Пасэ У.С.* Бацькі і дзеці // *Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.* 1970, № 4; *ЭГБ*, т. 2; *АЗБ.*

**ГАРБУК Вісарыён Сцяпанавіч** [11(24).11.1913, в. Шкілякі Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл. — 8.8.1986, Пяцігорск, Расія], празаік. Скончыў педтэхнікум у Лепелі. З 1933 працаваў настаўнікам і вучыўся завочна, з 1935 стацыянарна на літаратурным ф-це МВПІ. Пісаў вершы, займаўся ў секцыі паэтаў-пачаткоўцаў пры СП БССР. Арыштаваны 26.4.1936, сасланы на Калыму. Вызвалены ў 1940. Працаваў настаўнікам у Механаўскай школе (Гарадоцкі р-н). У 1941—46 у Чырвонай Арміі; ваяваў пад Масквой, у Беларусі, пад Варшавай, у Берліне. Франтавая хвароба на 14 гадоў прыкавала Г. да шпітальнага ложка; інвалід 1-й групы. Жыў у Пяцігорску. Літаратурнай працай стала пачаў займацца ўжо цяжка хворым. Публікаваўся ў расійскім друку з 1957, у беларускім — з 1961. Першы зборнік апавяданняў выйшаў у 1963 у Мінску. Перакладаў на бел. мову казкі народаў Паўн. Каўказа (зборнік «Напітак волатаў», Мн., 1969). У 1971 паводле яго апавядання «Твар у палоску» зняты тэлефільм. Член СП Беларусі з 1963. Заслужаны работнік культуры Беларусі (1979).

Тв.: Горад без папугайчыкаў: Выбр. тв. Мн., 1983; Лицо в полоску: Рассказы. Мн., 1967; Мышки и мишки: Рассказы. Ставрополь, 1974.

Літ.: *Казека Я.* Слова пра сябра // *Казека Я.* Падарожжа ў маладосць. Мн., 1984; *БП*, т. 2.

**ГАРОДНЯ Алесь** [сапр.: Функ Аляксандр Эраставіч; іншыя псеўданімы: Ф.Гарадзенскі; Ян Дораг; Яндораг; А.Падбярэзкі; 8.1.1899, Перм, Расія — 12.9.1944, ГУЛАГ], празаік, крытык, рэдактар. Паходзіў з нямецкай сям'і, якая мела маёнткі на Пружаншчыне. У 1917 прыехаў з Фінляндыі ў Маскву, дзе стаў членам мясцовай арганізацыі БСГ. Працаваў тэхнічным рэдактарам час. «Чырвоная Беларусь». Друкавацца пачаў у 1925. Сябра «Літаратурнай камуны». У літаратуры 1920-х г. у асноўным вядомы як крытык, стаяў на пазіцыях ваяўнічага вульгарнага сацыялагізму. Апалагет пралетарскай класавай культуры. Арыштаваны па абвінавачанні ў нацыянал-дэмакратызме 3.11.1930; у зняволенні да 1934. Зноў арыштаваны 30.11.1935. Ужо ў высылцы ў Самаркандскай вобл. Узбекістана 19.12.1942 прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі пазбаўлення волі. Памёр у зняволенні.

Тв.: На крэсах: Аповесць. Мн., 1927; Варта на Рэйне: Аповесць. Мн., 1930.

Літ.: *Мікуліч Б.* Пра аповесці Гародні // *Літ. дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»*. 1928, 28 жн.; *Мушынскі М.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: (20 — 30-я гады). Мн., 1975; *БП*, т. 2.

**ГАРТНЫ Цішка** [сапр.: Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы:

Авадзень; Авадзён; Аглядальнік; В.Аса; Беларус; Беларус-Камуніст; Бэйгар; Вар; П.Вартавы; Паўлюк Вартавы; Васа; Сымон Гляк; Габрусь Друк; Сымон Друк; Зета; Зміжыла; Зміцер; Знаёмы; Змітро Капылянін; Янка Кліч; Коммунист Беларус; Мешчанін; Мінчанін; Цішка Г.; Мужык; С.Смык; Я.Смык; Стары С-Д; Твой сын Змітро; Чырвонь; Язэп Чырвонь; Шулятнік; А.; Ц.Г.; Д.Ж.; З.Ж.; У.Ж.; Ул.Ж.; Д.Ж-ч; З.Ж-ч; Я.К-іч і інш.; 23.10(4.11).1887, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. Капыль Мінскай вобл. — 11.4.1937, Магілёў, псіхлячэбніца], пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. Працаваў рамеснікам-гарбаром у Капылі, Літве, Украіне, на заводзе ў Пецярбургу. Друкавацца пачаў з 1908 у газ. «Наша ніва». Першая кніга «Pieśni» выйшла ў 1913. У 1918 сакратар Беларускага нацыянальнага камісарыята. Рэдактар першай бел. бальшавіцкай газ. «Дзянніца». З кастр. 1918 у РКП(б). З 1.1. па 3.2.1919 старшыня Часовага ўрада Савецкай Беларусі. Потым палітработнік Чырвонай Арміі. У 1921 у Берліне наладзіў выданне бел. кніг. Пасля вяртання ў Мінск рэдактар газ. «Савецкая Беларусь», ініцыятар стварэння літ. аб’яднання і час. «Полымя», узначальваў Дзяржвыдавецтва БССР і Цэнтральны архіў БССР, працаваў нам. наркама асветы БССР, у Інстытуце гісторыі БелАН. Акадэмік БелАН з 1928. Выключаны з ВКП(б) 16.1.1931 з фармулёўкай «за

сувязь з <…> нацдэмаўскімі і фашысцкімі элементамі». Арыштаваны 15.11.1936. 7.4.1937 пераведзены ў Магілёўскую псіхіятрычную лячэбніцу, дзе і памёр (па афіцыйнай версіі ад гангрэны лёгкіх; па іншых звестках — скончыў жыццё самагубствам). Пахаваны на ўскраіне Пячэрскага парку ў Магілёве. На выяўленым месцы пахавання 11.4.1989 устаноўлены помнік. Рэабілітаваны ў грамадзянска-прававых адносінах 15.10.1955. Цалкам (палітычна) рэабілітаваны 10.9.1987. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Капылі.

Тв.: Зб. тв.: У 4 т. Мн., 1929—1932; Зб. тв: У 4 т. Мн., 1987—1989. т. 1—3; Вершы. Мн., 1967; Насустрач сонцу: Выбр. апавяданні. Мн., 1978.

Літ.: *Клачко А.М.* Цішка Гартны: (Крытычна-біяграфічны нарыс). Мн., 1961; *Ялугін Э.* Без эпітафіі: Дакументальная аповесць. Мн., 1989; *Успаміны пра Цішку Гартнага.* Мн., 1984; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3; *Возвращенные имена*.

**ГАРУН Алесь** [сапр.: Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: І.Жывіца; А.Новадворскі; Сальвэсь; А.Сумны; А.Г.; І.Ж.; А.Н.; А.Н-і; 11.3.1887, фальварак Новы Двор пад Мінскам — 20.7.1920, Кракаў], паэт, празаік, драматург, публіцыст, грамадскі дзеяч. Скончыў мінскія гарадское (1897) і рамеснае (1902) вучылішчы. З 1904 далучыўся да партыі эсэраў-максіма-

лістаў. Пачаў публікавацца з 1907 у газ. «Наша ніва». Арыштаваны 4.3.1907 у падпольнай друкарні на вул. Шырокай у Мінску, дзе ў той момант друкавалася адозва «Да ўсіх працоўных». У ліп. 1908 Віленскай судовай палатай асуджаны на ссылку і пажыццёвае пасяленне ў Сібіры. Сасланы ў Іркуцкую губ. З 1914 атрымаў права перамяшчацца па ўсёй Сібіры. Працуючы на Лене, падрыхтаваў зборнік «Матчын дар» і ў 1914 пераслаў яго ў Вільню (выйшаў у 1918). Творчасць Г. прасякнута ідэяй сацыяльнага і нацыянальнага разняволення бел. народа. Хворы на сухоты, вярнуўся ў Мінск у вер. 1917. Віцэ-старшыня Усебеларускага з'езда 1917; удзельнічаў у стварэнні БНР. Рэдагаваў газ. «Беларускі шлях», актыўна выступаў у ёй як публіцыст. У час польскай акупацыі быў членам Беларускай вайсковай камісіі. У 1920 хвароба абвастрылася. Па дарозе на курорт Закапанэ памёр у Кракаве. Яго магіла расшукана ў 1988. У 1991 пра Г. зняты дакументальна-публіцыстычны фільм «Праз сваю хату ўбачыць бацькаву».

Тв.: Матчын дар: Думы і песні 1907—1914 гг. Мн., 1918 (2-е выд.: Мн., 1929; факсім. выд. з 1918: Мн., 1988); Мае каляды. Вільня, 1920; Матчын дар і іншыя творы. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1962; Сэрцам пачуты звон: Паэзія; Проза; Драматургія; Публіцыстыка. Мн., 1991.

Літ.: *Казбярук У.* Светлай волі зычны звон // Гарун Алесь. Мн., 1991; *Яго ж.* Пакутлівы шлях набыткаў // *Полымя*. 2002. № 7—8; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАРЭЦКІ Гаўрыла Іванавіч** [псеўданімы: Г.Гурык; Габрыель; 28.3(10.4).1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 20.11.1988, Мінск], геолаг, географ, эканаміст, статыстык, дэмограф, публіцыст, грамадскі дзеяч. Брат М.Гарэцкага. У 1917—19 супрацоўнічаў з Беларускай секцыяй студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Адзін з ініцыятараў і аўтараў выдання зборніка «Маладая Беларусь» (1922). Арыштаваны АДПУ у вер. 1922 у Маскве; вызвалены праз месяц. У 1924 скончыў Пятроўскую (Ціміразеўскую) сельскагаспадарчую акадэмію. З 1925 дацэнт БСГА; з 1927 дырэктар Беларускага НДІ сельскай і лясной гаспадаркі пры СНК БССР. З 1928 акадэмік БелАН. Распрацоўваў шляхі рэалізацыі папулярнай у 1920-я г. ў БССР канцэпцыі «Беларусь — «чырвоная» Данія». Аўтар прац па эканоміцы, эканамічнай геаграфіі, фальклоры. Арыштаваны ДПУ БССР 24.7.1930 па справе «Працоўнай сялянскай партыі». Пазбаўлены звання акадэміка 6.12.1930. Асуджаны 6.6.1931 на 10 гадоў пазбаўлення волі. Датэрмінова вызвалены ў 1934. Працаваў у геалагічных экспедыцыях Гідрапраекта СССР. Арыштоўваўся ў 1937 і 1938. У 1946 стаў доктарам геолага-мінералагічных навук. Рэабілітаваны 22.4.1958; адноўлены ў званні акадэміка ў ліп. 1965. З 1969 да 1985 загадчык аддзела (з 1977 лабараторыі) геалогіі і палеапатамалогіі антрапагена

Інстытута геахіміі і геафізікі АН БССР. З 1972 заслужаны дзеяч навукі БССР. Яго імем названы многія віды выкапнёвых раслін і жывёл. У 1997 створаны Міжнародны фонд братоў Гарэцкіх.

Тв.: *Руска-беларускі слоўнік*. Смаленск, 1918 (2-е выд. Вільня, 1920; разам з М. Гарэцкім); Народны прыбытак Беларусі. Мн., 1926; Межы Заходняй Беларусі ў Польшчы: (Нацыянальны склад насельніцтва Заходняй Беларусі). Мн., 1928; Нацыянальныя асаблівасці насельніцтва БССР і беларускага насельніцтва СССР паводле перапісу 1926 г. Мн., 1929; Аллювий великих антропогеновых прарек Русской равнины. Прареки Камского бассейна. М., 1964; Формирование долины р. Волга в раннем и среднем антропогене. Аллювий Пра-Волги. М., 1966; Аллювиальная летопись великого Пра-Днепра. М., 1970; Асноўныя вынікі вывучэння антрапагену Беларусі ў Акадэміі навук БССР // *Даследаванні антрапагену Беларусі*. Мн., 1978; Каля вытокаў беларускай савецкай навукі // *Весці АН БССР. Серыя грамад. н*. 1979, № 1; Особенности палеопотамологии ледниковых областей (на примере Белорусского Понеманья). Мн., 1980; Палеопотамологические эскизы Палео-Дона и Пра-Дона. Мн., 1982.

Літ.: *Бібліяграфія навуковых прац акадэміка АН БССР Г.І.Гарэцкага*. Мн., 1980; *Илькевич Н.Н.* Академик Гавриил Горецкий: первое столкновение с ГПУ. К истории высылки за границу отечественной интеллигенции в 1922 году. Смоленск, 1998; *Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі : Успаміны, артыкулы, дакументы*. Мн., 2000; *Кригер Н.И.* О жизни и научной деятельности Г.И. Горецкого // *Бюллетень Комиссии по изучению четвертичного периода*. № 37. М., 1970; *Меннер В.В., Никифорова К.В.* Ровесник века // *Известия АН СССР. Серия геолог. н*. 1976, № 5; *Гарэцкая Г.* Дзядзька Гурык // *Полымя*. 1993, № 1; *Гарэцкі Р.* Першы арышт // *ЛіМ*. 1993, 27 жн., 3 верас.; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАРЭЦКІ Максім Іванавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Амстиславский; Беларус; Biełarus; М.Беларус; Дед Кузьма; Дзед Кузьма; Кузьмянкоў; Мізэрыус Монус; А.Мсьціслаўскі; Максим; Мацей Мышка; Псэўдонім; М. Б-с; Г.М.; М.Б.; М.Г.; П.Б.; 6(18).2.1893, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер в. Багацькаўка Мсціслаўскага р-на Магілёўскай вобл. — 10.2.1938, Вязьма Смаленскай вобл., НКВД], класік беларускай літаратуры, празаік, драматург, публіцыст, літаратуразнавец, перакладчык, лексікограф, фальклярыст. Брат Г.Гарэцкага. У 1913 скончыў Горацкае каморніцка-аграрнае вучылішча. У 1913—14 працаваў у Вільні чарцёжнікам і каморнікам. Публікавацца пачаў з 1912 (газ. «Наша ніва»); першы зборнік выйшаў у 1914 («Рунь», Вільня). У 1916 скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. Быў паранены на фронце. У 1917 служыў у Смаленскім Савеце, супрацоўнічаў з газ. «Известия Смоленского Совета». Са жн. 1918 супрацоўнік газ. «Звезда», з рэдакцыяй якой пераехаў спачатку ў Мінск, потым у Вільню. У гэты час Вільня была ўзята польскімі войскамі. Выкладаў бел. мову на настаўніцкіх курсах і ў Віленскай беларускай гімназіі. У снеж. 1920 — ліп. 1921 рэдактар і выдавец газ. «Наша думка», з вер. 1921 — газ. «Беларускія ведамасці». У 1922 двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У кастр. 1923 перабраўся ў БССР. Выкладаў мову і літаратуру на рабфаку БДУ і ў Камуністыч-

ным ун-це Беларусі; загадваў кафедрай бел. мовы, літаратуры і гісторыі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1929—30 працаваў у Тэрміналагічнай камісіі БАН. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 паводле арт. 58 п. 4, 7, 11 КК РСФСР высланы ў Вятку на 5 гадоў. Там працаваў чарцёжнікам, на іншых работах. З 1935 у пасёлку Пасочня Смаленскай вобл. (цяпер Кіраў Калужскай вобл. Расіі) выкладаў у школе рускую мову і літаратуру. Зноў арыштаваны 4.11.1937. Паводле рашэння «тройкі» НКВД расстраляны. Рэабілітаваны 15.11.1957. Творы Г. публікаваліся на балгарскай, літоўскай, латышскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай мовах. У в. Багацькаўка створаны яго музей. Імем Г. названа бібліятэка ў Горках, вуліцы ў Мінску, Мсціславе, Горках; установулены помнікі ў Мінску і Вязьме. У 1997 створаны Міжнародны фонд братоў Гарэцкіх.

Тв.: Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1973; Зб. тв. Т. 1—4. Мн., 1984—86; Творы / Пасляслоўе П.В. Васючэнкі, М.І. Мушынскага. Мн., 1990; Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992.

Літ.: *Адамовіч А.* // *Узвышша.* 1928. № 1—6; *Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы* / Склад. А.С. Ліс, І.У. Саламевіч. Мн., 1984; *Адамовіч А.* «Браму скарбаў сваіх адчыняю…» Мн., 1980; *Бугаёў Дз.* Максім Гарэцкі. Мн., 1968; *Ліс А.* Браты Гарэцкія // *Песню — у спадчыну.* Мн., 1989; *Дасаева Т.М.* Летапіс жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага. Мн., 1993; *Першыя Гарэцкія чытанні.* Горкі, 1992; *Гарэцкія чытанні.* Горкі, 1993, 1994, 1996; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГАЎРУК Юрка** [Юрый Паўлавіч; псеўданім: С.Дробуш; 23.4(6.5).1905, Слуцк Мінскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 18.2.1979, Мінск], перакладчык, крытык, паэт. З 1915 сям'я Г. ў бежанстве ў Пскове. У 1921 скончыў Слуцкую школу другой ступені. Вучыўся ў Маскве ў Вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В.Брусава (скончыў у 1925). З 1924 запісваў на Случчыне бел. фальклор. З першымі перакладнымі творамі дэбютаваў у 1925. Свае творы друкаваў у час. «Аршанскі маладняк», «Маладняк», «Полымя» і інш. Сябра «Маладняка». Увосень 1925 абраны дацэнтам кафедры бел. мовы і літаратуры БСГА, пераехаў у Горкі. У 1931—35 дацэнт кафедры літаратуры Магілёўскага педінстытута. Арыштаваны 8.2.1935. Высланы з Беларусі; працаваў у Карэліі, ва Усх. Сібіры, у Комі. Рэабілітаваны ў 1956. Пераехаў у Мінск. У 1957—67 працаваў памочнікам галоўнага рэжысёра па літаратурнай частцы тэатра імя Я.Купалы. У гэтым тэатры, а таксама ў тэатры імя Я.Коласа пастаўлены ў яго перакладзе п'есы з сусветнай класікі.

Тв.: Агні ў прасторах: Выбраныя пераклады. Мн., 1975; Узвіхраны ветразь: Вершы. Паэма. Пераклады. Мн., 1990; Ступень адказнасці: Літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ. Мн., 1986.

Літ.: *Гілевіч Н.* Майстар «з краю музыкі і слова» // *Гілевіч Н.* У гэта веру. Мн., 1978; *Яго ж.* Паэт-інтэлігент брусаўскай школы: Памяці Ю.П.Гаўрука // *Гілевіч Н.* Удзячнасць і абавязак. Мн., 1982; *Семяжон Я.* Урокі настаўніка // *ЛіМ.* 1980, 16 мая; *БП*, т. 2.

*Леанід Маракоў*

**ГАЎРЫЛІК Язэп Емяльянавіч** [25.3(6.4).1893, в. Калодчына Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 8.12.1937, Салаўкі, НКВД], грамадска-паліт. дзеяч, педагог, мемуарыст. У 1914 скончыў Барунскую настаўніцкую семінарыю. Браў удзел у заснаванні ў 1922 Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны. З 1925 член БСРГ. У маі 1930 без яго згоды залічаны ў КПЗБ. У 1928 абраны дэпутатам польскага сейма. Старшыня арганізацыі «Змаганне». Арыштаваны дэфензівай у жн. 1930 і асуджаны на 9,5 года зняволення. З вер. 1932 у выніку абмену палітзняволенымі ў Мінску. Працаваў у Народным камісарыяце асветы БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 паводле пастановы судовай калегіі АДПУ прыгавораны да расстрэлу, замененага 10 гадамі ссылкі. Накіраваны на Салаўкі і на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. 21.11.1937 «тройкай» НКВД па Ленінградскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух прысудах 16.8.1956.

Літ.: *Годы испытаний и мужества.* Мн., 1973; *Муха-Муховский Г. М.* Пути-дороги. Мн., 1973; *ЭГБ*, т. 2.

**ГВАЗДОЎ Мікола** [Мікалай Васілевіч; крыптанім: М.Г-ў; 1.6.1916, Полацк — 1938 (?), УхтпечЛАГ (?),

Комі], паэт. Нарадзіўся ў сям'і служачых. Па нейкіх прычынах дзяцінства правёў у дзіцячым доме. Пісаць вершы пачаў у 13 гадоў, калі жыў у Віцебску. Знаходзіўся пад моцным уплывам паэзіі С.Ясеніна, У.Маякоўскага, А.Блока. Першы верш «Рабочы-прызыўнік» апублікаваны ў 1932 у газ. «Віцебскі пралетарый». Друкаваўся ў газ. «ЛіМ», «Звязда», час. «Работніца і калгасніца Беларусі». У 1933 паступіў на літаратурны ф-т МВПІ. У 1935, адчуваючы небяспеку, перавёўся на завочнае аддзяленне і паехаў працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Чэрыкаве, але хутка быў звольнены. Адной з прычын было ягонае «зневажэнне ў вачах вучняў правадыроў партыі». Пераехаў у Мсціслаў, потым у Мінск. Арыштаваны 13.3.1936 на кватэры яго сябра крытыка Пятра Хатулёва. Асуджаны на 5 гадоў лагераў. Накіраваны ў Чыб'ю (УхтпечЛАГ), дзе, верагодна, і загінуў.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *БП*, т. 6.

**ГЕДРОЙЦЬ Міхал Ян Генрык** [Giedroyć; нар. 25.1.1929, б. маёнтак Лобзаў Слонімскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл.], гісторык. У 1940 разам з сям'ёй дэпартаваны савецкімі ўладамі ў Сібір. У 1942 з польскай

арміяй генерала У.Андэрса эвакуіраваўся ў Іран. З 1947 у Англіі. У 1951 скончыў Лонданскі ун-т. Даследуе гісторыю ВКЛ, найперш 13—14 ст. Аўтар прац пра ўвядзенне хрысціянства ў Беларусі і Літве, Крэўскую унію 1385, каментарыяў да англійскага перакладу «Хронікі Быхаўца».

Тв.: The Arrival of Christianity Lithuania... // *Oxford Slavonic Papers*. 1985—1989. Vol. 18, 20, 22.

Літ.: *ЭГБ*, т. 2.

**ГЕЛЬТМАН Стафан Лявонавіч** [4.10.1886, Замосце Люблінскага ваяв., Польшча — 20.9.1937, Масква, НКВД], рэдактар, гісторык, выдавец. У 1903—05 рэдактар час. «Głos». У 1912 скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве. З 1915 у Мінску. Адзін з арганізатараў Польскага сацыялістычнага аб'яднання (ПСА), у 1917—18 старшыня праўлення яго мінскай групы. Заснавальнік і рэдактар органа ПСА «Prawda». У 1917 член Мінскай гарадской думы. Са снеж. 1917 камісар Зах. вобласці і фронту па польскіх справах. Пасля акупацыі Мінска нямецкімі войскамі арыштаваны і 9 месяцаў знаходзіўся ў зняволенні. У 1919 нам. наркама земляробства Літоўска-Беларускай ССР. У 1920—23 на розных дзяржаўных і партыйных пасадах; адначасова ўзначальваў выдавецкі кааператыў «Трыбуна». У 1924—25 наркам земляробства, старшыня Дзяржплана, нам. старшыні

Саўнаркама БССР. З 1925 рэктар і загадчык кафедры эканомікі і палітыкі Камуністычнага ун-та Беларусі. З 1927 адначасова загадчык польскага сектара Інбелкульта. Займаўся гісторыяй сялянскага пытання і ўдзелам палякаў Беларусі ў рэвалюцыі; апублікаваў на гэтыя тэмы кнігі. У 1930-х г. у Маскве; працаваў у Наркаматах земляробства і зернесаўгасаў СССР. Арыштаваны ў ноч з 4 на 5.4.1937. Прысуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 20.9.1937 да расстрэлу. Рэабілітаваны 31.3.1956.

Тв.: Chłopskie partactwo czy gospodarka społeczna. Sprawa rolna podczas rewolucji. Mn., 1920; Nacjonalizacja ziemi na Białej Rusi. Mn., 1921; Robotnik polski w rewolucji październikowej na Białorusi. Mn., 1927.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 2.

**ГЕЛЬФАНД Хаім Янкель Шыманавіч** [псеўданім: А.І.Літвак; 1877, Слуцк — 1932, ЗША], паліт. дзеяч, публіцыст. Адзін з кіраўнікоў Бунда, з 1905 член ЦК. Аўтар кніг па паліт. і ідэалагічных праблемах яўрэйскага сацыялістычнага руху. Неаднаразова арыштоўваўся за паліт. дзейнасць. У 1896 сасланы ў Якуцію, дзе знаходзіўся да 1902. Жыў у Пецярбургу. У 1915 выехаў у ЗША, дзе быў прадстаўніком Бунда. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Расію. Адмоўна ўспрыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю. На XI канферэнцыі Бунда ў 1919 у

Мінску ўзначаліў сацыял-дэмакратычнае крыло. У 1921 арыштаваны ЧК. Пасля вызвалення нейкі час жыў у Вільні. У 1925 канчаткова пераехаў у ЗША.

Тв.: Мелкобуржуазный социализм на еврейской почве (Критика «теории» социалистов-сионистов). СПб., 1906; Поалей сионизм: Новое течение в русском еврействе — рабочий сионизм: Критический очерк. СПб., 1907.

Літ.: *БЭ*, т. 5.

**ГЕНІЮШ Ларыса Антонаўна** [дзявочае прозвішча Міклашэвіч; 27.7(9.8.).1910, маёнтак Жлобаўцы каля в. Воўпа Гродзенскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл. — 7.4.1983, Зэльва Гродзенскай вобл.], паэтэса, празаік, грамадскі дзеяч. Скончыла Ваўкавыскую гімназію (1928). Узяла шлюб з Янкам Геніюшам і ў 1937 пераехала ў Прагу, дзе ён вучыўся, а потым працаваў лекарам. Пасля таго, як Чырвоная Армія заняла ў 1939 Зах. Беларусь, быў арыштаваны бацька Г. Пасля нядоўгага зняволення ў гродзенскай турме яго расстралялі. Маці Г. і двух яе сясцёр выслалі ў Казахстан. У 1937—48 жыла ў Празе. Наладзіла стасункі з бел. эміграцыяй, брала ўдзел у працы ўрада БНР на эміграцыі. У сак. 1943 стала Генеральным сакратаром урада і займалася захаваннем і ўпарадкаваннем архіва БНР. Апекавалася бел. эмігрантамі, паліт. ўцекачамі, бел. работнікамі

і ваеннапалоннымі ў Германіі. 5.3.1948 арыштавана з мужам у Вімперку (Чэхія); 12 жн. іх перадалі савецкім уладам. Утрымліваліся ў савецкіх турмах Вены і Львова, з канца 1948 у турме ў Мінску, дзе Г. дапытваў міністр Дзяржбяспекі БССР Л.Цанава, які беспаспяхова патрабаваў ад Г. перадаць архівы БНР. У лют. 1949 Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Г. да 25 гадоў зняволення ў лагерах. На такі ж тэрмін быў асуджаны Я.Геніюш. Пакаранне адбывала ў лагерах Інта і Абедзе (Комі АССР) і ў Мардоўскай АССР. У 1956 разам з мужам часткова рэабілітавана, тэрмін пакарання зменшаны да 8 гадоў, якія ўжо прайшлі з моманту прысуду. Пасля вызвалення пасяліліся на Радзіме мужа ў Зэльве. Прынцыпова адмаўлялася прымаць савецкае грамадзянства, засталася грамадзянкай Чэхаславакіі. Дом Геніюшаў у Зэльве стаў прыцягальным асяродкам для творчай моладзі Беларусі. Нягледзячы на нагляд КДБ, тут бывалі частымі гасцямі паэты і пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. Вершы Г. пісала яшчэ ў гімназіі, а друкавацца пачала ў 1939 у бел. перыядычных выданнях «Раніца», «Беларускі работнік», «Новы шлях» і інш. У 1942 у Празе выйшаў першы зборнік яе паэзіі. Пісала вершы і ў зняволенні. Пасля вызвалення яе творчасць на працягу 10 гадоў была забаронена. У 1967 пры садзейнічанні М.Танка надрукаваны яе першы ў савецкай Беларусі зборнік «Невадам з Нёмана». Доўгі час Г. дазвалялі выступаць толькі як дзіцячай пісьменніцы (апублікавала 2 кніжкі вер-

шаў для дзяцей). Пасля заняпаду таталітарызму пасмяротна былі выдадзены найбольш поўныя і значныя зборнікі яе твораў. Пахавана ў Зэльве.

Тв.: Ад родных ніў. Прага, 1942 (факсімільнае выд. Слонім, 1995); Невадам з Нёмана. Мн., 1967; Казкі для Міхаські. Мн., 1972; Добрай раніцы, Алесь. Мн., 1976; На чабары настоена. Лірыка. Мн., 1982; Dziewiać wieršau. Biełastok, 1987; Белы сон: Вершы і паэмы. Мн., 1990; Вершы: Рукапісны зборнік з 1945—1947. Лондан, 1992; Маці і сын. Беласток, 1992; Споведзь. Мн., 1993; Выбр. вершы. Мн., 1997; Ларыса Геніюш. Выбраныя творы. Мн., 2000.

Літ.: *Бічэль-Загнетава Д*. З прынямонскіх вярбін // *Полымя*. 1988, № 4; *Neureiter F.* Larysa Henijuš // *Weissrussische Antologie*. München, 1983; *Марціновіч А.* «Ты мой боль святы, Беларусь мая...» // *Роднае слова*. 1992, № 3; *Сачанка Б*. Ларыса Геніюш // *Маладосць*. 1988, № 10; *Чарняўскі М*. Ларыса Геніюш // *Дэмакратычная апазіцыя*; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 2.

**ГЕСЭН Уладзімір Юльевіч** [1901, Санкт-Пецярбург — ?], гісторык. Працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН, выкладаў у МВПІ. Арыштаваны 8.3.1933. Вызвалены з-пад варты 26.3.1933 пад падпіску аб нявыездзе. 9.7.1933 тэрмін знаходжання пад вартай залічаны ў тэрмін пакарання з адменай падпіскі аб нявыездзе. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны Ваенным трыбуналам Беларускай вайсковай акругі 9.5.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ГІНТАЎТ Францыск Віктаравіч** [Гінтаўт-Дзевалтоўскі; псеўданім: Алесь Шчодры; 9.3.1910, в. Баршчэўнік Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — 20.7.2002, Гродна], пісьменнік, біёлаг. У 1923—27 вучыўся ў 13-й доследна-паказальнай сямігадовай школе пры педфаку БДУ. У канцы 1920-х г. паступіў у Мінскі Белпедтэхнікум, які скончыў у 1931. Займацца літаратурнай творчасцю пачаў у тэхнікуме. Яго карэспандэнцыі і апавяданні друкаваліся ў газ. «Беларуская вёска» і «Піянер Беларусі», час. «Чырвоны сейбіт». У 1931 паступіў на філалагічны ф-т БДУ, пасля мусіў перавесціся на біялагічны ф-т, бо на філфаку «органы» пачалі вышукваць нацдэмаў. Арыштаваны 23.2.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады»; утрымліваўся ў мінскай турме «амерыканка». Высланы на 3 гады на Далёкі Усход. Працаваў на будаўніцтве непадалёку ад Нікольска-Усурыйска, пасля на Сяданскай плаціне каля Уладзівастока. У 1935 пераехаў у Саратаў, аднавіў навучанне ў Саратаўскім ун-це імя Чарнышэўскага. Удзельнічаў у навуковых экспедыцыях у стэпах Дона і Волгі. У 1940 пасля сканчэння ун-та быў пакінуты асістэнтам на кафедры заалогіі пазваночных. У лют. 1941 па конкурсе абраны загадчыкам навуковага аддзела Беларускага дзяржаўнага запаведніка (сядзіба ў Бягомлі). У пачатку вайны не паспеў эвакуіравацца; падчас нямецкай акупацыі знаходзіўся ў Беларусі. З 1944 жыў у

Вільні, працаваў перакладчыкам з польскай мовы і загадчыкам вучэбнай часткі ў 6-й жаночай гімназіі. У 1945 паводле жадання жонкі перабраўся на яе Радзіму ў Куйбышаў. Працаваў інжынерам-рыбаводам і назіральнікам-гідрабіёлагам, асістэнтам у медыцынскім інстытуце і нам. дырэктара ў сярэдняй школе. У 1955 вярнуўся ў Беларусь, жыў у Мінску. Потым па накіраванні Міністэрства асветы БССР пераехаў у Гродна. Працаваў нам. дырэктара СШ № 12; з восені 1958 асістэнт кафедры біялогіі ў Гродзенскім медыцынскім інстытуце; з 1965 у педагагічным інстытуце — старшы выкладчык і дацэнт кафедры заалогіі і анатоміі. З 1975 на пенсіі. У 1980—90-х г. артыкулы і нарысы Г. публікаваліся ў час. «Полымя», «Маладосць», «Свіцязь», газ. «Літаратура і мастацтва», «Народнай газеце».

Тв.: З картатэкі памяці. Гродна, 2000; Жменька думак, згадак пра Янку Купалу // *Полымя*. 1984, № 5.

Літ.: *Лабовіч А.* «Моладзевых ветразяў узвівы...» // *Пагоня*. 1998, 11 жн.; *Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Біябібліяграфічны даведнік*. Гродна, 1999.

**ГІНТАЎТ-ДЗЕВАЛТОЎСКІ Уладзіслаў Люцыян** [1857, Дзісенскі пав. Віленскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 1925, Зах. Сібір], народнік,

празаік. Вучыўся ў Віцебскай гімназіі, уваходзіў у нелегальны вучнёўскі гурток, за што ў 1877 выключаны з гімназіі. У канцы 1878 — пачатку 1879 у Маскве, член «Зямлі і волі». Арыштаваны 7.3.1879 па падазрэнні ў забойстве правакатара. Вызваліўшыся, эміграваў у Парыж; быў загадчыкам эмігранцкай бібліятэкі. Пры падтрымцы І.Тургенева ў газ. «Порядок» апублікаваў апавяданне «Пятьдесят два часа на обломке в открытом море». Вярнуўся ў Расію; 25.12.1881 арыштаваны ў Харкаве. Апраўданы Маскоўскім акруговым судом 4.12.1882. Зноў арыштаваны і 20.6.1883 высланы на 3 гады ў Зах. Сібір, дзе застаўся жыць.

Літ.: *Деятели революционного движения в России: Библиографический словарь*. Т. 3, вып. 2. М., 1934; *ЭГБ*, т. 3.

**ГЛАСКО Восіп** [Hłasko Józef; 1856, маёнтак Пераселянцы Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 14.7.1934, Варшава], паліт. дзеяч, журналіст. Скончыў гімназію ў Варшаве. У 1876 паступіў у медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу. У снеж. 1878 за ўдзел у студэнцкіх выступленнях арыштаваны. Паўторна арыштаваны 15.4.1879 у сувязі з паездкамі да рэвалюцыянераў у Полацк і Варшаву. У зняволенні знаходзіўся 4 месяцы; вызвалены пад нагляд паліцыі. Удзельнічаў у стварэнні Польскай сацыялістычнай

арганізацыі ў Пецярбургу, быў яе прадстаўніком у «Народнай волі». Зноў арыштаваны 12.4.1881, высланы на 5 гадоў ва Усх. Сібір (Енісейск). Пасля вызвалення жыў у Варшаве (1888—93), супрацоўнічаў у тыднёвіку «Głos». Паступова далучыўся да польскіх нацыянал-дэмакратаў (эндэкаў). Адзін з арганізатараў патрыятычнай маніфестацыі ў Варшаве 17.4.1894. У выніку, 20.8.1894 на яго кватэры ў Варшаве, а на наступны дзень у родным маёнтку праведзены вобыскі, знойдзена шмат нелегальнай літаратуры. Г. зняволілі ў Варшаўскай цытадэлі. Асудзілі на 5 гадоў ссылкі ў Валагодскую губ. (Сольвычагодск). У 1895 тэрмін ссылкі скарочаны да 2 гадоў. З вер. 1897 жыў у Смаленску, з сак. 1899—1902 у родным маёнтку пад наглядам паліцыі. Пасля жыў у Львове, дзе займаўся журналістыкай. У 1906 у Вільні рэдагаваў час. «Dziennik Wileński». У 1915 (перад уваходам нямецкіх войск) выехаў у Мінск, потым у Петраград. Браў удзел у выданні тыднёвіка эндэкаў «Sprawa polska». У Маскве заснаваў тыднёвік «Gazeta polska». З 1918 жыў у Варшаве, потым у Міляноўцы каля Варшавы. Супрацоўнічаў з выданнем «Gazeta Warszawska»; узначальваў аб’яднанне варшаўскіх журналістаў.

Літ.: *Черепица В.* Истоки: (Очерки из истории русско-белорусско-польских революционных и культурных связей XIX — начала XX веков). Гродно, 1991; *Яжборовская И. С., Бухарин Н. И.* У истоков польского социалистического движения. М., 1976; *ЭГБ*, т. 3.

**ГЛАСКО Іван Антонавіч** [псеўданімы: Рапацкий; Stuchl; 8.2.1855, Полацкага пав. Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — ліп. 1881, Краснаярск], паліт. дзеяч, публіцыст. Стрыечны брат В.Гласко. Скончыў Мінскую гімназію, вучыўся ў Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. З пачатку 1873 у народніцкім руху. У 1874 заснаваў у Санкт-Пецярбургу бел.-польскі сацыялістычны гурток. У чэрв. 1876 выехаў у Лондан для наладжвання кантактаў з расійскімі эмігрантамі, якія выдавалі газ. «Вперёд!». Змясціў у гэтай газеце нізку матэрыялаў (1876, № 38—40, 42, 44) «З Беларусі». Пасля прыезду ў Пецярбург быў арыштаваны ў сувязі з судовым працэсам па «справе 50-ці» (21.2—14.3.1877). Вызвалены, знаходзіўся пад наглядам паліцыі. Як фельчар удзельнічаў у руска-турэцкай вайне 1877—78; узнагароджаны ордэнам Св. Георгія. Вярнуўся ў Пецярбург. Быў накіраваны ў Варшаву як эмісар пецярбургскай тайнай арганізацыі. Арыштаваны 16.9.1878, прыцягнуты да следства па справе аб сацыялістычнай прапагандзе сярод рабочых Варшавы («справа 137-мі»). 14.4.1880 высланы ва Усх. Сібір (Краснаярск), дзе і памёр.

Літ.: *Снытко Т. Г.* Русское народничество и польское общественное движение 1865—1881 гг. М., 1969; *ЭГБ*, т. 3.

**ГЛЯКОЎСКІ Станіслаў** [псеўданімы: Stasiuk z-nad Niemna; Stasila; 2.3.1896, мяст. Поразава Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Свіслацкі р-н Гродзенскай вобл. — 1941, Мінск, гестапа], рыма-каталіцкі святар, педагог, рэдактар, выдавец, публіцыст. У 1913 скончыў гарадское вучылішча ў Ваўкавыску. У 1914 паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. Вучыўся ў Грыгарыянскім ун-це ў Рыме. Доктар тэалогіі. Пасвечаны ў святары 29.5.1921 у Вільні. Служыў святаром на Ваўкавышчыне і Беласточчыне. З 1928 выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. Член Беларускага навуковага таварыства і Беларускага каталіцкага выдавецтва ў Вільні. Выдаваў для дзяцей час. «Пралескі». Публікаваўся ў газ. «Беларуская крыніца», час. «25 сакавіка» і інш. Быў вікарыем у парафіі св. Яна ў Вільні. У час 2-й сусветнай вайны ў Мінску; святар у касцёле святых Сымона і Алены. Арыштаваны нямецкай тайнай паліцыяй 15.12.1941 падчас канферэнцыі бел. школьных інспектараў у Мінску. Расстраляны разам з іншымі бел. ксяндзамі.

Літ.: *Берасцень С.* Ксёндз Глякоўскі // *ЛіМ*. 1992, 8 мая; *Наша вера* (Мінск). 1996, № 4; *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 3.

**ГОЛАСАЎ Уладзімір Сяргеевіч** [12.7.1913, мяст. Ілья Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер

Вілейскі р-н Мінскай вобл. — пасля 1944, ГУЛАГ], праваслаўны святар. Паходзіў з сям'і праваслаўнага святара. У 1931 скончыў Віленскую духоўную праваслаўную семінарыю. Прадоўжыў вучобу на багаслоўскім ф-це Варшаўскага ун-та, які скончыў у 1935 са ступенню магістра багаслоўя. 17.5.1934 рукапаложаны ў сан святара. Пачаў служыць у в. Ятвеску Шчучынскага пав. 25.9.1935 пераведзены ў Маладзечна. Служыў нам. настаяцеля ў праваслаўным прыходзе ў Радашковічах. Удзельнічаў у беларусізацыі праваслаўнай царквы. У 1944 арыштаваны органамі НКВД. Памёр у лагеры.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі*. Лёндан, 1960.

**ГОЛЬДБЕРГ Шолам Мееравіч** [13.9.1903, Мінск — 24.11.1937, Мінск, НКВД], гісторык. У 1930 скончыў БДУ. У 1931—34 аспірант БДУ. З 1934 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі БелАН. Кандыдат гістарычных навук. Звольнены з інстытута ў лют. 1937. Арыштаваны 3.3.1937. 24.11.1937 прысуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да расстрэлу. Рэабілітаваны 1.8.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**ГОЛЬМАН Міхаіл Барысавіч** [17(29).10. 1894, Кабялякі Палтаўскай губ., Украіна — 27.12.1937], эканаміст, публіцыст. З 1914 член партыі эсэраў-максімалістаў. У 1916 скончыў Харкаўскі ун-т. Са жн. 1916 у войску. За рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат арыштаваны ў студз. 1917. З мая 1917 старшыня Магілёўскага Савета сялянскіх дэпутатаў. Арыштаваны ў ліп. 1917 за эсэраўскую прапаганду сярод сялян. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі левы эсэр, старшыня выканкама Савета Магілёўскай губ. Дэлегат Усебеларускага з’езда 1917. Зноў арыштаваны 18.12.1917. З мая 1918 на савецкай рабоце і ваеннай службе ў Сімбірску. З вер. 1918 член РКП(б). У 1921—23 працаваў у Камінтэрне і Наркамаце замежных спраў СССР. У 1924—25 у Дзяржплане СССР і аддзеле друку ЦК ВКП(б). З 1927 дацэнт кафедры палітэканоміі і сусветнай гаспадаркі БДУ. Выступаў супраць палітыкі беларусізацыі. Публікаваў артыкулы па праблемах эканомікі. У ліп. 1927 за ўдзел у «левай апазіцыі» (трацкісцка-зіноўеўскі блок) выключаны з ВКП(б). Арыштаваны 27.4.1929. Асуджаны на 10 гадоў ссылкі. Паўторна асуджаны 14.6.1936 на 5 гадоў зняволення. Пазней прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1965.

Тв.: Туган-барановщина: К критике буржуазной политической экономии. Л., 1926; Монополистический капитализм в России и строительство социализма в СССР. Л., 1927; Все-

общий кризис капитализма: Введение в изучение современного кризиса мирового капиталистического хозяйства. Мн., 1928; Русский империализм. 2 изд. Мн., 1929.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ГОЛЬЦ-МІЛЕР Іван Іванавіч** [27.11(9.12).1842, мяст. Іаганішкелі Панявежскага пав. Ковенскай губ., цяпер Янішкеліс, Літва — 5(17).8.1871, Арол, Расія], паэт, тэатральны крытык, перакладчык, рэвалюцыянер-дэмакрат. У 1859 скончыў Мінскую гімназію і ў 1860 паступіў на юрыдычны ф-т Маскоўскага ун-та. 26.8.1861 як удзельнік рэвалюцыйнага гуртка П.Заічнеўскага арыштаваны за друкаванне і распаўсюджванне нелегальнай літаратуры. Адмаўляў свой удзел у рэвалюцыйнай рабоце. Пасля 2 гадоў зняволення ў турме пераведзены ў «дом ўціхамірвання». Пасля вызвалення ў ліп. 1863 вярнуўся ў Мінск, адкуль неўзабаве быў высланы ў Карсун Сімбірскай губ. У 1865 па хадайніцтве бацькі залічаны ў Адэскі ун-т, але ў 1866 выключаны. У 1867 вярнуўся ў Мінск і да 1869 жыў тут пад наглядам паліцыі. Вандраваў па Расіі, праследаваўся паліцыяй. Памёр у Арле ад сухотаў. Друкаваўся ў час. «Современник», «Отечественные записки», «Русское слово», «Вестник Европы», «Модный магазин». Апублікаваў пераклады з Гейнэ, Барб’е, Байрана і інш. З-за перашкодаў цэнзуры М.Ня-

красаў не здолеў выдаць яго вершы. Напісаны Г.-М. у 1864 верш «Слу-шай!» быў пакладзены на музыку П.Сакальскім і стаў папулярнай песняй.

Тв.: *Поэт-революционер И. И. Гольц-Миллер* / Сост. Б. Козьмин, Г. Лелевич. М., 1930.

Літ.: *Гаврилов Н.* Забытый революционный поэт // *Каторга и ссылка*. 1929, № 12; *Корнеев А. В.* Поэт революции. И. И. Гольц-Миллер // *Известия АН СССР. Серия лит. и яз.* 1978. Т. 37, № 6; *Бас І.* «…Не памерла слова яго» // *Бас І.* Падарожжа ў літаратурнае мінулае. Мн., 1971; *Кісялёў Г. В.* Яго помніць Мінск // *Кісялёў Г. В.* Героі і музы. Мн., 1982; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ГОМАНАВА Серафіма Георгіеўна** [27.6.1904, Горкі, Магілёўскай губ., цяпер Магілёўская вобл. — 1969], эканаміст. Працавала ў Інстытуце эканомікі БелАН. Арыштавана 5.11.1937. Прыгаворана 28.11.1937 Асобай нарадай да 8 гадоў лагераў. Рэабілітавана 2.10.1956.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ГОРСКІ Станіслаў Батыс** [6.5.1802, в. Дварэц Кобрынскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 3.5.1864, Сібір], прыродазнавец, педагог, папулярызатар навукі. У 1820—25 вучыўся ў Віленскім ун-це. У 1830 за-

гадчык батанічнага сада Віленскага ун-та. Пасля закрыцця ун-та (1831) ад'юнкт, прафесар Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. У 1840, напярэдадні закрыцця акадэміі, выехаў у замежную камандзіроўку. Пасля вяртання на Радзіму ў 1842—47 жыў у Паставах, займаўся батанікай і энтамалогіяй. Потым жыў у Берліне, з 1851 — у маёнтку А.Кубліцкага ў Свянцянскім пав. У 1863 па падазрэнні ў спачуванні нацыянальна-вызваленчаму руху высланы ў Сібір. У ссылцы скончыў жыццё самагубствам. Быў адным з першых даследчыкаў Белавежскай пушчы. Аўтар прац па батаніцы і энтамалогіі. Публікаваў нататкі з падарожжаў па батанічных садах Еўропы. Арганізаваў шырокі абмен гербарыямі паміж вучонымі Еўропы. Многія адкрытыя ім віды раслін названы яго імем (напрыклад, Copaifera Gorskiana).

Літ.: *PSB*; *АЗБ*.

**ГОРЫН Павел Восіпавіч** [сапр.: Каляда; 15.1.1900, мяст. Картуз-Бяроза Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер г. Бяроза Брэсцкай вобл. — 5.2.1939, Масква, НКВД], гісторык. Падчас 1-й сусветнай вайны разам з бацькамі ў эвакуацыі ў Ніжагародскай губ. Член РКП(б) з 1918. У 1919 вярнуўся на Радзіму. У 1920 камендант Пружан.

У 1921 скончыў Камуністычны ун-т імя Свярдлова ў Маскве; у 1925 Інстытут чырвонай прафесуры. У 1925—30 вучоны сакратар Таварыства гісторыкаў-марксістаў. У 1926—28 член рэдкалегіі час. «Историк-марксист»; у 1927—30 нам. рэдактара час. «Пролетарская революция». У 1929—30 нам. дырэктара Інстытута гісторыі Камуністычнай акадэміі. Старшыня Таварыства палітэмігрантаў Зах. Беларусі (1926—28). У 1931—36 прэзідэнт БелАН, адначасова дырэктар Інстытута гісторыі. З 1936 у Маскве, загадчык кафедры гісторыі СССР МДУ, рэдактар аддзела гісторыі Вялікай Савецкай Энцыклапедыі. Арыштаваны 23.8.1937. Прысуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 25.4.1938 да расстрэлу. Рэабілітаваны 17.9.1955. Яго імем названа вуліца ў Бярозе. У 2000 на будынку Інстытута гісторыі НАН Беларусі ўстаноўлена памятная шыльда.

Тв.: Пролетариат в 1917 г. в борьбе за власть. М.; Л., 1917; М.Н.Покровский — большевик-историк. Мн., 1933; Нарысы па гісторыі Саветаў рабочых дэпутатаў у 1905 годзе. Мн., 1934 (1 выд. на рус. мове: М., 1925).

Літ.: *Сербента В. А., Токараў М. У.* Памяці акадэміка АН БССР П.В.Горына // *Весці АН БССР. Серыя грам. навук*. 1980, № 1; *Президент Академии наук академик П.О.Горин: выступления и статьи, посвященные 100-летию со дня рождения*. Мн., 2001; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 3.

**ГОРЫН-ГАЛКІН Уладзімір Піліпавіч** [сапр.: Галкін; псеўданім: К.Грабовский; 10(22).1.1861, Магілёў — 22.7.1925, Масква], філасаф. Вучыўся ў Харкаўскім ветэрынарным інстытуце. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях выключаны. Ствараў нарадавольскія гурткі ў Сімферопалі, Адэсе. За ўдзел у Паўднёвай нарадавольскай арганізацыі ў 1887 арыштаваны і сасланы на 10 гадоў у Верхаянск. З 1895 далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху. Супрацоўнічаў у газ. «Искра». Дэлегат II з'езда РСДРП (1903, Брусель — Лондан); далучыўся да бальшавікоў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 вярнуўся ў Расію. Адзін з арганізатараў Наркамата замежных спраў РСФСР. З 1920 на акадэмічнай рабоце ў Маскве.

Тв.: *Грабовский К.* [Горын-Галкін У]. «Долой материализм!»: (Критика эмпириокритичной критики). [Б. м.], 1910.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ГОФМЕЙСЦЕР Апалін Паўлавіч** [Апалон; 1825, Брэст — 1.7.1890, Галіцыя, Аўстра-Венгрыя], дзеяч рэвалюцыйнага руху, мемуарыст. Паходзіў з сям'і рускага афіцэра. Вучыўся ў Берлінскім ун-це, дзе быў членам студэнцкага канспіратыўнага гуртка. У 1846 спрабаваў узняць у Беларусі паўстанне (т. зв. «справа Рэра»). Арыштаваны. У 1848 публічна ганьбаваны ў Вільні, сасланы ў арыштан-

цкія роты (Орск, Арэнбург). З 1857 жыў пад наглядам паліцыі ў маёнтку Шастакова Брэсцкага пав. Падчас паўстання 1863—64 цывільны начальнік Гродзенскага, потым Брэсцкага ваяв. Арыштаваны ў 1864, сасланы на катаргу ў Сібір. З 1870-х г. жыў у Галіцыі. Вядома частка яго мемуараў у выглядзе ліста да А.Гілера (1882).

Тв.: Из письма А.Гиллеру // *Общественно-политическое движение на Украине в 1863—1864 гг*. Киев, 1964.

Літ.: *Dubiecki M*. Apolin Hofmeister, naczelnik województwa brzesko-litewskiego w powstaniu styczniowem // *Ateneum Wileńskie*. 1923, № 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРАМЫКА Міхайла** [Міхаіл Аляксандравіч; псеўданімы і крыптанімы: М.Абданк; Мих. Абданк; Михаил Абданк; М.Г.; Міх. Г.; 31.10(12.11).1885, в. Чорнае Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл. — 30.6.1969, Хімкі Маскоўскай вобл.], празаік, паэт, геолаг, педагог. У час вучобы ў Магілёўскай гімназіі стаў членам рэвалюцыйнага гуртка. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1907. У 1911 скончыў Маскоўскі ун-т. Настаўнічаў у Адэсе, з 1917 удзельнічаў у рабоце культурна-асветніцкай арганізацыі бел. уцекачоў «Беларускі гай». З 1921 у Мінску; выкладаў геалогію і мінералогію ў Белпедтэхнікуме і БДУ; працаваў у Інбелкульце, БелАН. Распрацоўваў бел. навуковую

тэрміналогію. Аўтар падручнікаў па геаграфіі і мінералогіі. Браў удзел у пошуках нафты на Палессі. П'есы Г. ставіліся ў тэатрах. Арыштаваны ДПУ БССР 13.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; паводле пастановы Калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 высланы ў Іванава-Вязнясенск на 5 гадоў. Пасля сканчэння тэрміна высылкі ў 1936 выехаў з сям'ёй у Мурманскую вобл. (Кіраўск); працаваў у горным тэхнікуме. Потым жыў у Пермскай вобл. і Удмурціі. Рэабілітаваны 15.11.1957. Апошнія гады жыў у Хімках. Член СП Беларусі з 1965.

Тв.: Выбр. Мн., 1967; Родная пушча: П'есы, вершы, паэмы, успаміны, лісты. Мн., 1987; Пачатковая геаграфія. Мн., 1923 (2 выд. Мн., 1925; 3 выд. Мн., 1927; 4 выд. Мн., 1928); Уводзіны ў навуку аб неарганічнай прыродзе: Ч. 1. Крышталаграфія; Ч. 2. Мінералогія. Мн., 1926; Дзве паэмы. Мн., 1927; Плынь: Лірычныя паэмы і вершы. Мн., 1927; Каля тэрасы: Драмы. Мн., 1929 (2 выд. Мн., 1975).

Літ.: *Казека Я.* Міхайла Грамыка // *Казека Я.* Голас часу. Мн., 1975; *Шушкевіч С.* След на зямлі // *Полымя.* 1965, № 11; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРАНІТ Пятрусь** [сапр.: Івашэвіч Іван Пятровіч; іншыя псеўданімы: П.Граніт; Мацей Гвозд; 11(24).1.1909, в. Зачэпічы Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 14.1.1980, в. Зачэпічы], паэт, педагог. Ва ўмовах

Зах. Беларусі даволі рана далучыўся да падпольнай дзейнасці; наведваў сходы і мітынгі БСРГ; у 1930 уступіў у КПЗБ. Некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі, але з-за недахопу доказаў яго адпускалі. Не змог атрымаць сістэматычнай адукацыі. Першы верш надрукаваў у 1933 у «Беларускай газеце». Друкаваўся ў газ. «Наша воля», «Poprostu», час. «Літаратурная старонка», «Асва», «Беларускі летапіс». Браў удзел у нелегальным з'ездзе бел. пісьменнікаў (1933, Вільня). У 1939—41 працаваў старшынёй сельсавета ў Беліцы. У час 2-й сусветнай вайны быў сувязным партызанаў. У 1950 завочна скончыў Навагрудскае педвучылішча. У 1945—71 працаваў настаўнікам і загадчыкам пачатковай школы ў Зачэпічах.

Тв.: Сцяжынка: Вершы. Мн., 1978; У кн.: *Сцягі і паходні.* Мн., 1965; *Ростані волі.* Мн., 1990.

Літ.: *Калеснік У.* Гняздо паэтаў // *Калеснік У.* Зорны спеў. Мн., 1975; *Яго ж.* Лёсам пазнанае. Мн., 1982; *Пяткевіч А.* Сцежкамі роднага краю // *Наднёманскія былі.* Мн., 1968; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРАХОЎСКІ Сяргей Іванавіч** [псеўданімы: М.Асіповіч; Сяргей Івановіч; С.Каршун; Парамон Паромскі; 12(24).9.1913, мяст. Нобель Пінскага пав. Мінскай губ., цяпер Зарэчанскі р-н Ровенскай вобл., Украіна — 11.12.2002, Мінск], паэт, празаік,

перакладчык. У 1914 разам з бацькамі пераехаў у Глуск на Магілёўшчыне. Першы верш апублікаваны ў 1926. У 1931—32 працаваў карэктарам у Дзяржвыдавецтве БССР, у газ. «Чырвоная змена». У 1935 скончыў МВПІ (газетна-выдавецкае аддзяленне літаратурнага ф-та). Працаваў на Беларускім радыё, выкладчыкам літаратуры на рабфаку пры БДУ. Арыштаваны 19.10.1936. Сасланы на 10 гадоў на лесанарыхтоўкі ў Горкаўскую вобл. У 1946—49 настаўнік у Слуцкім р-не. У 1947 з Г. знята судзімасць, але 19.5.1949 ён быў паўторна арыштаваны; высланы ў Новасібірскую вобл. 19.10.1955 рэабілітаваны. З 1956 у Мінску. У 1957—73 працаваў у час. «Бярозка», «Вясёлка»; літкансультантам СП БССР. У 1973—74 адказны сакратар Камітэта па дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Член СП Беларусі з 1956. У 1958 выйшаў у свет першы зборнік вершаў «Дзень нараджэння». Інсцэніроўкі аповесці «Рудабельская рэспубліка» пастаўлены тэатрамі імя Я.Купалы і Гомельскім абласным драматычным у 1968; у 1972 створаны аднайменны кінафільм. Перакладаў на бел. мову творы А.Блока, Р.Тагора і інш. Аўтар успамінаў пра перыяд рэпрэсій (аўтабіяграфічная трылогія «Такія сінія снягі», 1988; «Зона маўчання», 1990; «З воўчым білетам», 1991). З 1974 на пенсіі.

Тв.: Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1973; Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1983; Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1994; Споведзь. Мн., 1990.

Літ.: *Гілевіч Н.* Сталасць думкі, маладосць душы // *Гілевіч Н.* У гэта веру. Мн., 1978; *Скрыган Я.* Адданасць // *ЛіМ*. 1985, 23 верас.; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫБ Тамаш Тамашавіч** [псеўданімы і крыптанім: Т.Глеба; Антон Небарака; Т.Г.; 7(19).3.1895, в. Паляны Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 25.1.1938, Прага], паліт. і культурны дзеяч, публіцыст. Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны ў войска. Удзельнік Усебеларускага з'езда 1917. Член Рады БНР і яе Выканаўчага камітэта, народны сакратар земляробства ва ўрадзе Я.Варонкі. Член Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады. У студз. — сак. 1919 выдаваў у Вільні газ. «Грамадзянін» — орган левай фракцыі БСГ. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў БПС-Р. Арыштаваны польскімі ўладамі ў Гродне ў 1919 як супрацоўнік газ. «Родны край». Зноў арыштаваны вясной 1920 як член Мінскага падпольнага паўстанцкага камітэта. Інтэрнаваны ў лагеры Домбэ пад Кракавам, адкуль уцёк. З канца 1920 у Каўнасе, дзе ўдзельнічаў у выданні газ. «Сялянская доля». З восені 1922 у Празе. У 1928 скончыў філасофскі ф-т Карлава ун-та з доктарскай ступеню. Быў членам замежнага бюро БПС-Р; сакратаром-кіраўніком Беларускага навуковага кабінета. У 1934—38 загадчык Беларускага заграпнічнага архіва; складаў бібліяграфію па беларуса-

знаўстве. Супрацоўнічаў у час. «Перавясла», «Іскры Скарыны», «Студэнцкая думка», «Золак», «Бюлетэнь загранічнай групы БПС-Р». Пераклаў на бел. мову брашуру М.Туган-Бараноўскага «Аб кааперацыйным ідэале»; на чэшскую — кнігу В.Чарнова «Дэмакратыя, дыктатура, сацыялізм». Пакінуў багатую эпісталярную спадчыну. Пахаваны на пражскіх могілках Альшаны.

Тв.: На рубяжы двух стагоддзяў // *Бюлетэнь загранічнай групы БПС-Р*. 1928, № 9; Паўстанцы (Урыўкі з рамана) // *Іскры Скарыны*. 1934, № 3.

Літ.: *Чарноў В.М.* Прамова на грамадскай паніхідзе па Т.Грыбу // *Наш золак*. Вільня, 1938; *Ліс А.* Рыцар беларускай свабоды // *Спадчына*. 1995, № 4; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫНЕВІЧ Антон Антонавіч** [крыптанімы: А.Гр.; А.Hr.; 3.5.1877, фальварак Іваноўшчына Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Полацкі р-н Віцебскай вобл. — 8.12.1937, Ленінградская вобл, НКВД], фалькларыст, выдавец, педагог, кампазітар. З 1896 жыў у Пецярбургу, быў чыноўнікам Дэпартамента гандлю і промыслу. З 1906 член бел. выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца»; у 1910 заснаваў уласнае выдавецтва (дзейнічала да 1913). Сабраў і выдаў разам з А.Зязюлем «Беларускія песні з нотамі» (Т. 1—2, 1910—12). Пасля кастр. 1917 супрацоўнік культурна-асветніцкага ад-

дзела Белнацкама ў Маскве. У 1919 — чэрв. 1920 у Мінску, выкладаў у школе і бел. гімназіі. З 1920 у Вільні, працаваў у кааператыве друкароў. Пісаў музычныя творы, якія апублікаваў разам з народнымі ў зборніку «Школьны спеўнік» (1920). Яго песні (напрыклад, «Гэй, наперад!», «Касцу») шырока бытавалі ў Зах. Беларусі. У 1921 зняволены ў Лукішскай турме (Вільня), у кастр. вызвалены пад нагляд паліцыі. У 1922—23 сакратар ТБШ. Аўтар першага бел. падручніка па музыцы «Навука спеву» (1923). З 1925 жыў у Мінску. Сакратар музычнай падсекцыі Інбелкульта, старшыня песеннай камісіі. У 1928—33 у Гарадку, Віцебску; рабіў запісы меласу. Арыштаваны ДПУ БССР 6.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.3.1934 асуджаны на 10 гадоў лагераў. У 1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.8.1956. Частка архіва Г. захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі.

Тв.: Народны сьпеўнік. Вільня, 1920; Беларускі дзіцячы спеўнік. Вільня, 1925; Праграма-інструкцыя для збіральніка беларускай музычна-этнаграфічнай творчасці // *Наш край.* 1925, № 1.

Літ.: *Ліс А.* Песня прасілася ў свет // *Полымя.* 1966, № 2; *Каруза П.* Музычная спадчына Антона Грыневіча // *Мастацтва Беларусі*. 1983, № 9; *Александровіч С. Х.* Гісторыя і сучаснасць. Мн., 1968; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫНЕВІЧ Клім Лазаравіч** [псеўданімы: Быліна; Траўкін; Цюльпан; Шасцёраўскі; 5(18).2.1912, в. Шасцёраўка Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Клімавіцкі р-н Магілёўскай вобл. — 3.3.1941, Балагое Калінінскай вобл., цяпер Цвярская вобл., Расія], паэт. Першыя вершы з'явіліся ў друку ў 1929. У 1930 стаў студэнтам Рагачоўскага педтэхнікума. У 1930 пераехаў у Мінск. Працаваў карэктарам у друкарні, літсупрацоўнікам газ. «Рабочий», у прафсаюзах. У 1932 паступіў на творчае аддзяленне літаратурнага ф-та МВПІ. Апублікаваны ў 1932 зборнік паэзіі прыхільна сустрэты крытыкай. 16.3.1933 арыштаваны; 10.8.1933 прыгавораны да двух гадоў адміністрацыйнай высылкі. Знаходзіўся ў Сары-Атачы Паўднёва-Казахстанскай вобл. Праз два гады быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Пасля сканчэння службы вярнуўся ў Сары-Атач. Пераехаў у Балагое. Настаўнічаў; у 1937—41 завочна вучыўся ў Ленінградскім педінстытуце. Памёр ад сухотаў. Вершы апошніх гадоў жыцця не захаваліся.

Тв.: На бераг: Паэзія. Мн., 1932.

Літ.: *Пруднікаў П.* Далёкае і блізкае // *Пруднікаў П.* Мая магістраль. Мн., 1981; *БП*, т. 2.

**ГРЫНЕВІЧ Тамаш Міхайлавіч** [1815 — 16(28).7.1863, Рагачоў], паэт, кіраўнік атрада ў час

паўстання 1863—64. У 1834—44 на ваеннай службе. Выйшаў у адстаўку ў чыне штабс-ротмістра і пасяліўся ў родавым маёнтку Верхняя Тошчыца (Рагачоўскі пав. Магілёўскай губ., цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай губ.). У крас. 1863 арганізаваў і ўзначаліў паўстанцкі атрад у Рагачоўскім пав. Атрад быў разбіты карнымі войскамі; Г. схоплены і паводле прысуда ваенна-палявога суда публічна расстраляны ў Рагачове. Прататып Усяслава Грынкевіча ў рамане У.Караткевіча «Нельга забыць», продак пісьменніка па мацярынскай лініі.

Літ.: *Мальдзіс А.* Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969; *В.* [*Ратч*]. Очерки мятежного движения в Могилевской губернии в 1863 г. Вильна, 1865; *ЭГБ*, т. 3.

**ГРЫНЕВІЧ Уладзіслаў** [псеўданім і крыптанім: В.Грывіч; Гр-віч; ? — ?], заходнебел. пісьменнік. Друкаваў апавяданні ў час. «Студэнцкая думка», «Родныя гоні» і інш. У 1925 эміграваў у БССР. Згадваўся ў сакрэтным дакладзе ДПУ БССР у ЦК КП(б)Б ад 29.10.1925 «Аб беларускаэсэраўскім шавіністычным руху», дзе названы «несумненным польскім шпіёнам». Рэпрэсаваны.

Літ.: *Платонов Р.* Перед крутым поворотом: Тенденции в политической и духовной жизни Беларуси (1925—1928): Отражение времени в архивных документах. Мн., 2001.

**ГРЫНКЕВІЧ Станіслаў Сымонавіч** [2.2.1902, в. Новы Двор Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 25.7.1945, Магілёў, НКДБ], грамадскі, рэлігійны і культурны дзеяч, лекар-псіханеўролаг, публіцыст, перакладчык, папулярызатар навукі. Пляменнік бел. святара Францішка Грынкевіча. Вучыўся на медыцынскіх ф-тах Віленскага і Пазнанскага ун-таў. Працаваў у клініках Познані, на Беласточчыне, у Вільні. У 1931—36 віцэ-старшыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі; член прэзідыума Беларускага нацыянальнага камітэта. Друкаваўся ў час. «Студэнцкая думка», «Калоссе», «Шлях моладзі», газ. «Беларуская крыніца», «Хрысціянская думка», «Новае жыццё». У 1936 яго брашура «Асвета» была канфіскавана паліцыяй, а сам аўтар аштрафаваны і на два тыдні зняволены. Аўтар навукова-папулярных прац па медыцыне і гігіене, з лекцыямі ездзіў па заходнебел. мястэчках і вёсках. Пераклаў з лацінскай мовы працу вядомага аскета і містыка Тамаша Кемпійскага «Следам за Хрыстом». З прыходам у Вільню савецкіх войск арыштаваны, але здолеў уцячы з цягніка падчас вывазу вязняў. У гады нямецкай акупацыі ў Вільні, займаўся культурніцкай дзейнасцю. Устрымліваўся ад супрацоўніцтва з немцамі. Браў удзел у нацыянальным падполлі. Зноў арыштаваны савецкімі ўладамі ў ліст. 1944. Вывезены спачатку ў Мінск, потым у Магілёў, дзе расстраляны.

*Леанід Маракоў*

Тв.: Ab teatry: Praktyčny padručnik dla amatarskich teatrau. Wilnia, 1927; Arlanio. Wilnia, 1927; Narod. Wilnia, 1927; Žanimstva pa radyjo: Pjesa u 3-ch abrazoch. Wilnia, 1927; Carkwa, pomsta, wiaźnica: Apowieść. Wilnia, 1928; Rady chworym i zdarowym. Častka I. Wilnia, 1935 (разам з Я.Грынкевічам); Рады хворым і здаровым. Вільня, 1935 (разам з Я.Грынкевічам); Aświeta. Wilnia, 1936; У братоў украінцаў. Вільня, 1936 (2 выд. Вільня, 1937); Rady chworym i zdarowym. Častka II. Wilnia, 1937 (разам з Я. Грынкевічам); Народ. Вільня, 1937; Алкагалізм. Вільня, 1937 (разам з Я.Грынкевічам); Умовы і загады, неабходныя для здароўя. Вільня. 1939 (разам з Я.Грынкевічам).

Літ.: *Валтупскі А.* Доктар Станіслаў Грынкевіч — перакладчык «Следам за Хрыстусам» Т. Кемпійскага // *Źnič / Зьніч*. 1973, № 117 (травень — снежань); *Ліс. А.* Літаратура Заходняй Беларусі // *Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.* Мн., 1999. Т. 2; *Чэмер А.[Анішчык А.]. Партрэты. Вільнюс, 2001; БП*, т. 6; *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 3;

**ГРЫШКЕВІЧ Францішак** [Франук; крыптанімы: Фр.Гр.; Фр.Г-ч; Фр.Гр-ч; Ф.Г.; Fr.Hr.; 1904 ці 1906, мяст. Сухаволя Сакольскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 1946, Мінск, НКДБ], паэт, публіцыст, перакладчык, педагог. У 1926 скончыў Віленскую беларускую гімназію. Нелегальна перайшоў польска-чэшскую мяжу, паступіў на літаратурны ф-т Карлава ун-та (Прага). Скончыў яго ў 1931 са ступенню доктара філасофіі. Пачаў друкавацца з 1924. Пуб-

лікаваўся ў газ. «Беларуская крыніца», «Сялянская ніва», час. «Студэнцкая думка», «Родныя гоні», «Іскры Скарыны», «Крыгалом», «Беларускі летапіс», «Przegląd Wileński». Перакладаў з чэшскай, нямецкай, сербахарвацкай, украінскай, славенскай моў. У Празе актыўна супрацоўнічаў з час. «Slovanský přehled», рэцэнзаваў у ім мінскія выданні. Вярнуўся ў Вільню. Служыў у польскім войску. Потым быў без працы. Пасля ўступлення савецкіх войск у Вільню супрацоўнічаў з новай уладай; пісаў для газ. «Prawda Wileńska»; у 1940 загадваў бел. школамі Віленскай школьнай акругі. Падчас нямецкай акупацыі працаваў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. Удзельнічаў у 2-м Усебеларускім кангрэсе (чэрв. 1944), за што ў ліп. быў арыштаваны ў Вільні, пасля ўступлення туды Чырвонай Арміі. Прывезены ў Мінск, дзе, паводле ўскосных сведчанняў, скончыў жыццё самагубствам.

Тв.: Веснавыя мелодыі. Вільня, 1927.

Літ.: *Ліс. А.* Літаратура Заходняй Беларусі // *Гісторыя беларускай літаратуры XX ст.* Мн., 1999. Т. 2; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ГУРВІЧ Ісак Аронавіч** [Адольфавіч; 1860, Мінск — 1924, Нью-Йорк], эканаміст, публіцыст, выдавец. Брат Я.Гурвіч. У 1877 скончыў Мінскую

гімназію, падчас вучобы ў якой увайшоў у гурток народніцкай арганізацыі «Зямля і воля». Вучыўся на юрыдычным ф-це Пецярбургскага ун-та. У 1879 арыштаваны па справе падпольнай друкарні; выключаны з ун-та. Знаходзіўся ў зняволенні каля года. Высланы ў Мінск пад нагляд паліцыі. Удзельнічаў у стварэнні мінскай друкарні арганізацыі «Чорны перадзел». Арыштаваны ў 1880; сасланы на 4 гады ў Сібір. Знаходзячыся ў ссылцы, вывучаў перасяленчы рух сялянаў у Сібір; вынікі даследаванняў апублікаваў у працах «Эканамічныя пытанні Сібіры» і «Перасяленні сялян у Сібір». У 1885 вярнуўся ў Мінск, узначаліў гурток друкарскіх рабочых. Пад уплывам прац Г.Пляханава заняў марксісцкія пазіцыі. У 1899 з-за пагрозы арышту эміграваў у ЗША. У 1891 абараніў доктарскую дысертацыю «Эканамічнае становішча расійскай вёскі» (апублікаваў яе ў 1892 у Нью-Йорку; рускі пераклад у 1896); узначаліў кафедру каледжа ў Чыкага. У Нью-Йорку выдаваў газету на рускай мове «Прогресс». У ЗША быў актывістам прафсаюзнага руху; уступіў у Амерыканскую сацыялістычную партыю. Удзельнічаў у стварэнні і рэдагаванні час. «The Class Struggle» і «The Revolutionary Age». Пазбаўлены кафедры і звання прафесара. Пасля абвяшчэння Маніфеста 17 кастрычніка 1905 вярнуўся ў Беларусь; у 1906 абраны дэпутатам II Дзярждумы ад Мінска. Расчараваўшыся ў рэвалюцыі, зноў выехаў у ЗША. Пасля адкрыцця ў

Мінску БДУ падарыў ун-ту сваю бібліятэку (некалькі тысяч тамоў).

Тв.: Экономическое состояние русской деревни. М., 1896.

Літ.: *Зміонка А.* Сацыялістычны рух на Беларусі // *Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху*. Мн., 1924; *Революционное движение среди евреев.* Сб. 1. М., 1930; *ЭГБ*, т. 3.

**ГУРВІЧ Яўгенія Аронаўна** [Адольфаўна; 1861, Мінск — 1934, Масква], удзельніца народніцкага і сацыял-дэмакратычнага руху, публіцыстка, выдавец, мемуарыстка. Сястра І.Гурвіча. Арыштавана ў Пецярбургу ў 1879 за сувязь з арганізацыяй «Народная воля»; выслана ў Мінск пад нагляд паліцыі. У 1881 сумесна з А.В.Бонч-Асмалоўскім арганізавала друкарню арганізацыі «Чорны перадзел». Пасля 1881 працягвала вучобу ў Швейцарыі. У 1888 у Мінску стала адным з арганізатараў сацыял-дэмакратычнай арганізацыі. З пачатку 1890-х г. займалася перакладамі марксісцкай літаратуры на рускую мову (у тым ліку 1-га тома «Капітала» К.Маркса). Удзельнічала ў стварэнні Бунда. З 1897 член Мінскага камітэта Бунда, кіраўнік друкарні Бунда. Удзельніца I з’езда РСДРП 1898 у Мінску. Арыштавана ў ліп. 1898; у 1900 саслана на 4 гады ва Усх. Сібір. У 1902 уцякла з ссылкі разам з Л.Д.Троцкім. У 1906 пасля ам-

ністыі вярнулася з эміграцыі. Член меншавіцкай фракцыі РСДРП. У 1917 член выканкама Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З 1922 навуковы супрацоўнік Інстытута К.Маркса і Ф.Энгельса ў Маскве. Член Усесаюзнага таварыства паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Напісала ўспаміны.

Тв.: Из воспоминаний: Мой перевод «Капитала» // *Летописи марксизма*. 1926. Вып. 1; О первом съезде РСДРП // *Каторга и ссылка*. 1928, № 3; Еврейское рабочее движение в Минске в 80-х гг. // *Революционное движение среди евреев*. М., 1930. Сб. 1.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ГУРЛО Алесь** [Аляксандр Кандратавіч; псеўданім і крыптанімы: Л.Эхо; А.Г.; А.Г-ло; 19(31).1.1892, мяст. Капыль Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыль Мінскай вобл. — 4.2.1938, Мінск], паэт, празаік, перакладчык, лінгвіст. Публікаваўся з 1907 (газ. «Наша ніва»). У 1909 уступіў у РСДРП; удзельнічаў у выданні рукапісных час. «Заря», «Голос низа», «Вольная думка» (1910—11, Капыль). У 1912 з дапамогай Ц.Гартнага ўладкаваўся на работу на ліцейны завод «Вулкан» у Санкт-Пецярбургу. З 1914 служыў на Балтыйскім флоце. Падчас 1-й сусветнай вайны быў паранены. Удзельнічаў у кастрычніцкім перавароце ў Пецярбургу на баку баль-

шавікоў; браў удзел у захопе Зімняга палаца. У 1919 цяжка паранены пад Казанню; камісаваны з войска як інвалід. У 1919—20 працаваў у Ніжнегародскім порце. З 1921 жыў у Мінску. Працаваў у Наркамаце асветы БССР. У 1922—23 у газ. «Савецкая Беларусь». У 1920-я г. ў тэрміналагічнай камісіі Інбелкульта; займаўся ў аспірантуры. У 1929—30 навуковы супрацоўнік Інстытута мовы БелАН. Браў удзел у стварэнні тэрміналагічных слоўнікаў; падрыхтаваў і выдаў слоўнік «Тэхнічная тэрміналогія» (вып. 1. Мн., 1932). Рыхтаваў слоўнік краўцоўскай мовы мяст. Капыль і краёвы слоўнік Капыльшчыны (матэрыялы загінулі падчас 2-й сусветнай вайны). Выдаў некалькі зборнікаў вершаў; перакладаў творы рускіх і ўкраінскіх пісьменнікаў. Быў членам літаб’яднанняў «Маладняк» і «Праблíск». Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы Калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 высланы ў Самару на 5 гадоў (умоўна). У 1934 стаў членам СП БССР. Памёр ад сухотаў. Пахаваны на Вайсковых могілках Мінска. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Тв.: Выбр. тв. Мн., 1950; Вершы. Мн., 1972; Нашы птушкі: Вершы. Мн., 1974.

Літ.: *Агіевіч У.* Алесь Гурло // *Агіевіч У.* Літаратура і жыццё. Мн., 1954; А.К.Гурло // *Германовіч І.* Беларускія мовазнаўцы. Мн., 1985; *Хведаровіч М.* Шлях паэта // *Хведаровіч М.* Памятныя сустрэчы. Мн., 1977; *Міхнюк У.* Штрыхі да аў-

тапартрэта, напісанага Алесем Гурло ў сталінскіх засценках // *ЛіМ*. 1992, 10 крас.; *БП*, т. 2; *Возвращенные имена*.

**ГУРСКІ Міхась Адамавіч** [9(21).11.1890, в. Салтанава, цяпер Рэчыцкі р-н Гомельскай вобл. — пасля 1960, Мінск ?], тэатральны дзеяч, рэдактар. У 1908 скончыў Гомельскае гарадское вучылішча. У тым жа годзе пры Гомельскай гімназіі вытрымаў экзамен на званне народнага настаўніка. У 1910—13 вучыўся ў Віленскім ун-це. У 1914—18 служыў у рускай арміі. Затым настаўнічаў. Са снеж. 1922 па чэрв. 1926 дырэктар БДТ-1. У 1929—30 працаваў у Акадэміі навук БССР. Арыштаваны ДПУ БССР 23.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы Калегіі ДПУ БССР ад 10.4.1931 высланы ў Мамлыж на 5 гадоў. Рэабілітаваны 19.9.1960.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ГУРЫН-МАРАЗОЎСКІ Міхаіл Іванавіч** [падпольныя псеўданімы: Стах; Ян; 19.11.1891, в. Ярэмічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 16.3.1928, Вільня], паліт. дзеяч, журналіст. У 1912 скончыў

Пскоўскі настаўніцкі інстытут; настаўнічаў. У 1-ю сусветную вайну мабілізаваны ў царскую армію; прапаршчык кавалерыі. Далучыўся да эсэраў. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Чырвонай Арміі; вучыўся ў Акадэміі Генштаба. З 1920 у Беларусі. Уваходзіў у Беларускую камуністычную арганізацыю, якая ў жн. 1920 улілася ў КП(б)Б. З 1921 рэдактар газ. «Белорусская деревня» і «Савецкая Беларусь». У вер. 1921 за крытыку Галоўпалітасветы БССР Бюро ЦК КП(б)Б пазбавіла яго на 6 месяцаў права абірацца на кіраўнічыя пасады. 28.2.1924 пасланы на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Узяў курс на падрыхтоўку ў Зах. Беларусі ўзброенага паўстання і далучэння да БССР. Гэта выклікала раскол у КПЗБ («Сэцэсія»). 7.1.1925 на закрытым пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б ліквідавала Замежнае бюро ЦК КП(б)Б і прапанавала Г.-М. вярнуцца ў БССР. Г.-М. адмовіўся гэта зрабіць; выйшаў з КПЗБ і разам з Л.Родзевічам арганізаваў у Вільні падпольную друкарню, пачаў выпускаць газ. «Чырвоны сцяг». Польскія ўлады арыштавалі Г.-М. На «працэсе 56-і» над лідэрамі БСРГ ён даў паказанні супраць Б.Тарашкевіча і С.Рак-Міхайлоўскага. У канцы 1927 у газ. «Беларускі дзень» пачаў друкаваць успаміны «З недалёкага мінулага». Але скончыць іх не паспеў, бо быў застрэлены С.Клінцэвічам і А.Капуцкім. Рашэнне аб ліквідацыі Г.-М. прыняло ЦК КПЗБ.

Тв.: Белы дом толькі журыцца... // *Полымя*. 1923, № 2.

Літ.: *Клінцэвіч С. А.* Як я расправіўся з правакатарам Гурыным // *У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ*. Мн., 1958; *ЭГБ*, т. 3.

**ГУРЫНОВІЧ Адам Гіляры Каліставіч** [13 (25).1.1869, фальварак Кавалі (Кавалькі) Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 23.1.1894, па іншых крыніцах 14.1.1894, 17.1.1894, фальварак Крыстынопаль Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл.], паэт, фальклярыст. Са старажытнага шляхецкага роду татарскага паходжання герба «Праўдзіц». У 1879—87 вучыўся ў Віленскім рэальным вучылішчы; у 1887—93 у Пецярбургскім тэхналагічным інстытуце (з-за хваробы вучоба перапынялася). Праводзіў фальклорнаэтнаграфічныя зборы. У 1890 пераслаў свае запісы Я.Карловічу ў Варшаву; былі выдадзеныя ў 1893 у Кракаве. Кіраўнік створанага ў 1889 нелегальнага «Гуртка моладзі польска-літоўска-беларускай і маларасійскай». На фарміраванне светапогляду Г. зрабіў уплыў марксізм, а таксама ідэі шляхецкіх рэвалюцыянераў і народнікаў 1880-х г. У паэзіі быў паслядоўнікам Ф.Багушэвіча. Пісаў на бел., польскай, рускай мовах. Перакладаў творы польскай, рускай, украінскай літаратуры. Арыш-

таваны ў 1893 у Вільні, дастаўлены ў Санкт-Пецярбург. У тым жа годзе па прычыне хваробы адпраўлены пад нагляд паліцыі ў бацькоўскі фальварак Крыстынопаль, дзе памёр ад чорнай воспы. Упершыню яго творы апублікаваў Б.Тарашкевіч (з уступным артыкулам) у 1921 (газ. «Беларускі звон»). Імем паэта названа вуліца ў Мядзелі.

Тв.: У кн.: *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX ст.: Зб. тэкстаў*. Мн., 1956; *Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя*. 2 выд. Мн., 1988. Фальклорныя запісы: *Zbiór rzeczy białoruskich*: (Z gminy Wiszniewskiej pow. Święciańskiego, gubernii Wileńskiej). Kraków, 1893.

Літ.: *Гульман Р. І.* Новыя архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча // *Беларуская літаратура: Даследаванні і публікацыі*. Вып. 1. Мн., 1958; *Шутовіч Я.* Адам Гурыновіч: Паводле старых і новых архіўных матэрыялаў // *Полымя*. 1966, № 11; *Саламевіч Я.* Адам Гурыновіч — фальклярыст // *Полымя*. 1969, № 1; *Семашкевіч Р. М.* Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн., 1971; *Янушкевіч Я.* У прадчуванні знаходак. Мн., 1994; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ГУТКОЎСКІ Мікалай Макаравіч** [крыптанім: Г-скі; 21.7(2.8).1886, в. Забелы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 8.2.1938], юрыст, публіцыст. Брат графіка Паўла Гуткоўскага. У 1907—08 настаўнічаў у мяст. Багушэвічы Мінскай губ. У 1912 скончыў юрыдычны ф-т Варшаўскага ун-та. Пасля служачы ў Варша-

ве, Маскве. Падчас 1-й сусветнай вайны мабілізаваны; юрысконсульт штаба Румынскага фронту. У 1917—19 удзельнічаў у стварэнні бел. арганізацый у Адэсе. Нейкі час знаходзіўся ў складзе войск Врангеля ў Крыме. З чэрв. 1921 у Мінску. Працаваў у Наркамаце асветы БССР; адначасова з 1922 навуковы супрацоўнік Інбелкульта, выкладчык БДУ. У 1924—25 супрацоўнік Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ўрадзе СССР. Пасля ў СНК БССР. Даследаваў крыніцы заканадаўства БССР, функцыянаванне цэнтральных органаў улады. Удзельнічаў у распрацоўцы бел. навуковай тэрміналогіі. Аўтар успамінаў і артыкулаў па гісторыі бел. культуры пачатку ХХ ст. Арыштаваны ДПУ БССР у 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Рэабілітаваны пасмяротна.

Тв.: *Сістэматычны паказчык (спроба сістэматыкі) заканадаўства Беларускай ССР за 1919—1928 гг.* Мн., 1929; Стварэнне законаў у БССР // *Запіскі аддзела гуманітарных навук. Працы кафедры сучаснага права.* Мн., 1929; З жыцця беларускай моладзі ў Варшаве // *Вестник Народного комиссариата просвещения ССРБ*. 1922, № 2; Беларуская культурная праца на Усходзе // *Там жа*. № 3—4; Адкрыты ліст // *Вобраз—89; Літаратурна-крытычныя артыкулы*. Мн., 1989.

Літ.: *Круталевіч В. А.* Юрыдычныя даследаванні // *Інстытут Беларускай культуры*. Мн., 1993; *ЭГБ*, т. 3.

**ДАБУЛЯВІЧУС Андрус** [Dabulievičius Andrius; псеўданімы і крыптанімы: А.Дабуліс; Чулокас; A.Dbl.; A.D-lis; А.Д.; 19.7.1896, па іншых крыніцах 1898, маёнтак Паравеяй, цяпер Біржайскі р-н, Літва — 20.6.1938, Магадан, ГУЛАГ], паэт, публіцыст. У час 1-й сусветнай вайны служыў у царскім войску. У 1918—19 на Радзіме. Вясной 1919 арыштаваны літоўскімі ўладамі за камуністычную дзейнасць. Уцёк з турмы і перабраўся ў Савецкую Расію. У 1922—25 вучыўся ў Маскве ў Камуністычным ун-це нацыянальных меншасцяў Захаду; у 1929—32 у Акадэміі камуністычнага выхавання, потым у Інстытуце чырвонай прафесуры. З 1927 жыў і працаваў у Беларусі (Орша, Мінск). З 1935 член літоўскай секцыі СП БССР; кіраўнік літоўскай секцыі Белдзяржвыдавецтва. Арыштаваны ў жн. 1935; неўзабаве вызвалены. У 1936 у Мінску на літоўскай мове апублікаваў зборнік паэзіі «Mano tėvynė» («Мая радзіма»). Паўторна арыштаваны 17.10.1936; прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Адпраўлены ў Магадан, дзе і загінуў. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Mano tėvynė. Minskas, 1936; Mano tėvynė. Vilnius, 1960.

Літ.: *Мальдзіс А.* Творчыя ўзаемасувязі беларускай і літоўскай літаратур у савецкі час // *Старонкі літаратурных сувязей*. Мн., 1970; *БП*, т. 2.

**ДАЛЕНГА-ХАДАКОЎСКІ Зарыян Якаўлевіч** [Dołęga Chodakowski Zorian; сапр.: Чарноцкі Адам / Czarnocki Adam; 24.12, па іншых крыніцах 7(15).4.1784, маёнтак каля в. Гайна Мінскага пав. Мінскага ваяв., цяпер Лагойскі р-н Мінскай вобл. — 17(29).11.1825, сяло Пятроўскае Цвярской губ., цяпер Цвярской вобл.], славяназнавец, археолаг, фалькларыст, этнограф, дыялектолаг. У 1801 скончыў Слуцкае павятовае вучылішча. У 1801—04 праходзіў юрыдычную практыку ў Навагрудку. У 1805 здаў экзамены па юрыспрудэнцыі і атрымаў патэнт на права кіравання маёмасцю. Працаваў аканомам у маёнтках, прыватным адвакатам у Мінску. Арыштаваны царскімі ўладамі 24.3.1809 за выказаную ў прыватным лісце прыхільнасць да антыпрыгонніцкіх ідэй Напалеона. Пасля 7 месяцаў зняволення ў Петрапаўлаўскай крэпасці быў пазбаўлены шляхецтва і накіраваны салдатам у Омск. У 1811 у Бабруйску імітаваў утапленне; уцёк у Варшаву, уступіў у французскую армію. Менавіта пасля паражэння Напалеона мусіў хавацца і ўзяў псеўданім Д.-Х. У 1813—18 падарожнічаў па Беларусі, Польшчы, Украіне; працаваў у архівах і бібліятэках; даследаваў гарадзішчы; запісваў фальклор, дыялектную лексіку, абрады. 14.12.1818 упершыню ў Беларусі і Літве атрымаў ад Віленскага ун-та адкрыты ліст (дазвол) на права раскопак. У 1818 выдаў сваю галоўную працу «Пра славяншчыну да хрысціянства», якая прынесла яму шырокую вядомасць. У 1819 стаў

членам-карэспандэнтам Варшаўскага Таварыства сяброў навук, членам Пецярбургскага Вольнага таварыства аматараў расійскай славеснасці; у 1820 — Маскоўскага Таварыства гісторыі і старажытнасцяў расійскіх. Адным з першых абгрунтаваў ідэю славянскай агульнасці ў дагістарычны час. У 1820—21, атрымаўшы дапамогу Міністэрства народнай асветы Расіі, арганізаваў даследчыя паездкі па Поўначы Расіі. Апошнія гады жыцця правёў у Цвярской губ., дзе ўладкаваўся аканомам маёнтка. Большасць яго прац засталіся неапублікаванымі, частка загінула. Запісы бел. фальклору (да 500 песень) знаходзяцца ў архіве, у тым ліку ў Санкт-Пецярбургу.

Тв.: Отрывок из путешествия по России // ЖМНП.1838. № 12. с. 479—527; O Słowiańszczyźnie przed chrześcjaństwem oraz inne pisma i listy. Warszawa, 1967; Śpiewy słowiańskie pod strzechą wiejską zebrane. Warszawa, 1973; Українські народні пісні в записах Зоріана Доленги-Ходаковського. Київ, 1974.

Літ.: *Аксамітаў А.С., Малаш Л.А.* З душой славяніна: Жыццё і дзейнасць З.Я.Даленгі-Хадакоўскага. Мн., 1991; *Maślanka J.* Zorian Dołęga Chodakowski. Jego miejsce w kulturze polskiej. Wrocław, etc., 1965; *SHP*; *PSB*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ДАЛЕЎСКАЯ Апалонія** [1841, фальварак Кункулка Лідскага пав. Віленскай губ. — пасля 1915, Варшава], удзельніца паўстання 1863—64, мемуарыстка. Жонка З.Серакоўскага. За ўдзел у

паўстанні выслана ў Ноўгарад. З 1867 жыла ў Варшаве. Вяла грамадскую і літаратурную дзейнасць. Аўтар успамінаў пра падзеі 1863—64, рукапіс якіх захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (Вільня).

Літ.: *Merkys V.* Dalevskių šeima. Vilnius, 1967; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ДАМЕЙКА Ігнат Іпалітавіч** [Domeyko Ignacy; псеўданім і крыптанім: Жэгота; Ign. D.; 31.7.1802, маёнтак Мядзведка Навагрудскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 23.1.1889, Сант'яга, Чылі], удзельнік паўстання 1830—31, рэфарматар навукі і адукацыі, геолаг, мінеролаг, мемуарыст. У 1816 скончыў школу піяраў у Шчучыне, у 1822 фізіка-матэматычны ф-т Віленскага ун-та. У 1819 уступіў у студэнцкі Саюз сяброў, потым у Таварыства філаматаў. Арыштаваны ў ліст. 1823; высланы пад нагляд паліцыі ў в. Заполле (цяпер Лідскі р-н), потым у Жыбуртоўшчыну (цяпер Дзятлаўскі р-н). Яму было забаронена паступаць на дзяржаўную службу і займацца грамадскай дзейнасцю. Падчас паўстання 1830—31 у арміі генерала Д.Хлапоўскага. Адступаючы, перайшоў прускую мяжу; быў інтэрнаваны. Вызваліўшыся, накіраваўся ў Дрэздэн, а адтуль у 1832 разам з А.Міцкевічам у Парыж. У 1837 скончыў Парыжскую горную школу. У 1838 па кантракце выехаў у Чылі.

З 1838 прафесар мінералогіі Горнай школы ў Какімба; з 1846 — Чылійскага ун-та ў Сант'яга; у 1867—83 рэктар ун-та. Упершыню арганізаваў шырокае вывучэнне геалогіі і мінералогіі Чылі; увёў у краіне метрычную сістэму; напісаў падручнікі па фізіцы і мінералогіі. У 1884 наведаў Радзіму. Напісаў успаміны. Нацыянальны герой Чылі; у Сант'яга яму ўстаноўлены помнік. Яго імем названы мінерал дамейкіт, выкапнёвы слімак, фіялка, аманіт чылійскі, населеныя пункты, горны хрыбет, ун-т і нацыянальная бібліятэка ў Сант'яга. У Беларусі ў Мядзведкаўскай і Крупаўскай СШ адкрыты музеі. У Мядзведцы ўстаноўлены бюст і памятны камень, у Крупаве памятны знак.

Тв.: Moje podróże: Pamiętniki wygnańca. T. 1—3. Wrocław etc., 1962—1963; Filareci i Filomaci. Poznań, 1872; Мае падарожжы. Мн., 2002.

Літ.: *Brzoza J.* Ignacy Domeyko: Powieść biograficzna. Katowice, 1961; *Szwejcerowa A.* Ignacy Domeyko. Warszawa, 1975; *Wójcik Z.* Ignacy Domeyko. Warszawa; Wrocław, 1995; *Грицкевич В.П.* Геолог, минералог и этнограф Игнатий Домейко // *Известия Всесоюзного географического общества*. 1981. Т. 113, вып. 5; *Клейн Б.* «Грандэ Эдукатор» // *Неман*. 1965, № 6; *PSB*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ДАНІЛАЎ Віктар** [нар. 20.7.1927, Яраслаўль, Расія] — рэлігійны дысідэнт, публіцыст, з 1976 — святар грэка-каталіцкай царквы ў падполлі; вязень

ГУЛАГу ў 1948—55. У 1947 паступіў у Яраслаўскі педагагічны інстытут, у чэрв. 1948 арыштаваны за свае крытычныя выказванні пра Сталіна і абвінавачаны ў антысавецкай агітацыі. Асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Тэрмін адбываў у лагеры для асабліва небяспечных паліт. злачынцаў у Інце, Комі АССР. За падрыхтоўку ўцёкаў атрымаў паўторную судзімасць тэрмінам на 10 гадоў. За час знаходжання ў няволі пераасэнсаваў свае пазіцыі, адмовіўся ад таталітарнага калектывізму, марксізму і атэізму. У лагеры прыняў каталіцкае веравызнанне. У 1955 вызвалены па амністыі і пасля ў падполлі займаўся місіянерскай дзейнасцю. Са снеж. 1955 узнавіў вучобу на гістарычным ф-це Яраслаўскага педагагічнага інстытута. Аднак пасля сканчэння дыплом яму спачатку не выдалі па той прычыне, што ён быў актыўным католікам, пра што адміністрацыі інстытута стала вядома з даносу. Толькі настойлівасць Д., яго афіцыйныя звароты ў дзяржаўныя ўстановы з заявамі пра рэлігійную дыскрымінацыю дазволілі ва ўмовах паліт. лібералізацыі — «адлігі» часоў М.Хрушчова, адстаяць свае правы і атрымаць дыплом. Але ўладкавацца па спецыяльнасці ён не змог, з 1959 працаваў электрамантажнікам. У 1960 пераязджае ў больш ліберальныя рэгіёны СССР — спачатку ў Вільнюс, а ў 1967 у Гродна. У пачатку 1970-х г. атрымаў прапанову вучыцца на святара грэка-каталіцкага абраду. У 1976 у Львове тайна пасве-

чаны ў святары мітрапалітам Уладзімірам Сцернюком. Вярнуўся ў Гродна і пачаў святарскае служэнне ва ўмовах падполля. Пісаў рэлігійныя працы для самвыдату. З 1992 легальна ігумен грэка-каталіцкай парафіі ў Гродне.

Тв.: Мой путь к Богу и к Католической Церкви. Полоцк, 1997.

Літ.: *Дзярновіч А*. Віктар Данілаў // *Дэмакратычная апазыцыя*, с. 29—30.

**ДАНІЛЕВІЧ Аляксандр Андрэевіч** [1877, мяст. Моўчадзь Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 10.10.1949, Вільня], педагог, матэматык, публіцыст. У 1896 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Вучыўся на фізіка-матэматычным ф-це ун-та Шаняўскага ў Маскве. У 1915 за ўдзел у рэвалюцыйным руху высланы ў Верхаянск Іркуцкай губ. Увосень 1917 прыехаў у Мінск. Працаваў у першых бел. навучальных установах. Публікаваўся ў газ. «Вольная Беларусь», «Беларускі шлях», «Звон», «Беларусь», «Беларускае жыццё», час. «Рунь». Пісаў артыкулы па пытаннях бел. нацыянальнай асветы, арганізацыі бел. школы. З 1920 у Зах. Беларусі. Выкладаў матэматыку ў Навагрудскай і Віленскай беларускіх гімназіях. Распрацоўваў бел. матэматычную тэрміналогію, аўтар падручні-

ка па матэматыцы на бел. мове. Пасля 2-й сусветнай вайны чытаў курс вышэйшай матэматыкі ў віленскіх ВНУ.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ДАНІЛОВІЧ Ігнат Мікалаевіч** [30.7(10).8.1787, в. Грынявічы Вялікія Бельскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 30.6(12.7).1843, Грэфенберг, Чэхія], гісторык права і археограф. Нарадзіўся ў сям'і уніяцкага святара. У 1812 скончыў Віленскі ун-т, у якім з 1814 да 1824 выкладаў права; з 1822 прафесар. Пасля раскрыцця Таварыства філаматаў, з якім ён падтрымліваў кантакты, і працэсу над яго ўдзельнікамі ў 1824 звольнены з работы і вымушаны пакінуць Вільню. Яму забаранілі жыць у Літве і Беларусі. Пераехаў у Харкаў, ва ун-це якога у 1825—29 быў прафесарам расійскага права. У 1830—35 працаваў у Санкт-Пецярбургу ў Камісіі вядомага рэфарматара М.Сперанскага па падрыхтоўцы мясцовых законаў для зах. губерняў Расійскай імперыі. У 1835—39 выкладаў крымінальнае права ў Кіеўскім ун-це, да 1842 — у Маскоўскім ун-це. Займаўся юрыдычнай спадчынай ВКЛ — упершыню апісаў усе рукапісныя і друкаваныя экзэмпляры Статута ВКЛ, падрыхтаваў да выдання Статут 1529 (выд. у 1841). Даў пачатак навуковым

даследаванням бел.-літоўскіх летапісаў. Марыў пра адраджэнне ВКЛ і старабел. мовы.

Тв.: Historyczny rzut oka na prawodawstwo litewskie. Wilno, 1837**;** Книга Посольская Метрики Великого княжества Литовского, содержащая в себе дипломатические сношения Литвы в государствование короля Сигизмунда Августа (с 1545 по 1572 год) / Изданная по поручению Имераторского Московского общества истории и древностей российских князем М.Оболенским и проф. И.Даниловичем. Т. I. М., 1843; Skarbiec diplomatów papiezkich, cesarskich, królewskich, książęcych, uchwał narodowych, postanowień różnych władz i urzędów, posługujących do krytycznego wyjaśnienia dziejów Litwy, Rusi Litewskiej i ościennych im krajów / Zebrał i w treści opisał Ignacy Daniłowicz. T. 1, 2. Wilno, 1860, 1862.

Літ.: *Улащик. Очерки*; *Улащик. Введение*; *Латышонак А.* Народзіны беларускай нацыянальный ідэі // *Спадчына.* 1992, № 1; *PSB*; *SHP*; *ЭГБ*, т. 3; *МАБ*; *АЗБ*.

**ДАНІЛЬЧЫК Арцемій Андрэевіч** [1896, в. Пяскі Пухавіцкага р-на Мінскай вобл. — ?], работнік культуры. У 1935—36 быў дырэктарам Музея рэвалюцыі. Арыштаваны 5.9.1936 па абвінавачванні ў антысавецкай прапагандзе і агітацыі. Асуджаны 17.12.1936 на 5 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў ва Ухтпечлагу на ст. Котлас. Рэабілітаваны 12.9.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002.

**ДАНЯЛЮК Аляксандр Пятровіч** [псеўданімы: Olda; Edmund Stefański; 30.11.1897, Варшава — лют. 1937 ?], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1917 у Расіі, член Чугуеўскага рэўкама. У 1919 вярнуўся ў Польшчу. У 1921—23 сакратар акруговага камітэта Дамброўскага басейна КПП, член ЦК КП Усх. Галіцыі. Адзін са стваральнікаў КПЗБ. У 1924 кааптаваны ў ЦК, член Сакратарыята ЦК КПЗБ. Выступаў у друку з публіцыстычнымі матэрыяламі. Тройчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1930 у апараце Выканкама Камінтэрна. У 1931—35 у КП Румыніі: член ЦК і Палітбюро ЦК. З канца 1935 на гаспадарчай рабоце ў СССР. Арыштаваны ў лют. 1937; загінуў. Рэабілітаваны ў 1955.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ДАРКЕВІЧ Пётр Яўгенавіч** [1898, в. Міхайлава Веліжскага р-на Смаленскай вобл., Расія — 4.11.1937, Віцебск, НКВД], мастацтвазнаўца. Скончыў Маскоўскі ун-т. З 1927 выкладаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме, з 1932 адначасова ў кінатэхнікуме, а таксама педінстытуце. Арыштаваны 27.4.1937. Асуджаны 20.10.1937. Расстраляны. Рэабілітаваны 6.9.1957.

Тв.: Да пытання аб праблеме мастацкага стылю // *Полымя*. 1929, № 11—12.

Кр.: *НАРБ, ІКР*.

**ДАРОЖНЫ Сяргей Міхайлавіч** [сапр.: Серада Сяргей Міхайлавіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: Т.Трыкліні; Л.Трыер; С.Д.; 25.2.1909, Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 19.7.1943, Камсамольск-на-Амуры, ГУЛАГ], паэт. У час 1-й сусветнай вайны сям'я была ў бежанстве ў Варонежы. З 1921 выхоўваўся ў Мазырскім дзіцячым доме, бо застаўся без бацькі (аднаго з паплечнікаў Булак-Балаховіча). У 1924 паступіў у МБПТ. Першыя вершы з'явіліся ў друку ў 1925. У 1926 выйшла першая паэтычная кніга (сумесна з І.Плаўнікам). Быў членам літаб'яднанняў «Маладняк» (1926—27), «Узвышша» (з 1928). У 1930 скончыў БДУ (у час вучобы быў выключаны «за сокрытие социального происхождения» свайго бацькі, які ў той час жыў у Польшчы, і аб чым паведаміла газ. «Звязда», але потым змог аднавіцца). Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, стыльрэдактарам час. «Работніца і сялянка Беларусі», на радыё, адкуль быў звольнены за «сістэматычнае працягванне ў сваіх літаратурных перадачах нацдэмаўскіх установак да мікрафону, нарачытае змазванне ролі партыі ў барацьбе з

контррэвалюцыйным нацдэмакратызмам, паклёп на палітыку партыі на вёсцы». Член СП Беларусі з 1934. Па прапанове А.Александровіча выключаны ў 1935. Арыштаваны ДПУ БССР 29.8.1936; асуджаны на 8 гадоў пазбаўлення волі. Быў абвінавачаны ў падрыхтоўцы замаху на першага сакратара ЦК КП(б)Б М.Гікалу, пра якога збіраў матэрыялы для кнігі. Накіраваны на будаўніцтва Камсамольска-на-Амуры, дзе і загінуў. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Выбр. вершы. Мн., 1966; Звон вясны. Мн., 1926; Васільковы россып: Вершы. Мн., 1929; Пракосы на памяць: Вершы. Мн., 1932.

Літ.: *Шушкевіч С.* Ён песню насіў у грудзях… // *Шушкевіч С.* Выбр. тв. Мн., 1978. т. 2.; *Маракоў Л.* Асуджаны, як «тэрарыст». // *ЛіМ*. 1999. 5 сак.

**ДАСЮКЕВІЧ Адам** [5.6.1911, в. Капцэвічы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Смаргонскі р-н Гродзенскай вобл. — 1.11.1943, Паставы Віцебскай вобл.], журналіст, педагог, грамадскі дзеяч. У 1933 скончыў Віленскую беларускую гімназію. Затым вучыўся ў Віленскім ун-це, быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза (БСС). У 1936—37 — намеснік старшыні БСС, сябра рэдкалегіі час. «Студэнцкая думка». У 1937—39 — старшыня БСС. З вер. 1936 да 1938 рэдактар газ.

«Беларуская крыніца» — органа Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Неаднаразова трапляў пад суд за вострыя публікацыі газеты. 19.4.1938 асуджаны на 6 месяцаў турмы з адтэрміноўкай на 2 гады. Сябра Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. 15.12.1939 атрымаў дыплом інжынера аграноміі. У 1940 віцэ-старшыня бел. групы пры Літоўскім Чырвоным крыжы. На пачатку фашысцкай акупацыі арыштаваны немцамі на Шаркаўшчыне паводле польскага даносу, але з дапамогай сваякоў вызвалены. Працаваў настаўнікам у мяст. Варапаева. З 1942 — старшыня Пастаўскага пав. Прымаў удзел у бел. нацыянальным падполлі. Расстраляны немцамі за невыкананне іх загаду.

Літ.: *Ерш С.* Жыццё і смерць Адама Дасюкевіча // *Голас камбатанта*. 2000, № 4.

**ДАЎГАПОЛЬСКІ Цодзік Лейбавіч** [псеўданім: Horodoker; 30.7(11.8).1879, Гарадок Віцебскай губ., цяпер Віцебская вобл. — 16.7.1959, Ленінград], празаік, паэт, драматург. Пасля здачы экстэрнам экзаменаў на званне хатняга настаўніка выкладаў у Магілёўскай губ. (1910—11). У 1912—18 загадваў яўрэйскім вучылішчам у Гарадку. Друкавацца пачаў у 1914. У 1917 уступіў у Бунд. У 1918—24 працаваў інструктарам Наркамата асветы па

Віцебскай і Магілёўскай абласцях. У 1922—24 дырэктар дзіцячага дома ў Віцебску. У 1925—32 літсупрацоўнік яўрэйскай газ. «Октобэр» у Мінску. З 1933 у Дзяржвыдавецтве БССР. Арыштаваны 27.4.1938; сасланы ў Казахстан. У 1943 вызвалены. Жыў на Урале, дзе займаўся педагагічнай працай. Пасля вайны — у Віцебску. Цяжка захварэўшы, пераехаў да дачкі ў Ленінград, дзе і памёр. Выдаў некалькі кніг прозы, паэзіі, п'ес. Найбольш значны твор — раман «Калі адчыняецца брама» (1930) — быў перакладзены на бел. мову (1931). Выступаў у газетах з нарысамі і фельетонамі. Да арышту пісаў пераважна па-яўрэйску. У 1950-х г. публікаваў кнігі па-руску.

Тв.: На берегах Сыльвы: Повесть. Мн., 1955; На рассвете: Из далекого прошлого. Мн., 1957; Пять лепестков: Повести и рассказы. Мн., 1959.

Літ.: *Рэлес Р.* Старасць адступае перад працай // *Полымя*. 1969, № 7; *БП*, т. 2.

**ДАЎГЯЛА Дзмітрый Іванавіч** [крыптанімы: Д.Д.; Дм.Д.; 20.10(1.11).1868, в. Казьяны Гарадоцкага пав. Віцебскай губ., цяпер Шумілінскі р-н Віцебскай вобл. — 1942 ?, Казахстан], гісторык, класік бел. археаграфіі. Скончыў Віцебскую семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію (1894). Выкладаў у Віцебску ў семінарыі і мужчынскай

гімназіі. З 1897 архіварыус Віцебскага цэнтральнага архіва старажытных актаў. У 1903 пераехаў у Вільню, дзе працаваў у аб'яднаным Архіве старажытных актаў, выкладаў у навучальных установах. У 1906 рэдагаваў газ. «Белая Русь». У 1906—15 член Віленскай археаграфічнай камісіі, з 1913 яе старшыня. Рэдактар «Записок Северо-Западного отдела Русского географического общества» (1910—14), апублікаваў у іх шэраг прац па гісторыі Беларусі. Пасля эвакуацыі з Вільні ў 1915 — у Магілёўскім архіве. Удзельнічаў ва Усебеларускім кангрэсе 1917. З 1921 загадчык Магілёўскага губернскага архіва. З 1925 супрацоўнік Інбелкульта, дацэнт БДУ, з 1929 дырэктар бібліятэкі БелАН, у 1937 навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі БелАН. Найбольшую вядомасць Д. прынесла яго археаграфічная праца — падрыхтоўка і выданне зборнікаў дакументаў: «Историко-юридические материалы...» (т. 27—32, Віцебск, 1899—1906), «Акты, издаваемые Виленской комиссией...» (т. 32—37, Вільня, 1907—12), «Беларускі архіў» (т. 1—3, Мн., 1927—30), «Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму» (т. 1—2, Мн., 1934—1935), «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (т. 1, Мн., 1936). Арыштаваны 10.12.1937; пастановай пазасудовых органаў ад 11.9.1939 высланы ў Казахстан на 5 гадоў. Памёр у ссылцы. Рэабілітаваны 9.6.1964.

Тв.: Радошковичи, заштатный город Виленской губернии. Вильна, 1907; З гісторыі беларускага пісьменства XVII ст. Мн., 1927; Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі. Рыга, 1933.

Літ.: *Улащик. Очерки*; *ЭГБ,* т. 3; *Возвращенные имена*.

**ДАШКЕВІЧ Леў Урбанавіч** [31.1(12.2).1882, Мінск —9(?).12.1957, Мінск], фотамастак, вучоны, вынаходнік, публіцыст, педагог. Паходзіў з шляхецкага роду герба «Ляліва». У 1882—96 вучыўся ў Мінскай мужчынскай гімназіі і Віленскім інтэрнаце-канквіце. З 1903 вучыўся ў Варшаўскім ун-це (на медыцынскім ф-це). У 1904 за ўдзел у студэнцкай забастоўцы арыштаваны і выключаны з ун-та без права паступлення ў ВНУ Расійскай імперыі. У 1906—11 вучыўся ў Францыі — на ф-це філалогіі ун-та ў Дыжоне. Паралельна ў 1908—09 займаўся на фатаграфічным аддзяленні Вышэйшай школы графічных мастацтваў у Парыжы. З 1911 пачаў друкавацца ў навуковых выданнях (*La Nature*. Paris). У 1911—20 жыў у Закаўказзі, працаваў выкладчыкам французскай мовы, фізікі, прыродазнаўства і інш. у гімназіях Эрывані (Ерэван), Елізаветполя (цяпер Гянджа, Азербайджан), Тыфліса (Тбілісі). Ездзіў па рэгіёне ў якасці фатографа Камісіі па апісанні мясцовасцяў і плямён Каўказа. У 1918 служыў дзяржаўным фатографам

урада Азербайджанскай рэспублікі. У канцы мая 1920 вярнуўся ў Мінск. З кастр. 1920 чытаў курсы лекцый па сусветнай літаратуры і фатаграфіі ў Мінскім інстытуце народнай адукацыі, са снеж. 1920 выкладаў французскую мову ў Беларускім політэхнічным інстытуце. У 1921 працаваў у Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР (прыродазнаўчая секцыя). У маі — чэрв. 1923 удзельнічаў у этнаграфічнай экспедыцыі ў Ігуменскім (цяпер Чэрвеньскі) і Барысаўскім пав. У 1923—24 навуковы фатограф на медыцынскім ф-це БДУ. Фатаграфічныя працы Д. друкаваліся ў выданнях: Азбукін М. «Географія Эўропы» (2-е выд. Мн., 1924), Грамыка М. «Пачатковая географія» (Мн., 1926), «Чатырохстолецьце беларускага друку» (Мн., 1926), Багдановіч М. «Творы». Т. 1 (Мн., 1927—28), «Сучаснае беларускае мастацтва» (Мн., 1929), «Беларусь Савецкая: Фотаальбом» (Мн., 1931), «IV Усебеларуская мастацкая выстаўка» (Мн., 1931), час. «Чырвоная Беларусь» (1930, № 1, 2, 9). Удзельнічаў у Першай Усебеларускай выстаўцы краязнаўчых фатаграфій і замалёвак (Мінск, крас.—май 1928), у выстаўцы ў Дрэздэне (Германія, 1930 ?). Арыштаваны ДПУ БССР 21.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Вызвалены ў вер. 1930. Затым працаваў у Мінскім Доме тэхнікі, на геаграфічным ф-це БДУ, 1-й клініцы Мінскага медінстытута, Інстытуце тэарэтычнай і клінічнай медыцыны АН БССР. У 1941—

44 жыў у эвакуацыі ў Фрунзе (цяпер Бішкек, Кыргызстан), працаваў у медыцынскіх установах. У верасні 1944 вярнуўся ў Мінск. Працаваў у Інстытуце тэарэтычнай медыцыны і Інстытуце фізіялогіі. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску. У вер.—снеж. 2002 у Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі адбылася выстава твораў Д. «Зачараваны Беларуссю».

Тв.: Сенсибилизация бромистых эмульсий к И-красным лучам // *Физик-любитель*. Николаев, 1916; Пасьля выстаўкі (Нататкі і ўражаньні) // *Маладняк*. 1929, № 2; Вада і жыцьцё. Мн., 1930; Ультрафиолетовые лучи, как метод научного исследования // *Медицинский журнал БССР*. 1938, № 4—5; Особенности люминесценции мочи при раковых заболеваниях // *Там жа*. 1938, № 7—8; Люминесцентная реакция организма // *Бюллетень экспериментальной биологии и медицины*. Т. XXII, вып. 3. М., 1946; Химическая радиация в кинетике химических реакций // *Известия АН БССР*. 1951, № 5.

Літ.: *Дашкевич Л.У. (1882—1957): Каталог фотографий*. Мн., 2002.

**ДАШКЕВІЧ Цыпрыян** [Daszkiewicz Cyprian; 9.12.1803, Гродзенская губ. — канец ліст. 1829, Масква], філарэт, філосаф. Сын рэгента Навагрудскага пав. Скончыў Беластоцкую гімназію. У 1820 прыехаў у Вільню, паступіў на ф-т маральна-паліт. навук ун-та. Вылучаўся цікавасцю да гісторыі; належыў да любімых вучняў І.Ляляевеля, які задзей-

нічаў яго для паўтору матэрыялу са слухачамі. Член Таварыства філарэтаў. Арыштаваны ў 1824; высланы ў цэнтральныя губерні Расіі. Жыў у Маскве, працаваў у банку. У яго кватэры спыняўся А.Міцкевіч, выдавецкімі і фінансавымі справамі якога Д. займаўся. Прадчуваючы блізкае скананне, пачаў пісаць нататкі. Завяшчаў сябрам пахаваць яго на Радзіме. Памёр пасля працяглай хваробы. У сак. 1830 А.Петрашкевіч прывёз яго труну ў Вільню; пахаваны на бернардзінскіх могілках. Яго памяці А.Міцкевіч прысвяціў ч. III «Дзядоў».

Літ.: Cyprian Daszkiewicz // *Athenaeum*. 1847; *PSB*.

**ДАШУТА Язэп Дамінікавіч** [20.12.1890, Саколка Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 9.9.1966, кляштар у Влацлаўку, Польшча], рыма-каталіцкі святар, манах-марыянін, грамадскі і культурны дзеяч, педагог. У 1905—10 вучыўся ў Сакольскім гарадскім 4-класным вучылішчы. У 1911 паступіў у Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Быў членам гуртка беларусаў-семінарыстаў. Пасвечаны ў святары 26.5.1918. Прызначаны вікарыем у парафію Дабжынаў Беластоцкага дэканата. З 1921 вучыўся ў Люблінскім каталіцкім ун-це. З 1925 у кляштары марыянаў у Друі. Пасля навіцыяту выехаў на далейшую вучобу ў Рым, дзе праз год абараніў док-

тарскую дысертацыю па кананічным праве. У канцы 1927 вярнуўся ў Друю. Браў удзел у заходнебел. рэлігійным і культурна-асветным жыцці. Праследаваўся польскімі свецкімі ўладамі. Дэпартаваны паліцыяй з друйскага кляштара 23.6.1938. Жыў у кляштарах марыянаў у Скужцы каля Седльцаў, Грудзёндзы, Влацлаўку (Польшча). Падтрымліваў кантакты з бел. асяродкам марыянаў у Лондане. Пахаваны ў Варшаве.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Stankiewicz A.* Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia, 1929.

**ДВАРЧАНІН Ігнат Сымонавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Гудок; І.Гудок; Ігнат Гудок; Ігналь Гудок; І.Ладанчук; І.Д-н; І.Д.; 27.5(8.6).1895, в. Погіры Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Дзятлаўскі р-н Гродзенскай вобл. — 8.12.1937, Ленінградская вобл., НКВД], паэт, літаратуразнавец, паліт. і культурны дзеяч. У 1912 здаў экзамены на званне народнага настаўніка. Працаваў на Слонімшчыне. У 1915—17 на вайсковай службе. Стаў членам БСГ. Першыя вершы надрукаваў у 1917. Удзельнічаў у падрыхтоўцы Усебеларускага кангрэса 1917. Арыштаваны 18.12.1917. У 1918 па запрашэнні А.Чарвякова працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Маскве. У 1919—20 вёў культурна-асветную работу на Дзятлаўшчыне; інтэрнаваны

польскімі ўладамі ў Беластоцкі лагер, адкуль уцёк. З 1921 ў Даўгаўпілсе, удзельнічаў у бел. культурнай працы. Пераехаў у Прагу, у 1925 скончыў Карлаў ун-т са званнем доктара філасофіі (дысертацыя «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве»). Публікаваўся ў выданнях «Перавясла», «Студэнцкая думка», «Прамень», «Наш сцяг», «Наш шлях» і інш. З 1926 у Вільні; выкладчык бел. гімназіі, член Галоўнай управы ТБШ (1926—30). Супрацоўнічаў у час. «Маланка», «Родныя гоні». У 1927 уклаў і выдаў «Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры (ад 1905 году)». У 1928 абраны дэпутатам сейма; адзін з кіраўнікоў арганізацыі «Змаганне» (1928—30). У 1930 арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў турмы. З 1932 у выніку абмену палітзняволеных у Мінску. Працаваў у Камісіі па вывучэнні Зах. Беларусі БелАН; выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. Арыштаваны ДПУ БССР 16.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Паводле пастановы судовай калегіі ДПУ БССР 9.1.1934 прыгавораны да расстрэлу, замененага зняволеннем у лагерах тэрмінам на 10 гадоў. Накіраваны на Салаўкі, потым на будаўніцтва Беламорска-Балтыйскага канала. Паводле пастановы «тройкі» НКВД па Ленінградскай вобл. ад 25.11.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.8.1956. У 1983 у Погірах устаноўлена мемарыяльная дошка, у 1989 у Дзятлаве адкрыты помнік Д.

Тв.: Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве: Пераклад з чэшскай. Мн., 1991; [Вершы] // *Беларусь*. 1988, № 1; [Вершы] // *Ростані волі*. Мн., 1990.

Літ.: *Калеснік У.* Чалавек з паходняй // *Звязда*. 1985, 8 чэрв.; *Barszczewski A., Bergman A., Tomaszewski J.* Ignacy Dworczanin, białoruski polityk i uczony. Warszawa, 1990; *БП*, т. 2; *ЭГБ,* т. 3.

**ДВАРЭЦКІ Мікола** [псеўданім: Мікола Базылюк; 6.9.1903, мяст. Іказнь Браслаўскага пав. Віленскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 15.8.1988, Лембарк, Польшча], рэлігійны дзеяч, паэт, публіцыст. Пасля 1-й сусветнай вайны сям'я вярнулася з бежанства ў Беларусь. Д. вучыўся ў 7-гадовай школе ў Вільні. Дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі; на пачатку 1930-х г. быў адным з ініцыятараў утварэння праваслаўнай фракцыі БХД. Друкаваўся ў заходнебел. пераважна хадэцкіх перыядычных выданнях з 1921. Арыштоўваўся польскімі ўладамі ў 1928. У 1939—41 працаваў настаўнікам у Міёрах. У 1942 адпраўлены немцамі на прымусовыя работы ва Усх. Прусію. З 2-й паловы 1940-х г. жыў на Польскім Намор'і. Апошнія гады жыцця правёў у Лембарку недалёка ад Гданьска.

Літ.: *Гарбінскі БРД*.

**ДЗЕКУЦЬ-МАЛЕЙ Лукаш Мікалаевіч** [1.10.1888, Слонімскі пав. Гродзенскай губ. — 20.1.1955, Гданьск, Польшча], пратэстанцкі прапаведнік, рэлігійны дзеяч, перакладчык, выдавец. З 1910 вернік баптысцкай царквы, звязаны з пратэстанцкім рухам. Вучыўся на Першых беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні. Калі жыў у Санкт-Пецярбургу, два гады наведваў біблейскія курсы. У 1918 браў удзел у Беларускім сялянскім з'ездзе ў Гродне, на якім абраны ў Гродзенскую павятовую раду. Арыштаваны польскімі ўладамі 13.2.1919 за выступленні ад імя Літоўскай дзяржавы. З 1920 адзін з лідэраў Беларускага нацыянальнага камітэта і старшыня Беларускай школьнай рады ў Гродне. З пачатку 1920-х г. займаўся рэлігійнай дзейнасцю; прапаведнік у Брэсце. У 1920—24 пераклаў на бел. мову з польскай і рускай 17 рэлігійных брашур. Сумесна з А.Луцкевічам выдаў па-беларуску «Новы Запавет і Псальмы» (Хельсінкі, 1931). Займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Арыштаваны 19.6.1941 савецкімі органамі бяспекі. Падчас нямецкай акупацыі прасвітар бел. баптыстаў. У 1942 выдаў у Мінску малітоўнік па-беларуску. У канцы вайны пакінуў Беларусь. З 2-й паловы 1940-х г. жыў у Гданьску.

Літ.: *Picarda J.* The haevenly fire: A study of the origins of the Byelorussian New Testament and Psalms // *Божым шляхам.* 1975, № 1—2; *Луцкевіч А.* Дзённік // *Полымя.* 1991, № 4—5; *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ,* т. 3.

**ДЗЕМІДОВІЧ Адам Пятровіч** [31.12.1881, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 10.11.1938, Мінск, НКВД], геадэзіст. Верагодна, брат П.Дземідовіча. Працаваў у Інстытуце геалагічных навук БелАН, Геолага-разведвальным упраўленні Наркампрама БССР. Арыштаваны 8.8.1938. Пастановай «тройкі» НКВД 1.11.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 28.5.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ДЗЕМІДОВІЧ Павел Пятровіч** [псеўданімы і крыптанім: Белорусс; Дачник; Д.; 29.6(10.7).1871, в. Мікалаеўшчына Мінскага пав., цяпер Стаўбцоўскі р-н Мінскай вобл. — 7.3.1931, Мінск], этнограф, фальклярыст, краязнавец, педагог. Верагодна, брат А.Дземідовіча. У 1890 скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у 1897 — Віленскі настаўніцкі інстытут. Настаўнічаў у Мінскім і Навагрудскім пав. Выкладаў у Выбаргскай настаўніцкай семінарыі і на настаўніцкіх курсах у Выбаргу і Юр’еве (Тарту). З 1908 супрацоўнік аддзялення этнаграфіі Таварыства аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це. Публікаваўся ў выданнях «Виленский вестник», «Этнографическое обозре-

ние», «Живая старина». З 1915 настаўнік у Віцебску. З 1919 у Мінску; арганізатар і загадчык бел. гімназіі. У ліп. 1920 — вер. 1921 у Наркамаце асветы БССР. З 1921 выкладчык Мінскага інстытута народнай адукацыі. Арыштаваны ў лют. 1921 па абвінавачанні ў антысавецкай дзейнасці. З 1922 выкладаў у сярэдніх школах Мінска. З 1925 член этнаграфічнай секцыі Інбелкульта. Частку сваіх збораў перадаў М.Доўнар-Запольскаму. Спадчына Д. выкарыстана пры падрыхтоўцы выданняў «Легенды і паданні» (1983), «Земляробчы каляндар» (1990) серыі «Беларуская народная творчасць».

Літ.: *Гурскі А. І.* З любоўю да народа: З жыцця і фальклорна-этнаграфічнай дзейнасці Д. Г. Булгакоўскага і П. П. Дземідовіча. Мн., 1989; *ЭГБ*, т. 3.

**ДЗЯМІДАЎ Мікалай Іванавіч** [10.12.1888, Беласточчына ? — 23.6.1967, Чыкага, ЗША], ваенны, паліт., грамадскі дзеяч, публіцыст, настаўнік. У 1905 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, у 1910 Беластоцкае рэальнае сярэдняе вучылішча. У 1907 працаваў у канцылярыі Прывісленскіх чыгунак, адначасова вольны слухач Варшаўскага ун-та. З 1914 на ваеннай службе ў царскай арміі. У 1917 скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. У 1918 займаўся ў Вільні

арганізацыяй бел. вайсковых адзінак. У 1918—19 камендант Гродна, прадстаўляў у камендатуры Раду БНР. Арыштаваны польскімі ўладамі ў чэрв. 1919. Летам 1920 уступіў у армію С.Булак–Булаховіча, арганізаваў асобны бел. батальён, які ўдзельнічаў у паходзе 1920. З 1921 у Польшчы. З 1923 у Латвіі. З 1924 ў Рызе. Арганізаваў таварыствы «Беларуская хатка» і «Рунь»; працаваў у бел. грамадскіх арганізацыях. Рэдагаваў час. «Школа і жыццё» (1930). У 1940 Д. арыштаваны і этапіраваны на Лубянку. Неўзабаве вызвалены. У 1941 кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам у Дзвінску, потым увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта ў Рызе. У 1942 пераехаў у Беларусь, працаваў інспектарам Генеральнага камісарыята, потым рэферэнтам па школьных справах. Удзельнічаў у фарміраванні батальёна Беларускай краёвай абароны ў Лідзе. У 1944 вярнуўся ў Рыгу. З канца 1944 у Берліне пры БЦР. У 1948 адзін з ініцыятараў склікання сабора Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў Канстанцы (Зах. Германія). З 1950 у ЗША.

Літ.: *Латышонак А.* Дзень герояў // *Ніва*. 1994, 27 лістап.; *Яго ж*. Мікалай Дзямідаў — беларускі палітычны дзеяч з роду Каліноўскага // *Лідскі летапісец*. 2002, № 17; *Соловьёв А.К*. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. Мн., 1995; *Łatyszonek O*. Mikołaj Demidow// *Białoruskie Zeszyty Historyczne*. 1995, №1.

**ДЗЯРГАЙ Сяргей Сцяпанавіч** [17.9.1907, Мінск — 25.12.1980, Мінск], паэт, перакладчык. У 1927 скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Працягваць вучобу не змог з-за хваробы. Шмат займаўся самаадукацыяй. З 1934 працаваў карэктарам у друкарні газ. «Звязда». Арыштаваны 15.3.1935; прыгавораны да 3 гадоў пазбаўлення волі. Пасля вызвалення ў 1937 жыў на вёсцы. У 1938 у газ. «Літаратура і мастацтва» апублікаваны першы верш Дз. Зноў арыштаваны ў 1939; высланы ў Казахстан. Пасля вызвалення з 1941 жыў у Новабеліцы пад Гомелем. Падчас нямецкай акупацыі падтрымліваў сувязь з партызанамі, уваходзіў у падпольную антыфашысцкую групу. З 1946 жыў у Мінску. Член СП Беларусі з 1950. З 1951 працаваў загадчыкам аддзела паэзіі час. «Полымя». У 1953—67 адказны сакратар, загадчык аддзела літаратуры час. «Вожык». Першы зборнік «Вачыма будучыні» выйшаў у 1953. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы (1964) за зборнік «Чатыры стыхіі» (1962). Перакладаў з польскай, рускай, украінскай моў. Пахаваны на Паўн. могілках Мінска.

Тв.: Выбр. Мн., 1967; Вершы. Мн., 1974; На вогненнай сцяжыне. Мн., 1977; Чатыры стыхіі. Мн., 1988.

Літ.: *Яфімаў Ф*. Чатыры стыхіі Сяргея Дзяргая // *Полымя*. 1970, № 11; *БП*, т. 2.

**ДЗЯРКАЧ Анатоль** [сапр.: Зіміёнка Анатоль Рыгоравіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: А.З.; Дзядок Тарас; Дзяргач; А.Зіміёнак; А.Зімёнка; «Нежанаты»; 6(18).4.1887, мяст. Турэц Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Гродзенскай вобл. — 5.9.1937, Мінск, НКВД], паэт, сатырык, гумарыст, мемуарыст. У 1904 скончыў народнае вучылішча ў Навагрудку. Пачаў публікавацца з 1904; спачатку пісаў на рускай мове. Служыў у земскай і гарадской управах у Мінску. Член партыі эсэраў. У 1908 арыштаваны, адпраўлены ў ссылку. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 служыў у мінскіх адміністрацыйных органах Часовага ўрада. Пасля 1917 працаваў у газ. «Беларуская вёска»; з 1924 рэдактар сатырычнага час. «Дубінка» (дадатак да газ. «Звязда»); працаваў у газ. «Піянер Беларусі», час. «Полымя». Працуючы ў сатырычным жанры, узяў сабе псеўданім Анатоль Дзяркач. Член СП Беларусі з 1934. Пісаў творы для дзяцей. Перакладаў з рускай і ўкраінскай моў. Аўтар успамінаў. Арыштаваны 16.10.1936; расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Пра папоў, пра дзякоў, пра сялян-мужыкоў: Сатырычныя вершы. Мн., 1925; Міколава гаспадарка: Агра-паэма. Мн., 1927; Нашы прыяцелі. Мн., 1928; Звяры нашых лясоў. Мн., 1929; Бог удвох. Мн., 1930; Усім патроху…: Сатыра і гумар: Вершы. Мн., 1930; Качаргой па абразох. Мн., 1930; Оккупация и интервенция в Белоруссии. М., 1932.

Літ.: *Семяжон Я.* Сатыра не старэе // *Беларусь*. 1967, № 4; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ДЛУСКІ Баляслаў Раман** [псеўданім у 1860-х: Ябланоўскі; 19.6.1826, Віленскі пав. (паводле іншых звестак, Вількамірскі пав.) — 10.5.1905, Кракаў], удзельнік паўстання 1863—64, мемуарыст. У 1843 у час вучобы ў Віленскай гімназіі прымаў удзел у патрыятычным руху. Сасланы на Каўказ у салдаты. Удзельнічаў у баях з горцамі, даслужыўся да звання падпаручніка, у 1852 выйшаў у адстаўку. У 1850-я г. вучыўся ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, потым паступіў у Маскоўскі ун-т, які скончыў у 1861. Браў удзел у студэнцкім руху. З 1862 член Літоўскага правінцыяльнага камітэта, прыхільнік «чырвоных». У 1863 ваенны начальнік Ковенскага ваяв. З кастр. 1863 замежны ваенны камісар паўстанцаў на тэрыторыі былога ВКЛ. З 1873 у Галіцыі (Аўстра-Венгерская імперыя). Працаваў доктарам, мастаком. Напісаў успаміны пра паўстанне на тэрыторыі Ковеншчыны і Жмудзі.

Тв.: Z powstania 1863 na Żmudzi // *Sprawozdanie z zarządu Muzeum narodowego polskiego w Rapperswilu*. Paryż, 1914. R. 43.

Літ.: *Кісялёў Г.* Разам з вялікім Кастусём // *Беларуская мова і літаратура ў школе*. 1989, № 2; *PSB*; *ЭГБ*, т. 3.

**ДОМБАЛЬ Тамаш Францавіч** [псеўданім: Т. Ордан; 29.12.1890, в. Собаў Тарнобжэгскага пав., Галіцыя, Аўстра-Венгрыя, цяпер Жэшаўскае ваяв.,

Польшча — 4.12.1938, Мінск, НКВД], эканаміст, публіцыст, дзеяч міжнароднага сялянскага руху. У 1909—14 вучыўся ў Венскім і Кракаўскім ун-тах. У 1919 дэпутат польскага сейма. У ліп. 1921 адзін з ініцыятараў стварэння ў ім камуністычнай фракцыі. Арыштаваны ў снеж. 1921; асуджаны на 6 гадоў зняволення. У выніку абмену палітвязнямі з 1923 у СССР. Ініцыятар склікання ў 1923 І Міжнароднай сялянскай канферэнцыі ў Маскве; нам. генеральнага сакратара Выканкама Сялянскага Інтэрнацыянала. У 1926 заснаваў навукова-даследчы Міжнародны аграрны інстытут. У 1927 скончыў Маскоўскую сельска-гаспадарчую акадэмію, у 1932 Інстытут чырвонай прафесуры. У 1932—35 віцэ-прэзідэнт БелАН, дырэктар Інстытута эканомікі БелАН. Прафесар (1932), акадэмік БелАН (1933), доктар эканамічных навук (1934). Аўтар прац пра міжнародны сялянскі рух, эканоміку Беларусі. Арыштаваны 29.12.1936. Асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР на расстрэл. Рэабілітаваны 21.12.1956.

Літ.: *Cimek H.* Tomasz Dombal, 1890—1937. Rzeszów, 1993; *ЭГБ*, т. 3; *Возвращенные имена*.

**ДОЎБІК Аляксандр** [псеўданім: Садоўнік; нар. 6.7.1921, хутар Сенніца Слуцкага р-на Бабруйскай акругі, цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.], правааба-

ронца, публіцыст. У 1940 скончыў курсы падрыхтоўкі настаўнікаў пры Карагандзінскім педагагічным інстытуце. У вер. 1940 мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе знаходзіўся да снеж. 1945. З 1946 настаўнічаў у Мірскім і Карэліцкім раёнах Гродзенскай вобл. У 1950 завочна скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Для Д. былі відавочнымі разыходжанні паміж прынцыпамі, якія дэкларавала кіраўніцтва СССР, і рэальнай практыкай у галіне правоў чалавека. Асабліва, паводле яго меркавання, гэта выяўлялася ў падпісанні СССР у 1948 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і адначасовым парушэнні гэтай Дэкларацыі. Д. меркаваў, што існуюць міжнародныя інструменты ўплыву на ўнутраную палітыку СССР. Гэта падштурхнула яго ў 1958 праз пасольствы ў Маскве накіраваць лісты да кіраўнікоў шэрагу ўплывовых краін свету: прэзідэнту ЗША, прэм’ер-міністру Вялікабрытаніі, прэм’ер-міністру Індыі. У лістах Д. называў імёны вядомых яму ахвяраў савецкага рэжыму. Гэтыя лісты былі перахоплены КДБ. 15.10.1958 Д. быў арыштаваны і 22.11.1958 на закрытым судовым працэсе Гродзенскага абл. суда асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Зняволенне адбываў у лагерах Мардовіі. У 1990-я г. старшыня Карэліцкай раённай суполкі Беларускай асацыяцыі ахвяр паліт. рэпрэсій (БААПР). Выяўленыя ім імёны ахвяраў рэпрэсій увайшлі ў кнігу «Памяць» Карэліцкага р-на,

а таксама змешчаны ў створаным у Вашынгтоне Мемарыяле-музеі ахвяраў камуністычных рэжымаў. Цяпер жыве ў в. Уша Карэліцкага р-на Гродзенскай вобл.

Літ.: *Грыбоўскі Ю.* Доўбік Аляксандр // *Дэмакратычная апазыцыя.*

**ДОЎНАР Іван Сямёнавіч** [11.9.1902, в. Гонча Мінскай губ. — 25.1.1982, Маладзечна], эканаміст. У 1927 скончыў БДУ. Вучыўся ў аспірантуры БелАН. У 1933 навуковы супрацоўнік Інстытута эканомікі БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 11.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Калегіяй АДПУ 19.5.1934 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Тэрмін пакарання адбываў на Салаўках; з 1940 у Нарыльску. Атрымаў паўторны тэрмін зняволення. Вызвалены ў 1948. З 1952 жыў у Маладзечне. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ДРАЖВЕЦКІ Дзмітрый Васілевіч** [1897, в. Колкі Валынскай губ., Украіна — 8.8.1938, Магадан, ГУЛАГ], эканаміст-географ. Вучыўся ў аспірантуры БелАН. З 1932 працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам аддзела картаграфіі

Інстытута эканомікі БелАН. Арыштаваны 15.12.1935. 23.2.1936 асуджаны Спецыяльнай судовай калегіяй Вярхоўнага суда БССР на 5 гадоў лагераў. Накіраваны ў Паўн.-Усх. лагер (Магадан). 8.8.1938 прыгавораны да расстрэлу. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 21.11.1956, па другім — 24.10.1962.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ДРУЖЧЫЦ Васіль Данілавіч** [Друшчыц; 27.1.(8.2).1886, в. Блудзень Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Першамайская Бярозаўскага р-на Брэсцкай вобл. — 20.12.1937, Мінск, НКВД], гісторык. У 1901 скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, у 1907 — Літоўскую духоўную семінарыю (Вільня), у 1911 — Юр’еўскі (Тартускі) ун-т. У 1911—22 выкладаў гісторыю ў Вільні, Шаўлях, Рэчыцы, Бабруйску. Удзельнічаў у рабоце Беларускага культурна-асветнага таварыства ў Бабруйску. З 1922 выкладчык, з 1927 прафесар кафедры гісторыі Беларусі БДУ. Адначасова з 1924 правадзейны член Інбелкульта; з 1927 старшыня камісіі Інбелкульта па гісторыі гарадоў. З 1933 супрацоўнік Інстытута гісторыі БелАН, прафесар кафедры гісторыі народаў СССР Літаратурнага інстытута імя Герцэна (Масква). Даследаваў бел. сярэдневякоўе, магдэбургскае права ў бел. гарадах,

гісторыю кнігадрукавання. Арыштаваны 14.1.1937. Асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 19.12.1937 на расстрэл. Рэабілітаваны 5.7.1958.

Тв.: Палажэнне Літоўска-Беларускай дзяржавы пасля Люблінскай уніі // *Працы БДУ*. 1925, № 6—7; Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. // *Тамсама*. 1926, № 12; Беларускія месты ў гістарычнай літаратуры // *Гістарычна-археалагічны зборнік*. Мн., 1927.

Літ.: *Іофэ Э*. Летапісец айчыннай гісторыі // *ЛіМ*. 1986, 14 лют.; *Возвращенные имена; ЭГБ*, т. 3.

**ДРУЦКІ-ПАДБЯРЭСКІ Баляслаў** [1894, Лідчына — 1940, Вілейка ?, НКВД], літаратар, лексіколаг. Паводле адукацыі юрыст. Паходзіў з княжацкага роду. Захоплены бел. культурна-адраджэнскім рухам, у 1920-я г. досыць актыўна друкаваўся ў перыёдыцы — час. «Беларуская культура», «Беларускі радны», «Беларуская хата», газ. «Беларускае слова», «Беларускі дзень». Выступаў пераважна як байкапісец і аўтар гумарэсак у прозе. Пераніцоўваў на бел. мову класікаў-байкапісцаў. Вядомы выдавец Барыс Клецкін апублікаваў яго байкі, гумарэскі і сатыру асобнай кніжкай. Д.-П. падрыхтаваў і выдаў пад рэдакцыяй В.Грышкевіча першы бел.-польскі слоўнік. Займаўся краязнаўчым апісан-

нем Лідчыны. Арыштаваны органамі НКВД увосень 1939 у рэдакцыі газ. «Вілейская праўда», куды Д.-П. зайшоў як літаратар. Засведчыў гэты факт журналіст Вульф Сосенскі. У нетрах карнага ведамства загінуў без вестак.

Тв.: Байкі, гумар, сатыра. Сш. 1, 2. Вільня, 1928; Падручны беларуска-польскі слоўнік. Вільня, 1929.

**ДУБІНСКІ Сяргей Антонавіч** [13(25).10.1884, в. Наройкі Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 27.8.1937, Ленінград, НКВД], археолаг, гісторык. У 1914 скончыў Пецярбургскі ун-т. Настаўнічаў. З 1925 член гісторыка-археалагічнай камісіі, з 1928 навуковы супрацоўнік Інбелкульта, з 1929 у Інстытуце гісторыі БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР летам 1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі», але ў хуткім часе вызвалены. З 1933 у Ленінградзе, навуковы супрацоўнік Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Даследаваў помнікі жалезнага веку і сярэдневякоўя. Падрыхтаваў і выдаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін» (Мн., 1933). Арыштаваны і расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны ў 1958.

Літ.: *Вяргей В.С.* Археалагічная навука ў Беларускай ССР 1919—1941 гг. Мн., 1992; *Каробушкіна Т.М.* Археолаг С.А.Дубінскі // *ПГКБ*. 1986, № 4; *ЭГБ*, т. 3.

*Леанід Маракоў*

**ДУБОЎКА Уладзімір Мікалаевіч** [псеўданімы і крыптанімы: Ганна Аршыца; У.Гайдукевіч; У.Гайдуковіч; Ул.Гайдуковіч; Уладзімір Гайдуковіч; Б-сь Дубоўка; Бладысь Дубоўка; Уладзік Павадыр; Тупяец; В.Туянец; У.Д-ка; У.Д-на; 2(15).7.1900, в. Агароднікі Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — 20.3.1976, Масква], паэт, празаік, перакладчык, крытык. У 1915 сям'я Д. пераехала на пастаяннае месца жыхарства ў Маскву. У 1918 скончыў Нова-Вілейскую настаўніцкую семінарыю; у 1924 — Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В.Брусава. Першы верш апублікаваў у 1921. У 1920-я г. — адзін з вядучых бел. паэтаў незалежніцкай арыентацыі. У 1922—25 рэдактар бел. выдання «Весніка ЦВК, СНК і СПА Саюза ССР», адначасова адказны сакратар прадстаўніцтва БССР пры Урадзе СССР. У 1924—27 выкладчык бел. мовы ў Камуністычным ун-це народаў Захаду. У 1926—30 рэдактар «Збору законаў і загадаў Рабоча-Сялянскага ўраду Саюза ССР». Нягледзячы на тое, што пастаянна жыў у Маскве, браў актыўны ўдзел у бел. літаратурным руху — член літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша». Першы рэдактар час. «Беларускі піянер». Каб пазбегнуць цэнзуры, некаторыя вершы друкаваў у заходнебел. час. «Беларуская культура». Арыштаваны АДПУ СССР 20.7.1930 у Крамлі па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; 10.4.1931 асуджаны на 5 га-

доў высылкі ў Яранск. У ліп. 1935 тэрмін высылкі падоўжаны на 2 гады. У ліст. 1937 асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Кіраўскай вобл., Чувашыі, на Далёкім Усходзе. У зняволенні літаратурнай працай не займаўся. Зноў арыштаваны 16.2.1949 у Грузіі. Асобай нарадай МДБ СССР у крас. 1949 асуджаны на 25 гадоў зняволення. Канчаткова рэабілітаваны 15.11.1957. Член СП Беларусі з 1958. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я.Купалы (1962) за кнігу паэзіі «Палеская рапсодыя».

Тв.: Выбр. тв. Мн., 1959; Выбр. тв: У 2 т. Мн., 1965; [Вершы]. Мн., 1970.

Літ.: *Бугаёў Дз.* Уладзімір Дубоўка. Мн., 1965; *Лойка А., Пшыркоў Ю.* Пясняр высокіх дум і глыбокіх пачуццяў // *На высокай хвалі*. Мн., 1980; *Міхнюк У.* Вязень сумлення // *Полымя*. 1996, № 2; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ДУБРОВІЧ Алесь** [сапр.: Рэдзька Аляксей Рыгоравіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: Макар; Мікіта; Р-а; 1910, в. Галубічы Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Каралевічы Глыбоцкага р-на Віцебскай вобл. — 7.11.1942, Глыбоччына], паэт. Друкавацца пачаў у 1928 (карэспандэнцыі ў газ. «Доля працы»). У 1933 апублікаваны яго першы верш «Беларусь». Удзельнік 1-га нелегальнага з’езда заходнебеларускіх пісьменнікаў (Вільня,

1933). Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1934 за падпісанне і публікацыю «Дэкларацыі групы паэтаў да ўсіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі». Два з паловай гады без суда правёў у віленскай турме на Лукішках. Палітвязні выдавалі рукапісны час. «Краты», дзе Д. змяшчаў свае творы пад псеўданімамі Макар і Мікіта. Пасля вызвалення ў 1936 узяў псеўданім Алесь Дубровіч. Актыўна друкаваўся ў заходнебел. перыядычных выданнях («Беларускі летапіс», «Калоссе»). У кастр. 1939 быў дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку. У 1940 пасля з'яднання Зах. Беларусі з БССР працаваў карэспандэнтам газ. «Вілейская праўда». У гады вайны ў антыфашысцкім падполлі. Быў арыштаваны ў канцы ліст. 1942 акупацыйнымі ўладамі; расстраляны.

Тв.: У кн.: *Сцягі і паходні*. Мн., 1965; *Крывёю сэрца*. Мн., 1967; *Радзіме — радок і жыццё*. Мн., 1986.

Літ.: *Чамеза М.* Паэт-змагар // *ЛіМ*. 1983, 2 верас.; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ДУБРОЎСКІ Іларыён Карпавіч** [23.5.1907, в. Багушэвічы Бярэзінскага р-на Мінскай вобл. — пасля 1937 ?, Гулаг ?], журналіст. У 1930-я г. працаваў у газ. «Чырвоная змена». Арыштаваны 26.11.1936. 1.10.1937 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Рэабілітаваны 18.12.1954. Далейшы лёс невядомы.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Маракоў Л.* Вынішчэнне, або Пяць хваляў арыштаў беларускіх літаратараў // *ЛіМ*. 1999, 10 снеж.

**ДУДАР Алесь** [сапр.: Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: Т. Глыбоцкі; Тодар Глыбоцкі; Ал.Д.; Т.Г.; Т.Г-кі; Арцём Яроцкі; 24.12.1904, в. Навасёлкі Мазырскага пав. Мінскай губ., цяпер Петрыкаўскі р-н Гомельскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, крытык, перакладчык. Нарадзіўся ў сям'і беззямельнага селяніна. У час 1-й сусветнай вайны Дайлідовічы знаходзіліся ў бежанстве. Выязджалі ў Тамбоўскую вобл. (Казлоў, цяпер Мічурынск). Вясной 1917 сям'я вярнулася ў Беларусь. Пасля сканчэння (1921) сярэдняй школы (па іншых звестках — сямігодкі) Д. уступіў у тэатральную трупу славутага У.Галубка. Першы верш апублікаваў у 1921 у газ. «Савецкая Беларусь». У 1923 адзін з заснавальнікаў мінскай, віцебскай і полацкай філій «Маладняка». Выступаў таксама як крытык і празаік. Перакладаў з рускай, нямецкай, французскай моў. У 1927—28 вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. У выніку кампаніі супраць бел. пісьменнікаў-студэнтаў быў вымушаны пакінуць ун-т. У снеж. 1927 выйшаў з «Маладняка» і далучыўся да новага аб'-

яднання «Полымя». За верш «Пасеклі наш край папалам…» арыштаваны ДПУ 20.3.1929; высланы на тры гады ў Смаленск. Зноў арыштаваны ў Смаленску 22.7.1930 і прывезены ў Мінск на допыты па справе «Саюза вызвалення Беларусі». У 1931 зноў у Смаленску. Пасля сканчэння тэрміну высылкі вярнуўся ў Мінск. Сябра СП БССР з 1934. У 1935—36 у асноўным займаўся перакладамі. У трэці раз арыштаваны 31.10.1936; пасля года катаванняў і допытаў расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Выбр. тв. Мн., 1959; Вежа: Вершы і паэмы. Мн., 1984.

Літ.: *Багдановіч I.* Будучыня з сінімі крыламі: Літаратурны партрэт А.Дудара // *Роднае слова.* 1994, № 12; *Міхнюк У.* Арыштаваць у высылцы: Дакументальны нарыс пра Алеся Дудара. Мн., 1996; *Маракоў Л.* Алесь Дудар: штрыхі да партрэта пісьменніка // *Роднае слова.* 2001. № 12.

**ДУДЗІЦКІ Уладзімір** [сапр.: Гуцька Уладзімір Ермалаевіч; 27.12.1910 (8.1.1911), в. Дудзічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — ?], паэт, празаік, перакладчык, публіцыст. У 1927 пераехаў у Мінск; у 1930 скончыў 22-ю мінскую сямігодку і паступіў у МБПТ. Разам з С.Астрэйкам, Л.Калюгам, С.Русаковічам Д. быў выключаны з «воўчым білетам» як «нацдэм». Пры дапамозе Л.Калюгі і У.Хадыкі ўладкаваўся на

работу стыльрэдактарам у газ. «Савецкая Беларусь». Пазней працаваў стыльрэдактарам у выдавецтве БелАН; адначасова займаўся на падрыхтоўчых курсах пры БДУ. Паступіў на літаратурналінгвістычны ф-т МВПІ. Арыштаваны ДПУ БССР 23.2.1933; праз 9 месяцаў сасланы на 3 гады ў лагеры. Пакаранне адбываў у Новасібірску, Марыінску, Казахстане, Узбекістане. Пасля дазволу вярнуцца ў Беларусь жыў у Віцебску. Працаваў выкладчыкам бел. мовы і літаратуры; экстэрнам здаў экзамены за курс педінстытута. Друкавацца пачаў у 1937. У 1939 звольнены з педагагічнай работы рашэннем Віцебскага абкама КП(б)Б. Быў вымушаны пакінуць Віцебск, а потым і Беларусь. Хаваўся ў Расіі. Напярэдадні вайны вярнуўся ў Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі жыў у Мінску, Барысаве. Займаўся культурнай дзейнасцю. Увайшоў у склад БЦР, узначаліў аддзел прапаганды Беларускай Краёвай Абароны. Актыўна выступаў у друку з вершамі, паэмамі, артыкуламі. У 1944 выехаў у Германію. Служыў у Міністэрстве прапаганды. Потым жыў у амерыканскай акупацыйнай зоне; перасяліўся ў Венесуэлу. У 1950 — пачатку 1960 галоўны рэдактар бел. рэдакцыі радыё «Свабода» ў Мюнхене. Публікаваўся ў бел. эмігранцкіх выданнях. З 1961 у ЗША; выкладаў рускую мову ва ун-це Блумінгтана (штат Індыяна). Неўзабаве вярнуўся ў Венесуэлу. Пасля сляды Д. губляюцца. У канцы 1970-х г. знік. Па некаторых звестках (ус-

памінах жонкі Веры), магчыма, у былым Савецкім Саюзе. Па справе 1933 рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Напярэймы жаданьням. Нью-Йорк, 1994; У кн.: *Туга па Радзіме: Паэзія беларускай эміграцыі*. Мн., 1992.

Літ.: *Сачанка Б.* З малавядомага і забытага // *ЛіМ*. 1991, 28 чэрв.; *Савік Л.* Напярэймы жаданням // Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001.

**ДУНЕЦ Хацкель Майсеевіч** [крыптанімы: Д.Х.; Х.Д.; студз. 1897, Слонім Гродзенскай губ., цяпер Гродзенская вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], крытык, публіцыст. З 1920 у РКП(б); быў на партыйнай рабоце ў Віцебску. З 1926 жыў у Мінску. Публікаваўся з 1927. Быў нам. рэдактара яўрэйскай газ. «Октобэр», рэдактарам газ. «Літаратура і мастацтва»; адным з кіраўнікоў яўрэйскай секцыі СП БССР. У 1930—35 — нам. наркама асветы БССР. Сябра СП БССР з 1934. У сярэдзіне 1930-х г. абвінавачваўся ў трацкізме. У 1935 выключаны з партыі і зняты з усіх адказных пасад. Працаваў культработнікам на заводзе імя Кірава. Арыштаваны 8.6.1936; 27.8.1936 асуджаны на 5 гадоў лагераў; накіраваны ва Ухт-Пячорскі лагер. Зноў арыштаваны ў крас. 1937, дастаўлены ў Мінск і 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1967.

Літ.: *Рашэнні парткома Наркамасветы і Саюза савецкіх пісьменнікаў па справе тав. Дунца: Пастанова бюро Мінскага гаркома КП(б)Б* // *ЛіМ*. 1935, 23 лют.; *БП*, т. 2.

**ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ Вінцэнт** [Вікенцій Іванавіч; псеўданімы: Войт Навум; Навум Прыгаворка; 23.1(4.2).1808, фальварак Панюшкавічы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Бабруйскі р-н Магілёўскай вобл. — 17(29).12.1884, фальварак Люцынка Мінскага пав., цяпер в. Малая Люцінка Валожынскага р-на Мінскай вобл.], класік бел. літаратуры, паэт, драматург, тэатральны дзеяч. Мяркуецца, што ў 1824 скончыў Бабруйскае павятовае вучылішча, працягваў вучобу ў Санкт-Пецярбургу. З 1828 каморнік Мінскага межавога суда; перакладчык каталіцкай духоўнай кансісторыі. Вясной 1840 набыў маёнтак Люцінка і пакінуў дзяржаўную службу. Як драматург і акцёр дэбютаваў у 1841, калі паставіў у Мінску аперэту «Рэкруцкі яўрэйскі набор». У 1846 у Вільні было выдадзена лібрэта яго камедыі-оперы «Ідылія». Творчы росквіт прыпадае на 1850-я г. Перакладаў на бел. мову паэму А.Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (выдадзена першая песня). У кастр. 1864 арыштаваны; сядзеў у мінскай турме. Царская паліцыя прыпісвала Д.-М. аўтарства шматлікіх антыўрадавых выданняў (у прыватнасці, «Гутаркі старога дзеда»).

Даказаць яго ўдзел у паўстанні 1863 не ўдалося; Д.-М. быў вызвалены, але пакінуты пад наглядам паліцыі. У 1866 напісаў фарс-вадэвіль «Пінская шляхта». У 1876 нелегальна адкрыў у Люцінцы школу для мясцовых дзяцей. Памёр у Люцінцы; пахаваны на могілках ва ўрочышчы Тупальшчына (за 2 км ад в. Падневічы Валожынскага р-на). Творы Д.-М. ставяцца на бел. сцэне. Імя пісьменніка прысвоена Магілёўскаму абл. тэатру драмы і камедыі ў Бабруйску; яго імем названы вуліцы ў Мінску, Маладзечне, Івянцы, Пяршаях. На Радзіме Д.-М. (в. Сычкава) устаноўлена мемарыяльная дошка.

Тв.: Творы. Мн., 1984.

Літ.: *Кісялёў Г.* Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спробы навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988; *Навуменка І.Я.* Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Мн., 1993; *Янушкевіч Я.Я.* Беларускі Дудар: Праблема славянскіх традыцый і ўплываў у творчасці В.Дуніна-Марцінкевіча. Мн., 1991; *БП*, т. 2; *Беларуская мова*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ДУРНАВО Мікалай Мікалаевіч** [4.11.1876, Масква — 27.10.1937, Салаўкі, НКВД], мовазнавец. Скончыў Маскоўскі ун-т. З 1918 прафесар Саратаўскага і Маскоўскага ун-таў. Член-карэспандэнт АН СССР з 1924. У 1924—27 жыў у Чэхаславакіі. З

1928 у Мінску. Супрацоўнік Інбелкульта, потым БелАН; прафесар БДУ. Даследаваў славянскае мовазнаўства, дыялекталогію і гісторыю рускай мовы. Уклад у бел. мовазнаўства ўнёс вывучаючы Супрасльскі рукапіс (1926), напісаўшы артыкул «Увагі да беларускай фанетыкі» (1929). У 1929 пазбаўлены звання акадэміка БелАН. Арыштаваны 28.12.1933; паводле пастановы Калегіі АДПУ СССР ад 29.3.1934 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Паўторна арыштаваны ў 1937 і расстраляны. У 1938 пасмяротна пазбаўлены звання члена-карэспандэнта АН СССР. Рэабілітаваны 26.10.1964. Адноўлены ў званні акадэміка АН БССР у 1978, у званні члена-карэспандэнта АН СССР у 1990.

Літ.: *Булахов М.Г.* Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977; *Возвращенные имена.*

**ДУШЭЎСКІ Клаўдзій Сцяпанавіч** [Дуж-Душэўскі; псеўданім і крыптанім: К.Душ; К.Д.; 27.3 (паводле іншых звестак 13(26).4.1891, мяст. Глыбокае Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбокае Віцебскай вобл. — 25.2.1959, Вільнюс], паліт. дзеяч, дыпламат, рэдактар, педагог. У 1912 скончыў Віленскае рэальнае вучылішча, дзе далучыўся да бел. руху. Іграў Крыніцкага ў «Паўлінцы» Я.Купалы. У 1912—18 вучыўся ў Пецярбургскім горным інстытуце. Удзельнічаў у выданні час.

«Раніца». Паводле яго сведчання, стварыў эскіз бел-чырвона-белага сцяга. З 1917 у БСГ. У 1918 працаваў загадчыкам бежанскага аддзела Белнацкама. З крас. 1919 у Вільні. Восенню 1919 — дыпламатычны прадстаўнік урада БНР у дзяржавах Балтыі. Выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі і на беларускіх настаўніцкіх курсах. У пачатку 1921 арыштаваны польскімі ўладамі. Вызвалены 7.2.1921; эміграваў у Літоўскую рэспубліку (Каўнас). У 1920—30-х г. працаваў у міністэрствах Літвы. У 1927 скончыў Літоўскі ун-т (Каўнас). Рэдагаваў час. «Беларускі сцяг» (1922), браў удзел у выданні час. «Крывіч» (1923—26), рэдагаваў час. «Беларускі асяродак» (1933). Перакладаў на бел. мову падручнікі для сярэдніх школ. Арыштаваны савецкімі ўладамі 2.7.1940. У жн. 1943 арыштаваны нямецкімі ўладамі за дапамогу яўрэям; зняволены ў лагеры каля Праўянішкес. У 1944—46 дацэнт Каўнаскага ун-та. У снеж. 1946 — маі 1947 пад следствам у Вільні. Зноў арыштаваны ў лют. 1952; асуджаны на 25 гадоў зняволення як бел. нацыяналіст. Вызвалены ў крас. 1955. Працаваў у інстытуце «Літбудпраект». Пахаваны ў Каўнасе. Лічыцца аўтарам бел. нацыянальнага сцяга.

Літ.: *Рудовіч С.* Белы, чырвоны, белы... // *Звязда*. 1992, 25 сак.; *ЭГБ*, т. 3.

**ДЫБОЎСКІ Бенядзікт Янавіч** [Dybowski Benedykt; 30.4.1833, маёнтак Адамарын Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 31.1.1930, Львоў], прыродазнавец, публіцыст. Брат У.Дыбоўскага. Вучыўся ў Мінскай гімназіі. У 1857 скончыў Дэрпцкі (Тарту) ун-т; працягнуў навучанне ў Вроцлаве (1857—58) і Берліне (1858—60). У 1860 стаў доктарам медыцыны. З 1862 прафесар Варшаўскага ун-та. За ўдзел у паўстанні 1863 — 1864 сасланы на 15 гадоў ва Усх. Сібір. Апісаў прыродныя ўмовы і фауну Прыбайкалля, побыт, вераванні і мову буратаў. У 1877 вярнуўся ў Польшчу. У 1879—82 працаваў урачом на Камчатцы. З 1882 у Львове, прафесар заалогіі (да 1906). Шматлікія публікацыі Д. змешчаны ў польскіх, рускіх, нямецкіх навуковых выданнях. Член Польскай АН (1884), член-карэспандэнт АН СССР (1928).

Тв.: O Syberii i Kamczatce. Lwów, 1899; Wspomnienia z przeszłości półwiekowej. Lwów, 1913.

Літ.: *Brzęk G.* Benedykt Dybowski: Życie i dzieło. Lublin, 1981; *Винкевич Г.* Выдающийся географ и путешественник. Мн., 1965; *Trepka A.* Benedykt Dybowski. Katowice, 1979; *Карніловіч Э.А.* Б.І.Дыбоўскі // *Весці АН БССР. Серыя біялагічных навук*. 1983, № 3; *Лаптев С.Н.* Материалы к биографии и научно-исследовательской деятельности Б.И.Дыбовского в Восточной Сибири // *Известия Российского географического общества*. 1939. Т. 71, вып. 6; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ДЫБОЎСКІ Уладзіслаў Янавіч** [18.4.1838, маёнтак Адамарын Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 27.7.1910, маёнтак Нянькава на Навагрудчыне], прыродазнавец, фальклярыст. Брат Б.Дыбоўскага. У 1862 скончыў Дэрпцкі (Тарту) ун-т. За ўдзел у паўстанні 1863 — 1864 прыгавораны да турэмнага зняволення. З 1871 працаваў у Дэрпцкім ун-це. Доктар мінералогіі (1878). У 1878 пасяліўся ў маёнтку Нянькава. Аўтар прац па выкапнёвых рэштках Усх. Прыбалтыкі, Сібіры (матэрыялы дасылаў брат); даследаваў флору і фауну Навагрудчыны і інш. Гербарый навагрудскай зямлі ахвяраваў АН у Кракаве. Збіраў бел. фальклор. Свае запісы апублікаваў у час. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej» (1881, t. 5; 1886, t.10).

Літ.: *ЭГБ*, т. 3; А*ЗБ*.

**ДЫЛА Язэп** [Восіп Лявонавіч; псеўданімы і крыптанімы: Н.Бываеўскі; Наз. Бываеўскі; Назар Бываеўскі; Nazar Bywajeuski; А.Дыл; А.Дыла; Жорсткі; Л.Жорсткі; Тодар Кулеш; Т.Кулеша; Язэп; Н.Б.; Наз. Б.; Н. Б-і; Н. Б-скі; Наз. Бскі; Я.Д.; Язэп Д.; Яз.Д-а; 2(14).4.1880, Слуцк — 7.4.1973, Саратаў, Расія], празаік, драматург, грамадскі дзеяч. У 1890—98 вучыўся ў Слуцкай

гімназіі. У 1899 паступіў у Юр'еўскі (Тартускі) ветэрынарны інстытут, адкуль у 1903 выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1903—04 у Мінску працаваў у газ. «Северо-Западный край». У 1905 узначальваў арганізацыйную групу Мінскага камітэта РСДРП. У 1906—18 у выдавецтвах Пецярбурга, Арэнбурга, Казані, Масквы. У студз. — лют. 1919 камісар працы ў Часовым урадзе БССР. Супрацьстаяў палітыцы А.Мяснікова, за што ў лют. 1919 арыштаваны і высланы з Беларусі. У 1921—24 на розных кіраўнічых пасадах у Мінску. З 1924 правадзейны член і вучоны сакратар Інбелкульта, дырэктар Інстытута па вывучэнні мастацтва, дырэктар БДТ-1, нам. загадчыка Белдзяржкіно. Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; 10.4.1931 высланы ў Кунгур Пермскай вобл. на 5 гадоў. Потым жыў у Саратаве. 22.8.1938 зноў арыштаваны (10.3.1939 справа спынена). Рэабілітаваны 15.11.1957.

Тв.: Творы. Мн., 1981; Праз гады барацьбы і выпрабаванняў // *Крыніца*. 1989, № 1.

Літ.: *Родчанка Р.* Язэп Дыла // *Беларусь*. 1984, № 10; *Юрэвіч Л.Н.* Язэп Дыла і яго гістарычны раман «На шляху з вараг у грэкі» // *Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук*. 1991, № 5; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ДЭМБІНСКІ Генрык** [30.7.1908, Іркуцк, Расія — 12.8.1941, Ганцавічы Брэсцкай вобл.], паліт. дзеяч, публіцыст. Пасля 1918 жыў у Ашмянах. У пачатку 1930-х г. вучыўся ў Віленскім ун-це. Узначальваў групу студэнцкай лявіцы «Фронт». У 1935 адзін з заснавальнікаў газ. «Poprostu». Удзельнік Антыфашысцкага кангрэса дзеячаў культуры 1936 у Львове. У 1937 асуджаны польскімі ўладамі на 4 гады турмы. Пасля далучэння Зах. Беларусі да БССР працаваў інспектарам раённага аддзела народнай асветы. Расстраляны нямецкімі акупацыйнымі ўладамі ў Ганцавічах, дзе цяпер устаноўлены памятны знак.

Тв.: Wybór pism. Warszawa, 1962.

Літ.: *Brodowski L.* Henryk Dembiński: człowek dialogu. Warszawa; Kraków, 1988; *ЭГБ*, т. 3.

**ЕЗАВІТАЎ Кастусь** [Канстанцін Барысавіч; псеўданім і крыптанімы: Кастусёнак; К-нак; К. Е.; К. Ез.; 5(17).11.1893, Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 23.5.1946, Мінск, НКВД], паліт., грамадскі, ваенны дзеяч, публіцыст, перакладчык, педагог. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. Удзельнік 1-й сусветнай вайны; скончыў Паўлаўскае ваеннае вучылішча (Петраград). У 1917—18 нам. старшыні і сакратар ваеннага аддзела Цэнтральнай беларускай вайсковай рады. Удзельнік 1-га Усебеларускага кангрэса 1917. Арыштаваны ЧК у студз. 1918; 19.2.1918 яму ўдалося ўцячы. Удзельнік абвяшчэння БНР; народны сакратар ваенных спраў у першым урадзе БНР. У сак. 1919 выдаваў у Гродне газ. «Бацькаўшчына». У 1919 начальнік канцылярыі Міністэрства беларускіх спраў ва ўрадзе Літвы. Кіраўнік Вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эстоніі. З 1921 у Рызе; займаўся асветніцкай дзейнасцю і публіцыстыкай; удзельнічаў у выданні час. «На чужыне», «Беларуская школа ў Латвіі», газ. «Голас беларуса». У 1923—24 дырэктар Люцынскай дзяржаўнай беларускай гімназіі (Латвія). Старшыня Беларускага камітэта ў Латвіі. У 1924 арыштаваны латвійскімі ўладамі за бел. дзейнасць. Пазней арыштоўваўся яшчэ 3 разы. У 1929 пераклаў з латышскай мовы драму А.Упіта «1905» (рукапіс захоўваецца ў Вільнюсе). Падчас 2-й сусветнай вайны займаўся арганізацыяй у Латвіі бел. школ. На 2-м Усебеларускім кангрэсе (чэрв. 1944, Мінск) абраны ў склад БЦР. Вы-

ехаў у Берлін. Затрыманы савецкай ваеннай контрразведкай «Смерш» 26.4.1945. Памёр у Мінску ў турэмным шпіталі ў час следства.

Тв.: Белорусы и поляки. Ковно, 1919; Беларусы ў Латвіі. Рыга, 1927; Беларусы ў Літве. Рыга, 1932; Першы Усебеларускі кангрэс // *Беларуская мінуўшчына*. 1993, № 1.

Літ.: *Герасімаў В.* Да праўды светлай, братка, йдзі! // *Полымя*. 1994, № 2; *Міхнюк У., Паўлаў Я.* Канстанцін Езавітаў: матэрыялы да біяграфіі // *Маладосць*. 1995, № 1; *Чэмер А.* [Анішчык А.]. Партрэты. Вільнюс, 2001; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 3.

**ЕМЯЛЬЯНАЎ Несцер Пятровіч** [30.10(11.11).1898, в. Ляцягі Прапойскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Слаўгарадскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.9.1970, Мінск], хімік. Удзельнік Грамадзянскай вайны ў Расіі на баку чырвоных. У 1932 скончыў Гомельскі педінстытут. У 1933—36 аспірант Інстытута хіміі БелАН. Арыштаваны 7.6.1936. 22.6.1936 Асобай нарадай накіраваны на «Варкуткамбінат», дзе працаваў у цэнтральнай хімічнай лабараторыі. У 1941 вызвалены датэрмінова і накіраваны ў Чырвоную Армію. У 1942—45 у нямецкім палоне. У 1945 рэпатрыяваны ў СССР. У 1946—52 працаваў хімікам у спецлабараторыі спецаддзялення МУС СССР. У ліп. 1952 высланы на пасяленне ў Краснаярскі край. Рэабілітаваны 11.6.1956. З 1956 працаваў у Інстытуце хіміі (з 1959 Інстытут фізіка-арганічнай хіміі — ІФАХ) АН БССР. У 1962—70 загад-

чык лабараторыі нафтахімічнага сінтэза ІФАХ. Доктар хімічных навук (1970).

Літ.: *Возвращенные имена*.

**ЕРМАЛОВІЧ Якуб** [Якаў Сідаравіч; 7.8.1910, в. Вяшэўка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Бярэзінскі р-н Мінскай вобл. — 18.4.1987, Бярэзінскі р-н], празаік. Друкавацца пачаў у раённых газетах у 1929, у цэнтральных бел. выданнях у 1931. У 1931 скончыў Мсціслаўскія двухгадовыя педагагічныя курсы. Настаўнічаў у Магілёўскай вобл. У 1932—33 літсупрацоўнік газ. «Калектывіст» у Чэрвені Мінскай вобл. У 1933 паступіў на літаратурны ф-т МВПІ. Арыштаваны 2.10.1936; асуджаны да зняволення. У 1939 прысуд адменены, вызвалены быў толькі ў чэрв. 1941 (са зняццем судзімасці). У перыяд нямецкай акупацыі жыў у в. Вяшэўка. З вер. 1944 настаўнік бел. мовы і літаратуры ў Беразіно, потым у СШ в. Пагост Бярэзінскага р-на. У 1959 завочна скончыў Магілёўскі педінстытут. Член СП Беларусі з 1961. Пахаваны ў в. Вяшэўка.

Тв.: Над Бярозай: Апавяданні. Мн., 1960; Душа чалавека: Аповесць і апавяданні. Мн., 1962; Родная зямля: Аповесць і апавяданні. Мн., 1967; Твар у твар: Аповесць і апавяданні. Мн., 1970; След на зямлі: Аповесці. Мн., 1977; Сіняя птушка: Аповесці і апавяданні. Мн., 1980; Акопы не пазарасталі: Аповесці. Мн., 1985.

Літ.: *Стральцоў М.* Дзеля адзінага слова // *ЛіМ*. 1960, 20 снеж.; *БП*, т. 2.

**ЕРМАЧЭНКА Іван Абрамавіч** [13.5.1894, в. Капачэўка Барысаўскага пав. Мінскай губ., цяпер Барысаўскі р-н Мінскай вобл. — 25.2.1970, ЗША], паліт. дзеяч, публіцыст. У 1914 скончыў школу прапаршчыкаў; удзельнік 1-й сусветнай вайны. У грамадзянскую вайну ў Расіі ваяваў на баку белай арміі; быў ад'ютантам генерала П.Урангеля. У 1920 эвакуіраваўся ў Турцыю. Там далучыўся да бел. руху. У 1921 прадстаўнік урада БНР у Канстанцінопалі і генеральны консул на Балканах; заснаваў консульскія аддзелы БНР у Югаславіі і Балгарыі. У 1922 нам. міністра замежных спраў БНР у Коўне. Пераехаў у Прагу, дзе ў 1929 скончыў медыцынскі ф-т Карлава ун-та. Фундатар час. «Іскры Скарыны». З кастр. 1941 у Мінску; узначальваў Беларускую народную самапомач; дарадца генеральнага камісара Беларусі В.Кубэ. Друкаваўся ў «Менскай (Беларускай) газэце». Вясною 1943 зняты з усіх пасад. 27.4.1943 высланы ў Прагу, дзе быў арыштаваны гестапа па справе забойства Кубэ. У пачатку 1945 выехаў на захад Германіі. З 1948 у эміграцыі ў ЗША; працаваў лекарам. Адзін з заснавальнікаў Злучанага беларуска-амерыканскага дапамогавага камітэта ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі). Публікаваўся ў час. «Беларус у Амерыцы».

Літ.: *Туронак Ю.* Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., 1993; *ЭГБ*, т. 3.

**ЖАБРОЎСКІ Вацлаў Юльянавіч** [1895—1937, НКВД], грамадскі і партыйны дзеяч. У 1913 далучыўся да сацыял-дэмакратычнага руху ў Польшчы і Літве. У Камуністычную партыю ўступіў у чэрв. 1917. У 1918 адзін са стваральнікаў партыйнай арганізацыі ў Коўне ў час нямецкай акупацыі. Неаднаразова арыштоўваўся нямецкімі, польскімі і літоўскімі ўладамі. З канца 1920-х г. на партыйнай рабоце ва Украіне, член ЦК КП(б)У. З 1930 адказны інструктар, нам. загадчыка аддзела агітацыі і масавых кампаній ЦК ВКП(б). У 1932—34 сакратар ЦК КП(б)Б. Затым у Маскве, рэдактар газ. «За коммунистическое воспитание». Арыштаваны 8.6.1937, асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда 20.11.1937 на расстрэл. Рэабілітаваны 3.11.1955.

Літ.: Бюро ЦК КПБ // *ЭГБ*, т. 2.

**ЖАЛІГОЎСКІ Эдвард Вітальд** [Żeligowski; псеўданімы: Antoni Sowa; Autor «Jordanu»; Onegdajski; 20.7.1816, фальварак Мар'ямпаль Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 28.12.1864, Жэнева, Швейцарыя], паэт, філосаф, грамадскі дзеяч. У 1833—36 вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) ун-це. У 1838 арыштаваны за ўдзел у падрыхтоўцы паўстання пад кіраўніцтвам Ш.Канарскага; інтэрнаваны. У 1842 вяр-

нуўся на Радзіму. У 1851 зноў арыштаваны і сасланы ў Петразаводск, потым у Арэнбург. Пасябраваў і падтрымліваў сувязі з Т.Шаўчэнкам, прысвяціў яму верш «Да народнага паэта». З 1858 жыў у Санкт-Пецярбургу; дапамагаў І.Агрызку выдаваць газ. «Słowo». Апублікаваў зборнікі «Poezye», «Dziś i wczoraj», драму «Jordan». У 1860 выехаў у Зах. Еўропу. Супрацоўнічаў у польскім эмігранцкім друку. Пераклаў на польскую мову творы А.Пушкіна і Г.Гейнэ. Апошнія гады правёў у Жэневе.

Літ.: *Мартынава Э., Мальдзіс А.* Шаўчэнка і Жалігоўскі // *Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура*. Мн., 1964; *ЭЛіМБел*, т. 2; *АЗБ*.

**ЖАМОЙЦІН Янка** [нар. 28.1.1922, в. Клімавічы Лідскага пав. Навагрудскага ваяв., цяпер Лідскі р-н Гродзенскай вобл.], бел. грамадскі дзеяч, літаратурны крытык, мемуарыст. У другой палове 1930-х г. вучыўся ў Варшаўскай гімназіі. У 1943 скончыў Беларускую настаўніцкую семінарыю ў Навагрудку. У 1944 кіраваў Саюзам беларускай моладзі ў Навагрудку. Быў сябрам падпольнай антыкамуністычнай і антыгітлераўскай Беларускай незалежніцкай партыі. Пасля вайны жыў у Польшчы. У 1945 арыштаваны органамі КДБ, але вызвалены польскімі ўладамі. У 1949

паўторна арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў канцлагераў і 5 гадоў пазбаўлення ў грамадзянскіх правах. У Польшчу вярнуўся ў 1957. Вучыўся ў Варшаўскім ун-це. Актыўны ўдзельнік бел. культурнага жыцця ў Варшаве. Аўтар успамінаў «З перажытага».

Тв.: З перажытага // *Лёс аднаго пакалення*. Беласток, 1996.

Літ.: *Катковіч А., Катковіч-Клентак В.* Успаміны. Беласток, 1999. С. 114—115.

**ЖАРСКІ Генрык** [1902, Варшава — 14.10.1937, Мінск, НКВД], празаік. Пісаў на польскай мове. У 1918 далучыўся да дзейнасці КПП; арыштаваны, зняволены ў варшаўскім астрозе Павіяк. Вызвалены пад залог. Эміграваў у Францыю. Супрацоўнічаў з газ. «L'Humanite». За арганізацыю забастоўкі высланы за межы Францыі. Пасля жыў у СССР, вучыўся ў Маскоўскім інстытуце журналістыкі (скончыў у 1928). У 2-й палове 1920-х г. пачаў займацца літаратурнай дзейнасцю. Працаваў у Саратаве ў абл. газ. У 1930—32 рэдактар газеты Пугачоўскага р-на (Саратаўская вобл.). У сярэдзіне 1932 пераведзены ў Беларусь. Спачатку нам. рэдактара, потым рэдактар польскай газ. «Orka». Член СП Беларусі з 1934. Пісаў на польскай, рускай, бел. мовах. Арыштаваны 20.1.1937. Расстраляны. Значная

частка рукапісаў Ж. загінула. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Proszek do kichania. Mińsk, 1935.

Літ.: *БП*, т. 2.

**ЖАРСКІ Платон Патапавіч** [1901, Слуцкі пав. Мінскай губ. — ?], філолаг. Арыштаваны ДПУ БССР у 1930. У час нямецкай акупацыі Беларусі жыў у Мінску. Працаваў у Беларускім навуковым таварыстве ў секцыі мовазнаўства. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса (чэрв. 1944).

Літ.: *Кандыбовіч С.* Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

**ЖАЎНЯРОВІЧ Ігнат** [7.11.1890 — жн. 1937, Казахстан], рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч. У 1912 скончыў Магілёўскую духоўную каталіцкую семінарыю ў Санкт-Пецярбургу. У 1913—14 вучыўся ў Мітрапалітальнай духоўнай каталіцкай акадэміі, дзе ўваходзіў у культурна-асветны гурток бел. студэнтаў. У 1915 пасвечаны ў святары. У ліст. 1915 прызначаны вікарыем у Прыдруйскі касцёл. 22.12.1915 камандзіраваны ў Рыбінск у дапамогу святару. Адначасова выкладаў Закон Божы ў мясцовых навучальных установах. З 17.2.1917 часова пробашч Рыбінскага кас-

цёла. Пазней пераведзены ў Магілёўскую архідыяцэзію. Удзельнік 1-га з'езда беларускага каталіцкага духавенства (Мінск, 24—25.5.1917). Член саюза ксяндзоў-беларусаў. У 1921—24 святар у Аршанскай парафіі. У 1924—25 выконваў абавязкі адміністратара парафіі ў Маскве. У 1925—27 адміністратар парафіі Свяцілавічы Магілёўска-Горацкага дэканата. Пераследаваўся савецкімі ўладамі. У канцы 1930-х г. арыштаваны НКВД. Прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Знаходзіўся ў зняволенні на востраве Анзер Салавецкага архіпелага. Да ліп. 1932 браў удзел у тайных набажэнствах сярод зняволеных. За гэта атрымаў яшчэ 5 гадоў пазбаўлення волі. Высланы ў Казахстан. Памёр у ссылцы.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Dzwonkowski R.* Losy duchowieństwa katolickiego w ZSSR, 1917—1937: Martyrologium. Lublin, 1998; *Stankiewicz A.* Rodnaja mowa u światyniach. Wilnia, 1929.

**ЖАЎРЫД Павел Якаўлевіч** [1(13).6.1889, в. Цецяроўка Слуцкага пав. Мінскай губ. — 14.5.1939, пасёлак Княж-Пагост, Комі АССР, ГУЛАГ], грамадска-паліт. дзеяч, журналіст. Скончыў Слуцкую гімназію (1909); вучыўся на юрыдычным ф-це Варшаўскага ун-та. У 1916 мабілізаваны ў войска; у 1917 скончыў Віленскае ваеннае вучылішча, эвакуіраванае ў Палтаву. Удзельнік 1-га Усебелярус-

кага з'езда 1917. Працаваў юрысконсультам у Слуцку. У 1919 арыштаваны ЧК, абвінавачаны ў дапамозе Дзянікіну. Вызвалены, у ліст. 1919 вярнуўся ў Слуцк. У канцы 1920 Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны, уваходзіў у склад Беларускай рады Случчыны. Адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання 1920. У 1921 у Вільні; потым вярнуўся на Случчыну. У 1920-х г. працаваў на розных гаспадарчых пасадах у Мінску і Мар'інай Горцы; пасля ў Інбелкульце і рэдакцыі газ. «Звязда». Арыштаваны ДПУ БССР 18.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі АДПУ ад 10.4.1931 асуджаны на 3 гады лагераў. Пасля выхаду з лагера жыў у ссылцы ў Сарапуле Удмурцкай АССР. Зноў арыштаваны ў 1937 і асуджаны на 10 гадоў лагераў. Накіраваны ў пас. Княж-Пагост Комі АССР, дзе памёр ад хваробы. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЖДАНОВІЧ Антон Паўлавіч** [тэатральны псеўданім: Антук Крыніца; 18.4.1898, Мінск — 26.12.1937, Мінск, НКВД], акцёр. Брат Ф.Ждановіча. З 1917 у трупе Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, з 1918 у Беларускім савецкім тэатры, з 1920 у БДТ-1. Сярод лепшых роляў: Лявон, Сцяпан Крыніцкі («Раскіданае гняздо», «Паў-

лінка» Я.Купалы), Сымон Мікула, Паўлюк («Рысь», «Хам» Э.Ажэшкі), Ваявода, Красінскі («Каваль-ваявода», «Кастусь Каліноўскі» Е.Міровіча), Бжазіцкі («Над Нёманам» М.Грамыкі), Разанаў, Кульмскі («Крывая аблона», «Вір» Я.Рамановіча), Лыняеў («Ваўкі і авечкі» А.Астроўскага), Міронаў («Капітанская дачка» паводле А.Пушкіна). У 1937 арыштаваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958.

Літ.: *ЭЛіМБел*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**ЖДАНОВІЧ Фларыян Паўлавіч** [псеўданімы: Алесь Крэсік; Иван Карась; 16(28).10.1884, Мінск — 22.10.1937, Мінск, НКВД], акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Брат А.Ждановіча. У 1902 скончыў Варшаўскую драматычную школу. Працаваў акцёрам у польскіх тэатрах Беларусі. Далучыўся да бел. культурніцкага руху; у 1913 у Радашковічах паставіў «Паўлінку» Янкі Купалы; падрыхтаваў мастацкую праграму «Беларускі кірмаш». Арганізаваў драматычны гурток, які пасля паказу ў в. Старое Сяло пад Мінскам спектакля «Па рэвізіі» М.Крапіўніцкага быў забаронены ўладамі. Каб пазбегнуць арышту, выехаў у Крым, дзе выступаў на рускай сцэне. Да Лютаўскай рэвалюцыі 1917 працаваў у Мінскай гарадской думе. У 1917 мастацкі кіраўнік Першага таварыства драмы і камедыі ў Мінску. У складаных умовах нямецкай і

польскай акупацыі ствараў бел. нацыянальны тэатр. 14.9.1920 пад кіраўніцтвам Ж. у Мінску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я.Купалы). Адначасова ў Наркамаце асветы БССР курыраваў беларускія тэатры. З 1922 у акцёрскім складзе тэатра. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Асуджаны на 5 гадоў лагераў. Паўторна арыштаваны 8.7.1937; расстраляны. Рэабілітаваны ў 1956.

Літ.: *Атрошчанка А.* Фларыян Ждановіч: Біяграфічны нарыс. Мн., 1972; *Міхнюк У*. Фларыян Ждановіч: Матэрыялы да біяграфіі // *Тэатральная творчасць*. 1996, № 6; *ЭГБ*, т. 3.

**ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ Вінцэнт Антонавіч** [10(23).2.1903, мяст. Будслаў Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 14.2.1989, Канада], паліт. і грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, педагог. У 1922 скончыў Віленскую беларускую гімназію, у 1927 філасофскі ф-т Карлава ун-та (Прага). З 1927 выкладаў гісторыю, бел. мову і літаратуру ў Віленскай беларускай гімназіі, Праваслаўнай духоўнай семінарыі, Вышэйшай школе паліт. навук. Актыўна публікаваўся ў перыядычным друку. Пасля ўваходжання ў Вільню Чырвонай Арміі арыштаваны 30.9.1939; асуджаны на 8 га-

доў зняволення; накіраваны ў Печлаг (Комі АССР). У 1942 вызвалены па амністыі, уступіў у Польскую армію генерала Андэрса. Удзельнічаў у бітве пад Монтэ Касіна (17.1—4.6.1944, Італія). У 1945—49 выкладаў гісторыю і псіхалогію ў вайсковых школах у Італіі, потым у Англіі. Адзін з заснавальнікаў і 1-ы старшыня Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі (1946). Рэдагаваў час. «На шляху», «Беларус на чужыне». З 1950 жыў у Таронта (Канада). Публікаваўся ў газ. «Беларускі эмігрант», «Бацькаўшчына». У 1952 у Атаўскім ун-це абараніў дысертацыю на тэму «Лірыка Янкі Купалы»; доктар філасофіі. У 1954 пераехаў у Мюнхен (ФРГ), дзе ўзначаліў бел. секцыю радыё «Вызваленне». У 1956 вярнуўся ў Канаду. Супрацоўнічаў у газ. «Бацькаўшчына», «Беларус» (ЗША). У 1970—82 старшыня Рады БНР. Аўтар кнігі «25 сакавіка» (1978). Пахаваны на бел. могілках у Іст-Брансвіку (ЗША).

Літ.: *Жук-Грышкевіч Р.* Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Таронта, 1993; *Аляхновіч Р*. Верны сын беларускага народа // *Наша слова*. 1993, 26 мая — 2 чэрв.; *ЭГБ*, т. 3.

**ЖУКОЎСКІ-ЗІЛЬБЕР Меер Шоламавіч** [10(23).8.1907, Брэст — 7.3.1985], грамадскі дзеяч, мемуарыст. З 1924 кіраўнік «тэхнікі» (друкарні) Брэсцкага акругкама КСМЗБ; з 1928 узначаліў

«цэнтральную тэхніку» КПЗБ: арганізоўваў падпольныя друкарні ў Гродне, Вільні, Беластоку, Брэсце, Варшаве. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1936; асуджаны на 10 гадоў зняволення (вызвалены Чырвонай Арміяй у вер. 1939). З 1941 на гаспадарчай рабоце ва ўсх. рэгіёнах СССР. Аўтар успамінаў.

Тв.: Цэнтральная тэхніка КПЗБ // *У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗ*. Мн., 1958.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЖУРАЎСКІ Караль** [1903—1994, Вроцлаўскае ваяв., Польшча], рыма-каталіцкі святар, краязнавец. Перад 2-й сусветнай вайной быў святаром у мяст. Крошын. Збіраў успаміны і дакументы пра паэта з Крошына П.Багрыма, вырабіў фотакопіі адпаведных дакументаў. Падрыхтаваў рукапіс па гісторыі мястэчка. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1940. Пасля вайны пасяліўся ў Польшчы. У 1988 даслаў у Інстытут літаратуры АН БССР захаваныя ім матэрыялы пра П.Багрыма і свой рукапіс пра гісторыю сям'і паэта.

Літ.: *Янушкевіч Я*. «Зайграй, зайграй, хлопча малы…» // *Культура*. 1992, 26 кастр.; *Яго ж*. «Ледзьве здымкі ўратаваў…» // *ЛіМ*. 1988, 4 ліст.; *Яго ж*. За архіўным парогам. Мн., 2002; *Паўлюк Багрым*. Мн., 1994.

**ЖУРЫК Сцяпан Іванавіч** [12(24).8.1898, в. Крупка Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 25.11.1938], дзеяч бел. маладзёжнага руху, вучоны-аграном, публіцыст. Вучыўся ў Мар'іна-Горскім вучылішчы. У 1919—20 працаваў у Наркамаце земляробства. У 1919—21 старшыня Беларускай секцыі студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытута; скончыў інстытут у 1924. На пачатку 1920-х г. адзін з ідэолагаў бел. маладзёжнага і студэнцкага нацыянальнага руху; па гэтай тэме выступаў у друку. З 1925 асістэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі; член-карэспандэнт Інбелкульта. З 1930 прафесар. Арыштаваны ДПУ БССР 11.1.1933. Паводле пастановы Калегіі АДПУ СССР ад 9.7.1933 накіраваны ў лагеры. Паўторна асуджаны 2.11.1938. Памёр у зняволенні. Па першым прысудзе рэабілітаваны 21.8.1956, па другім — 12.5.1965.

Тв.: Культурна-асветная праца Беларускае Секцыі студэнтаў Горацкага сельскагаспадарчага інстытуту // *Савецкая Беларусь*. 1921, 19 чэрв.; Пытанні бэконізацыі ў БССР. Мн., 1930.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЖЫЛКА Уладзімір Адамавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Вал.Жыл.; Вл.Ж.; І.Жылка; Макашэвіч; Л.Макашэвіч; У.Ж.; Ул.Ж.; 27.5.1900, в. Макашы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Нясвіжскі р-н Мінскай вобл. — 1.3.1933, Уржум

Кіраўскай вобл.], паэт, перакладчык, крытык. Падчас 1-й сусветнай вайны сям'я Ж. была ў бежанстве ў Тульскай губ. З 1917 жыў у Мінску; друкаваўся ў мінскіх выданнях. Восенню 1920 захварэў на сухоты і пераехаў да дзеда ў в. Падлессе Навагрудскага пав. Пасля Рыжскай дамовы застаўся ў Зах. Беларусі. З 1921 друкаваўся у заходнебел. прэсе («Беларускія ведамасці», «Наша думка», «Наша будучыня», «Новае жыццё»). У 1923 выдаў першы зборнік паэзіі. Працаваў у Вільні ў бел. кнігарні. Ратуючыся ад пераследу рэжыму генерала Л.Жалігоўскага, выехаў у Коўна, затым у Дзвінск (Даўгаўпілс). Потым па стыпендыі чэхаславацкага ўрада вучыўся ў Карлавым ун-це (Прага, 1923—26). Рэдагаваў час. «Новы прамень» (Прага). У 1926 прыехаў у Мінск для ўдзелу ў Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе бел. правапісу. Застаўся ў БССР. Працаваў у газ. «Звязда» і музычным тэхнікуме. Быў членам літаб'яднання «Маладняк», потым «Узвышша». Паэзія Ж. вылучалася высокай культурай верша. Перакладаў для Белдзяржкіно. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў ссылкі, якую адбываў ва Уржуме. Выкладаў літаратуру ў медыцынскім тэхнікуме. Памёр ад туберкулёзу лёгкіх. Пахаваны на мясцовых могілках. Рэабілітаваны ў 1960.

Тв.: Вершы. Мн., 1970; Пожні. Мн., 1986; Творы. Мн., 1996; Творы. Мн., 1998.

Літ.: *Калеснік У.* Ветразі Адысея: Уладзімір Жылка і рамантычная традыцыя ў беларускай паэзіі. Мн., 1977; *Яго ж.* Усё чалавечае. Мн., 1993; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ЖЫХАР Аўген** [1925 ?, в. Новадруцк Пастаўскага пав. Віленскага ваяв., цяпер Пастаўскі р-н Віцебскай вобл. — жн. 1955, Пастаўскі р-н], паэт, педагог, арганізатар антыкамуністычнага руху. Паходзіў з праваслаўнай сялянскай сям'і. Да 1941 вучыўся ў сямігодцы ў в. Асінавы Гарадок. Падчас нямецкай акупацыі — навучэнец Пастаўскай настаўніцкай семінарыі. Быў сябрам Саюза беларускай моладзі. Пісаў вершы. У 1944 уступіў у падпольную антыфашысцкую і антыкамуністычную Беларускую Незалежніцкую Партыю. З прыходам бальшавікоў настаўнічаў у в. Верацеі на Пастаўшчыне. У 1945 пры пагрозе арышту перайшоў на нелегальнае становішча. Кіраваў антыкамуністычным супрацівам на Пастаўшчыне, зрываў мерапрыемствы савецкай улады, перашкаджаў стварэнню калгасаў. Да 1955 амаль увесь яго атрад быў знішчаны савецкімі органамі дзяржбяспекі. Сам ён быў акружаны чэкістамі на хутары за сем кіламетраў ад Пастаў. Застрэліўся апошнім патронам.

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Ёрш С.* Вяртаньне БНП: Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. Мн.; Слонім, 1998.

**ЗАБЕЛА Мікалай Міхеевіч** [3.10.1862, Чэрыкаўскі пав. Магілёўскай губ. — 1885, Усх. Сібір], народнік, фальклbusарыст. У час вучобы ў Магілёўскай гімназіі ўдзельнічаў у гуртках «самаразвіцця»; у 1877 далучыўся да гуртка Л.Залкінда. Быў членам «Народнай волі». Вывучаў і збіраў фальклор. Вёў агітацыю сярод сялян на бел. мове. Вучыўся ў Кіеўскім ун-це; стварыў там «Камуну магілёўцаў». У 1882 член нарадавольскага гуртка У.Бычкова. Арыштаваны ў крас. 1883. У 1884 высланы ва Усх. Сібір. У час ссылкі патануў у рацэ Селенга.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ЗАБЕЛА Тодар Іванавіч** [крыптанім: З.Т.; сак. 1896, в. Чабусы Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Любанскі р-н Мінскай вобл. — пасля 27.7.1935, Елабуга, Татарская АССР], гісторык. У 1920 настаўнічаў на вёсцы; з 1921 у Мінску. У 1925 скончыў БДУ. У 1925—28 вучыўся ў аспірантуры БДУ пад кіраўніцтвам У.Пічэты. З 1928 навуковы супрацоўнік Інбелкульта, потым БелАН. З 1929 архівіст у Магілёўскім дзяржаўным архіве. Даследаваў гісторыю сялянства і сельскай гаспадаркі, гарадоў Беларусі 16—18 ст. Арыштаваны ДПУ БССР 24.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Паводле пастановы калегіі АДПУ ад

10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Елабугу, дзе і памёр. Рэабілітаваны 15.11.1957.

Тв.: Землеўласнік і земляроб па Статуту Літоўскаму 1588 г. Мн., 1928; Панская гаспадарка на Беларусі і быт падданага сялянства ў другой палове XVIII сталецця. Мн., 1928; Места Берасцейскае ў XVI ст.: (сацыяльна-эканамічны нарыс). Мн., 1930.

Літ.: *Іофе Э.* Даследчык эпохі феадалізма // *ПГКБ*. 1987, № 2; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗАЙЦАЎ Вячаслаў Кандратавіч** [18.9.1917, в. Ахлябініна Уфімскага р-на, Башкортастан — 19.4.1992, Уладзімір, Расія] — літаратуразнавец, перакладчык, касмолаг. Скончыў Уфімскі механічны тэхнікум (1935), Ленінградскі ун-т (1951). Уступіў у КПСС. З 1951 выкладчык, дацэнт кафедры славянскай філалогіі Ленінградскага ун-та. Кандыдат філалагічных навук (1954). З 1964 жыў у Мінску, працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Аўтар прац па праблемах харвацкай і сербскай літаратуры. Вывучаў бел. культуру эпохі Адраджэння. Даследаваў касмічныя рэмінісцэнцыі ў помніках старажытных літаратур, займаўся тэмай «Космас і Біблія». У маскоўскай газ. «Известия» быў абвешчаны «саюзнікам заходніх багасловаў». Значны рэзананс сярод акадэмічнага грамадства меў яго ўдзел у фільме заходненямецкага рэжысёра Э. фон Дэнікена «Успаміны пра будучыню». Абарона док-

тарскай дысертацыі навукоўца не адбылася. У 1974, падчас кампаніі пераследу ў АН БССР апазіцыйна настроеных супрацоўнікаў, публічна выйшаў з КПСС. За два гады да пенсіі быў звольнены з інстытута. Распачаў лектарскую дзейнасць у гарадах СССР. За публічныя эсхаталагічныя выступы арыштаваны КДБ 23.11.1978. У сак. 1979 Інстытут судовай псіхіятрыі (Масква) вынес дыягназ — шызафрэнія. Вярхоўны суд БССР 15.6.1979 накіраваў яго на прымусовае лячэнне ў Казанскі спецыяльны псіхіятрычны шпіталь. Пасля неаднаразовых зваротаў казанскіх псіхіятраў Вярхоўны суд БССР 18.1.1982 спыніў прымусовае лячэнне і З. быў вызвалены. Крымінальная справа ў адносінах да яго была спынена 14.9.1992.

Тв.: Между Львом и Драконом: Дубровницкое Возрождение и эпическая поэма И.Гундулича «Осман». Мн., 1969; Боги приходят из космоса // *Байкал*. 1967, № 5—6; 1968, № 1; Франциск Скорина и гуманистическая мысль в Белоруссии XV—XVI вв.: Автореф. дисс. д-ра филог.н. Мн., 1970.

Літ.: *Букчин Семен*. И увидел я отверстое небо… Судьба ученого Вячеслава Зайцева // *Букчин С.* Хроника суверенного болота. Мн., 1996; *БП*, т. 6; *Скалабан В.* Зайцаў Вячаслаў // *Дэмакратычная апазыцыя; БЭ,* т 6.

**ЗАЛЕСКІ Браніслаў Францавіч** [псеўданім: Lićwin; 9(21).6.1820, мяст. Вызна Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Чырвоная Слабада Салі-

горскага р-на Мінскай вобл. — 2.1.1880, Мантан, Францыя], мастак, літаратар. У 1840-я г. вучыўся ў Дэрпцкім (Тартускім) ун-це; браў удзел у нелегальных студэнцкіх гуртках. Арыштаваны ў 1846; у 1847 сасланы ў салдаты ў Арэнбург; потым у Хіву, Туркестан. Лёс звёў яго з Т.Шаўчэнкам (перапісваліся ў 1853— 59). Разам з ім З. ўдзельнічаў як мастак у экспедыцыях па Аральскім краі і ў горы Каратау. У 1856 вярнуўся на Радзіму; жыў у Слуцкім пав., пад Баранавічамі, Мінскам, Гродна. У пачатку 1860 эміграваў; жыў у Дрэздэне, Рыме, Парыжы. Дапамагаў паўстанцам 1863—64 у закупцы зброі. Стварыў шэраг малюнкаў пра паўстанне. Выпусціў ілюстраваныя выданні «Жыццё кіргізскіх стэпаў» (1865), «Польскія выгнаннікі ў Арэнбургу» (1866). З 1866 быў сакратаром польскага Гісторыка-літаратурнага таварыства і рэдактарам яго «Штогоднікаў». З 1873 член-карэспандэнт Акадэміі ўмеласці ў Кракаве. Аўтар прац «Адмена прыгонніцтва ў Літве» (1868), «З жыцця літвінкі» (пра мастачку А.Скірмунт, 1876). Пісаў успаміны.

Тв.: (Из заметок Шевченко) // *Т.Г.Шевченко в воспоминаниях современников*. М., 1962.

Літ.: *Александровіч С.* Старонкі братняй дружбы. Мн., 1960. С. 173—181; *Грыцкевіч В.* Сябар Кабзара па ссылцы // Грыцкевіч В. Нашы славутыя землякі. Мн., 1984; *PSB*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ЗАМОЦІН Іван Іванавіч** [крыптанімы: І.З.; И.З.; 20.10(1.11).1873, в. Крывуліна Бежацкага пав. Цвярской губ., цяпер Бежацкі р-н Цвярской вобл., Расія — 25.5.1942 (?), Горкі, цяпер Ніжні Ноўгарад, Расія], літаратуразнавец, паэт. У 1893 скончыў Пскоўскую гімназію, у 1897 Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут. Працаваў у гімназіях Пецярбурга і Варшавы. З 1904 прыват-дацэнт Варшаўскага, потым Пецярбургскага ун-таў. У 1908 прафесар Варшаўскага, у 1917—22 Данскога ун-таў. Яркі прадстаўнік культурна-гістарычнай школы ў літаратуразнаўстве; яшчэ да рэвалюцыі яго працы былі вельмі папулярныя. З 1922 у Мінску, прафесар БДУ, з 1931 МВПІ. З 1925 адначасова працаваў у Інбелкульце, потым БелАН. Падрыхтаваў 1-ае акадэмічнае выданне твораў М.Багдановіча. Акадэмік БелАН (1928), член-карэспандэнт АН СССР (1929), доктар філалагічных навук (1934). У 1931—33 дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва БелАН. Арыштаваны ДПУ БССР 4.4.1938; 5.8.1939 па пастанове калегіі АДПУ СССР асуджаны да зняволення ў лагерах тэрмінам на 8 гадоў. Знаходзіўся ў Комі АССР. Памёр у турэмным шпіталі ў Горкім. Рэабілітаваны 18.4.1956. На будынку Беларускага педагагічнага ун-та ў Мінску ўстаноўлена шыльда ў гонар З.

Тв.: Творы: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1991.

Літ.: *Гаварушка Я.* З літаратурнай спадчыны І. І. Замоціна // *ЛіМ*. 1987, 20 лют.; *БП*, т. 2.

**ЗАН Тамаш** [Zan Tomasz; 21.12.1796, в. Мясата Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Маладзечанскі р-н Мінскай вобл. — 19.7.1855, маёнтак Кахачын каля Оршы], паэт-рамантык, удзельнік рэвалюцыйнага руху, даследчык прыроды. Вучыўся ў Мінскай гімназіі, Маладзечанскім павятовым вучылішчы. У 1820 скончыў фізіка-матэматычны ф-т Віленскага ун-та (паралельна займаўся на літаратурным ф-це). Адзін з арганізатараў тайных віленскіх студэнцкіх таварыстваў — філаматаў, філарэтаў, прамяністых. Арыштаваны царскімі ўладамі ў 1823; у 1824 сасланы ў Арэнбург. У ссылцы даследаваў прыроду Урала, стварыў мінералагічны музей у Арэнбургу. Вёў дзённік. З 1837 у Пецярбургу, бібліятэкар у Горным ун-це. З 1841 на Радзіме. Ажаніўшыся, пасяліўся ў маёнтку Кахачын. Яго польскамоўныя творы заснаваны на бел. фальклорным матэрыяле. Магчыма, пісаў таксама па-беларуску.

Тв.: Tryolety i wiersze miłosne. Warszawa, 1922; Z wygnania. Wilno, 1929. Бел. пер.: *Філаматы і філарэты: Зборнік*. Мн., 1998.

Літ.: *Dunajówna M.* Dzieciństwo i lata szkolne Tomasza Zana. Wilno, 1932; *Gawalewicz M.* Poeta promienisty. Warszawa, 1911; *Калинкович Н.* «Дело № 26» // *Нёман*. 1990, № 4; *Цвірка К.* Дарогамі Т.Зана // *Полымя.* 1992, № 5—6; *PSB*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ЗАРЭЦКІ Міхась** [сапр.: Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч; 20.11.1901, в. Высокі Гарадзец Сенненскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Талачынскі р-н Віцебскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], празаік, драматург, перакладчык, крытык. Дзяцінства прайшло ў в. Зарэчча пад Шкловам — адсюль паходзіць і псеўданім. Вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы і Магілёўскай духоўнай семінарыі (у 1917 пакінуў семінарыю пасля 2 гадоў вучобы). У 1919 настаўнічаў на Магілёўшчыне. У 1920—27 палітработнік Чырвонай Арміі. Публікавацца пачаў у 1922. З 1924 член літаб'яднання «Маладняк», уваходзіў у Цэнтральнае Бюро арганізацыі. У 1926—27 рэдагаваў час. «Маладняк». У 1927 стаў адным з ініцыятараў утварэння новага літаб'яднання «Полымя». У жн. — кастр. 1927 у складзе дэлегацыі бел. літаратараў наведаў Латвію, Чэхаславакію, Германію, Францыю. Адзін з ініцыятараў тэатральнай дыскусіі ў ліст. 1928 [артыкулы «Два экзамены (Да пытання аб тэатральнай крытыцы)», «Чым пагражае нам Белдзяржкіно? (Да крытыкі тэматычнага плана)»]. Выступленні З. ў друку былі расцэнены як праявы нацыянал-дэмакратызму. Разам з А.Александровічам і А.Дударом ён заявіў пра выхад з БДУ (публікацыя ў «Савецкай Беларусі» 4.12.1928). У 1929 выключаны з ВКП(б). Член СП Беларусі з 1934. Працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва БелАН. Арыштаваны 3.11.1936. Расстраляны. Многія рукапісы З. загі-

нулі, у прыватнасці, гістарычная драма «Рагнеда» (1929), працяг рамана «Крывічы». Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Зб. тв. Т. 1—4. Мн., 1989—1992.

Літ.: *Мушынскі М.* Нескароны талент: Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага. Мн., 1991; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗАРЭЧНЫ Людвіг** [сапр.: Галубовіч; 17.5.1915 — 15.9.1964, Зах. Германія], бел. вайсковы дзеяч, выдавец, святар. У 1920—30-х гг. быў сакратаром Вярхоўнага Суда БССР, працаваў на іншых пасадах, удзельнічаў у бел. антысавецкім падполлі. У 1930-х г. рэпрэсаваны. На пачатку нямецка-савецкай вайны служыў у Чырвонай Арміі, трапіў у палон. Падчас нямецкай акупацыі дзейнічаў на Смаленшчыне, маёр Беларускае Краёвае Абароны. У 1950 арганізаваў антыбальшавіцкую вайсковую арганізацыю «Беларускі вызвольны рух» (БВР), якая напачатку дзейнічала канспіратыўна. Выдаваў газ. «Незалежная Беларусь». У 1954 увайшоў у канфлікт з прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады Р.Астроўскім. Пасля гэтага арганізацыя раскалолася. Спрабаваў арганізаваць «Трэцюю сілу» на эміграцыі, але беспаспяхова. Пазней адышоў ад актыўнай дзейнасці, стаў святаром «Беларускай (Літоўскай) Рэфармаванай Каталіцкай Субожні».

Пісаў вершы. Памёр пры нявысветленых абставінах. Пахаваны ў Глядбаху (Зах. Германія).

Літ.: *С.І.* Памёр палкоўнік Зарэчны // *Беларускі Голас* (Таронта). 1964, № 121, кастр.; *Антысавецкія рухі*.

**ЗАХАРКА Васіль Іванавіч** [1.4.1877, в. Дабрасельцы Ваўкавыскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Зэльвенскі р-н Гродзенскай вобл. — 14.3.1943, Прага], паліт. дзеяч, публіцыст. З 1895 настаўнік царкоўнапрыходскай школы. У 1898—1902, 1904—17 на вайсковай службе. Член БСГ; член ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-федэралістаў. На 1-м Усебеларускім з'ездзе 1917 абраны членам Рады. Арыштаваны бальшавікамі ў студз. 1918. З 21.2.1918 у складзе Народнага сакратарыята (урада) БНР, скарбнік. Пасля займаў розныя міністэрскія пасады. У чэрв. 1920 старшыня Надзвычайнай беларускай дыпламатычнай місіі ў Маскве. З ліст. 1923 жыў у Празе. Пасля 2-й Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне (10.10.1925) не прызнаў Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Застаўся ў эміграцыі ў Празе, захаваўшы непарыўнасць традыцыі БНР. Нам. старшыні Рады БНР, з 8.3.1928 да 6.3.1943 Прэзідэнт Рады. Па некаторых звестках, збіраў архіў БНР, далучыў да гэтай справы Л.Геніюш. Праводзіў актыўную кампанію зваротаў і петыцы-

яў у Лігу Нацый і іншыя міжнародныя органы ад імя БНР. Аўтар прац «Галоўныя моманты беларускага руху» (1926, часткова апублікавана ў кнізе: Byelorussian statehood: Reader and bibliography. New York, 1988), «Беларусь — роль і значэнне на ўсходзе Еўропы» (не апублікавана).

Тв.: Дзве культуры і дзве экспансіі // *Іскры Скарыны*. 1934, № 4.

Літ.: *Генію́ш Л.* Споведзь. Мн., 1993; *Глагоўская Г.* Васіль Захарка — другі Прэзідэнт БНР // *Спадчына*. 1994, № 1; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗАЯЦ Леанард Іосіфавіч** [сак. 1890, в. Даўгінава Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 23.9.1935, Уфа, НКВД], паліт. дзеяч, публіцыст, мемуарыст. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Працаваў у падатковых і крэдытных установах: у 1914—16 у Вільні, у 1916—17 у Мінску. Член партыі бел. эсэраў. На 1-м Усебеларускім з'ездзе 1917 абраны членам Рады. З лютага 1918 у складзе Народнага сакратарыята БНР. Пасля расколу Рады БНР 13.12.1919 загадчык канцылярыі і дзяржаўны сакратар у Народнай Радзе БНР. Аўтар публіцыстычных артыкулаў і ўспамінаў пра дзеячаў бел. культуры. Удзельнік 2-й Усебеларускай канферэнцыі 1925 у Берліне, дзе прызнаў Мінск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. З 1925 у БССР. Кансуль-

тант Народнага камісарыята фінансаў. Падпаў пад «чыстку апарату», звольнены. Арыштаваны ДПУ БССР 19.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Высланы на 5 гадоў ва Уфу. Паўторна арыштаваны НКВД 25.7.1935; памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Тв.: Максім Багдановіч // *Шлях паэта: Зборнік успамінаў і біяграфічных матэрыялаў пра Максіма Багдановіча*. Мн., 1975.

Літ.: *ЭГБ*, т. 3.

**ЗВОНАК Алесь** [сапр.: Пётр Барысавіч; іншыя псеўданімы: Алесін; П.Алесін; Сашка Звонак; 1(14).2.1907, Мінск — 2.2.1996, Мінск], паэт, драматург, перакладчык, тэатразнавец. У 1925 скончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску. Першыя вершы апублікаваў у 1925. Працаваў у таварыстве «Кніга — вёсцы», адказным сакратаром полацкай акруговай газ. «Чырвоная Полаччына». Кіраваў Полацкай філіяй «Маладняка». Пасля ў Мінску; рэдактар літаратурных перадач Беларускага радыё (1927—29), адказны сакратар і рэдактар аддзела паэзіі час. «Маладняк» (1929—31). Адначасова вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ, якое скончыў у 1931. У тым жа годзе стаў студэнтам 3 курса літаратурнага ф-та МДУ; потым перайшоў у аспірантуру Тэ-

атральнага камбіната. Накіраваны ў Ленінградскую акадэмію мастацтвазнаўства, дзе спецыялізаваўся па гісторыі тэатра 20 ст. Член СП Беларусі з 1935. У 1935—36 напісаў дысертацыю па гісторыі бел. тэатра, тэкст якой знаходзіўся ў Белдзяржвыдавецтве. У той час З. быў навуковым супрацоўнікам БелАН і загадчыкам аддзела мастацтва ў газ. «Літаратура і мастацтва». 14.11.1936 арыштаваны; асуджаны на 10 гадоў лагераў і накіраваны ў Магаданскую вобл. Рукапісы некалькіх манаграфій З. (у тым ліку пра тэатры У.Меерхольда і У.Галубка) загінулі. Пасля вызвалення ў 1946 працаваў вольнанаёмным у залатаносных капальнях. Рэабілітаваны ў 1954. У канцы 1955 вярнуўся ў Мінск, займаўся творчай працай. Выступаў у галіне крытыкі, драматургіі тэатра і кіно. Пісаў сцэнарыі навукова-папулярных фільмаў. Перакладаў на бел. мову творы рускіх, украінскіх, літоўскіх, латышскіх аўтараў. На тэксты вершаў З. напісаны песні.

Тв.: Выбр. тв. Т. 1—2. Мн., 1977; Сябрына: Выбр. тв. Мн., 1987.

Літ.: *Броўка П.* Пра Алеся Звонака // *Броўка П.* Зб. тв.: У 7 т. Т. 7. Мн., 1968; *БП*, т. 2.

**ЗГІРОЎСКІ Антон Антонавіч** [24.1(6.2).1906, Мінск — 1937], акцёр. У 1921 паступіў у Трупу

У.Галубка (пазней БДТ-3), напачатку быў дапаможным рабочым. У час вандраванняў тэатра ўдзельнічаў у канцэртах, спяваў у хоры. З 1926 акцёр. Найбольш значныя ролі: памешчык («Пінская мадонна» У.Галубка), Вася Балабан («Гісторыя пяці хвастоў» Л.Левіна), Лундышаў «Гадзіншчык і курыца» І.Качаргі), Кадлуб-Дабравольскі («Сяржант Дроб» Э.Самуйлёнка), Юсаў («Даходнае месца» А.Астроўскага). У 1935 стаў заслужаным артыстам Беларусі. Арыштаваны і расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны ў 1957.

Літ.: *Звонак А.* Антон Згіроўскі // *Слова пра майстроў сцэны*. Мн., 1967; *ЭЛіМБел*, т. 2; *БЭ*, т 7.

**ЗДАНОВІЧ Аляксандр** [26.2.1805, в. Белькавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 29.5.1868, Вільня], гісторык, педагог, мемуарыст. Бацька І.Здановіча. У 1825 скончыў Ігуменскую павятовую базыльянскую школу. Два гады працаваў прыватным настаўнікам. Паступіў у Віленскі ун-т, які скончыў у 1831 са званнем кандыдата філасофіі. Выкладаў лацінскую мову і гісторыю ў Віленскім шляхецкім інстытуце, потым узначальваў там кафедру агульнай гісторыі да закрыцця інстытута ў 1863. Чытаў прыватныя лекцыі, а таксама выкладаў расійскую гісторыю ў Віленскай духоўнай семінарыі. Маючы

багаты вопыт выкладання розных прадметаў, падрыхтаваў падручнікі і навучальныя дапаможнікі: «Храналагічна-гістарычны нарыс сучасных дзяржаў ад V стагоддзя да нашых дзён» (Вільня, 1844), «Нарыс усеагульнай гісторыі для дзяцей» (Вільня, 1861), «Нарыс польскай гісторыі для дзяцей» (Вільня, 1857); пераклаў з рускай на польскую мову падручнікі «Гісторыя сярэдніх вякоў» (Вільня, 1845), «Гісторыя Новага часу» (Вільня, 1846). Таксама падрыхтаваў і выдаў падручнікі па французскай мове. У 1849—59 вёў «Дзённік» (часткова апублікаваны: *Rocznik Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie*, 1918). Быў членам Віленскай Археалагічнай камісіі; уваходзіў у склад рэдакцыі газ. «*Kurier Wileński*». У 1863 у сувязі з удзелам у паўстанні сына затрымліваўся і падвяргаўся допытам. 3-е выданне кнігі З. «Нарыс польскай гісторыі для дзяцей», якая мела вялікі ўплыў на грамадскую думку, было канфіскавана і знішчана.

Тв.: Rys dziejów literatury polskiej (uzup. i opr. L. Sowiński). T. 1—5. 1874—1878.

Літ.: *Kościałkowski S.* Aleksander Zdanowicz (1805—1868): Zarys biograficzny. Wilno, 1918; *Nowy Korbut*, t. 9; *SHP*; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**ЗДАНОВІЧ Ігнат Аляксандравіч** [1(13).1. 1841, Вільня — 21.12.1863(2.1.1864), Вільня], адзін

з кіраўнікоў паўстання 1863—64, публіцыст. Сын А.Здановіча. Скончыў Віленскую гімназію; у 1858—62 вучыўся ў Пецярбургскім ун-це, які скончыў са званнем кандыдата матэматыкі. Пасля накіраваўся вучыцца ў Берлінскі ун-т. Збіраў успаміны і звесткі пра філаматаў і філарэтаў, у 1860 у Парыжы выдаў брашуру «Успамін пра філаматаў і філарэтаў». У лют. 1863 вярнуўся ў Вільню, далучыўся да паўстанцкай арганізацыі; быў яе касірам. Са жн. 1863 паўстанцкі начальнік Вільні. Арыштаваны царскімі ўладамі 26.9.1863. Публічна павешаны на гандлёвай плошчы Лукішкі ў Вільні.

Тв.: Kilka szczegółów o Filomatach i Filaretach // *Promieniści — Filomaci — Filareci*. Warszawa etc., 1928.

Літ.: *Ehrenkreutzówna E.* Ignacy Zdanowicz — kasjer i naczelnik powstańczy Wilna // *Ateneum Wileńskie*. 1933, t. 8; *Кісялёў Г.* Героі і музы: Гістарычныя нарысы. Мн., 1982; *Nowy Korbut*, t. 9; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗЕЛЯЗЕЙ Віктар Адамавіч** [27.5(8.6).1881, Мінск — пасля 1951, пасёлак Ратамка пад Мінскам ?], грамадскі і паліт. дзеяч, публіцыст. Працаваў бібліятэкарам Мінскай публічнай бібліятэкі імя А.Пушкіна. З 1903 член і адзін з кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады ў Мінску. У студз. 1906 на яго кватэры адбыўся 2-і з’езд БСГ. Арыш-

таваны ў пачатку 1908 разам з малодшым братам Сігізмундам. Падчас вобыску на яго кватэры знойдзены нелегальная літаратура, пячатка БСГ, фальшывы пашпарт. У кастр. 1909 асуджаны Віленскай судовай палатай на ссылку; у студз. 1910 накіраваны ў Кірэенскі пав. Іркуцкай губ. З ссылкі дасылаў матэрыялы ў «Нашу ніву». У 1920-я г. працаваў у Інбелкульце. Падрыхтаваў даклад «Утварэнне і праца БСГ», з якім выступіў на пасяджэнні секцыі рэвалюцыйнага руху. У 1951 жыў у пасёлку Ратамка пад Мінскам.

Літ.: *Политическая каторга и ссылка.* М., 1934; *Коўтун В.* «Шчыру ахвярнасць клаў я для краю…» // *Полымя*. 1991, № 7; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗМАГАР Алесь** [сапр.: Яцэвіч Аляксандр Хведаравіч; іншы псеўданім: Алесь Валошка; 1.10.1903, в. Цароўка Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер в. Кірава Слуцкага р-на Мінскай вобл. — 1995, Фларыда, ЗША], паэт, празаік, драматург, перакладчык. Брат (па маці) пісьменніка Янкі Золака (А.Даніловіча). Пасля сканчэння народнай школы ў 1914 прадоўжыў вучобу ў Слуцкай класічнай гімназіі. Друкаваў вершы ў гімназічным час. «Прамень». У ліст. 1920 разам з бацькам удзельнічаў у Слуцкім паўстанні, за што бацька быў расстраляны бальшавікамі, а сам З. асуджаны на 2 гады зняволення. Уцёк з месца зняволення. Пры-

ехаў у Мінск. Дзякуючы дапамозе пісьменніка Р.Мурашкі З. ўдалося пазбегнуць пераследу ўладаў. У 1925—30 вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні МВПІ. Пасля сканчэння вучобы настаўнічаў на ст. Радашковічы. У часы нямецкай акупацыі працаваў журналістам у рэд. «Беларускай газэты». Потым настаўнічаў, быў інспектарам бел. школ у Радашковіцкім, Лідскім, Шчучынскім паветах. Як паэт і публіцыст актыўна выступаў на старонках друку. Удзельнік 2-га Усебеларускага кангрэса (27.6.1944, Мінск). У 1944 выехаў з Беларусі. Жыў у Аўстрыі, дзе браў удзел у арганізацыі бел. школ. З 1949 у Францыі. Узначальваў эмігранцкую арганізацыю «Беларускі вызвольны рух»; удзельнічаў у выданні час. «Баявая ўскалось» і «За волю». У 1956 эміграваў у ЗША. Жыў у Кліўлендзе, дзе выдаваў газ. «Незалежная Беларусь». Быў старшынёй Галоўнай управы Беларускага вызвольнага руху. Апошнія гады правёў у Фларыдзе.

Тв.: Рэпка: Казачны абразок. Лінц, 1946; Случчакі: Апавяданне. Зальцбург, 1947; Да згоды: Вершы. Кліўленд, 1962; Вызвольныя шляхі: Артыкулы. Кліўленд, 1965; Лесавіка: Апавяданні. Клевэланд, 1973; Случчына ў вагні: Раман. Фларыда, 1986.

Літ.: Алесь Змагар // *Баявая ўскалось*. 1970, № 8; *БП*, т. 6; *БЭ*, т. 7.

**ЗМАЧЫНСКІ Антон Фадзеевіч** [6.11.1902, в. Печышча Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Чэрвеньскі р-н Мінскай вобл. — 5.6.1936, Мінск, НКВД], мовазнавец. Пасля сканчэння аспірантуры працаваў ў Інстытуце мовазнаўства БелАН. Арыштаваны 31.5.1936. Знаходзячыся ў зняволенні, скончыў жыццё самагубствам.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ЗМУДЗІНСКІ Генадзь Яўгенавіч** [17(29).1.1897, Ніжняудзінск Іркуцкай губ., Расія — 22.9.1938, Мінск, НКВД], графік. Вучыўся ў Петраградскай Акадэміі мастацтваў (1914—15). Потым быў мабілізаваны ў армію; удзельнік 1-й сусветнай вайны. З 1918 у Чырвонай Арміі: камандзір палка, начальнік разведаддзела брыгады. З 1921 у Мінску. У 1921 выканаў некалькі плакатаў для Белдзяржвыдавецтва і Галоўпалітасветы. Аўтар эскіза ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР і граматы да яго (1924), фірменнай маркі Белдзяржвыдавецтва (1924). Адзін з заснавальнікаў школы бел. кніжнай графікі. Ілюстраваў школьныя падручнікі, аформіў шмат кніг для дзяцей (М.Гарэцкі «Досвіткі», 1926; А.Няверау «Як у нас была вайна», 1927; казку «Воўк і лес», 1928, і інш.). Супрацоўнічаў з газ. «Звязда» (1927—28), на старонках якой друкаваліся яго плакаты і паліт. ка-

рыкатуры. Удзельнічаў у Першай усебеларускай мастацкай выставе (1925), у Міжнароднай выставе кнігі ў Лейпцыгу (1927). Найбольш вядомыя творы станковай графікі: «Пагром», «Мінская конка», «Згода нявесты», «Бежанцы» (1916), «Араты» (1925). Рэпрэсаваны ў 1938.

Літ: *Шматаў В.Ф.* Беларуская графіка 1917—1941 гг. Мн., 1975; *Герашчатава В.В.* Беларуская кніжная графіка 1917—1941. Мн., 1971; *ЭЛіМБел*, т. 2; *БЭ*, т. 7.

**ЗНАЁМЫ Сяргей** [сапр.: Клопаў Сяргей Змітравіч; крыптанімы: С.З.; С.Зн.; 14(27).6.1909, в. Звонь Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Ушацкі р-н Віцебскай вобл. — 20.1.1944 ?], журналіст, празаік, паэт. Працаваў рабочым на запалкавай фабрыцы ў Нова-Барысаве, рабкарам і рэдактарам газ. «Чырвоны Бярэзінец». Паступіў на рабфак. Стаў членам КПСС (1928). З 1930 вучыўся ў БДУ. У 1929 дэбютаваў у друку вершамі (газ. «Рабочий»), але як пісьменнік больш сцвердзіў сябе ў жанры публіцыстыкі і прозы (аўтар некалькіх кніг нарысаў). У 1933 скончыў МВПІ; працягваў вучобу ў аспірантуры (па некаторых звестках — без адрыву ад настаўніцкай працы). У сярэдзіне 1930-х г. аказаўся аб’ектам цкавання. Пасля разгромнай рэцэнзіі М.Лынькова была знята з друку новая кніга З. «Кантакт». У 1935 выключаны з

партыі. У 1936 працаваў на радыё. Арыштаваны 26.11.1936; асуджаны на 8 гадоў лагераў. Накіраваны на Калыму, адкуль па некаторых звестках у час 2-й сусветнай вайны ўцёк. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Відагоршчы: Падарожныя нататкі ўдзельніка Чырвонаармейскага аграпаходу. Мн., 1930; Дом № 31: Вытворча-бытавыя нарысы. Мн., 1930; За дамбаю: Кніга нарысаў. Мн., 1931; Лес гарыць: Кніга нарысаў. Мн., 1932; Ганчары: Аповесць. Мн., 1933; Біяграфія майго героя: Аповесць. Мн., 1935.

Літ.: *Маракоў Л.* «Жыццё турмы адведаў кожны...» // *ЛіМ.* 1999. 9 ліп.; *БЭ,* т. 7.

**ЗНАМЯРОЎСКІ Уладзіслаў**, рэдактар, выдавец. У 1920—1930-х г. меў у Вільні прыватнае выдавецтва. Выдаваў арыгінальную і перакладную літаратуру, падручнікі, слоўнікі — усяго каля 20 назваў. Сярод іх «Беларускі каляндар на 1920 г.», «Сцэнічныя творы» Л.Родзевіча, «Дзед Завала» Ядвігіна Ш. (2-е выд.), «Расійска-беларускі слоўнік» М. і Г.Гарэцкіх (2-е выд.), «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі» У.Ігнатоўскага (4-е выд.), творы Г.Леўчыка. За выпуск у 1928 «Беларускага дэкламатара» З. быў прыцягнуты польскімі ўладамі да судовай адказнасці.

Літ.: *Леўчык Г.* Доля і хлеб. Мн., 1980; *БЭ*, т. 7.

**ЗЮЗЬКОЎ Андрэй Ігнатавіч** [13(26).9.1904, Шклоў Магілёўскага пав., цяпер Магілёўская вобл. — 28.6.1938, Мінск, НКВД], гісторык, рэдактар. У 1927 скончыў Камуністычны ун-т Беларусі. Працаваў у партыйных арганізацыях у Барысаве і Жыткавічах. З 1930 у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б: навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела, нам. дырэктара. Адначасова загадчык кафедры гісторыі партыі ў Беларускім інстытуце масавага завочнага навучання. У 1932—37 член сакратарыята рэдкалегіі гісторыі Грамадзянскай вайны на Беларусі. Быў навуковым і паліт. рэдактарам зборніка дакументаў «КП(б)Б у рэзалюцыях» (Ч. 1, 1934). Аўтар прац па гісторыі КП(б)Б, рэвалюцыйнага руху пачатку XX ст., Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў Беларусі. Усе гэтыя працы напісаны з захаваннем марксісцка-ленінскай метадалогіі і прынцыпу партыйнасці. У манаграфіі «Крывавы шлях беларускай нацдэмакратыі» (1931) змясціў дакументы з архіва БНР. 26.11.1937 арыштаваны НКВД БССР. 28.6.1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 10.11.1959.

Тв.: Бальшавікі — арганізатары Кастрычніка ў Беларусі. Мн., 1934; Беларускія нацдэмы — ворагі народа // *Бальшавік Беларусі*. 1937, № 5.

Літ.: *Михнюк В. Н.* Становление и развитие исторической науки Советской Белоруссии (1919—1941 гг.). Мн., 1985; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗЯМКЕВІЧ Рамуальд Аляксандравіч** [псеўданімы і крыптанімы: Раман Суніца; Юры Алелькавіч; Саўка Барывой; Шэршань; Р. Зем.; Ром. Зем.; Р-н Сун.; Р. С-ца; 7.2.1881, Варшава — 1943 ці 1944, Асвенцім ?], бібліёграф, публіцыст, гісторык бел. літаратуры, перакладчык, калекцыянер кніг і рукапісаў. Бацькі паходзілі са Случчыны. Вучыўся ў Кіеве, атрымаў прафесію інжынера-механіка. У 1908 рабіў фальклорна-этнаграфічныя запісы на Барысаўшчыне. З 1909 друкаваўся ў «Нашай ніве» і іншых бел. выданнях. Падрыхтаваў і выдаў першы спецыялізаваны бібліяграфічны даведнік на бел. мове — «Беларуская бібліяграфія» (1910). У 1913—14 шукаў гісторыка-літаратурныя матэрыялы на Магілёўшчыне. У 1915—17 жыў у Мінску, служыў ваенным інжынерам. Сабраў унікальную бібліятэку па гісторыі, мовазнаўстве, літаратуры, фальклору, вялікую калекцыю старабел. рукапісаў. У сваіх працах прывёў новыя звесткі і апублікаваў невядомыя рукапісы бел. пісьменнікаў XIX — пачатку XX ст. Перакладаў з украінскай і французскай моў. Вядомы польскія вершы З. Большую частку жыцця правёў у Варшаве, але выязджаў для работы ў архівах і бібліятэках у Вільню, Пецярбург, Львоў, Раперсвіль (Швейцарыя). Арыштаваны гестапа ў акупаванай Варшаве. Магчыма, падтрымліваў сувязі з польскім рухам Супраціўлення. Пад псеўданімам Шэршань друкаваўся ў газ. «Новая дарога». Загінуў у канц-

лагеры. Большасць яго багатых збораў, а таксама частка ўласных рукапісаў (у прыватнасці, рукапіс кнігі «Кароткі нарыс гісторыі беларускай музыкі») загінулі.

Тв.: Адам Ганоры Кіркор: (Біяграфічна-бібліяграфічны нарыс у 25-летнюю гадаўшчыну смерці). Вільня, 1911 /Кірыліца і лацінка/; Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця: (Успаміны ў 60-ю гадаўшчыну смерці). Вільня, 1911 /Кірыліца і лацінка/; Цукраварні на Беларусі. [Мінск], 1918; Аб беларускай народнай эстэтыцы: Спроба характарыстыкі. Вільня, [Б. г.].

Літ.: *Гарэцкі М.* Зямкевіч Р. // *Гарэцкі М.* Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992; *БП*, т. 2; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗЯНКЕВІЧ Антон Ігнатавіч** [1888, Дзісна Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 1949, Глыбокае], рыма-каталіцкі святар, грамадскі і культурны дзеяч. Паходзіў з шляхецкай сям'і. Вучыўся ў Сестранцэвіцкім павятовым вучылішчы ў Пецярбургу. У 1905 паспяхова здаў уступныя экзамены ў Віленскую духоўную каталіцкую семінарыю. Аднак з-за адсутнасці вольных месцаў прыняты ў лік семінарыстаў толькі ўвосень 1907. Падчас вучобы ў Вільні далучыўся да бел. нацыянальна-культурнага руху. Пасвечаны ў святары 10.6.1911. Потым вывучаў філасофію ў Інсбруку (Аўстрыя). Доктар тэалогіі. З 1917 служыў у Дзісенскім дэканаце. У жн. 1918 удзельнічаў у з'ездзе каталіцкіх святароў Віленшчы-

ны, які прыняў пастанову пра шырокае ўжыванне бел. мовы ў набажэнствах у касцёле. На пачатку 1920-х служыў у касцёле св. Стафана ў Вільні. З 1924 дэкан і пробашч у парафіі Глыбокае. Адзін з 15 бел. святароў, якія 19.5.1925 на агульнапольскай канферэнцыі біскупаў выступілі ад імя бел. духавенства з мемарыялам у справе беларусізацыі нацыянальнага рэлігійнага жыцця. У 1928 прызначаны прэфектам рэлігіі ў Глыбоцкай гімназіі імя Т.Чацкага. У 1931 абраны кансультантам у святарскую сінадальную раду пры Віленскай мітрапалітальнай курыі. Праследваўся польскімі ўладамі. У гады 2-й сусветнай вайны па-ранейшаму ўзначальваў Глыбоцкі дэканат.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Stankiewicz A.* Rodnaja mowa u swiatyniach. Wilnia, 1929; *Stankievič A.* Biełaruski chryścijanski ruch. Vilnia, 1939.

**ЗЯНКОВІЧ Фелікс Паўлавіч** [2.11.1842, маёнтак Мокры (Макраны) Пружанскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Пружанскі р-н Брэсцкай вобл. — 7.4.1910, Варшава], удзельнік паўстання 1863—64, мемуарыст. Падчас вучобы ў Пецярбургскім ун-це ўдзельнічаў у студэнцкім руху. Са жн. 1862 за мяжой, дзе зблізіўся з польскай рэвалюцыйнай і расійскай дэмакратычнай эміграцыяй. Удзельнічаў у марской экспедыцыі паўстанцаў з Англіі ў Літву. З ліп.

1863 у Вільні; сакратар Выканаўчага аддзела Літвы. Арыштаваны 7.8.1863. Прыгавораны да расстрэлу, замененага 12 гадамі катаргі. Адпраўлены ў сібірскія руднікі. У Сібіры праводзіў прыродазнаўчыя даследаванні (найперш, біялагічныя); удзельнічаў у падрыхтоўцы паўстання ссыльных. З 1880-х г. на Радзіме; потым выехаў у Варшаву. Напісаў успаміны пра паўстанне 1863 і марскую экспедыцыю паўстанцаў.

Літ.: *Oppman A.* Jeden z ostatnich // *Tygodnik Ilustrowany*. 1910, № 16; *Кісялёў Г.* Па слядах аднаго пісьма М.П.Агарова і А.І.Герцэна // *Кісялёў Г.* З думай пра Беларусь. Мн., 1966; *Клейн Б.* Найдено в архиве. Мн., 1968. С. 38—42; *ЭГБ*, т. 3.

**ЗЯНОВІЧ Сямён** [XVIII ст., Полаччына — 1-я палова XIX ст., Сібір], паэт. Шляхціц Полацкага пав. Пісаў на польскай мове. Прыхільнік утапічнага сацыялізму. У вершы «Сапраўдная навука асноў права чалавека ў прыватнасці і права народаў увогуле» абгрунтоўваў «натуральную роўнасць» усіх людзей. Вершы З. трапілі да ўладаў. У канцы XVIII ст. арыштаваны, абвінавачаны ў тым, што свае творы «пра вольнасць і тыранства цара» «пакінуў многім у Беларусі», вёз іх у Санкт-Пецярбург і ў Маскву. За вальнадумства сасланы на вечнае пасяленне ў Сібір.

Літ.: Мальдзіс, На скрыжаванні… С. 265—267.

**ІВАНІШЧАНКА Мікалай Агеевіч** [13.10.1903, в. Ліпавы Ручай Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобл. — 19.10.1938, Мінск, НКВД], хімік. У 1931—33 вучыўся ў аспірантуры, у 1936—38 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута хіміі БелАН. Кандыдат хімічных навук. Сакратар партбюро БелАН. У 1938 выключаны з КП(б)Б. Арыштаваны 11.7.1938. 11.10.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 22.5.1956.

Літ.: *Возвращенные имена.*

**ІВАНОЎ Міхаіл Аляксеевіч** [12.11.1904, Санкт-Пецярбург — 1955, Сібір], кампазітар. У 1931 скончыў Мінскі музычны тэхнікум. У 1931—38 загадчык музычнай часткі Беларускага тэатра рабочай моладзі, адказны сакратар аргкамітэта Саюза кампазітараў БССР. Працаваў пераважна ў жанры песні, рамансa (пісаў на вершы Я.Купалы і М.Багдановіча). Аўтар аперэты «Зарэчны барок» на лібрэта А.Жаўрука і А.Ушакова (з С.Палонскім, пастаўлена ў 1940 Тэатрам музычнай камедыі БССР), дзіцячай оперы «Мухамор» на лібрэта В.Таўлая паводле аднайменнай казкі М.Танка (1943), музыкі да спектакляў «Новы горад» І.Гурскага (1932) у Беларускім тэатры рабочай моладзі і «Шлях далёкі» М.Шастакова (1934) у Тэатры юнага гледача БССР. Падчас нямецкай акупацыі за-

ставаўся ў Мінску, у 1941—42 артыст аркестра Мінскага гарадскога тэатра. Арыштаваны савецкімі ўладамі ў 1944. Загінуў у зняволенні. Рэабілітаваны ў 1988.

Літ.: *БЭ*, т. 7.

**ІВАНОЎСКІ Вацлаў Леанардавіч** [псеўданім: Вацюк Тройца; 25.5(7.6).1880, фальварак Лябёдка Лідскага пав. Віленскай губ., цяпер Шчучынскі р-н Гродзенскай вобл. — 7.12.1943, Мінск], грамадскі і паліт. дзеяч, выдавец, публіцыст. У 1902 стаў адным з заснавальнікаў Беларускай рэвалюцыйнай грамады, потым Беларускай сацыялістычнай грамады. У 1904 скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут. Доктар тэхналагічных навук (1909). Да 1913 на выкладчыцкай рабоце ў Пецярбургу. У 1906—14 стварыў і кіраваў першым бел. выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца». Супрацоўнічаў з газ. «Наша доля» і «Наша ніва». Дзеля таго, каб адрозніць бел. лацінку ад польскай, ініцыяваў увядзенне літар «č», «š», «ž». У 1913—15 у Вільні; працаваў у Сельскагаспадарчым таварыстве, кіраваў Беларускім выдавецкім таварыствам. У 1915 старшыня Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. У канцы 1915 — пачатку 1917 жыў у Расіі. Удзельнік 1-га Усебеларускага з’езда 1917. У 1918 міністр асветы ва ўрадзе БНР, які ўзначаль-

ваў А.Луцкевіч. У маі 1919 арыштаваны савецкімі ўладамі як закладнік і вывезены ў Смаленск. Пасля вызвалення адмовіўся ехаць у Польшчу, вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў загадчыкам літаратурна-выдавецкага аддзела Мінскага губернскага камісарыята асветы Літоўска-Беларускай ССР. Выдавец час. «Рунь». З сак. 1920 рэктар МВПІ. З кастр. 1920 дырэктар дэпартамента гандлю ва ўрадзе Сярэдняй Літвы. Пасля падпісання Рыжскай дамовы 1921 адышоў ад паліт. дзейнасці. У 1922—39 прафесар Варшаўскага політэхнічнага інстытута. З восені 1939 выкладчык Віленскага ун-та. 17.11.1941 прызначаны нямецкай адміністрацыяй бургамістрам Мінска. Старшыня Беларускай рады даверу. Падтрымліваў сувязі з Арміяй Краёвай. Забіты членамі спецгрупы НКДБ СССР. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Мінску.

Літ.: *Вацлаў Іваноўскі, 1880—1943*. Мн., 1990; *Turonek J.* Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi. Warszawa, 1992; *Туронак Ю.* Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі // *Маладосць*. 1994, № 8—9; *ЭГБ*, т. 3.

**ІГНАТОЎСКІ Усевалад Макаравіч** [19.4.1881, в. Такары Брэсцкага пав. Гродзенскай губ., цяпер Камянецкі р-н Брэсцкай вобл. — 4.2.1931, Мінск], гісторык, грамадскі і паліт. дзеяч. У 1911 скончыў Юр'еўскі (Тартускі) ун-т. У 1912—14 працаваў вы-

кладчыкам у Вільні ў прыватнай жаночай гімназіі; у 1914—19 у Мінскім настаўніцкім інстытуце. У 1915 стварыў культурна-асветніцкую арганізацыю «Наш край», якая ў 1917 ператварылася ў леваэсэраўскую арганізацыю «Маладая Беларусь». З чэрв. 1917 член ЦК БСГ, у 1918 член ЦК БПС-Р. У перыяд польскай акупацыі ў студз. 1920 на базе «Маладой Беларусі» стварыў Беларускую камуністычную арганізацыю. 31.7.1920 удзельнічаў у падпісанні «Дэкларацыі аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь». З 30.7.1920 член РКП(б). У 1920-я г. займаў шэраг адказных пасад у партыйных і дзяржаўных органах; актыўна ўдзельнічаў у рэалізацыі палітыкі беларусізацыі. У 1921—30 прафесар БДУ. У 1926—28 старшыня (з 1927 прэзідэнт) Інбелкульта; у снеж. 1928 — студз. 1931 прэзідэнт БелАН, дырэктар Інстытута гісторыі. З 1928 акадэмік БелАН. Працы І. склалі падмурак канцэпцыі гісторыі Беларусі, у аснову якой пакладзена перыядызацыя паводле прынцыпу дзяржаўнасці і грамадскага стану бел. зямель. Падчас кампаніі супраць нацыянал-дэмакратызму 26.12.1930 зняты з пасады прэзідэнта БелАН. 16.1.1931 ЦК КП(б)Б выключыла І. з партыі як «лідэра нацыянал-дэмакратычнай контррэвалюцыі». Выклікаўся на допыты ў ДПУ. Пасля аднаго з іх скончыў жыццё самагубствам. Паводле другой версіі быў застрэлены супрацоўнікамі ДПУ ў сваім доме. Рэпрэсіі былі абрынуты і на сям'ю І. — жонку і двух сыноў.

Тв.: Кароткі нарыс гісторыі Беларусі. Мн., 1919 (5 выд. 1991); Кароткі нарыс нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Мн., 1921; Гісторыя Беларусі ў XIX і ў пачатку XX сталецця. Мн., 1923 (3 выд. 1928); 1863 год на Беларусі. Мн., 1930.

Літ.: *Друшчыц В.* Агляд навукова-літаратурнай дзейнасці У.М.Ігнатоўскага // *Полымя*. 1925, № 2; *Ігнаценка І., Кароль А.* Усевалад Ігнатоўскі і яго час. Мн., 1991; *У.М.Ігнатоўскі: Старонкі жыцця і навуковай дзейнасці.* Мн., 1991; *Акадэмік У.М.Ігнатоўскі: Матэрыялы навуковых чытанняў, прысвечаных 110-годдзю з дня нараджэння*. Мн., 1993; *ЭГБ*, т. 3.

**ІЛЬІНСКІ Рыгор Андрэевіч** [23.3.1876, Санкт-Пецярбург — 1937], мовазнавец. Нарадзіўся ў сям'і выкладчыка семінарыі, які да 1870 працаваў на Украіне. Скончыў Пецярбургскую гімназію і гісторыка-філалагічны ф-т Пецярбургскага ун-та. У 1901—03 знаходзіўся ў замежнай навуковай камандзіроўцы. У 1909—15 прафесар Нежынскага гісторыка-філалагічнага інстытута, з 1916 — Юр'еўскага (Тартускага), у 1920—24 Саратаўскага, з 1927 — Маскоўскага ун-таў. Членкарэспандэнт Расійскай АН з 1921, АН СССР з 1925, Балгарскай АН з 1929, Польскай АН з 1930. Даследаваў параўнальную граматыку славянскіх моў, праславянскую мову, гісторыю і паходжанне славянскага пісьменства. Шэраг артыкулаў прысвяціў пытанням бел. мовы: «Блр. нетра = рас.

«болото» трясина, дебри» (1928), «Аб канчатку –эй назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду прыметнікаў і назоўнікаў ва ўсходнеславянскіх мовах наогул і беларускай паасобку» (1929). Арыштаваны ў 1937; расстраляны. Рэабілітаваны пасмяротна.

Тв.: Праславянская грамматика. Нежин, 1916.

Літ.: *Булахов М.Г.* Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977; *Журавлев В.К.* Г.А.Ильинский. М., 1962.

**ІЛЬЮЧОНАК Пётр Вікенцевіч** [31.1(12.2).1891, в. Русцягі Нова-Аляксандраўскага пав. Ковенскай губ., цяпер Браслаўскі р-н Віцебскай вобл. — 27.6.1945, Тайшэтлаг], дзяржаўны дзеяч, рэдактар. У 1910—12 рабочы ў Пецярбургу; у 1912—17 у арміі. Займаўся распаўсюджаннем нелегальнай літаратуры. З лета 1917 у Адэсе, нам. старшыні Беларускага бежанскага камітэта, член культурніцкай арганізацыі «Беларускі гай». З 1920 у Мінску, потым накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь. Пасля перапынку зноў накіраваны туды ў 1923. У 1921—22 працаваў у Мінску ў наркаматах сацзабеспячэння і асветы. У 1924—25 і 1926—28 тэхнічны рэдактар, нам. старшыні Белдзяржвыдавецтва. У 1925—26 супрацоўнік паўпрэдства ў Варшаве. У снеж. 1929 выключаны з ВКП(б) у рамках кампаніі барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам.

Арыштаваны 16.2.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; 18.3.1931 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Накіраваны ў Тагіл. Паўторна арыштаваны 4.07.1937 і 16.11.1937 прыгавораны дадаткова да 5 гадоў лагераў. Вызвалены 4.10.1942. Зноў арыштаваны і асуджаны ў студз. 1943 Іркуцкім абл. судом на 10 гадоў лагераў. Памёр у Тайшэтлагу. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Літ.: *Колас Г.* Здарэнне ля піўнушкі на Савецкай // *Крыніца*. 1994, № 7; *ЭГБ*, т. 3.

**ІЛЬЯШЭВІЧ Хведар** [псеўданімы і крыптанімы: Баец; М.Дальны; Святаслаў Залужны; Л.Іскра; І-ч; Хв. І-ч; Каласок; Лявон; Малады; Рабочы; Х.І.; Чырвоная кветка; 17.3.1910, Вільня — 7.11.1948, Ватэнштэт, Германія], паэт, празаік, крытык, гісторык. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Выкладаў у ёй жа бел. мову. Першыя вершы з'явіліся ў 1925; друкаваўся ў заходнебел. выданнях «Студэнцкая думка», «Крыніца», «Нёман», «Калоссе», «Родныя гоні», «Шлях моладзі», «Родны край». Па паліт. матывах двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі; у 1927 зняволены ў турме на Лукішках. Пасля вызвалення вучыўся на гістарычным ф-це Віленскага ун-та, які скончыў у 1936 са званнем магістра філасофіі. У час нямецкай акупацыі кіраваў «Беларускім аб'яднаннем» у Беластоку, рэда-

гаваў газ. «Новая дарога». У 1944 выехаў у Германію. У 1946 у Рэгенсбургу рэдагаваў час. «Шляхам жыцця», бюлетэнь «Апошнія весткі» (Ватэнштэт). Загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Пахаваны ў Галенсдорфе паблізу Брауншвейга.

Тв.: Веснапесні. Вільня, 1929; Зорным шляхам: Зборнік вершаў. Вільня, 1932; Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі): Жыццё і літаратурная творчасць. Вільня, 1933; Захварбаваныя вершы. Вільня, 1936; Drukarnia domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622). Wilno, 1938; Апавяданні. Ватэнштэт, 1948; Недапетая песня. Б. м., 1982 (2 выд.: Ляймэн, 1987); Творы. Маладзечна, 2000.

Літ.: *Ліс А.* Паэзія Хведара Ільяшэвіча // *Культура беларускага замежжа*. Кн. 2. Мн., 1993; *Сачанка Б.* Беларуская эміграцыя. 2 выд. Мн., 1991; *Савік Л.* Песню нясем мы адну // Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001.

**ІМШЭНІК Хведар Пятровіч** [крыптанім: Хв. Ім.; 4.9.1884, в. Хоцінава Брэст-Літоўскага пав. Гродзенскай губ. — пасля 1931 ?, Уфа ?], літаратуразнавец, мемуарыст, педагог. Вучыўся ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы, Літоўскай духоўнай семінарыі (1900—07). Быў супрацоўнікам газ. «Наша ніва». Скончыў Юр’еўскі (Тартускі) ун-т. У час вучобы арыштоўваўся за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1906—12 член БСГ. Пасля сканчэння ун-та па запрашэнні М.Багдановіча пераехаў

у Яраслаўль; выкладаў у прыватнай мужчынскай гімназіі. У 1918 разам з Мінскім настаўніцкім інстытутам вярнуўся ў Мінск. Працаваў выкладчыкам філалогіі і гісторыі ў Мар'іна-Горскім сельскагаспадарчым тэхнікуме. У 1923—24 дырэктар Бабруйскага, у 1924—27 Рагачоўскага, у 1927—30 выкладчык Гомельскага педтэхнікумаў. Напісаў успаміны пра М.Багдановіча, «Нашу ніву». Арыштаваны 15.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 паводле пастановы Калегіі АДПУ сасланы на 5 гадоў ва Уфу. Далейшы лёс невядомы.

Тв.: «Наша ніва» і дваццацігадовы юбілей беларускае перыядычнае прэсы // *Полымя*. 1926, № 7; Цішка Гартны як селькор «Нашае нівы» 1908—1910 // *Там жа*. 1929, № 1; 15 гадоў цяжкай, але пачэснай працы: (Юбілей У. М. Ігнатоўскага) // *Савецкая Беларусь*. 1924, 2 лістап.

Літ.: *Каханоўскі Г.* Таямніцы за Чортавым мостам // *Маладосць*. 1992, № 5; *ЭГБ*, т. 3.

**ІСПРАЎНІКАЎ Прохар Іванавіч** [16.3.1902, в. Трыбулінцы Суражскага р-на Віцебскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], журналіст. Працаваў загадчыкам сельгасаддзела газ. «Віцебскі пралетарый». Арыштаваны 3.7.1937. Рэабілітаваны 10.6.1958.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

**КАВАЛЕНЯ Аляксандр Дзмітрыевіч** [21.2(5.3).1895, в. Кашанцы Гродзенскага пав., Гродзенскай губ., цяпер Бераставіцкі р-н Гродзенскай вобл. — 27.8.1937, Мінск, НКВД], археолаг. У 1915 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, у 1929 БДУ. Яшчэ ў студэнцкія гады праводзіў раскопкі ў Тураве (1927). З 1932 навуковы супрацоўнік секцыі археалогіі Інстытута гісторыі БелАН. Даследаваў унікальныя помнікі — стаянкі палеаліту (Бердыж, Юравічы), гарадзішчы жалезнага веку (Банцараўшчына). Збіраў матэрыялы для археалагічнай карты Беларусі. Арыштаваны ў 1937; паводле пастановы пазасудовага органа ад 25.8.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.10.1958.

Тв.: Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскіх акругах // *Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН*. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. Мн., 1930; Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны // *Там жа* (разам з С. Шутавым); Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // *Працы секцыі археалогіі БАН*. Мн., 1932. Т. 3.

Літ.: *Возвращенные имена; ЭГБ*, т. 3.

**КАВАЛЕЎСКІ Восіп (Юзаф) Міхайлавіч** [28.12.1800(9.1.1801), мяст. Вялікая Бераставіца Гродзенскага пав., цяпер цэнтр Бераставіцкага р-на Гродзенскай вобл. — 9(21).10.1878, Варшава],

філолаг, гісторык, арыенталіст. Паходзіў з сям'і уніяцкага святара. У 1808—17 вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, удзельнічаў у тайнай арганізацыі «Таварыства аматараў навукі і айчыннай славеснасці». У 1821 скончыў Віленскі ун-т (ф-т літаратуры і вольных мастацтваў). Выкладаў польскую, лацінскую і грэчаскую мовы ў Віленскай гімназіі. Удзельнічаў у тайных таварыствах філаматаў і філарэтаў, за што быў арыштаваны царскімі ўладамі ў 1823. У 1825 высланы ў Казань, дзе ва ун-це вывучаў усх. мовы. У 1827 выехаў у Іркуцк, дзе ўдасканальваў веданне мангольскай мовы. У 1829 накіраваўся ў падарожжа па Манголіі і Кітаі. У 1833 вярнуўся ў Казанскі ун-т, дзе быў прызначаны спачатку ад'юнктам, а потым прафесарам. Прывёз вельмі багатую калекцыю матэрыялаў і рукапісаў на мангольскай, тыбецкай, кітайскай, маньчжурскай мовах. У 1835 выдаў «Кароткую граматыку мангольскай кніжнай мовы»; у 1836—37 «Мангольскую хрэстаматыю» (т. 1—2); у 1844—49 «Мангольска-руска-французскі слоўнік» (т. 1—3), за які атрымаў ад Пецярбургскай АН Дзямідаўскую прэмію. У 1847 абраны акадэмікам Пецярбургскай АН. Выступаў у друку з артыкуламі на філалагічныя тэмы, перакладаў на польскую мову антычную класіку. У 1855—60 рэктар Казанскага ун-та. З 1862 прафесар і дэкан гісторыка-філалагічнага ф-та Варшаўскага ун-та.

Літ.: *Kotwicz W.* Józef Kowalewski — orientalista (1801—1878). Wrocław, 1948; *Фролов Е.* Вильнюсский период жизни и деятельности О.М.Ковалевского // *Учёные записки Вильнюсского университета*. Серия историко-филологическая. 1958, т. 4; *Шамов Г.Ф.* Профессор О.М.Ковалевский: Очерк жизни и научной деятельности. Казань, 1983; *Міхнюк У.М., Шалькевіч В.Ф.* Усходазнаўца Восіп Кавалеўскі // *Весці АН БССР*. Серыя грамадскіх навук. 1985, № 5; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**КАВАЛІК Сяргей Піліпавіч** [13(25).10.1846, маёнтак Свадкавічы Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крычаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 26.4.1926, Мінск], народнік, публіцыст. У 1860-х г. вольны слухач у Пецярбургскім (з 1864) і Кіеўскім (з 1868) ун-тах. З 1869 кандыдат матэматыкі. У 1873 выязджаў у Цюрых (Швейцарыя), дзе сустракаўся з лідэрамі расійскага народніцтва і анархізма М.Бакуніным, П.Лаўровым, П.Ткачовым. Пасля вяртання ў 1874 у Расію заснаваў 10 народніцкіх гурткоў у Пецярбургу, Харкаве, Самары, Саратаве і інш. Арыштаваны ў ліп. 1874 разам з М.Судзілоўскім у Самарскай губ. Зняволены ў Петрапаўлаўскай крэпасці. На працэсе «193-х» асуджаны на 10 гадоў катаргі; высланы ў Якуцію. У 1898 некалькі месяцаў жыў у маёнтку Блонь Ігуменскага пав. ў Бонч-Асмалоўскіх. Публікаваўся ў час. «Былое» (1906). З 1915 працаваў пры Земскім саюзе ў Мінску. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917

нам. старшыні Мінскай гарадской думы, старшыня Мінскага губернскага зямельнага камітэта. Па паліт. поглядах быў блізкі да эсэраў. У 1920—22 працаваў у Народным камісарыяце сацыяльнай апекі БССР. З 1922 выкладаў вышэйшую матэматыку ў Мінскім палітэхнікуме. Старшыня Мінскага аддзялення Таварыства паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Публікаваўся ў час. «Каторга и ссылка». Пісаў успаміны.

Тв.: Революционное движение семидесятых годов и процесс 193-х. М., 1928; Автобиография // *Народны камісарыят сацыяльнай апекі БССР*. Мн., 1924.

Літ.: *Бонч-Осмоловская М*. Сергей Ковалик в Минске // *Неман*. 1969. № 9; *БЭ*, т 7.

**КАВАЛЬ Васіль** [сапр.: Кавалёў Васіль Пятровіч; крыптанімы: В.К.; В.К-ль; 4(17).8.1907, в. Сава Горацкага пав. Магілёўскай губ., цяпер Горацкі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], празаік. У 1925 скончыў агульнаадукацыйныя курсы пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі; увосень 1925 паступіў у Магілёўскі педтэхнікум. Тады ж быў прыняты ў літаб'яднанне «Маладняк». Пачаў друкавацца ў 1926 у час. «Аршанскі маладняк». У 1926—29 (з перапынкам) вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ, але кінуў вучобу і пайшоў на твор-

чую працу. Пасля другога расколу «Маладняка» ў 1928 абраны членам Цэнтральнага Бюро аб'яднання і ўведзены ў рэдакцыйную групу час. «Маладняк», дзе застаўся пасля ўтварэння БелАПП. У 1931 актыўны ўдзельнік Беларускага літаратурнага аб'яднання Чырвонай Арміі і Флоту. У 1932—34 служыў у войску, быў ваенным журналістам газ. «Красноармейская правда» ў Смаленску. Арыштаваны 2.11.1936; прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Выбр. тв. Мн., 1932; Выбр.: Аповесці і апавяданні. Мн., 1959; Следапыты; Санька-сігналіст. Мн., 1961.

Літ.: *Пальчэўскі А.* Васіль Каваль // *Пальчэўскі А.* Выбр. тв. Т. 2. Мн., 1975; *Казека Я.* Васіль Каваль // *Казека Я.* Падарожжа ў маладосць. Мн., 1984; *Грамадчанка Т.* Васіль Каваль // *Беларускія пісьменнікі і літаратурны працэс 20—30-х гг.* Мн., 1985; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 3.

**КАВАЛЬСКІ Уладзімір Антонавіч** [21.12 (па дакументах 21.10).1912, в. Варонеж Сосніцкага пав. Чарнігаўскай губ., цяпер Карукаўскі р-н Чарнігаўскай вобл., Украіна — 29.12.1937, Мінск, НКВД], паэт, драматург; пісаў на польскай мове. З двухгадовага ўзросту выхоўваўся ў Кіеве. У трынаццаць гадоў пачаў працаваць рабочым на заводах і шахтах. З 1929 вучыўся ў польскай тэатральнай студыі Вышэйшага музычна-драматычнага інстыту-

та ў Кіеве. У 1930 пераехаў у Мінск. Працаваў загадчыкам польскага сектара Камітэта радыёвяшчання пры СНК БССР. Публікавацца пачаў з 1930 у мінскім польскамоўным час. «Orka». Супрацоўнічаў з польскімі газетамі і часопісамі, якія выходзілі ў Кіеве, Маскве; з украінскім друкам. Член СП Беларусі з 1934. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў польскай секцыі СП БССР. Аўтар п'ес для польскіх тэатраў Беларусі і Украіны. Паэтычныя творы К. перакладаліся на бел., грузінскую, літоўскую, рускую мовы. Арыштаваны ў ліст. 1937. Тыраж апошняга зборніка К. «Вершы пра Грузію» быў канфіскаваны. Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1979.

Тв.: Chłopi w Marchat. Mińsk, 1930; Dwa poematy. Mińsk, 1934; Poezje. Mińsk, 1934; Droga na północ: Poezje. Mińsk, 1930; Rodzina Worońców: Sztuka sceniczna w ośmiu obrazach z prołogiem. Mińsk, 1936.

Літ.: *Гапава В.* Непражытае жыццё: Да 75-годдзя з дня нараджэння і да 50-годдзя з дня смерці Уладзіміра Кавальскага // *ЛіМ*. 1987, 25 снеж.; *БП*, т. 3.

**КАВЫЛЬ Міхась** [сапр.: Лешчанка Язэп Казіміравіч; іншыя псеўданімы: В'юрок; Я. Ляшчына; Я.Маёвы; нар. 1.11.1915, в. Пакрашава Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл.], паэт, крытык, празаік, рэдактар. Літаратурнай творчасцю пачаў займацца рана — першы

верш быў апублікаваны ў 1929. У 1930 паступіў на пазашкольнае аддзяленне МБПТ. Супрацоўнічаў з час. «Вясна» і «Маладняк». Быў членам літаб'яднання «Маладняк». 23.2.1933, на апошнім курсе тэхнікума, арыштаваны па справе «Беларускай народнай Грамады». Праз паўгода асуджаны на 3 гады зняволення; накіраваны на Далёкі Усход (4-е аддзяленне Дальлага). Пасля вызвалення вярнуўся дадому, але неўзабаве з'ехаў (ад праследвання НКВД) у Варонеж; паступіў на рабфак медінстытута, потым на літаратурны ф-т педінстытута. Настаўнічаў. З пачаткам вайны мабілізаваны. У маі 1942 трапіў у палон да румынскіх войскаў. Вызвалены ў 1943, вярнуўся ў Мінск, скончыў курсы прапагандыстаў. Друкаваўся ў газ. «Раніца». З восені 1944 у Германіі, потым у Бельгіі. У 1950 выехаў у ЗША. Публікаваўся ў выданнях бел. эміграцыі «Беларуская думка», «Конадні», «Шыпшына», «Бацькаўшчына», «Беларус». Рэдагаваў час. «Беларуская думка». Жыве ў Саўт Рыверы (штат Нью Джэрсі, ЗША).

Тв.: Міжагнёўе: Выбр. тв. Ню Ёрк, 1990; Ростань: Вершы. Рэгенсбург, 1947; Пад зорамі белымі: Зб. вершаў. Нью-Йорк, 1954; Першая рана: Зб. вершаў. Манчэстэр, 1960; Цяжкія думкі: Зб. вершаў. (Нью-Йорк), 1961; Казённы дом і далёкая дарога /// *Запісы*. 1992. № 20.

Літ.: *Савік Л.* Калі ў сэрцы збудую храм // Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001; *Маракоў Л.* На прыступках у пекла. *Маладосць*. 2001. № 3.

**КАГАН Сара Рувімаўна** [3.7.1895, мяст. Максімавічы Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Клічаўскі р-н Магілёўскай вобл. — 1941, Мінск, гета], паэтэса, празаік; пісала на ідыш, бел. і рускай мовах. Пасля таго, як выйшла замуж, пераехала ў Бабруйск. Загадвала гарадской бібліятэкай, была рабкарам газеты на яўрэйскай мове «Октобэр» (у гэтай жа газеце ў 1929 надрукаваны першы яе верш). У 1935 разам з сям'ёй пераехала ў Мінск. Працавала ў бібліятэчным калектары, вучылася на вячэрнім аддзяленні філфака МВПІ. З 1932 публікавалася ў час. «Штэрн», у бел. прэсе. Член СП Беларусі з 1934. Лепшыя апавяданні К. пераклаў на бел. мову З.Бядуля, у 1940 выйшлі ў зборніку «Апавяданні». Загінула ў мінскім гета ў першыя месяцы вайны.

Тв.: Нашы людзі: [Вершы]. Мн., 1940.

Літ.: *БП*, т. 3.

**КАГАНЕЦ Карусь** [сапр.: Каstравіцкі Казімір Рафаіл Карлавіч; іншыя псеўданімы і крыптанім: K.Kahaniec; Будзімір; К.Шашаль; К.Качанец; К.К.; 29.1(10.2).1868, Табольск, Расія — 20.5.1918, в. Прымагілле Мінскага пав., цяпер в. Юцкі Дзяржынскага р-на Мінскай вобл.], празаік, паэт, драматург, мастак, грамадскі дзеяч. Сын удзельніка

паўстання 1863—64, сасланага ў Сібір. У 1874 сям'і дазволена вярнуцца ў Беларусь, жылі ў в. Засулле каля Стоўбцаў і в. Прымагілле каля Койданава. Вучыўся ў Мінскім гарадскім вучылішчы, у 1890-х г. у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1893. У 1890 — пачатку 1900 г. публікаваў апрацоўкі народных паданняў у газ. «Минский листок» і «Северо-Западный край». У 1902—03 удзельнічаў у стварэнні БСГ, распрацоўцы яе праграмы. Падрыхтаваў праект газ. «Палессе» (1904). У сак. 1905 удзельнічаў у І сялянскім з'ездзе Беларусі. Арыштаваны 19.12.1905 з групай агітатараў у Койданаўскай воласці. Да 16.5.1906 знаходзіўся ў Мінскай турме. 2.4.1910 асуджаны Віленскай судовай палатай на год зняволення, змешчаны ў Мінскую турму. Супрацоўнічаў з газ. «Наша ніва». Апрацаваў кірылічны варыянт першага бел. падручніка новага часу «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (СПб., 1906, выд. ананімна). Пры жыцці асобным выданнем выйшаў вадэвіль «Модны шляхцюк» (СПб., 1910), які карыстаўся вялікай папулярнасцю і быў адным з першых твораў нацыянальнага тэатральнага рэпертуару (ставіўся ў 1910 трупай І.Буйніцкага, у 1918 — Першым беларускім таварыствам драмы і камедыі, у 1928 — БДТ-2). У пачатку 1912 атрымаў месца ўпраўляючага фальваркам Жортаў у Барысаўскім пав., дзе і праслужыў апошнія 6 гадоў жыцця. Частка рука-

піснай спадчыны К. пасля яго смерці трапіла да Я.Лёсіка, які апублікаваў яе ў «Беларусі» (1919) і «Вольным сцягу» (1921). Пахаваны ў в. Навасёлкі ля Койданава (Дзяржынска). У 1988 на магіле пастаўлены помнік.

Тв.: Творы. Мн., 1979.

Літ.: *Біч М*. Ад родных ніў: Грамадска-палітычныя погляды Каруся Каганца // *Полымя*. 1988, № 3; *Германовіч І*. Карусь Каганец як мовазнавец // *Веснік БДУ*. Серыя 4. 1974, №3; *Каспяровіч М*. Карусь Каганец // *Маладняк*. 1928, № 10; *Скалабан В*. Па слядах Сяргея Мглінскага // *Мастацтва Беларусі*. 1986, № 11; *Станкевіч Л.І*. Рукапісы Каруся Каганца ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У.І.Леніна // *Кніжная культура Беларусі*. Мн., 1991; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 3; *АЗБ*.

**КАЗАК Аляксей Захаравіч** [11.2.1886, в. Бучаціна Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 1.9.1938, Мінск, НКВД], краязнавец, публіцыст. У 1925—30 працаваў нам. старшыні Цэнтральнага бюро краязнаўства Інбелкульта і БелАН. Потым настаўнічаў. Арыштаваны 11.12.1937. 28.5.1938 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 10.9.1959.

Тв.: Краязнаўства ў БССР к дзесяцігоддзю Кастрычніцкай рэвалюцыі // *Наш край*. 1927, № 10; Вынікі II Усебеларускай краязнаўчай канферэнцыі // *Наш край*. 1929, № 2.

Літ.: *Возвращенные имена*.

**КАЗАКЕВІЧ Ян Станіслаў** [Kozakiewicz Jan Stanisław; 1802, Дзісенскі пав. Мінскай губ. — 1848, Томск, Сібір], філамат, юрыст, публіцыст. Вучыўся ў Віленскім ун-це, дзе ўдзельнічаў у патрыятычных арганізацыях. З 27.1.1820 член «Саюза сяброў»; хутка стаў яго старшынёй. З 1820 таксама ў Таварыстве філарэтаў, дзе ўзначальваў «Ліловую групу» (студэнтаў-юрыстаў), потым узначаліў яшчэ адну юрыдычную групу — «белых». Распрацаваў праграму пашырэння дзейнасці Таварыства праз далучэнне ксяндзоў і дзейнасць студэнтаў на вакацыях. З гэтай мэтаю 24.3.1821 увайшоў у склад спецыяльнага камітэта, створанага дзеля збірання статыстычных даных па краю. Аўтар многіх рэфератаў, гісторыка-юрыдычных і статыстычных даследаванняў. Калі ў 1822 з «Саюза сяброў» вылучылася новая арганізацыя філадэльфістаў, увайшоў туды і хутка ўзначаліў яе. Арыштаваны ў 1823 пасля выкрыцця віленскіх маладзёжных арганізацый. Дзякуючы намаганням сваякоў пазбег выгнання, але застаўся пад наглядам паліцыі. Удзельнічаў у паўстанні 1830—31. Пасля паражэння паўстання выехаў у Францыю. У 1832 жыў у Страсбургу. Потым вярнуўся ў родны край, дамогся рэабілітацыі. Распачаў адвакацкую практыку, стаў адным з найвядомейшых віленскіх адвакатаў. Быў запрошаны на пасаду адваката Радзівілаўскай камісіі. У 1834 стаў сакратаром тайнага таварыства — Літоўскага Камітэта. У 1836 пазнаёміўся ў Мінску

з Ш.Канарскім, наладзіў сувязь паміж ім і Літоўскім Камітэтам. Захоўваў шыфры і іншыя дакументы арганізацыі. Арыштаваны ў 1838. Прыгавораны да бестэрміновай ссылкі. Вывезены ў Томск, дзе працаваў на здабычы золата. З 1844 у канцылярыі томскага губернатара.

Літ.: *Janik M.* Dzieje polaków na Syberii. Kraków, 1928; *PSB*, z. 63.

**КАЗЛОЎ Мікалай Сямёнавіч** [17.5.1907, Цвер, Расія — 4.4.1993, Мінск], хімік-арганік. У 1928 скончыў Цверскі педагагічны інстытут, у 1932 — аспірантуру пры Маскоўскім ун-це. У 1933—38 дырэктар Інстытута хіміі БелАН, адначасова загадчык кафедры арганічнай хіміі БДУ. Прафесар (1933), доктар хімічных навук (1935). Арыштаваны 24.7.1938. 19.2.1940 пастановай Асобай нарады прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Адбыў у лагерах і ссылцы 8 гадоў. У 1946—67 загадчык кафедры хіміі Пермскага педагагічнага і Пермскага сельскагаспадарчага інстытутаў. Рэабілітаваны 20.1.1956. Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1965). Акадэмік АН Беларусі (1966). У 1967—72 дырэктар Інстытута фізіка-арганічнай хіміі АН БССР. З 1973 загадчык лабараторыі гэтага інстытута, з 1988 — дарадца пры дырэктары інстытута. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984).

Тв.: Химия промышленных нефтей Белоруссии. Мн., 1972 (у сааўтарстве).

Літ.: Н.С.Козлов // *Весці АН БССР. Серыя хімічных навук*. 1987, № 3; *Возвращенные имена; БЭ,* т 7.

**КАЗЛОЎ Фёдар Піліпавіч** [16(28).2.1898, в. Слабодка Магілёўскага пав., цяпер у межах г. п. Круглае Магілёўскай вобл. — 1941 ?], гісторык. У 1917 скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю, у 1918 вучыўся ў Петраградскім горным інстытуце. З 1919 на савецкай рабоце і ва ўстановах адукацыі ў Магілёве і Гомелі. З 1925 у Маскве; у 1929 скончыў Інстытут чырвонай прафесуры, загадчык кабінета 1-га Інтэрнацыянала, выкладчык Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна. З 1932 загадчык кафедры Усеагульнай гісторыі Інстытута чырвонай прафесуры. Доктар гістарычных навук (1936). Аўтар падручнікаў, прац па гісторыі ЗША, рэвалюцыйнага руху. Арыштаваны ў 1937. Абставіны смерці невядомыя.

Тв.: Первый Интернационал. М., 1933; США в период довоенного империализма и после мировой войны. М., 1936.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КАЗЛОЎСКІ Уладзіслаў** [псеўданім: Уладыслаў Казлоўшчык; 29.6.1896, в. Залессе Сакаль-

скага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 13.11.1943, Мінск], паліт. дзеяч, публіцыст, паэт. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі (1916—19), дзе далучыўся да бел. нацыянальнага руху. Скончыў настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай беларускай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны. Арганізоўваў школы ў Сакольскім пав., каапературыўны рух у Ігуменскім пав. У маі 1920 Беларускай вайсковай камісіяй накіраваны ў школу падхарунжых у Варшаве. Пасля яе сканчэння прызначаны інструктарам 1-га батальёна бел. стральцоў; эвакуіраваны з Мінска ў Лодзь. З 1921 служыў у польскім войску. У 1930 звольніўся ў запас у званні паручніка, пераехаў у Вільню, распачаў грамадска-паліт. і літаратурную дзейнасць. Арганізаваў гімнастычнае таварыства «Гайсак». Адзін з лідэраў крайне правага крыла бел. паліт. руху; разам з Ф.Акінчыцам у ліст. 1933 заснаваў актыў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (БНПС); у 1933—37 рэдактар-выдавец яе органа час. «Новы шлях». Польскія ўлады неаднаразова канфіскоўвалі тыраж асобных нумароў часопіса, па прычыне чаго К. судзіўся з уладамі. У 1939—40 сакратар Беларускай групы дапамогі пацярпелым ад вайны пры Літоўскім Чырвоным Крыжы. У 1941 хацеў аднавіць дзейнасць БНПС, але не атрымаў на гэта дазвол нямецкіх уладаў. Пераехаў у Мінск, быў рэдактарам «Беларускай газэты». Адзін са стваральнікаў і кіраўні-

коў Беларускай народнай самапомачы. Застрэлены савецкімі падпольшчыкамі ў памяшканні рэдакцыі. Пахаваны на Кальварыйскіх могілках, але месца пахавання невядома.

Тв.: Фізічнае выхаванне грамадзянства. Вільня, 1927; Аб фізічным выхаванні ў беларусаў. Вільня, 1928; Беларускія народныя песні з Сакольскага павету. Вільня, 1930; Плач Беларускай Старонкі Маткі па дзетках сваіх рэнегатах. Вільня, 1930; Путы кахання. Вільня, 1932; Шляхам змагання. Вільня, 1935; Казюк на кірмашы: Вершаванае апавяданне з Казюковага кірмашу ў Вільні. Вільня, 1940; Аўтабіяграфія // *Новы шлях*. 1937, 15 чэрв.

Літ.: *Чыгрын С.* «Прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся…» // *Ніва* (Беласток). 1995. 22 студз.; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 4.

**КАЛІНОЎСКІ Кастусь** [Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч; псеўданімы: Вітажэнец; Хамовіч; Jaśko haspadar z pad Wilni; 21.1(2.2).1838, в. Мастаўляны Гродзенскага пав., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 22.3.1864, Вільня], адзін з лідэраў паўстання 1863—64, публіцыст, паэт. У 1852 скончыў Свіслацкае павятовае вучылішча, у 1860 юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та, кандыдат права. Вярнуўся ў Беларусь у пачатку 1861. У 1861—62 стварыў у Гродне і Гродзенскай губ. шэраг нелегальных рэвалюцыйных арганізацый. Адзін са стваральнікаў восенню 1861 «Камітэта руху» — арганізацыйнага цэнтра «чырвоных». З кастр. 1862 старшыня Літоўскага

правінцыяльнага камітэта (ЛПК). Разам з В.Урублеўскім і Ф.Ражанскім заснаваў нелегальную друкарню і наладзіў выпуск першай бел. рэвалюцыйна-дэмакратычнай газ. «Мужыцкая праўда», большасць матэрыялаў для якой пісаў сам. У пачатку студз. 1863 на польскай мове выдаў першы нумар газ. «Chorągiew swobody», якая была афіцыйным органам ЛПК. Магчыма, выдаваў газ. «Głos z Litwy». 1.2.1863 узначаліў Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Беларусі. У сак. 1863 адхілены «белымі» ад кіраўніцтва; накіраваны на пасаду паўстанцкага камісара Гродзенскага ваяв. Са снеж. 1863 старшыня Выканаўчага аддзела Літвы. Арыштаваны 9.2.1864. У турме напісаў і перадаў на волю свае паліт. завяшчанне — «Лісты з-пад шыбеніцы». Паводле рашэння ваенна-палявога суда павешаны на Лукішскай плошчы. Імя К. было забыта амаль да пачатку XX ст., калі да яго спадчыны звярнуліся браты Луцкевічы і інш. Вобраз К. шырока адлюстраваны ў літаратуры і мастацтве. У г. п. Свіслач яму пастаўлены помнік.

Тв.: Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Мн., 1988; За нашую вольнасць: Творы, дакументы. Мн., 1999; У кн.: Беларуская літаратура XIX ст.: Хрэстаматыя. Мн., 1988; Паўстанне на Беларусі 1863 г.: «Мужыцкая праўда» і лісты «з-пад шыбеніцы»: Тэксты і каментарыі. Нью-Ёрк, 1980; К.Каліноўскі. За нашую вольнасць. Творы, дакументы. Мн., 1999.

Літ.: Stankiewič A. Kastuś Kalinouski. «Mužyckaja prauda» i ideja niezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933; *Смірноў А.* Кастусь Каліноўскі ў паўстанні 1863 года. Мн., 1959; *Смирнов А.Ф.* Кастусь

Калиновский. Мн., 1963; *Кісялёў Г.* Сейбіты вечнага. Мн., 1963; *Яго ж.* З думай пра Беларусь. Мн., 1966; *Яго ж.* Радаводнае дрэва. Мн., 1994; *Kordowicz W.* Konstanty Kalinowski: Rewolucyjna demokracja polska w powstaniu styczniowym na Litwie i Białorusi. Warszawa, 1955; *Шалькевич В.* Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Мн., 1988; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4; *АЗБ*.

**КАЛІНОЎСКІ Уладзімір Сямёнавіч** [18.6.1889, Ваўкавыск — 1940 ?, Старабельск ? Варашылаўградскай вобл., цяпер Луганская вобл., Украіна], грамадска-паліт. дзеяч, публіцыст, гісторык. У 1910 скончыў Гродзенскую гімназію, у 1914 юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та. Праслухаў поўны курс Археалагічнага інстытута і Усх. акадэміі ў Петраградзе. Працаваў у Пецярбургскім судовым ведамстве. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі у Народным камісарыяце харчавання. У ліп. 1921 як рэпатрыянт выехаў у Зах. Беларусь. У ліст. 1922 абраны ў польскі сейм, уваходзіў у Беларускі пасольскі клуб. У чэрв. 1923 польскім судом пазбаўлены дэпутацкага мандата і польскага грамадзянства. Арыштаваны ў ліп. 1923, высланы з Польшчы. Са снеж. 1923 у Мінску. У лют. 1924 — ліп. 1925 кіраўнік справамі і юрысконсульт Беларускага сельскагаспадарчага інстытута. У 1925—27 на розных пасадах у ЦВК БССР. З 1.10.1927 да 1.9.1929 дацэнт кафедры гісторыі польскай культуры педагагічнага ф-та БДУ. Супрацоўнічаў у час.

«Полымя», «Савецкае будаўніцтва», газ. «Савецкая Беларусь», «Звязда». Далейшы лёс невядомы.

Тв.: Зямельная палітыка ў Польшчы // *Полымя*. 1925, № 5; Палітычныя партыі і аб'яднанні ў сучаснай Польшчы // *Тамсама*. 1926, № 2, 4—5; Краткий обзор экономического и финансового положения Польши // *Савецкае будаўніцтва*. 1926, № 1; Торговые договоры Польши // *Тамсама*. 1926, № 4.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КАЛІНОЎСКІ Юзаф Андрэевіч** [1.9.1835, Вільня — 15.11.1907, кляштар у мяст. Чэрна каля Кракава, Польшча], удзельнік паўстання 1863—64, каталіцкі рэлігійны дзеяч, мемуарыст. У 1856 скончыў Мікалаеўскую ваенна-інжынерную акадэмію ў Пецярбургу. У 1859—60 працаваў тапографам на будаўніцтве чыгункі Адэса — Курск. У 1860—63 служыў інжынер-капітанам у Брэсцкай крэпасці. У маі 1863 выйшаў у адстаўку і пераехаў у Вільню. З чэрв. 1863 узначаліў ваенную секцыю Выканаўчага аддзела Літвы. Арыштаваны 13.3.1864; асуджаны на смерць. Прысуд быў заменены на 10-гадовую катаргу. Накіраваны ва Усолле Іркуцкай губ. Праз 5 гадоў катарга заменена на вольнае пасяленне ў Іркуцку і Пярмі. Удзельнічаў у навуковых даследаваннях Сібіры. У 1873 вярнуўся на Радзіму; стаў выхавальнікам сына князя У.Чартарыйскага Аўгуста, пераехаў у Парыж. У 1877 у Грац

(Аўстрыя). Даўняе захапленне каталіцкай духоўнай літаратурай паўплывала на тое, што К. ўступіў у Ордэн кармелітаў босых, прыняў манаскае імя Рафал. У 1880 накіраваны ў кляштар у мяст. Чэрна, дзе стаў прыёрам. З 1899 генеральны вікарый кармелітаў босых у Галіцыі. Напісаў успаміны пра паўстанне 1863—64; аўтар рэлігійна-філасофскіх трактатаў. Кананізаваны каталіцкай царквой 17.11.1991.

Тв.: Wspomnienia, 1835—1837. Lublin, 1965; Споведзь / Падрыхтаваў да друку В. Шалькевіч // *Хрысціянская думка*. 1994, № 2.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4; *АЗБ*.

**КАЛМАНСОН Гілель Майсеевіч** [псеўданім: Перакаці-Поле; 1868, Магілёў — 1937, Масква, НКВД], паэт, публіцыст; пісаў на рускай мове. Жыў у Кіеве (уступіў там у 1884 у рэвалюцыйны гурток), Чарнігаве, Адэсе. З 1895 у Магілёве, ствараў тут сацыял-дэмакратычныя гурткі. З 1903 член РСДРП. У 1907 апублікаваў першы вершаваны зборнік «Песни босяка». У.Бонч-Бруевіч адабраў некаторыя вершы К. для складзенага ім зборніка «Избранные произведения русской поэзии» (3-е выданне, 1908). У 1917—22 быў на партыйнай і савецкай рабоце ў Магілёве, Самары, Гомелі. Напісаў і апублікаваў успаміны. З 1922 жыў у Мас-

кве. Арыштаваны і расстраляны ў 1937. Рэабілітаваны пасмяротна.

Тв.: Свобода: Элегия в прозе. Киев, 1915; Плакучая акация: Сказка-притча. Киев, 1915; Красная Армия: Стихи. Самара, 1919; Первые шаги: (Из воспоминаний) // *Известия Гомельского губернского комитета РКП(б).* 1921, № 7—8.

**КАЛУБОВІЧ Аўген Тодаравіч** [псеўданімы і крыптанім: А.Верасень; Аўген Каханоўскі; А.Ясенскі; А.К.; 5.3.1912, мяст. Ціхінічы Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 25.5.1987, Кліўленд, ЗША), пісьменнік, гісторык, грамадскі і паліт. дзеяч. У 1930 скончыў педтэхнікум у мяст. Бабчын Хойніцкага р-на. Арыштаваны 30.5.1930 за прыналежнасць да тайнай арганізацыі альтруістаў. Прыгавораны да 3 гадоў канцлагераў. Пакаранне адбываў у Вішарскіх лагерах, Дальлагу, Бамлагу. У Беларусь вярнуўся ў 1933. Настаўнічаў у Хойніцкім р-не; быў звольнены, адноўлены на рабоце з дапамогай А.Чарвякова. У 1934—35 выкладаў бел. мову і літаратуру ў Мінску. У 1939 скончыў МВПІ, працаваў кансультантам-метадыстам Наркамасветы БССР. З пачаткам вайны мабілізаваны ў армію; трапіў пад Масквой у акружэнне; вярнуўся ў Мінск. Супрацоўнічаў з нямецкімі ўладамі; уваходзіў у Беларускую раду даверу (1943), Беларускую цэнтральную раду (1944). Удзельнік 2-га Усебеларускага

кангрэса. З 1944 у Германіі. З 1945 у зах. зоне акупацыі Германіі; выкладаў у Беларускай гімназіі імя Я.Купалы. Пасля аднаўлення ў снеж. 1947 Рады БНР увайшоў у яе склад. Быў прэм’ер-міністрам Ураду БНР. З 1950 у ЗША. Спачатку жыў у Нью-Йорку, потым у Кліўлендзе. Выдаваў «Бюлетэнь» Злучанага беларускага камітэта ў Кліўлендзе. У 1953 арганізаваў выданне бюлетэня «Абежнік Цэнтральнага Камітэту Аб’яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў». Напісаў успаміны пра паліт. рэпрэсіі 1930-х г. у Беларусі. Укладальнік, рэдактар і адзін з аўтараў зборніка «Янка Купала і Якуб Колас. 1882—1982: Вянок успамінаў пра іх» (1982).

Тв.: Крокі гісторыі: Даследаванні, артыкулы, успаміны. Беласток; Вільня; Менск, 1993; На крыжовай дарозе: Творы з эміграцыі. Мн., 1994; Паэтычная стылістыка. Б.м. [Германія], 1947; Пясняр свабоды й красы: (У 30-я ўгодкі сьмерці М. Багдановіча). Б.м. [Германія], 1947; Мова ў гісторыі беларускага пісьменства. Т. 1. Мюнхен; Лондан, 1974—1975. Т. 2. Кліўленд, 1978; «Айцы БССР» і іхны лёс. Кліўлэнд, 1982, 2-е выд.: Кліўлэнд, 1985.

Літ.: Другі Усебеларускі кангрэс. *Пад рэд. праф. Р.Астроўскага*. 1954; *Каханоўская І.* Сын верны маці-Беларусі. // *Беларускі свет*. 1888, № 20; *Калубович Н.* Когда мы были молодыми… // *Нёман*. 1994, № 1. *Ёрш С.* Закон генаў. Калубовічы// Наша Ніва. 2003, 21 сак.

**КАЛЮГА Лукаш** [сапр.: Вашына Канстанцін Пятровіч; 27.9.1909, в. Скварцы Мінскага пав.,

цяпер Дзяржынскі р-н Мінскай вобл. — 5.10.1937, Чэлябінская вобл., НКВД), празаік, перакладчык. Яшчэ ў школе захапляўся вельмі пашыранай у 1920-я г. краязнаўчай працай, запісваў народныя песні і іншыя фальклорныя творы сваёй мясцовасці, асабліва — словы і звароты народнае мовы. Сабраныя матэрыялы адсылаў у Мінск у Інбелкульт, дзе яны атрымалі высокую ацэнку, як лепшыя з прысланых. У 1925 скончыў сямігодку. У 1926 паступіў у Магілёўскі педтэхнікум, але вучыцца не стаў, вярнуўся дадому. У чэрв. 1927 К.Чорны змясціў у час. «Чырвоны сейбіт» першае апавяданне К. «Вясна» (творы К., надрукаваныя пад псеўданімам Кастуся Палявецкага, не знойдзены). З 1928 — студэнт МБПТ. Адначасова з вучобай рэдагаваў і перакладаў розныя тэксты для Белдзяржвыдавецтва, шмат пісаў. У 1928 у час. «Узвышша» на працягу ўсяго года друкавалася першая аповесць К. «Ні госць, ні гаспадар», пасля якой пачынаючага пісьменніка прыкмеціў М.Гарэцкі. З мая 1929 — сябра літаратурнага аб’яднання «Узвышша». У 1931 выключаны з тэхнікума як «узвышанскі лазутчык і пачынаючы нацдэм». Са студз. і да сярэдзіны 1932 К. працаваў сакратаром час. «Книга массам», які выдаваўся пры Белдзяржвыдавецтве, потым стыльрэдактарам (да канца 1932) у радыёцэнтры. Арыштаваны ДПУ БССР 23.2.1933 па справе «Беларускай народнай Грамады». Асуджаны на 5 гадоў ссылкі. Высланы ў Ірбіт (цяпер

Краснаярскі край). У ссылцы працягваў пісаць; частка рукапісаў той пары захавалася (у іх ліку незавершаны раман «Пустадомкі», апубл. 1990; аповесці «Дзе косці мелюць», «Зоры Вам Вядомага горада», «Утрапенне», апубл. 1989). Зноў арыштаваны 6.11.1935. Расстраляны паводле прысуда Чэлябінскага суда. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Ні госць ні гаспадар. Мн., 1974; Творы. Мн., 1992.

Літ.: *Драздова З.У.* Творчасць А.Мрыя і Л.Калюгі: Стылявыя асаблівасці. Мн., 1997; *Грахоўскі С.* Лукаш Калюга: (Успаміны) // *Грахоўскі С.* Так і было. Мн., 1986; *Скрыган Я.* Каляровы аловак // *Скрыган Я.* Некалькі хвілін чужога жыцця: Літаратурныя ўспаміны, сустрэчы, шляхі. Мн., 1979; *Янкоўскі Ф.* Чытаючы Кастуся Вашыну: Старонкі з дзённіка // *Вобраз—81.* Мн., 1981; *Маракоў Л.* Падстрэлены на ўзлёце // *ЛіМ.* 1999. 24 вер. (№ 38).

**КАМЯНЕЦКІ Гірш Мордухавіч** [15.12.1895, в. Чарняўка Сенненскага пав. Віцебскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 25.4.1957, Барысаў], паэт; пісаў на ідыш. Вучыўся ў хедары і ешыбоце. Удзельнічаў у грамадзянскай вайне ў Расіі — з 1919 да 1921 быў у Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі працаваў у цырульні. Паводле ўспамінаў, вершы пачаў пісаць і друкаваць з 1924. У 1928—30 вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага ф-та БДУ. Першая кніга паэзіі «Простай дарогай» выйшла ў 1933. Член СП Беларусі з

1934. У 1937—41 адказны сакратар яўрэйскай секцыі СП БССР. Падчас вайны жыў у Бугуруслане Чкалаўскай вобл., працаваў цырульнікам. Вярнуўшыся ў Беларусь, у 1948—49 быў рэдактарам мастацкай літаратуры Дзяржвыдавецтва БССР. Перакладаў прозу і паэзію з бел. і рускай моў. У сваю чаргу паэзію К. перакладалі на бел. і рускую мовы. Арыштаваны 23.6.1949 у рамках кампаніі барацьбы супраць «касмапалітаў». Асуджаны на зняволенне ў лагерах; накіраваны ў Іркуцкую вобл. Вызвалены ў 1956. Вярнуўся інвалідам. Рэабілітаваны і аднаўлены ў правах члена СП БССР у 1956. Пахаваны на гарадскіх могілках Барысава.

Тв.: Выбр. вершы. Мн., 1960; Дороже хлеба. Мн., 1973.

Літ.: *Рэлес Р.* Голас сціплы, шчыры // *ЛіМ*. 1975, 25 снеж.; *БП*, т. 3.

**КАНДЫБОВІЧ Сымон Сцяпанавіч** [псеўданім: Кабыш; 21.7.1891, в. Старыца Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Капыльскі р-н Мінскай вобл. — 27.9.1972, Мюнхен, Германія], паліт. дзеяч, гісторык. Атрымаў вышэйшую адукацыю; настаўнічаў. У 1932—37 кіраўнік справамі і ўпаўнаважаны Камітэта нарыхтовак СНК БССР. Арыштаваны НКВД БССР у 1940. Застаўся на акупаванай немцамі тэрыторыі. У снеж. 1943 увайшоў у склад Беларускай цэнтральнай рады, са студз. 1944 кіраўнік яе

фінансавага аддзела. У чэрв. 1944 удзельнічаў у 2-м Усебеларускім кангрэсе (Мінск). Выехаў у Германію. Працаваў у Беларускім нацыянальным камітэце. З 1954 пастаянна жыў у Мюнхене: супрацоўнік Інстытута па вывучэнні СССР, супрацоўнік бел. рэдакцыі радыё «Свабода». Публікаваўся ў «Запісах» Беларускага інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк), выданнях Інстытута па вывучэнні СССР.

Тв.: Разгром нацыянальнага руху ў Беларусі. Мн., 2000.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КАНЧАР Яўсей Сцяпанавіч** [крыптанімы: К.Е.; Н.П.; 20.9(2.10).1882, в. Сяўкі Рэчыцкага пав. Мінскай губ., цяпер Лоеўскі р-н Гомельскай вобл. — 16.5.1979, Ленінград], грамадскі і паліт. дзеяч, гісторык, даследчык эканамічнай геаграфіі, публіцыст. У 1902 скончыў Мар'інагорскае земляробчае вучылішча. З 1902 жыў у Тыфлісе. Арыштоўваўся ў 1906 за ўдзел у рэвалюцыйным руху. У 1908 быў апраўданы судом. У 1910—14 вучыўся на Вышэйшых сельскагаспадарчых курсах (Агранамічны інстытут) у Пецярбургу. Далучыўся да кааператыўнага руху; аўтар дапаможніка «Руководство по сельской кооперации» (1913). З сак. 1917 член Беларускага нацыянальнага камітэта, але ў крас. выйшаў з яго. З ліст. 1917 старшыня Беларускага абл. камітэта пры Усерасійскім савеце сялянскіх

дэпутатаў, адзін з арганізатараў 1-га Усебеларускага з'езда 1917. З лют. 1918 працаваў у Беларускім нацыянальным камісарыяце ў Петраградзе. З 1922 на выкладчыцкай рабоце (Петраградская сельскагаспадарчая акадэмія, Ленінградскі дзяржаўны ун-т, Закаўказскі політэхнічны інстытут). З 1929 узначальваў Беларускае навуковае таварыства ў Ленінградзе. Арыштаваны ў ліст. 1938, вызвалены ў крас. 1939. Перажыў блакаду ў Ленінградзе. Рукапісы многіх прац загінулі: «Эканамічная геаграфія БССР» (1923), «З гісторыі грамадзянскай вайны ў Беларусі ў 1917—1920 гг.», «Беларускія арганізацыі». Асабісты архіў К. захоўваецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь.

Тв.: Аграрный вопрос и политические партии в России. Ч. 1. Пг., 1917; Классовая, национальная и религиозная борьба в Белоруссии. М., 1918 (беларускі пераклад: Вільня, 1921); Из истории общественных, национальных и революционных движений белорусов. Ч. 2. История возникновения и деятельность организаций. Вып. 1. Белорусский областной комитет. I Всебелорусский съезд. М., 1918 (Тое ж: *Нёман*. 1993, № 1); Белорусский вопрос. Пг., 1919.

Літ.: *Скалабан В.* Першыя крокі рэспублікі // *Крыніца*. 1988, № 12; *ЭГБ*, т. 4.

**КАПУЦКІ Андрэй Рыгоравіч** [псеўданімы: Я.Пралеска; Язэп Пралеска; партыйныя псеўданімы: Лёкса; Хвастоў; 2.5.1897, Маладзечна —

17.5.1934, Мінск, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, празаік, паэт, журналіст. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, у 1916 прызваны ў войска. У 1917 жыў у Петраградзе. З 1918 у Маладзечне. У перыяд нямецкай і польскай акупацыі займаўся падпольнай дзейнасцю. Адзін з заснавальнікаў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (1922), разам з якой у снеж. 1923 уступіў у КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі — у 1919—22, 4.10.1925 (апошні раз прасядзеў у турме без суда 14 месяцаў). У ліп. 1927 нелегальна перайшоў польска-савецкую мяжу. Жыў у Мінску, працаваў у рэдакцыі газ. «Звязда», час. «Полымя рэвалюцыі». У сак. 1928 разам з С.Клінцэвічам па даручэнні ЦК КПЗБ удзельнічаў у забойстве ў Вільні М.Гурына-Маразоўскага. Зноў вярнуўся ў БССР. У 1931 скончыў Камуністычны ун-т Беларусі. Працаваў у Гістпарце пры ЦК КП(б)Б, загадчыкам сектара друку ЦК КП(б)Б, в. а. рэдактара газ. «Савецкая Беларусь». Як паэт публікаваўся з 1929. Арыштаваны 29.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.8.1956. Імем К. названа вуліца ў Маладзечне.

Тв.: Паноў трэба знішчаць гуртам: Апавяданні з жыцця Заходняй Беларусі. Мн., 1932.

Літ.: *Каханоўскі Г.* Даследаванне пра заходнебеларускі тэатр // *Полымя*. 1971, № 2; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**КАРАВАЙЧЫК Павел Гіляравіч** [псеўданімы і крыптанімы: П.Каравай; П.Любецкі; Павал Любецкі; Павел Любэцкі; Павел Любецкі; Paulus; П.К.; П.Л.; К.П.; Л.П.; 3(15).6.1896, мяст. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер г. п. Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл. — 21.11.1937, Чэбаксары, Чувашыя], крытык, публіцыст, паэт, медык. Пачатковую адукацыю атрымаў у Навагрудку. У 1911 паступіў у Мінскую гімназію, скончыў яе з залатым медалём у 1916 у Маскве, куды гімназія была эвакуіравана падчас 1-й сусветнай вайны. Вярнуўся ў Мінск, супрацоўнічаў з Таварыствам дапамогі ахвярам вайны. У 1917 — у рэдакцыі газ. «Вольная Беларусь», дзе пачаў друкаваць свае творы. Паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Петраградзе. Супрацоўнічаў з Белнацкамам і час. «Чырвоны шлях», з Наркаматам нацыянальнасцей РСФСР. На пачатку 1919 загадваў выдавецкім аддзелам Белнацкама і рэдагаваў газ. «Дзянніца». У 1919 перавёўся на 3 курс медыцынскага ф-та Маскоўскага ун-та, але быў прызваны ў Чырвоную Армію, у якой служыў да 1921. У 1921—23 чытаў лекцыі па бел. літаратуры на настаўніцкіх курсах у Бабруйску і Мінску. З 1922 у Мінску, паступіў на 3 курс медыцынскага ф-та БДУ, які скончыў у 1925. З восені 1922 да канца 1926 загадчык аддзела замежнага друку газ. «Савецкая Беларусь». У крас. 1926 удзельнічаў у заснаванні Медыцынскай секцыі Інбелкульта; член-карэспандэнт Інбел-

культа з 1926. Аўтар даследавання бел. фальклору, сааўтар падручніка «Выпісы з беларускае літаратуры» (Ч. 1, Мн., 1926). У 1926—30 працаваў у клініцы нервовых хвароб медыцынскага ф-та БДУ. Арыштаваны ДПУ БССР 25.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». 10.4.1931 асуджаны на 5 гадоў высылкі ў Чэбаксары Чувашскай АССР. 29.7.1937 быў арыштаваны зноў. Прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны па абодвух справах у 1957 і 1959.

Літ.: *Скалабан В*. Будынак новы мы будуем...: (Вершы Паўла Каравайчыка) // *Дзень паэзіі — 82*. Мн., 1982; *БП*, т. 3.

**КАРАВАЦКІ Францішак Казіміравіч** [псеўданімы і крыптанімы: Кравацкі; Лявон; EFER; Los; Franciszek; Kazimierowicz; 14.5.1907, фальварак Каладзянка Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер Мядзельскі р-н Мінскай вобл. — 1988, Бельгія], паэт, журналіст; пісаў на бел. і польскай мовах. З 1925 член Незалежнай сялянскай партыі. З 1926 член КПЗБ. За падпольную дзейнасць арыштаваны польскімі ўладамі ў 1927; зняволены ў пастаўскай турме. У зняволенні напісаў верш «Мы ішлі ў цяжкім змаганні», які стаў рэвалюцыйнай песняй. Зноў арыштаваны і зняволены ў 1929. Вызвалены ў 1936 па амністыі. Пасля вызвалення ў падпольным Краёвым сакратарыяце ЦК КПЗБ у

Варшаве. Падчас 2-й сусветнай вайны супрацоўнічаў з рухам польскага Супраціўлення. З 1943 у падполлі ў Варшаве. Арыштаваны пасля вайны; 5 гадоў знаходзіўся ў савецкіх лагерах. Пасля рэабілітацыі з 1952 працаваў у віленскай польскай газ. «Czerwony sztandar». З 1957 у Польшчы. Потым выехаў на Захад. Большасць твораў К. засталася ў рукапісах. Некаторыя творы запісаны ў 1950-х г. як народныя песні, у тым ліку «Нарачанка» пра адстойванне нарачанскімі рыбакамі сваіх правоў (апублікаваны ананімна ў зборніку «Сцягі і паходні». Мн., 1965).

Тв.: Памятные годы // *Люди Нарочанского края*. Мн., 1975; Важная пляцоўка // *Беларускі каляндар*. Беласток, 1980.

Літ.: *Калеснік У.* Зорны спеў. Мн., 1975. С. 192—203; *Яго ж*. Лёсам пазнанае. Мн., 1982. С. 269—283; *Саламевіч І.* Іскра з вогнішча // *ЛіМ*. 1966, 9 снеж.; *БП*, т. 3.

**КАРАНЕЎСКІ Язэп Пятровіч** [30.12.1887 (11.1.1888), Заслаўе — 29.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны дзеяч, педагог, публіцыст. У 1909 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, у 1914 Віленскі настаўніцкі інстытут. З 1915 выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце. У 1915—17 член культурна-асветніцкага гуртка «Наш край», з мая 1917 — арганізацыі «Маладая Беларусь». З 1916 у эвакуацыі ў Яраслаўлі. У маі 1918 вёў пе-

рамовы з урадам БНР па пытанні рээвакуацыі Мінскага настаўніцкага інстытута. У 1919—20 школьны інспектар і выкладчык геаграфіі Мінскай беларускай гімназіі. У 1920 нам. старшыні Беларускай камуністычнай арганізацыі; са жн. 1920 член КП(б)Б, загадчык аддзела ў Наркамаце асветы БССР. Правадзейны член Інбелкульта з 1924. Быў дырэктарам МБПТ. Публікаваўся ў перыядычным друку па праблемах адукацыі. З 1926 намеснік старшыні Інбелкульта. У 1929—31 рэктар БДУ. З 1932 у Маскве, нам. дырэктара Інстытута чырвонай прафесуры. Арыштаваны і 15.6.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Да пачатку вучэбнага года // *Асвета*. 1924, № 3; Паслякастрычніцкі перыяд // *Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху*. Мн., 1924; Інстытут беларускае культуры (Інбелкульт) // *Наш край*. 1927, № 10.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КАРДАШ Фёдар** [нар. 5.1.1932, в. Харашкі Дзятлаўскага р-на Гродзенскай вобл.], журналіст. У 1955 скончыў ф-т журналістыкі БДУ. Працаваў у раённай газеце адказным сакратаром. Падрыхтаваў рукапісны ліст з крытыкай калгаснай сістэмы, ананімна паслаў яго тагачаснаму першаму сакратару ЦК КПСС М.Хрушчову. Канкрэтныя фак-

ты ў лісце (прозвішчы, назвы калгасаў, лічбы і інш.), а таксама почырк дазволілі КДБ хутка выявіць аўтара. У пачатку восені 1956 быў арыштаваны ў студэнцкім інтэрнаце ў Мінску. 16.10.1956 асуджаны «за антысавецкую агітацыю і прапаганду» на два гады зняволення. Пакаранне адбываў у лагерах Мардовіі. Па заліках за звышпланавае выкананне заданняў знаходжанне ў лагеры скарацілі яму амаль на год, і 23.10.1957 ён быў выпушчаны на волю. Першыя месяцы пасля вяртання ў Беларусь прайшлі ў пошуках работы, затым удалося ўладкавацца школьным настаўнікам, а прыкладна праз 3 гады з дапамогай вядомага журналіста і літаратара Яраслава Пархуты, які выкарыстаў часовую адсутнасць галоўнага рэдактара пружанскай раённай газеты, атрымаў работу журналіста. Пазней, да пенсіі, працаваў у лідскай газеце. Жыве ў Лідзе.

Тв.: Братазабойства // *Народная воля*. 2002, 26 верас.

Літ.: *Чарняўскі М.* Фёдар Кардаш // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**КАРОЛЬ Усевалад** [18.10.1919, в. Старое Сяло, Міншчына — кастр. 1984, Баранавічы], лекар, бел. грамадскі і культурны дзеяч, публіцыст. Скончыў медыцынскі ф-т Віленскага ун-та. Быў апошнім кіраўніком Беларускага студэнцкага

саюза, які спыніў сваё існаванне ў 1940. Друкаваўся ў віленскай бел. прэсе. Падчас нямецкай акупацыі працаваў у Баранавічах лекарам. Прымаў удзел у нацыянальным падпольным руху, кіраваў Баранавіцкім камітэтам падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі. Кіраўніцтва БНП планавала перарправіць яго, як паўнамоцнага прадстаўніка, у Лондан праз Швецыю, што зрабіць не ўдалося. У 1944 арыштаваны, праходзіў па справе кіраўнікоў БНП. Атрымаў 10 гадоў канцлагераў. Пасля вяртання на Бацькаўшчыну жыў у Баранавічах, трымаў сувязь са старымі сябрамі.

Літ.: *Антысавецкія рухі*; *Ёрш С.* Вяртаньне БНП: Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. Менск; Слонім, 1998; *Катковіч А., Катковіч-Клентак В.* Успаміны. Беласток, 1999.

**КАРУЗА Павел** [25.2.1906, мяст. Ваўкалата Дзісенскага пав. Віленскай губ. — 20.2.1988, Вільня], фальклярыст, этнамузыколаг, кампазітар, грамадскі дзеяч. У 1928 скончыў Віленскую кансерваторыю па класу тэорыі і кампазіцыі. З 1925 удзельнік грамадска-паліт. і культурнага жыцця ў Зах. Беларусі. У 1927 старшыня ЦК Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі (БХД) і галоўны рэдактар перыядычна-

га органа БХД газ. «Biełaruskaja krynica». Як рэдактар газеты неаднаразова прыцягваўся польскай адміністрацыяй да судовай адказнасці. Пад уплывам фальклярыста і кампазітара А.Грыневіча пачаў збіраць бел. мелас, апрацоўкі якога плённа выкарыстоўваў у выканаўчай практыцы як дырыжор хору Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1928 ад БХД і Беларускага сялянскага саюза абраны выбаршчыкамі Свянцянскага пав. ў сейм Польшчы. Пасля разгону сейма Ю.Пілсудскім летам 1930 стаў беспрацоўным. У 1934 праз абяцанні надрукаваць яго аўтарскія творы і фальклорныя зборы падманным шляхам вывезены цераз Гдыню ў Мінск. Арыштаваны і сасланы на Салаўкі. Вярнуўся ў Беларусь у 1947 пасля 13-гадовага зняволення. У 1947—48 працаваў у Доме творчасці ў Маладзечне. У 1949 паўторна арыштаваны і высланы ў Сібір. Вызвалены ў 1955, рэабілітаваны ў 1957. Вярнуўся ў Вільню. Працаваў як дырыжор і кампазітар ў Дзяржаўным ансамблі польскай песні і танца Літоўскай ССР. Супрацоўнічаў з фальклярыстамі ІМЭФ АН БССР, друкаваўся ў час. «Мастацтва Беларусі», газ. «ЛіМ». Падрыхтаваў да выдання музычныя запісы бел. фальклору А.Грыневіча. Напісаў «Камерную сімфонію», пабудаваную на бел. меласе, песні на тэксты Я.Купалы, Я.Коласа, Н.Гілевіча і іншых бел. паэтаў.

**КАСПЯРОВІЧ Мікалай Іванавіч** [псеўданімы і крыптанімы: Васіль Гаручы; А.Стаход; М.Волмар; М.Смалярскі; К.Менскі; Мікас; Слуцкер; К.М.; К-ч; М.І.К.; М.І.К-ч; М.К.; М.К-ч; 9(22).5.1900, в. Ізабалёва Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Пухавіцкі р-н Мінскай вобл. — 26.12.1937, Новасібірск, НКВД], крытык, літаратуразнавец, краязнавец, лексікограф, мастацтвазнавец. У 1917 скончыў Ігуменскае вучылішча, здаў экзамены пры Бабруйскай мужчынскай гімназіі на званне народнага настаўніка (у 1917—21 працаваў у Ігуменскім пав.). Вучыўся ў МВПІ (1918—20). У 1921 скончыў Мінскі інстытут народнай асветы. У 1921—22 вучыўся ў БДУ. Быў членам арганізацыі «Маладая Беларусь», партыі бел. эсэраў. З 1921 інструктар Наркамасветы БССР; з 1922 інспектар Слуцкага, з 1924 — Віцебскага аддзелаў народнай асветы. З 1926 навуковы сакратар Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, сакратар краязнаўчага час. «Наш край». Адзін з вядучых бел. краязнаўцаў. Аўтар значных лексікаграфічных прац «Беларуска-расійскі слоўнічак» (Віцебск, 1925), «Віцебскі краёвы слоўнік» (Віцебск, 1926—27). Арыштаваны ДПУ БССР 29.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Па пастанове АДПУ СССР ад 10.4.1931 зняволены ў лагерах тэрмінам на 5 гадоў (Асінкі Кемераўскай вобл.). Пасля вызвалення ў 1935 жыў у Новасібірску, выкладаў рускую мову і літаратуру ў тэхнікуме сувязі. Паўторна арышта-

ваны 28.8.1937; па пастанове ад 17.12.1937 прыгавораны да расстрэлу. Па першым прыгаворы рэабілітаваны 19.9.1960, па другім — 14.2.1958.

Тв.: Беларуская архітэктура. Віцебск, 1925; Вывучэнне культурнага стану краю. Мн., 1927; Матэрыялы для вывучэння віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва. Мн., 1927; Краязнаўства: (Нарысы). Мн., 1929.

Літ.: *Лісаў А.Г., Падліпскі А.М.* Краязнавец Мікалай Каспяровіч. Віцебск, 2000; *Германовіч І.К.* Беларускія мовазнаўцы. Мн., 1985; *Яго ж*. М.І.Каспяровіч як мовазнавец // *Веснік БДУ*. Серыя 4. 1975, № 3; *Яго ж*. Жыццё праляцела znічкай // *ЛіМ*. 1980, 22 жн.; *Булахов М*. Восточнославянские языковеды. Т. 2. Мн., 1977; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**КАЎЦЭВІЧ Міхаіл Дзмітрыевіч** [25.7.1899, мяст. Любча Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Навагрудскі р-н Гродзенскай вобл. — 27.10.1937, Мінск, НКВД], электратэхнік. У 1922 эміграваў з Зах. Беларусі ў Чэхаславакію. У 1928 скончыў Пражскі электрамеханічны інстытут; у 1928—30 аспірант гэтага інстытута. У 1930 пераехаў у БССР, атрымаў савецкае грамадзянства. З 1931 старшы навуковы супрацоўнік Фізіка-тэхнічнага інстытута БелАН, з 1932 вучоны сакратар інстытута. Кандыдат тэхнічных навук (1932). У 1931—32 член бюро палітэмігрантаў пры ЦК Міжнароднай арганізацыі дапамогі барацьбітам рэвалюцыі (МОПР) БССР. У вер. 1927 у Празе па-

знаёміўся з Я.Купалам. Пасля пераезду ў БССР бываў у доме Я.Купалы ў Мінску. Арыштаваны 25.8.1937. 25.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 20.7.1957.

Літ.: *Возвращенные имена*; Каўцэвічы // *Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік*. Мн., 1986.

**КАХАНОВІЧ Міхаіл Сілуянавіч** [крыптанім: М. К-č; 27.9.1882, в. Вялікія Лукі Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Баранавіцкі р-н Брэсцкай вобл. — 17.5.1934, Мінск, НКВД], паліт. дзеяч, педагог, рэдактар, публіцыст. У 1910 скончыў Харкаўскі ун-т. З лета 1915 жыў у Магілёве, працаваў выкладчыкам Магілёўскага рэальнага вучылішча. Член Беларускага нацыянальнага камітэта. У 1917 рэдактар газ. «Могилевские известия». Летам 1918 выехаў у Вільню; з 1919 кіраўнік школьнага аддзела Цэнтральнай Беларускай рады Віленшчыны і Гродзеншчыны. У 1919—22 дырэктар Віленскай беларускай гімназіі. Выступаў з публіцыстычнымі артыкуламі ў «Беларускай крыніцы», «Беларускім жыцці», «Беларускіх ведамасцях» і інш. Аўтар успамінаў пра І.Луцкевіча (апублікаваны ў зборніку: «Памяці Івана Луцкевіча. У першыя ўгодкі смерці яго», 1920). У 1922 абраны дэпутатам польскага сейма, член Беларускага пасольскага клуба. Прытрым-

ліваўся прынцыпу беспартыйнасці. З 1925 у БССР. Працаваў у рэдакцыях газ. «Савецкая Беларусь» і час. «Савецкае будаўніцтва»; у выдавецтвах; займаўся перакладамі. Арыштаваны ДПУ БССР 11.8.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». 9.1.1934 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Тв.: Здрада ў Вільні: (Да 10-х угодкаў Віленскай беларускай гімназіі) // *Асвета*. 1929, № 4.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КАШЫРА Юрый Фадзеевіч** [4.4.1904, в. Александрова Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Міёрскі р-н Віцебскай вобл. — 18.2.1943, в. Росіца, Верхнядзвінскі р-н Віцебскай вобл.], рымакаталіцкі святар, манах-марыянін, грамадскі і культурны дзеяч. Паходзіў з праваслаўнай сям'і. У 1922 прыняў каталіцтва. З 1925 уступіў у навіцыят Друйскага кляштара марыянаў. Пазней скончыў мясцовую гімназію пры кляштары. У 1930 прыняў манаства і быў накіраваны на далейшую вучобу ў Рым ва Усх. папскі інстытут. На працягу 1936 — суперыёр Беларускага дома марыянаў у Вільні. Пазней выкладаў Закон Божы ў Друйскай гімназіі. Прыхільнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У чэрв. 1938 разам з іншымі бел. святарамі і клерыкамі дэпартаваны польскімі ўладамі з Друі ў

Польшчу. 20.6.1939 у Вільні пасвечаны ў святары. У ліп. 1942 вярнуўся ў Друю. Потым вёў душпастырскую дзейнасць ў в. Росіца. Спалены разам з вернікамі (католікамі і праваслаўнымі) падчас нямецкай карнай аперацыі (адхіліў прапанову аб асабістым выратаванні). Кананізаваны Ватыканам.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 4.

**КЕПЕЛЬ Юрый** [? — 1944], журналіст. Рэдактар-выдавец літаратурна-мастацкага час. «Крыгалом», які выдаваўся ў лют. 1933 у Вільні. Адразу пасля выхаду 1-га нумару выданне было забаронена польскімі ўладамі. Арыштаваны савецкімі ўладамі. Загінуў у 1944.

**КЕРНАЖЫЦКІ Канстанцін Іванавіч** [25.9(8.10).1902, в. Выдранка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 28.2.1942, Канск Краснаярскага края, ГУЛАГ], гісторык. У 1926 скончыў БДУ. З 1930 працаваў у Інстытуце гісторыі БелАН, адначасова выкладаў у БДУ. Кандыдат гістарычных навук (1934), дацэнт. Даследаваў аграрную гісторыю Беларусі XVIII — пачатку XX ст. Адзін з укла-

дальнікаў зборніка дакументаў «Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах» (т. 1. Мн., 1936). Арыштаваны 11.12.1937. 14.5.1939 асуджаны на 8 гадоў зняволення ў лагерах. Памёр у лагерным шпіталі. Рэабілітаваны 5.6.1958.

Тв.: Аграрная рэформа ў Бабруйскім старостве і эканамічнае становішча яго насельніцтва з XVII да паловы XIX ст. Мн., 1931; Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі перад імперыялістычнай вайной. Мн., 1932; Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі ў канцы XVIII і першай палове XIX ст.: (Да праблемы разлажэння феадалізму ў Беларусі). Мн., 1935.

Літ.: *Токарев Н.* «Его работы сохраняют свою научную ценность» // *Навіны Беларускай Акадэміі навук*. 1992, 25 верас.; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**КІЙКО Мікалай Фёдаравіч** [жн. 1902, в. Гарадзея Нясвіжскага пав. Мінскай губ. — ?], музейны работнік. У 1930—35 быў навуковым супрацоўнікам Музея рэвалюцыі. Арыштаваны 2.12.1935 па абвінавачванні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці. Асуджаны 1.7.1936 на 3 гады зняволення. Пакаранне адбываў ва Ухтпечлагу (Варкута і Чыб'ю Комі АССР). Далейшы лёс невядомы. Рэабілітаваны 30.5.1989.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Гужалоўскі А.* Музеі Беларусі (1918—1941 гг.). Мн., 2002.

**КІПЕЛЬ Яўхім Яўсеевіч** [крыптанімы: К-ль; Я.К-ль; 25.12.1895(7.1.1896), в. Байлюкі Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускі р-н Магілёўскай вобл. — 27.7.1969, ЗША], грамадскі і паліт. дзеяч, педагог, публіцыст. З 1915 удзельнік 1-й сусветнай вайны, скончыў 2-ю Кіеўскую ваенную школу прапаршчыкаў. З 1918 у Чырвонай Арміі. З 1921 у Мінску, член Навукова-тэрміналагічнай камісіі пры Наркамасвеце БССР. Вучыўся ў БДУ (скончыў у 1926), у 1922—27 выкладаў бел. мову і прыродазнаўства ў школах Мінска. З 1926 сакратар аддзела прыроды і народнай гаспадаркі Інбелкульта, адначасова лектар на педкурсах у Мінску. Са студз. 1928 аспірант БДУ, у кастр. 1929 выключаны па ідэалагічных матывах. З сак. 1930 выкладчык Мінскіх педкурсаў пры педтэхнікуме. Арыштаваны ДПУ БССР 28.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; паводле пастановы Калегіі АДПУ СССР ад 10.3.1931 высланы ў Налінск Вяцкай вобл. на 5 гадоў. Паўторна арыштаваны ў Арле ў снеж. 1935; асуджаны на 5 гадоў лагераў. Вызвалены ў снеж. 1940. Пасля вызвалення настаўнічаў у Саратаве. У пачатку 1942 мабілізаваны ў Чырвоную Армію. З чэрв. 1942 у Мінску. Супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Працаваў у Інспекцыі беларускіх школ, Беларускай народнай самапомачы. Рэдагаваў газ. «Голас вёскі». З 1944 кіраўнік навуковага аддзела БЦР. На 2-м Усебеларускім кангрэсе абраны яго стар-

шынёй. З сярэдзіны 1944 у Германіі. Падрыхтаваў да друку кнігу ўспамінаў пра савецкія лагеры «З іхняга раю». З 1950 у ЗША, з 1951 уваходзіў у Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі, стварыў Аб'яднанне беларускіх вязняў савецкіх лагераў. Публікаваўся ў бел. эмігранцкай прэсе. Успаміны К. захоўваюцца ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) у Нью-Йорку. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Тв.: Шляхі да паляпшэння чалавечага роду // *Полымя*. 1927, № 2; Як нас вучылі // *Запісы БІНІМ*. 1977. Т. 15; Эпізоды. Нью Ёрк, 1998.

Літ.: *Ляхоўскі У*. Пра Яўхіма Кіпеля // *Спадчына*. 1995, № 3; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**КІРЖНІЦ Абрам Давыдавіч** [3(15).8.1887, Бабруйск — 15.4.1940], бібліёграф, гісторык, журналіст. Вучыўся ў камерцыйным вучылішчы; працаваў прыватным настаўнікам. У 1910 уступіў у Бунд. Удзельнік 1-га Усерасійскага з'езда па бібліятэчнай справе (1911). За рэвалюцыйную дзейнасць неаднаразова арыштоўваўся; у 1915 высланы ў Сібір. Супрацоўнічаў з іркуцкай газ. «Сибирь»; даследаваў перыядычны друк Сібіры. У перыяд грамадзянскай вайны ў Расіі выехаў у Харбін (Кітай), займаўся журналістыкай. З 1924 у Маскве, загадчык аддзела бібліяграфіі газ. «Дер Эмес». Удзель-

нічаў у падрыхтоўцы «Сибирской советской энциклопедии». Складальнік кніг «Еврейский рабочий» (т. 4, ч. 1, 1927) і «Еврейское рабочее движение: Обзор, материалы и дакументы» (1928). Даследаваў яўрэйскую прэсу Беларусі і СССР; гісторыю Бунда. Пісаў успаміны. Арыштаваны ў 1938. Вызвалены ў пачатку 1940.

Тв.: У порога Китая. М., 1924; В годы империалистической войны: Очерк рабочего движения России. М., 1924; Ленский расстрел. М., 1925; Еврейская пресса в Советском Союзе (1917—1927). Мн., 1928; Еврейская пресса в Белоруссии (1917—1927). Мн., 1929; Еврейская пресса в бывшей Российской империи (1823—1916). М., 1930; У няволі буржуазнага нацыяналізму // *Бальшавік Беларусі*. 1928, № 3.

Літ.: *Киржниц Д.А.* Библиограф демократической печати // *Советская библиография*. 1987, № 6; *ЭГБ*, т. 4.

**КІРКЕВІЧ Антон Паўлавіч** [1871 — 1.11.1937, Мінск, НКВД], праваслаўны святар, протаіерэй Мінскай епархіі, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Скончыў духоўную праваслаўную семінарыю. У 1926 служыў у Мінскім кафедральным саборы. Удзельнік з’езда прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства і вернікаў Мінскай епархіі 9—10.7.1927. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 2-й палове 1930-х г. служыў у царкве св. Марыі Магдаліны ў Мінску. 28.7.1937 арыштаваны

НКВД. Прыгавораны да смяротнага пакарання і расстраляны.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Синодик за веру и церковь Христову пострадавших в Минской епархии (1918—1951)* / Составил священник Федор Кривонос. 1996.

**КІРКОР Адам Ганоры** [псеўданімы і крыптанімы: A.K.; A.H.K.; J. ze Ś.; J. ze Śliwina; Jacek ze Śliwina; Jan ze Śliwina; K.A.H.; Sobarri; Tułacz Sobarri; Wydawca Albumu Wileńskiego; 1818, в. Слівіна Мсціслаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Манастыршчынскі р-н Смаленскай вобл., Расія — 1886, Кракаў], гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец. У 1832—34 вучыўся ў Магілёўскай і Віленскай гімназіях (апошнюю скончыў экстэрнам у 1838). Паступіў на службу ў Віленскую казённую палату, дзе працаваў да 1864. Адначасова займаўся літаратурнай і навуковай працай. У 1843 выдаваў альманах «Radegast», у 1845—46 альманах «Pamiętnik umysłowy». У 1849 стаў членам Віленскага статыстычнага камітэта, у 1850—54 рэдагаваў «Памятные книжки Виленской губернии». Праводзіў актыўныя археалагічныя раскопкі ў Беларусі і Літве, даследаваў каля 1000 курганоў. З 1855 член Віленскай археалагічнай камісіі, кіраўнік Віленскага музея старажытнасцяў, якому ахвяраваў свае калекцыі. У 1856 стаў членам-карэспандэнтам Імператарскага археалагічнага таварыства;

з 1857 член Рускага геаграфічнага таварыства. У 1857—58 выдаваў неперыядычны зборнік «Teka Wileńska», забаронены пасля публікацыі ліста вядомага гісторыка і паліт. эмігранта І.Лялявеля. Публікаваў «Pismo zbiorowe Wileńskie» (1859, 1862). У 1859 заснаваў уласную друкарню, якая выдала шмат навуковых і мастацкіх кніг. З 1860 выдаваў і рэдагаваў газ. «Кур'ер Віленскі» (на польскай і рускай мовах). У 1863 прыцягваўся да следства ў сувязі з удзелам у паўстанні яго жонкі А.Маеўскай, на варшаўскай кватэры якой хаваўся кіраўнік паўстанцкага ўрада Р.Траўгут. К. страціў магчымасць працаваць у Вільні; пераехаў у Пецярбург. Там разам з М.Юматавым у 1868—71 выдаваў газ. «Новое время». З 1872 у Кракаве выдаваў літаратурна-навуковыя альманахі «Na dziś» (1872) і «Teka Krakowska» (1884). З 1873 член Акадэміі ўмеласці ў Кракаве.

Тв.: Историко-статистические очерки Виленской губернии. Т. 1—2. Вильна, 1852—1853; Этнографический взгляд на Виленскую губернию // *Этнографический сборник, издаваемый РГО*. СПб, 1858. Вып. 3; Przechadzki po Wilnie i jego okolicach. Wilno, 1862 (2 wyd. 1859; 3 wyd. 1865); O literaturze pobratymczych narodów słowiańskich. Kraków, 1874; Живописная Россия. Т. 3. Ч. 1: Литовское Полесье. Ч. 2. Белорусское Полесье. СПб., 1882 (факсімільнае перавыд.: Мн., 1993).

Літ.: *Янчук Н.*А. К.Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; *Зямкевіч Р.* Адам Ганоры Кіркор. Вільня, 1911; *Brensztejn Michał*. Adam Honory Kirkor. Wilno, 1864; *Stolzman M.* Czasopisma wileńskie Adama Honorego Kirkora.

Kraków, 1973; *Kirkor S*. Przeszłość umiera dwa razy. Kraków, 1978; *Цішчанка І.К*. Да народных вытокаў. Мн., 1986; *PSB*; *SHP*; *БП*, т. 3; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 4.

**КІСЛЯКОЎ Іван Андрэевіч** [1895, мяст. Бобр Аршанскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Крупскі р-н Мінскай вобл. — 1955, Амутнінск Кіраўскай вобл., Расія], вучоны-аграрнік, грамадскі дзеяч, публіцыст. Паводле партыйнай прыналежнасці — эсэр. У снеж. 1918 — сак. 1919 настаўнічаў у мяст. Бобр, пасля працаваў аграномам у Сенненскім пав. У 1923 скончыў Маскоўскі межавы інстытут. З чэрв. 1923 у Наркамземе БССР, адначасова ў Інбелкульце. З 1925 дацэнт, з 1929 прафесар Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Старшыня Навуковага таварыства па вывучэнні Беларусі (Горкі). Распрацоўваў пытанні аграрнай палітыкі ў БССР, быў прыхільнікам хутарской і аднаасобнай формаў вядзення сельскай гаспадаркі. Арыштаваны 27.6.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Пастановай Калегіі АДПУ СССР ад 10.4.1931 высланы на 5 гадоў у Амутнінск. Пасля ссылкі жыў у Паўлаве-на-Ацэ, Вязьме. Мабілізаваны ў армію ў 1941; праз год камісаваны з-за хваробы. Жыў у Амутнінску. Рэабілітаваны 19.9.1960.

Тв.: Пасёлкі: Оптымум тэрыторыі і эфект землеўпарадкавання. Мн., 1928; Характеристика типов сельского хозяйства БССР и их эволюция // *Перспективный план развития*

*сельского и лесного хозяйства БССР на 1925/26—1929/30 г.* Мн., 1927.

Літ.: *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**КІТ Барыс Уладзіміравіч** [нар. 6.4.1910, Санкт-Пецярбург], вучоны, грамадскі дзеяч, публіцыст. У 1918 вярнуўся з бацькамі на іх Радзіму ў в. Агароднікі Навагрудскага пав. (цяпер Навагрудскі р-н). У 1928 скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, у 1933 фізіка-матэматычны ф-т Віленскага ун-та. З 1931 выкладчык матэматыкі ў Віленскай беларускай гімназіі, з 1939 яе дырэктар. Двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі. З восені 1939 дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі, потым школьны інспектар у Баранавіцкай вобл. З пачаткам нямецкай акупацыі нейкі час жыў на нелегальным становішчы ў мяст. Лебедзева Маладзечанскага р-на. У 1943 арганізаваў настаўніцкія семінарыі ў Маладзечне і Паставах. Заснаваў Адміністрацыйна-гандлёвы інстытут у Маладзечне. У 1944 гэтыя ўстановы былі закрыты нямецкімі ўладамі, а К. арыштаваны. Ад расстрэлу выратавалі былыя вучні. У канцы вайны выехаў у Германію. У 1945—48 вывучаў медыцыну ў Мюнхенскім ун-це і адначасова выкладаў матэматыку ў гімназіях. З 1948 у ЗША. Браў актыўны ўдзел у жыцці бел. дыяспары. Быў фундатарам многіх эмі-

францкіх бел. выданняў. З 1950 удзельнічаў у астранаўтычных праектах ЗША. Вынаходнік формулы вадароднага паліва для касмічных ракет. Аўтар першага ў гісторыі падручніка па ракетнай тэхніцы і ракетным паліве (1960), адзін з аўтараў кнігі па гісторыі савецкай касманаўтыкі (1964) і інш. З 1972 у ФРГ, прафесар матэматыкі ў Еўрапейскім аддзеле Мэрылендскага ун-та. Жыве ў Франкфурце-на-Майне. К. прысвечаны экспазіцыі ў Карэліцкім і Навагрудскім гісторыка-краязнаўчых музеях.

Літ.: *Савік Л.* Вяртанне. Мн., 1993; *Яе ж.* Космас беларуса: Жыццяпіс Б. Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта. Мн., 1996 (2 выд.: 1998); *Анішчык А.* Выбраныя Богам. Вільнюс, 1999; Інтэрв'ю В.Быкава з Б.Кітам // *Полымя*. 2002, № 3—4; *ЭГБ*, т. 4; Барыс Кіт. Юбілейны альбом. Мн., 2001.

**КЛІМОВІЧ Адольф Юстынавіч** [псеўданімы: А.Коўзан; Apanas Kouzan; 5.5.1900, в. Клюшчані Свянцянскага пав. Віленскай губ., цяпер в. Клюшчані Астравецкага р-на Гродзенскай вобл. — 24.11.1970, Вільня], грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Адзін з арганізатараў час. «Маладое жыццё». Вучыўся ў Карлавым ун-це (Прага), які скончыў у 1928. Падчас вучобы ў Празе кіраўнік аддзела міжнародных зносін Аб'яднання беларускіх сту-

дэнцкіх арганізацый. Публікаваўся ў час. «Студэнцкая думка». У 1932—39 рэдагаваў гаспадарчы час. «Самапомач». Дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, у 1939—40 удзельнічаў у выданні газ. «Беларуская крыніца». Працаваў у Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры, адначасова выкладаў у Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі. Падчас вайны працаваў у Беларускай Самапомачы ў Лідзе. Арыштаваны МДБ БССР у 1952; 28.2.1953 ваенным трыбуналам Маскоўскай ваеннай акругі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. У крас. 1953 расстрэл заменены 25 гадамі зняволення. Амніставаны ў 1956; вярнуўся ў Вільню. Склаў біяграфічны слоўнік бел. культурных і паліт. дзеячаў (рукапіс у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі).

Літ.: *Саламевіч. Слоўнік псеўданімаў*, с. 183; *Казлоўскі М*. Нашчадак слаўных крывічоў // *Куфэрак Віленшчыны*. 2001. № 2; *ЭГБ*, т. 4.

**КЛІМОВІЧ Рыгор Сяргеевіч** [3.10.1924, аколіца Нова-Цярэшкавічы Гомельскага р-на — 1.7.2000, Гомель], публіцыст, паэт, мемуарыст. Перад пачаткам вайны паступіў у Гомельскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Не паспеў эвакуіравацца. У канцы 1942 перайшоў лінію фронта, шэсць месяцаў дабіраўся да Саратава, дзе раз-

мясціўся яго тэхнікум. На пачатку 1943 накіраваўся ў Маскву, дзе быў арыштаваны НКВД. З 1943 да 1947 знаходзіўся ў Свярдлоўскай калоніі. У зняволенні напісаў некалькі дзесяткаў антысталінскіх вершаў. Гэтыя вершы былі знойдзены, і ў якасці пакарання ў 1947 К. накіроўваюць у Горлаг пад Нарыльскам — лагер строгага рэжыму. У 1950 паўторна асуджаны, атрымаў 10 гадоў лагераў. З 1950 да 1953 утрымліваўся ў Нарыльскай турме. У 1953 яго зноў вяртаюць у Горлаг, дзе неўзабаве К. узначальвае паўстанне палітвязняў, якое распачалося 25.5.1953 і працягвалася сорак дзён. З канца 1953 да 1956 утрымліваўся ў турмах Уладзіміра, Іркуцка і ў Азёрлагу. У гэты перыяд яго яшчэ раз судзяць за антысавецкую дзейнасць, але па амністыі ў 1956 вызваляюць. Упершыню інфармацыя аб Нарыльскім паўстанні адкрыта прагучала ў 1991 у Кіеве на Сусветнай канферэнцыі ўкраінскіх палітзняволеных. Тады ж упершыню быў публічна названы аўтар гімна паўстанцаў «Не страшны нам тиранства большевизма» — К. Сёння гімн перакладзены на польскую, нямецкую, літоўскую і ўкраінскую мовы. З 1957 да канца 1980-х г., калі К. выйшаў на пенсію, знаходзіўся пад наглядам КДБ. Вёў актыўную, наколькі гэта было магчыма, дзейнасць па падтрымцы сувязяў паміж ветэранамі ГУЛАГу, а таксама па распаўсюджванні праўдзівай інфармацыі аб рэпрэсіях савецкага рэжыму. У 1986 падрыхтаваў рукапіс успамінаў пад назвай «Канец

Горлага». З пачатку 1990-х г. актывізаваў грамадскую дзейнасць. Стаў пастаянным удзельнікам форумаў, прысвечаных рэпрэсіям савецкага рэжыму, ладзіў публічныя выступы, публікаваўся ў сродках масавай інфармацыі. У 1993 маскоўская студыя «Лад» зняла пра К. дакументальны фільм.

Тв.: Конец Горлага. Мн., 1999; Паўстанне духу // *ЛіМ*. 1995. 2 чэрв.

Літ.: *Кваткоўскі С.* Рыгор Клімовіч // *Антысавецкія рухі*; *Яго ж*. Рыгор Клімовіч: «Я бачу новых змагароў» // *Наша Ніва*. 1998, 6 ліпеня; *Фурсевіч І.* Крывёю сэрца напісана // *Народная воля*. 2000, 8 лют.; *Пазьняк З., Старчанка У.* Памяці Рыгора Клімовіча // *Народная воля*. 2000, 8 ліп.

**КЛІНЦЭВІЧ Сямён Аляксандравіч** [крас. 1899, мяст. Трабы Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Іўеўскі р-н Гродзенскай вобл. — 7.10.1937, Мінск, НКВД], дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. У час 1-й сусветнай вайны ў бежанстве ў Самары. Удзельнік грамадзянскай вайны ў Расіі, з 1918 у Чырвонай гвардыі. Увосень 1919 быў накіраваны на курсы ў Саратаўскую партшколу. Член РКП(б) з ліст. 1921. З чэрв. 1921 у Беларусі; працаваў у Слуцку ў партыйных і савецкіх органах. У канцы 1921 накіраваны на падпольную работу ў Зах. Беларусь. З 1923 член КПЗБ. Неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі. З мая 1924 жыў у БССР. Вучыў-

ся ў Камуністычным ун-це Беларусі. З канца 1926 працаваў у Заслаўскім райвыканкаме. У чэрв. 1927 зноў накіраваны ў Зах. Беларусь. Па даручэнні ЦК КПЗБ 16.3.1928 разам з А.Капуцкім забіў М.Гурына-Маразоўскага. Арыштаваны польскімі ўладамі ў 1929; прыгавораны да пажыццёвай катаргі. З 15.9.1932 у БССР у выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і СССР. Пісаў успаміны. Прыцягваўся да допытаў у снеж. 1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Арыштаваны 21.8.1937; 5.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 11.5.1957.

Тв.: Як я расправіўся з правакатарам Гурыным // *У суровыя гады падполля: Успаміны былых членаў КПЗБ.* Мн., 1958; *ЭГБ*, т. 4.

**КЛІШЭВІЧ Уладзімір Сідаравіч** [крыптанім: Ул.К.; 27.2(12.3).1914, в. Краснадворцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 14.11.1978, Лос-Анджэлес, ЗША], паэт, публіцыст. Скончыў педагагічныя курсы ў Слуцку. Настаўнічаў. Публікаваць вершы пачаў з 1931. У 1933—36 вучыўся ў МВПІ, але скончыць яго не паспеў, бо 25.10.1936 быў арыштаваны і ў 1937 сасланы ў Верхні Ат-Урах (Калыма). У жн. 1939 вернуты ў Мінскую турму на даследаванне. У часы акупацыі жыў у Слуцку, рэдагаваў «Газэту Случчыны». Тады ж аднавіў па памяці свае творы і публікаваў іх у перыядычным друку.

Падрыхтаваў з іншымі і выдаў зборнік «Песняры Случчыны» (Слуцк, 1943). У 1944 выехаў у Германію; з 1948 жыў у ЗША. Рэдагаваў ратапрынтны час. «Беларус у Амерыцы», выкладаў у каледжы ў штаце Індыяна. У 1955 удзельнічаў у выданні эмігранцкага зборніка «Ля чужых берагоў». У паэме «Васіль Каліна» паказаў перыяд калектывізацыі, масавыя рэпрэсіі ў Беларусі. Перакладаў на бел. мову антычных, украінскіх, нямецкіх і іншых аўтараў. Неаднаразова наведваў БССР, станоўча выказваўся ў друку пра парадкі ў БССР. Бел. эміграцыя ў сувязі з гэтым наладзіла яму абструкцыю. К. збіраўся пераехаць у БССР, але раптоўная смерць перапыніла гэты намер.

Тв.: Далячынь: Вершы. Саўт-Рывер, 1964; Васіль Каліна: Паэма. Лондан, 1965; Сняцца сны мне залатыя: (Вершы). Мн., 1973; [Вершы] // *Туга па Радзіме*. Мн., 1992.

Літ.: *Сачанка Б. Сняцца сны...*; Савік Л. Веру ў народ мой смелы // *Савік Л.* Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**КЛЯШТОРНЫ Тодар Тодаравіч** [крыптанім: Т.К.; 26.2(11.3).1903, в. Парэчча Лепельскага пав. Віцебскай губ., цяпер Лепельскі р-н Віцебскай вобл. — 30.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, перакладчык. Пасля службы ў войску вучыўся на рабфаку ў Оршы. Першыя вершы апублікаваў у 1925 у час. «Аршанскі маладняк». Першы зборнік вершаў «Кляновыя завеі» выйшаў у 1927. Аўтар паэмы «Калі асядае

муць», у якой адзін з герояў сведчыў: «Мы ходзім пад месяцам і ГПУ». Пасля выйшлі зборнікі «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929), «Палі загаманілі» (1930), «Праз шторм — на штурм» (1934). Тагачасная крытыка непрыхільна сустрэла яго паэзію; К. абвінавачвалі ў багемнасці і песімізме. Член літаб'яднанняў «Маладняк», «Узвышша», БелАПП. Перакладаў рускую паэзію на бел. мову. На вершы К. напісаны песні І.Івановым, М.Равенскім. У 1931 скончыў БДУ. Працаваў на радыё, у рэдакцыях бел. газет і часопісаў. Член СП Беларусі з 1934. Арыштаваны 3.11.1936; у 1937 расстраляны. Сям'я К. саслана ў Акмолінскі лагер. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: Залатое вязьмо: Выбр. вершы. Мн., 1960; Выбр. вершы. Мн., 1970.

Літ.: *Багдановіч І.Э.* Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння. Мн., 2001; *Шушкевіч С.* Права на песню // *Шушкевіч С.* Выбр. творы: У 2 т. Мн., 1978. Т. 2.; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**КНОРЫН (Кнорыньш) Вільгельм Георгіевіч** [17(29).8.1890, б. хутар Цыелі Цэсіскага пав. Ліфляндскай губ., цяпер Цэсіскі р-н, Латвія — 29.7.1938, Масква, НКВД], савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, публіцыст, рэдактар. У 1910 скончыў настаўніцкую семінарыю ў Валміеры (Латвія). З 1910 член Сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, пазней у РКП(б). У час 1-й сусветнай вайны ў дзе-

ючай царскай арміі. У 1917 удзельнічаў у стварэнні савецкіх органаў улады на Зах. фронце. З мая 1917 сакратар Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, член яго бальшавіцкай фракцыі. У 1918 старшыня Смаленскага губ. камітэта РКП(б). У той перыяд процідзейнічаў спробам утварэння бел. дзяржаўнасці, у тым ліку і савецкай. З 1919 кіраўнік спраў Часовага рабоча-сялянскага савецкага ўрада Беларусі. 31.7.1920 ад імя КП(б)ЛіБ падпісаў Дэкларацыю аб абвяшчэнні незалежнасці ССРБ. Сакратар Цэнтральнага бюро КП(б)Б у 1920—22, 1-ы сакратар ЦК КП(б)Б у 1927—28. У 1928—35 у выканкаме Камінтэрна. З 1932 дырэктар Інстытута чырвонай прафесуры (Масква), член рэдкалегіі газ. «Правда» (1932—34), галоўны рэдактар час. «Коммунистический Интернационал» і «Большевик» (1934—37). У 1935—37 нам. загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК ВКП(б). 28.7.1938 Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР асуджаны на расстрэл. Рэабілітаваны 30.11.1955. Імем К. названа вуліца ў Мінску.

Тв.: Избранные статьи и речи. Мн., 1990.

**КОБЕЦ Рыгор Якаўлевіч** [сапр.: Сандыга Міхаіл Мусіевіч; іншыя псеўданімы: Грыша Лахматы; Гриша Лохматый; Рыгор Лахматы; 12(24).7.1898, Елісаветград, цяпер Кіравагград, Ук-

раіна — 9.9.1990, Мінск], драматург, празаік, сцэнарыст. З 1921 жыў у Мінску. Працаваў у рэдакцыі газ. «Рабочий». З 1925 член рускай секцыі «Маладняка» — «Звенья», з 1929 — «Маладняка». Член СП БССР з 1935. У 1931—37 на кінастудыі «Савецкая Беларусь» у Ленінградзе, пазней на студыі кінахронікі на Далёкім Усходзе. Аўтар сцэнарыяў фільмаў: «Двойчы народжаны» (1933), «Шукальнікі шчасця» (1936), «Дняпро ў агні» (1937). У 1935 стаў заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі. Арыштаваны 15.7.1938; высланы ў Хабараўск. Зноў арыштаваны 5.12.1941; пастановай Асобай нарады атрымаў 10 гадоў лагераў. Будаваў чыгункі Тайшэт-Лена, ад станцыі Наушка да Улан-Батара; потым знаходзіўся ў лагеры ў Заярску. З 1951 на пажыццёвым пасяленні ў кіргізскіх стэпах (с. Кара-Балты Фрунзенскай вобл.) без права пражывання ў сталічных і абл. гарадах. У 1958 дазволена вярнуцца ў Мінск; цалкам рэабілітаваны ў 1960. У 1967 па просьбе Кіраваградскага гісторыка-краязнаўчага музея напісаў успаміны (у тым ліку пра лагернае жыццё) «Аўтабіяграфія» (друкавалася ў Беларусі ў 1973 са скарачэннямі). Аўтабіяграфічную тэму працягнуў у аповесці «Ноеў Каўчэг» (1964). Член Саюза кінематаграфістаў Беларусі з 1967. Пахаваны на Паўночных могілках Мінска.

Тв.: Гута: П’еса ў 3 дзеях. Мн., 1970; Аўтабіяграфія // *Вытокі песні*. Мн., 1973; Ноеў Каўчэг: Старонкі з аповесці //

*ЛіМ*. 1988. 22 ліп.; Ноев Ковчег: Повесть // *Нёман*. 1989. № 3; Письма из ссылки (1958—1960 гг.) // *Нёман*. 1998. № 9.

Літ.: *Азгур З*. Гнеў і любоў // *ЛіМ*. 1969. 13 мая; *БП*, т. 3.

**КОЗЕЛ-ПАКЛЕЎСКІ Ян** [Іван Іванавіч; варыянты напісання прозвішча: Козел; Казела; падпольны псеўданім: Скала; 1837, маёнтак Сэрвач Вілейскага пав. Віленскай губ., цяпер Вілейскі р-н Мінскай вобл. — 7(19).5.1896, Бабруйск], адзін з кіраўнікоў паўстання 1863—64. Вучыўся ў Пецярбургу ў школе гвардзейскіх прапаршчыкаў і інжынернай акадэміі. Належаў да рэвалюцыйнай афіцэрскай арганізацыі. У 1859 выйшаў у адстаўку. Вучыўся ў Галоўнай вайсковай школе ў Парыжы. У 1861 вярнуўся на Радзіму; адзін з заснавальнікаў арганізацыі «чырвоных» у Мінску. З восені 1862 член Літоўскага правінцыйнага камітэта. З пачаткам паўстання па даручэнні К.Каліноўскага ездзіў у Пецярбург і Маскву дзеля ўзгаднення планаў сумеснага выступлення з З.Серакоўскім і Л.Звяждоўскім. З крас. 1863 паўстанцкі камендант Варшавы. З восені 1863 ваенны начальнік Аўгустоўскага і Гродзенскага ваяв. Са снеж. 1863 — начальнік 3-га корпуса паўстанцкіх узброеных сіл. Пасля падаўлення паўстання эміграваў у Францыю. Удзельнічаў у франка-прускай вайне. Вярнуўся ў Расію ў 1872. Быў арыштаваны, распачалося

следства. Паказанні К. ў Віленскай следчай камісіі — важная гістарычная крыніца аб паўстанні (Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літвы. Ф. 432, спр. 1352—D). Сасланы ў Сярэднюю Азію. З 1883 на Радзіме. Памёр у Бабруйску.

Літ.: *Gieysztor J.* Pamiętniki z lat 1857—1865. T. 1. Wilno, 1913; *Кісялёў Г.* Радаводнае дрэва. Мн., 1994; *ЭГБ*, т. 4.

**КОЛАС Якуб** [сапр.: Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч; іншыя псеўданімы: Агарак; К.Адзінокі; К.Альбуцкі; Андрэй «сацыяліст»; К.Белорус; Тамаш Будава; Ганна Груд; Тарас Гушча; Дземяноў Гуз; Пятрусь Дзягель; Дзядзька Карусь; Дубовы Ліст; Ганна Крум; Кудесник; Карусь Лапаць; Левы; Лесавік; Марцін з-за рэчкі; Мікалаевец; М.Міцкевіч; Наднеманец; Народный учитель; Свой чалавек; Стары шут; Иван Торба; крыптанімы: Т.Г.; К.; Я.К-с; К.М.; К.П-ій і інш.; 22.10(3.11).1882, засценак Акінчыцы Мінскага пав., з 1971 у межах Стоўбцаў Мінскай вобл. — 13.8.1956, Мінск], паэт, празаік, драматург, крытык, публіцыст, перакладчык, педагог, грамадскі дзеяч. Адзін з заснавальнікаў сучаснай бел. літаратуры і літаратурнай бел. мовы. За рэвалюцыйную прапаганду настаўнік К. у 1906 быў пераведзены з Пінкавічаў Пінскага пав. ў Верхменскае народнае вучылішча Ігуменскага пав. За актыўны ўдзел у нелегальным настаўніцкім з’ездзе 9—10.7.1906 у в. Мікалаеўшчы-

на (цяпер Стаўбцоўскі р-н) пазбаўлены права працаваць у школе. Зімой 1906—07 у леснічоўцы Смалярня адкрыў нелегальную школу. У маі-чэрв. 1907 быў загадчыкам літаратурнага аддзела газ. «Наша ніва», але паводле загаду паліцыі мусіў пакінуць Вільню. 15.9.1908 выязная камісія Віленскай судовай палаты ў Мінску асудзіла К. на 3 гады зняволення, якое ён адбываў у Мінскай турме. У 1917 ад БСГ выстаўляўся кандыдатам у дэпутаты Устаноўчага сходу Расіі. Ужо ў савецкі час у 1925 у К. быў праведзены вобыск, а потым і допыт у сувязі з т. зв. «лістападаўскай справай» на Случчыне. У 1930-я г. савецкая крытыка абвінаваціла К. ў нацыянал-дэмакратызме, у прапагандзе ідэі бяскласавасці бел. нацыі, знаходзіла ў яго творах ідэалізацыю хутарской гаспадаркі і апяванне месіянскай ролі інтэлігенцыі. Сваякі К. былі рэпрэсаваны. У 1937 пагроза арышту навісла над самім К. Яго выклікалі на допыты; 6.2.1938 у яго доме зноў правялі вобыск. У самы апошні момант было прынята рашэнне не арыштоўваць К.

Тв.: Зб. тв: У 14 т. Мн., 1972—1978.

Літ.: *Адамовіч* [Антон]. Якуб Колас у супраціве саветызацыі. Мюнхен, 1955; *З жыццяпісу Якуба Коласа*: Дакументы і матэрыялы. *Укл. Кісялёў Г.* Мн., 1982; *Мушынскі М.* Якуб Колас: Летапіс жыцця і творчасці. Мн., 1982; *Якуб Колас: Бібліяграфічны паказальнік*. Мн., 1983; *Скаруліс С.* «Лістападаўская справа» і Якуб Колас // *Полымя*. 1992. № 11; *Міцкевіч М*. Якуб Колас: Жыццёвы шлях і творчасць // *Маладосць*. 1992. № 11.

**КОНТАЎТ Мечыслаў** [1908, мяст. Петрыкаў Мазырскага пав. Мінскакй губ., цяпер горад Гомельскай вобл. — ліст. 1943, Міншчына], бел. паліт. і культурны дзеяч. Перад 2-й сусветнай вайной жыў і вучыўся ў Варшаве, браў актыўны ўдзел у бел. культурным жыцці, арганізоўваў бел. тэатральныя пастаўноўкі. Сябра Беларускага камітэта ў Варшаве ў 1941. З канца 1941 займаў пасаду старшыні Менскага пав. Прымаў удзел у нацыянальным падполлі. Восенню 1943 разам з сям'ёй меркаваў вярнуцца ў Варшаву, але напярэдадні ад'езду быў забіты савецкімі партызанамі.

Літ.: *Ёрш С.* Вяртаньне БНП: Асобы і дакумэнты Беларускай Незалежніцкай Партыі. Менск; Слонім, 1998. С. 95.

**КОПАЦЬ (КОПЭЦЬ) Юзаф** [16.5.1762, Пінскі пав. — 1827, Варшава (?)], ваенны дзеяч, удзельнік паўстання 1794, этнограф, падарожнік. Сын пінскага ротмістра Станіслава К. і яго жонкі Ганны з Гаслаўскіх. Першапачатковую адукацыю атрымаў дома. У 16 гадоў пайшоў на ваенную службу ў Пяцігорскую брыгаду ВКЛ. Даслужыўся да паручніка, перайшоў на службу ў расійскую армію. У чыне брыгадзіра змагаўся ў шэрагах паўстанцаў 1794. Вызначыўся мужнасцю і талентам стратэга. У бітве пад Мацеёвіцамі быў паранены і трапіў у палон. Знаходзіўся ў турмах Кіева і Смаленска. Асуджаны як дэзерцір расійскай арміі і сасланы

на Камчатку, дзе знаходзіўся каля 2 гадоў. Пасля ўступлення на трон Паўла І вызвалены, вярнуўся на Радзіму, жыў у Вільні, Нясвіжы, на Валыні. Пасля яго смерці быў апублікаваны на польскай мове галоўны твор К. «Дзённік падарожжа праз цэлую ўздоўж Азію сушай да парта Ахоцка, акіянам праз Курыльскія астравы да ніжняй Камчаткі і адтуль назад да таго ж порта на сабаках і аленях» (Вроцлаў, 1837). Паколькі ў кнізе падрабязна апісаны быт і звычаі камчадалаў, чукчаў, якутаў і іншых народаў Далёкага Усходу, яна мае навукова-этнаграфічную каштоўнасць і таму некалькі разоў перавыдавалася (Берлін, 1863; Парыж, 1867; Львоў, 1867), была перакладзена на французскую і рускую («Исторический вестник». 1896. Т. 66) мовы.

Літ.: *PSB*

**КОРЗАН Тадэвуш Сільвестр** [Korzon; 28.10(9.11).1839, Мінск — 8.3.1918, Варшава], гісторык, публіцыст. У 1855 скончыў Мінскую гімназію, у 1859 Маскоўскі ун-т. Выкладаў гісторыю ў Ковенскай гімназіі. У 1861 сакратар камісіі па сялянскіх справах. Арыштаваны ў 1861 за ўдзел у антыўрадавых маніфестацыях. Падчас вобыску ў яго быў знойдзены «Праект неадкладнага надзялення сялян уласнасцю», аўтарства

якога было памылкова прыпісана К. У 1862 прыгавораны да смяротнага пакарання, потым замененага 5 гадамі высылкі ва Уфу і ў Арэнбург. Пасля вызвалення з 1857 жыў у Пётркуве, з 1869 у Варшаве. Працаваў выкладчыкам у розных навучальных установах і прыватным настаўнікам. У 1897 стаў дырэктарам бібліятэкі Замойскіх, атрымаў добрыя ўмовы для даследчай працы. Аўтар манаграфій, падручнікаў па ўсеагульнай гісторыі, артыкулаў па тэорыі і метадыцы гістарычнага даследавання, гістарыяграфіі. У 1889—1901 член рэдкалегіі і аўтар многіх артыкулаў «Вялікай універсальнай ілюстраванай энцыклапедыі». Адзін з ініцыятараў стварэння ў 1905 час. «Przegląd historyczny»; у 1907 — Таварыства аматараў гісторыі.

Тв.: Kościuszko: Biografia z dokumentów wysnuta. 2 wyd. Kraków, 1894; Dola i niedola Jana Sobieskiego. T. 1—3. Kraków, 1898; Mój pamiętnik przedhistoryczny. Kraków, 1912.

Літ.: *Włodarczyk J.* Tadeusz Korzon: Główne koncepcje historyczne i historiograficzne. Łódź, 1958; *Bielecki M.* Działalność Tadeusza Korzona w zakresie dziejów wojskowości // *Studia z dziejów polskiej historiografii wojskowej*. T. 1. Poznań, 1975; *PSB*; *SHP*; *АЗБ*; *ЭГБ*, т. 4.

**КОРЧЫК Павел** [сапр.: Лагіновіч Іосіф Каятанавіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: Сямён Корчык; Павел; Сямён; Паўлючонак; Іосіф Ян-

коўскі; Іосіф Янушкевіч; Я.Л-віч; П.К.; Я.Л.; 14(26).2.1891, в. Заўшыцы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Салігорскі р-н Мінскай вобл. — 15.4.1940, Мінск, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, публіцыст. У 1907 скончыў Слуцкае гарадское вучылішча. Да 1912 настаўнічаў на Капыльшчыне. У 1910 увайшоў у групу прыхільнікаў БСГ. У 1912—17 служыў у арміі, удзельнік 1-й сусветнай вайны. Быў членам партыі БПС-Р. Удзельнічаў у Слуцкім паўстанні 1920. З мая 1921 да 1922 працаваў у Вільні карэктарам у бел. перыядычных выданнях. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі (БРА), рэдактар-выдавец друкаванага органа БРА газ. «Наш сцяг» («Вольны сцяг»). Пасля аб'яднання 30.12.1923 БРА з КПЗБ кааптаваны ў склад ЦК КПЗБ. Арыштаваны польскімі ўладамі ў ліп. 1924 у Стаўбцах, але неўзабаве вызвалены партызанамі, і пераехаў у БССР. З восені 1924 працаваў у Бюро дапамогі КПЗБ пры ЦК КП(б)Б у Мінску. З 1925 у Польшчы. У маі 1928 на пасяджэнні ЦК КПП у Берліне арыштаваны нямецкай паліцыяй, высланы ў СССР. У сак. — жн. 1933 у Мінску, кіраваў дзейнасцю Бюро ЦК КПЗБ. Са снеж. 1933 зноў на падпольнай рабоце ў Зах. Беларусі. Публікаваўся ў час. «Бальшавік» (орган ЦК КПЗБ), «Nowy przegląd» (орган ЦК КПП), «Бальшавік Беларусі» (орган ЦК КП(б)Б), газ. «Еднасць», «Родная страха», «Наша будучыня». Арыштаваны НКВД

19.2.1936; 25.6.1936 асуджаны на 5 гадоў лагераў. Накіраваны ва Ухтапячлаг (Комі АССР). 15.3.1938 «тройкай» УНКВД па Архангельскай вобл. прыгавораны да расстрэлу. Па невядомых прычынах прысуд не выканалі. У 1938 вернуты ў Мінск. 26.10.1939 Ваенным трыбуналам прыгавораны да расстрэлу. Памёр у турме. Рэабілітаваны 31.8.1955.

Літ.: *Ладысеў У.* І.К.Лагіновіч: Нарыс жыцця і палітычнай дзейнасці // *Беларускі гістарычны часопіс*. 1996, № 3—4; *ЭГБ*, т. 4.

**КОЎШ Аляксандр** [1890, в. Рыдзялі Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — 1943, мяст. Плешчаніцы Мінскай вобл.], праваслаўны святар, публіцыст. Скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю; настаўнічаў на Століншчыне. Потым скончыў бухгалтарскія курсы і працаваў у Любліне ў аддзяленні Расійскага дзяржаўнага банка. З пачаткам 1-й сусветнай вайны эвакуіраваўся ў Разань, потым у Майкоп. Вярнуўся ў Зах. Беларусь у 1921. Пасвечаны ў святары ў Гродне; з 1925 у Вільні, настаяцель прыхода ў Шніпішках. Выкладаў Закон Божы ў Віленскай беларускай гімназіі. Выступаў у друку па пытаннях царкоўнага і грамадскага жыцця, за беларусізацыю царквы. Супрацоўнічаў з БСРГ; у сувязі з яе забаронай у 1927 арыштаваны польскімі ўладамі; апраў-

даны і вызвалены ў 1928. У 1928—29 рэдактар-выдавец царкоўна-грамадскага час. «Беларуская зарніца» і газ. «Народная ніва» (з 5.1.1928). Кіраўнік секцыі Чырвонага крыжа пры Беларускім цэнтры. Быў пазбаўлены ўладамі месца настаяцеля Пятніцкай царквы; адпраўлены святаром у в. Кастылі Вілейскага пав. Вярнуўся ў Вільню ў 1939, быў настаяцелем царквы св. Мікалая. У 1941, з пачаткам вайны, прызначаны ў выдавецкую камісію пры мінскім архірэі. Удзельнічаў у выратаванні яўрэяў, за што быў арыштаваны гестапа ў г.п. Плешчаніцы і там расстраляны. Паводле іншай версіі, стаў ахвярай інтрыг бел. паліт. груповак.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *ЭГБ*, т. 4.

**КРАСІНСКІ Мікалай Фаміч** [1891, Вілейка Віленскай губ., цяпер Мінскай вобл. — 23.11.1938, НКВД], тэатральны дзеяч, удзельнік хрысціянскага руху. Паходзіў са шляхецкай сям'і. Скончыў 1-ю гімназію ў Вільні і юрыдычны ф-т Пецярбургскага ун-та (1915). З 1920 жыў у Вільні. Працаваў настаўнікам і інспектарам у Віленскай духоўнай праваслаўнай семінарыі. Адначасова знаходзіўся на службе ў праваслаўнай духоўнай семінарыі. У асяроддзі віленскіх бел. дзеячаў празваны «архімандрытам». У 1922—24 выкладаў у Віленскай беларус-

кай гімназіі. Адзін з кіраўнікоў і арганізатараў «Беларускай драматычнай майстроўні», дзе ў 1922 паставіў спектаклі «У зімовы вечар» паводле Э.Ажэшкі і «Лес шуміць» паводле У.Караленкі. У 1923 эміграваў у БССР. Працаваў у Наркамаце асветы БССР. З 1925 нам. старшыні секцыі мастацтва і старшыня тэатральнай секцыі Інбелкульта. У 1926—28 дырэктар БДТ-2; з 1928 — вучоны сакратар Беларускага дзяржаўнага музея. Пісаў аб праблемах культуры ў Зах. Беларусі (у тым ліку ў зборніку «Беларускае мастацтва»). Арыштаваны ДПУ БССР 14.3.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». На 5 гадоў высланы ў Шадрынск. У 1935 пераехаў у Сарапул. Другі раз арыштаваны 12.6.1938. «Тройкай» НКВД Туркменскай ССР 30.10.1938 прысуджаны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1960.

Літ.: *Лабовіч А.* Тэатр змагання. Мн., 1969; *Гарбінскі БРД*.

**КРАСКОЎСКІ Іван Ігнатавіч** [псеўданім: Кій; 24.6.1880, в. Дубічы Бельскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Падляшскае ваяв., Польшча — 23.8.1955, Браціслава, Славакія], паліт. дзеяч, публіцыст, педагог. Скончыў Пецярбургскі ун-т. Працаваў у Кіеве ў Зямельным саюзе. Член БСГ; БСДП. У вер. 1917 на з’ездзе народаў у Кіеве прадстаўляў бел. нацыянальныя арганізацыі. Арыштаваны бальшавікамі 18.12.1917. У 1918 уваходзіў у

склад урада Украінскай Народнай Рэспублікі (УНР); быў паслом УНР у Грузіі. У 1920 старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні. З 1922 дырэктар Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі (Даўгаўпілс, Латвія). З лета 1925 у Мінску, працаваў у БДУ, Інбелкульце (потым БелАН). Старшыня сацыяльна-культурнай секцыі і член прэзідыума Дзяржплана БССР. З 1930 у Дзяржплане СССР. У перыёдыцы быў змешчаны анонс яго кнігі «Гісторыя Беларусі». Арыштаваны АДПУ СССР 8.7.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Этапаваны для следства ў Мінск. Пастановай Калегіі АДПУ ад 10.4.1931 сасланы на 5 гадоў у Самару. Зноў арыштаваны НКВД СССР 4.11.1937. Рашэннем ад 4.3.1940 тэрмін папярэдняга зняволення залічаны ў тэрмін адбывання пакарання; вызвалены 19.3.1940. Пасля вайны выехаў у Чэхаславакію да дачкі, якая працавала ў музеі ў Брацілаве. Рэабілітаваны 10.6.1988.

Тв.: На порозі нового життя // *Літературно-науковій вістнік*. К., 1919.

Літ.: *Міхнюк У.* «Невінаватым ад нас не выйдзеш...» // *Беларуская мінуўшчына*. 1995, № 6; *Возвращенные имена*; *ЭГБ*, т. 4.

**КРАЎЦОЎ Макар** [сапр.: Косцевіч Макар Мацвеевіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: Дзын-Дзылін; Звончык; Макар; Язэп Светазар; Picolo;

Smreczyński; З-ык; К.М.; Кр.М.; М.К.; 6(18).8.1891, в. Баброўня Гродзенскага пав., цяпер Гродзенскі р-н — сн. 1939, Беласток, НКВД], грамадскі і паліт. дзеяч, паэт, публіцыст, крытык, перакладчык. У 1910 скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю; настаўнічаў на Гродзеншчыне. З 1915 у дзеючай арміі; ад Паўднёва-Зах. фронту абраны дэлегатам 1-га Усебеларускага з'езда 1917. У 1917—19 у Мінску падрыхтаваў да друку «Беларускі лемантар». У 1918 пачаў літаратурную дзейнасць. З 1918 член БПС-Р. Пасля ўтварэння ў 1919 Міністэрства беларускіх спраў у Літоўскім урадзе ствараў органы ўлады ў Сакольскім пав. Гродзенскай губ. Са снеж. 1919 уваходзіў у склад Беларускай вайсковай камісіі. 30.10.1919 у газ. «Беларусь» пад назвай «Ваяцкі гімн» апублікаваў верш «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які быў пакладзены на музыку У.Тэраўскім і стаў гімнам БНР. Удзельнічаў у Слуцкім паўстанні 1920, у Першай Усебеларускай палітычнай канферэнцыі ў Празе (вер. 1921). З 1921 жыў у Вільні, займаўся літаратурнай і грамадскай дзейнасцю, настаўнічаў. У крас. 1923 выдаў час. «Саха», які быў забаронены пасля 1-га нумара. У 1926 арыштаваны польскімі ўладамі. У Вільні выйшлі перакладзеныя К. на бел. мову кнігі М.Лермантава, А.Купрына, А.Талстога, М.Гогаля, М.Твэна і інш. З кастр. 1939 працаваў у рэдакцыі газ. «Віленская праўда». Арыштаваны ў кастр. 1939 разам з іншымі бел. паліт. дзеячамі. Загінуў у зняволенні.

Літ.: *Цыхун А.* Лёс Макара Краўцова // *ЛіМ*. 1992, 3 крас.; *Гесь А.* Макар Краўцоў пра Усебеларускі з'езд // *Спадчына*. 1996, № 1; Ліс А. Літаратура Заходняй Беларусі // *Беларуская літаратура XX ст.* Мн., 1999. Т. 2; *БП*, т. 3; *ЭГБ*, т. 4.

**КРАЧКОЎСКІ Кліменцій Станіслававіч** [1905, в. Каселаны Холмскага пав., Польшча — 8.5.1939, ГУЛАГ], эканаміст. У 1920-я г. настаўнік Радашковіцкай беларускай гімназіі імя Ф.Скарыны. У 1926 нелегальна эміграваў у СССР. Працаваў вучоным сакратаром Савета па вывучэнні вытворчых сіл пры БелАН. 31.10.1935 выключаны з КП(б)Б. Арыштаваны 3.11.1935. Пастановай Асобай нарады НКВД СССР ад 10.4.1936 прыгавораны да 5 гадоў пазбаўлення волі. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 6.8.1957.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**КРАШЭЎСКІ Люцыян** [24.7.1820, мяст. Пружаны Гродзенскай губ., цяпер Брэсцкай вобл. — 2.2.1892, Ганятычы Грубешаўскага пав., Польшча], мастак, фатограф. Брат польскага празаіка Ю.Крашэўскага. Вучыўся ў кляштарнай школе ў Лыскаве і Свіслацкай гімназіі. Скончыў прыродазнаўчы ф-т ун-

та ў Дэрпце (Тарту). Пасля жыў у родавым маёнтку Доўгае на Пружаншчыне. Аказваў дапамогу ўдзельнікам паўстання 1863, за што быў сасланы ў Кангур Пермскай губ. Вярнуўшыся на Радзіму, прадаў Доўгае. Жыў у Варшаве і ў маёнтку сваёй жонкі Стэфаніі Ганятычах. Ілюстраваў творы свайго брата. Рабіў замалёўкі помнікаў архітэктуры і народных тыпаў на Гродзеншчыне. У ссылцы навучыўся фатаграфаваць, рабіў потым здымкі краявідаў Гродзеншчыны.

Літ.: *PSB.*

**КРУК Кузьма** [? — 1943], журналіст. Рэдактар газ. «Народны звон» у Вільні (1931). Радны Вільні ад беларусаў. Забіты акаўцамі на Дзісеншчыне.

**КРУКОЎСКІ Аляксандр Іосіфавіч** [23.2.1901, в. Зарэчча Любанскага р-на Мінскай вобл. — 2.8.1945, ГУЛАГ], геолаг. Працаваў нам. дырэктара Інстытута геалогіі БелАН, старшым гідрагеолагам Белвадгаса. Арыштаваны 8.12.1936. 30.11.1937 прыгавораны да 10 гадоў лагераў. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 30.5.1956.

Кр.: *НАРБ, ІКР.*

Літ.: *Возвращенные имена.*

**КРУНЕВІЧ Павел** (1825 (1827 ?) — 1871, Санкт-Пецярбург), публіцыст, лекар. За ўдзел у літоўска-бел. канспіратыўных арганізацыях арыштаваны ў 1849 і сасланы ў салдаты. Падтрымліваў сувязі з Т.Шаўчэнкам і З.Серакоўскім.

**КРУШЫНА Рыгор** [сапр.: Казак; іншыя псеўданімы: Алесь Апавядальнік; Кастусь Рамановіч; 20.11(3.12).1907, паводле іншых звестак 1908, в. Бязверхавічы Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 27.3.1979, ЗША], паэт, грамадскі дзеяч. Дзіцячыя гады правёў у Вільні. У 1914 сям'я выехала ў Разань. Пасля 1-й сусветнай вайны вярнуўся на Случчыну. У 1924 паступіў на Слуцкія агульнаадукацыйныя курсы; быў актывістам беларусазнаўчага гуртка. У 1925 паступіў у МБПТ. Арыштаваны разам з малодшым братам Міколам у 1925 па справе Ю.Лістапада; былі вызвалены. У 1927 паступіў у МВПІ, стаў сябрам літаб'яднання «Маладняк». Першы паэтычны зборнік «Разгон» (у сааўтарстве з С.Ракітай, В.Палескім) выдаў у 1930 у Гомелі. У 1931 у Мінску выйшаў зборнік яго вершаў «Паэзія чырвонаармейца». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны застаўся ў Беларусі. Друкаваўся ў выданнях, якія выходзілі пад акупацыяй, — «Беларуская газэта», «Беларускі работнік», «Раніца». З 1944 жыў у Германіі. У 1950—

60-я г. працаваў у Мюнхене ў бел. рэдакцыі радыё «Свабода». Потым выехаў у ЗША. Адзін з заснавальнікаў у 1951 Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Рэдагаваў час. «Конадні». Выдаў зборнікі лірыкі «Лебедзь чорная» (1947), «Выбраныя творы» (1957), «Вячэрняя лірыка» (1963), «Хвіліна роздуму» (1968), «Вясна ўвосень» (1972), «Дарогі» (1974), «Сны і мары» (1975). Пісаў паэмы, апавяданні, крытычныя артыкулы; першы ў бел. паэзіі развіваў паліндром, канцону і іншыя формы верша. Падрыхтаваны ў 1979 зборнік «Рэквіем» застаўся ў рукапісе. К. стаў першым бел. пісьменнікам, які ў час знаходжання ў ЗША быў прыняты ў сябры Міжнароднага ПЭН-клуба.

Літ.: *Акулін Э.* Рыгор Крушына // *Родник*. 1992, № 5, 6; *Рагойша В.* Душа беларуса — крышталь... // *Беларусь*. 1993, № 6; *Скобла М.* На акропалі казачных сноў: Нататкі пра Рыгора Крушыну // *Роднае слова*. 1993, № 8; Савік Л. І ты адтуль, мая вясна // *Савік Л.* Пакліканыя. Літаратура беларускага замежжа. Мн., 2001.

**КРУШЫНСКІ Тадэвуш** [псеўданім: Праўдзіч; сярэдзіна XVIII ст., Полаччына — 1-я палова XIX ст., Нерчынск ?], паэт. Працаваў аканомам у Лідзе. Прыхільнік ідэй Французскай рэвалюцыі. Пісаў на польскай мове. Распаўсюджваў свае антыцарскія вершы («Адказ цара Палену») ананімна і пад

псеўданімам. Пагражаў здраднікам пакараннем. Арыштаваны ў канцы XVIII ст. Атрымаў у Вільні 25 удараў нагайкай, на плячо кат паставіў яму кляймо распаленым жалезам. Закаваны ў кайданы і адпраўлены ў Нерчынск на капальні. Вершы захаваліся ў перакладзе на рускую мову, зробленым пісарам.

Літ.: *Мальдзіс, На скрыжаванні...* С. 265—267.

**КРЫВІЧАНІН Леанід** [сапр.: Савёнак Леанід Вікенцевіч; іншы псеўданім: Л.Свэн; 26.6.1897, в. Вялец Дзісенскага пав. Віленскай губ., цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл. — 21.2.1974, Памон, ЗША], пісьменнік, журналіст. У 1917 скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Быў прызваны ў царскае войска, дзе знаходзіўся да снеж. 1917. Потым працаваў у Петраградзе. З 1922 у Мінску. Друкаваўся з першай паловы 1920-х. Па прапанове У.Ігнатоўскага да 1929 працаваў у газ. «Савецкая Беларусь». У 1929 апублікаваў зборнік фельетонаў «Чароўная іголка». У 1930 выйшла брашура Дж.Эйтана «Школа джэнтльменаў», перакладзеная з рускай К. З ліп. 1931 працаваў у навукова-тэхнічным выдавецтве. Арыштаваны ДПУ БССР 1.9.1933 па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Паводле пастановы Калегіі АДПУ ад 9.1.1934 асуджаны на 5 гадоў лагераў. Пасля вызвалення ў 1939 вярнуўся ў Беларусь; настаўнічаў

на Крычаўшчыне. Падчас нямецкай акупацыі заставаўся ў Беларусі. Быў супрацоўнікам «Беларускай газэты». У 1944 пераехаў у Германію. Пасля вайны працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі ў лагерах для перамешчаных асоб. Удзельнічаў у выданні літаратурнага час. «Сакавік», газ. «Бацькаўшчына» (Мюнхен). З 1950 у ЗША. Браў удзел у жыцці бел. эміграцыі. Рэабілітаваны 16.8.1956.

Тв.: Беларусізацыя пад №... Нью-Йорк, 1998.

Літ.: *Пашкевіч А.* Малавядомы сатырык з Глыбоччыны // *ЛіМ*. 2001. 29 чэрв.; *Савік Л.* Творчасць Лявона Крывічаніна. Запісы БіНІМ, №24. 2001.

**КРЫНЧЫК Павел Сцяпанавіч** [5(17).9.1898, в. Едначы Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер Слонімскі р-н Гродзенскай вобл. — 22.9.1975, Слонім], дзеяч вызваленчага руху ў Зах. Беларусі, публіцыст. У 1921 скончыў Екацярынаслаўскі палітэхнікум шляхоў зносін. У 1920-я г. актыўны ўдзельнік Таварыства беларускай школы; з 1927 віцэ-старшыня Слонімскай акруговай управы ТБШ, з мая 1929 член Галоўнай управы ТБШ. У 1928 быў абраны дэпутатам польскага сейма па спісе бел. арганізацый. Адзін з арганізатараў і член Галоўнага сакратарыята клуба «Змаганне». Уваходзіў у заходнебел. аргкамітэт па падрыхтоўцы Еўрапейскага сялянскага кангрэса ў Берліне. У жн.

1930 арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 10 гадоў турмы. З вер. 1932 у выніку абмену палітвязнямі ў СССР. Працаваў на гаспадарчай рабоце. Арыштаваны НКВД БССР 26.11.1935. Паводле пастановы Асобай нарады НКВД СССР ад 1.4.1937 прыгавораны да 5 гадоў лагераў. Рэабілітаваны 30.3.1956. Жыў у Слоніме. Аўтар успамінаў.

Тв.: Як мы змагаліся за ўдзел у Еўрапейскім сялянскім кангрэсе // *У суровыя гады падполля*. Мн., 1958.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КРЭНЬ Платон Андрэевіч** [псеўданімы: Прохар Калавец, Шыпшына, Бім-Бом, Бух-Бом; 4.4.1896, фальварак Ярашэва Слонімскага пав. Гродзенскай губ., цяпер в. Ярашоўка — 23.9.1962, в. Ярашоўка], паэт, мемуарыст. Вучыўся ў Клецкай мужчынскай гарадской гімназіі (Польшча), Клецкай настаўніцкай школе (скончыў у 1913). У 1915 мабілізаваны ў войска. Накіраваны ў Пецяргофскую школу прапаршчыкаў, якую скончыў у 1916 з афіцэрскім чынам. Служыў у Фінляндыі ў 423-м пяхотным палку. Публікаваў вершы ў газ. «Финляндские известия». Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Чырвонай Арміі. У снеж. 1917 накіраваны на Дон. Там захварэў, трапіў у шпіталь. Потым перайшоў у Белую гвардыю генерала Каледзіна. З войскам адступіў у Крым і эвакуіраваўся ў

Турцыю. У жн. 1921 вярнуўся ў Зах. Беларусь. Жыў на гаспадарцы ў роднай вёсцы. У 1920-я г. член БСРГ. Друкаваўся пад псеўданімамі ў віленскіх бел. выданнях, ладзіў у вёсцы бел. вечарыны і спектаклі. З прыходам Чырвонай Арміі зімой 1939—40 настаўнічаў. Пісаў у абл. газ. «Звязда». Звольнены са школы з запісам «Кулак і белагвардзеец». Занесены ў спісы на дэпартацыю з Беларусі. Высылцы перашкодзіў пачатак Вялікай Айчыннай вайны. Ратаваў савецкіх акружэнцаў. Перад альтэрнатывай вывазу ў Германію на прымусовыя работы пайшоў працаваць у Баранавіцкую гарадскую ўправу. Публікаваў фельетоны ў «Баранавіцкай газэце». Падтрымліваў сувязі з партызанамі. Вясною 1943 па даносе арыштаваны СД. Быў вызвалены дзякуючы сваім фельетонам, якія спадабаліся начальству. Арыштаваны савецкай бяспекай у 1945. Асуджаны на 8 гадоў зняволення. Пакаранне адбываў ва Унжлагу МУС у Горкаўскай вобл. Пасля вызвалення ў 1953 вярнуўся ў Ярашоўку. Хварэў. Пачаў занатоўваць успаміны, выйшаў на магістральную тэму сваёй творчасці — ГУЛАГ. Пісаў па-беларуску і па-руску. Частка рукапісных твораў была выкрадзена з хаты. Літаратурная спадчына 1952—62 выдадзена пасмяротна.

Тв.: Бывай, Ярашоўка. Успаміны, нарысы, вершы / Уклад. Ірына Крэнь. Мн., 1999; Грамадзянская вайна // *Полымя*. 1998. № 5; Унжлаг // *Полымя*. 1999. № 7, 8.

*Леанід Маракоў*

**КУЗМЕНКА Міхаіл Сямёнавіч** [8.11.1915, Гомель — 12.3.1986, Полацк], праваслаўны святар, гісторык царквы, публіцыст. У 1935 скончыў Віленскую духоўную семінарыю; спяваў у хоры Р.Шырмы; вучыўся да 1939 на праваслаўным багаслоўскім ф-це Варшаўскага ун-та. Пасля паступіў у Віленскую кансерваторыю і да 1941 паспеў скончыць 2 курсы. У 1942 дыякан; у 1943 пасвечаны ў святары. У гады вайны ў Вільні; сакратар управы Свята-Духава манастыра; выкладчык і інспектар Віленскай духоўнай семінарыі. З 1945 служыў у прыходах Віленскай і Мінскай епархій. Арыштаваны ў 1951; асуджаны на 10 гадоў зняволення. Накіраваны ў лагер Інты Комі АССР. 25.5.1956 вызвалены са зняццем судзімасці. З 1958 да 1970 служыў святаром Барысаглебскай царквы ў Магілёве. Пасля настаяцель Спаса-Ефрасіннеўскага храма ў Полацку. Кандыдат багаслоўя (1971). Аўтар публікацый па гісторыі праваслаўнай царквы. Рэабілітаваны 28.11.1978.

Літ.: *ЭГБ,* т. 4.

**КУКАБАКА Міхась** [у зах. прэсе Mikhail Kukobaka; нар. 3.12.1936, Бабруйск], праваабаронца, публіцыст. Выхоўваўся ў дзіцячым прытулку, скончыў рамесніцкае вучылішча, накіраваны на работу ў Сібір. Пасля пераязджаў у розныя рэгіёны СССР. КДБ вызначыў, што ён шукае кантактаў з зах.

карэспандэнтамі. 14.4.1970 арыштаваны. Падчас вобыску знайшлі яго «Адкрыты ліст англійскаму пісьменніку Айвару Мантэгю» ў абарону Анатоля Кузняцова, аўтара «Бабьего яра». Гэта быў адказ К. на паклёпніцкую публікацыю англійскага літаратара ў газ. «Комсомольская правда». 4.11.1970 Судовая калегія па крымінальных справах Уладзімірскага абл. суда накіравала яго на прымусовае псіхіятрычнае лячэнне (у спецпсіхшпіталь у Сычэўцы Уладзімірскай вобл., праз 3 гады пераведзены ва Уладзімірскі псіхіятрычны шпіталь). Вызвалены ў 1976. Жыў у Маскве, потым вярнуўся ў Бабруйск. Там у 1978 напісаў свой знакаміты нарыс «Скрадзеная Бацькаўшчына», прысвечаны планавай русіфікацыі Беларусі. Запісаў на магнітную стужку тэкст гэтага нарыса, а таксама тэкст артыкула «Абарона правоў чалавека і разрадка — непадзельныя». Стужка трапіла на Захад. Тэксты нарысаў зачытваліся радыёстанцыямі «Нямецкая хваля» і «Свабода», перадрукоўваліся эміграцкімі выданнямі. Восенню 1976 і 1977 К. прымусова змяшчалі ў Магілёўскі псіхіятрычны шпіталь з дыягназам «шызафрэнія і паранаідальны сіндром». У кастр. 1978 арыштаваны, а 20—21.6.1979 у Бабруйску над ім адбыўся суд. Асуджаны на 3 гады лагераў агульнага рэжыму паводле артыкула 186-1 КК БССР. Знаходзіўся ў Наваполацкім лагеры. У зняволенні працягваў займаць актыўную грамадзянскую пазіцыю — абараняў правы зняволеных, пісаў скаргі ў пракуратуру,

праводзіў галадоўкі пратэсту. Рэакцыя карных органаў была адпаведнай. У 1982 зноў паводле артыкула 186-1 КК БССР быў прыгавораны да 3-х гадоў лагераў. 7.3.1985 атрымаў чарговы прысуд — 6 гадоў пазбаўлення волі з высылкай на 4 гады з адбываннем пакарання ў папраўча-працоўным лагеры ўзмоцненага рэжыму. У інфармаванні грамадскасці, ацэнцы становішча К. шмат зрабіў акадэмік А.Сахараў. На Захадзе была арганізаваная грамадская кампанія ў абарону К. — адпаведныя публікацыі з'явіліся ў «Нью-Йорк Таймс», інфармацыю распаўсюджвала радыё «Свабода». Бел. дыяспарай у ЗША быў створаны «Камітэт вязняў сумлення ў Беларусі». 6.12.1988 напярэдадні візіту ў ЗША М.Гарбачова ў «Нью-Йорк Таймс» была апублікавана нататка аглядальніка Разенталя пад назвай «Падарунак Гарбачова Нью-Йорку» — так было ацэнена вызваленне апошняга паліт. вязня з Пермскага лагера. У 1989 незалежная псіхіятрычная экспертыза ў Маскве засведчыла яго псіхічнае здароўе. Жыве ў Маскве.

Тв.: Украденная Родина // *Время и Мы* (Мюнхен). 1986, № 3; КГБ — социальная чума: свидетельствует жертва советского гестапо // *Содействие* (Вільнюс). 1990. № 15.

Літ.: Mikhail Kukobaka. Byelorussian Worker, Imprisoned in the Soviet Union for Defending Human Rights // *Amnesty International Campaign*. London. June 1988; *Susan Richards*. Encounters in a changing Russia. Epics of Everyday Life. London, 1989. P. 282-286; Он боролся за нас (судьба М.Кукобаки) // *Ратуша* (Магілёў). 1990. № 2; *Уліцёнак А.* Іншадумцы =

Мысляшчие иначе. Мн., 1991. С. 223—243; *Дзярновіч А.* Міхась Кукабака // *Дэмакратычная апазыцыя*.

**КУЛАКОЎСКІ Фелікс** [Kółakowski; Kułakowski; крыптанім: D.F.K.; 1799, Мазырскі пав. Мінскай губ. — 1831, Санкт-Пецярбург], паэт, філолаг. У 1818 (ці 1819) стаў студэнтам Віленскага ун-та. Падчас вучобы жыў з гувернёрства. У 1820 залічаны ў настаўніцкую семінарыю, што забяспечвала дзяржаўнай стыпендыяй. Лічыўся адным з найбольш паспяховых слухачоў філалагічнага ф-та. Атрымаў ступень кандыдата філасофіі. У Таварыстве філарэтаў быў радцам Блакітнага саюза; на курсах самаадукацыі выкладаў гісторыю грэчаскай і лацінскай літаратуры. Перакладаў камедыі Арыстафана. Яго любілі за вясёлы характар. Пісаў вершы, якія дэкламаваў на сустрэчах філарэтаў. Тэксты вершаў захоўваў С.Горскі, які знішчыў іх у 1840 перад пагрозаю рэпрэсій. Пісаў таксама песні. Паводле ўспамінаў Асташэўскага К. прыпісваецца аўтарства папулярнай на Віленшчыне «шэйне-катрынкі» — куплетаў пра універсітэцкую прафесуру. Пасля спынення дзейнасці філарэтаў належаў да паэтычнага гуртка «Касталя». Арыштаваны 23.10.1823 разам з іншымі філарэтамі; зняволены ў базыльянскіх мурах у Вільні, дзе кантактаваў з А.Міцкевічам, пра што згадваецца ў 3-й частцы «Дзядоў». Прыгавораны да выгнання з Радзімы. Выка-

заў жаданне вывучаць усх. мовы і быў накіраваны ў Казанскі ун-т. Прыняты ў Педагагічны інстытут пры ун-це, знаходзіўся пад адміністрацыйным наглядам. З-за кепскага стану здароўя мусіў перапыніць вучобу. Просьбы аб дазволе вярнуцца на Радзіму не былі задаволены. У пачатку 1830 выехаў у Пецярбург, дзе і памёр. Паспеў падрыхтаваць да друку з уласным уступам лісты Ю.Кавалеўскага з падарожжа па Сібіры («Tygodnik Petersburgski», 1830, № 17 і 18).

Тв.: Listy i wiersze Feliksa Kółakowskiego / Przyg. H. Łopaciński // *Księga pamiątkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzenia A. Mickiewicza.* Warszawa, 1899. T. 1.

Літ.: Proces filaretów w Wilnie // *Archiwum do Dziejów Literackich*. Kraków, 1890; *Z filareckiego świata* / Wyd. H. Mościcki. Warszawa, 1924; *PSB*, z. 64.

**КУЛЬБАК Майсей Саламонавіч** [13(25).3.1896, мяст. Смаргонь Ашмянскага пав. Віленскай губ., цяпер Гродзенскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], паэт, празаік, драматург. Вучыўся ў Валожынскім ешыбоце. У сувязі з пачаткам 1-й сусветнай вайны ў 1914 пераехаў у Мінск. Экстэрнам здаў экзамен на званне народнага настаўніка. Працаваў у школах і гімназіях Смаргоні, Мінска, Вільні. Пачаў публікавацца з 1916. Прыхільна сустрэў Кастрычніцкую рэвалюцыю, якой прысвяціў пафасную паэму «Горад» (1919). У 1919

К. знаходзіўся ў Вільні, трапіў пад польскую ўладу. З 1920 да 1927 жыў у Вільні і Берліне. Вярнуўся ў Мінск у 1928. Працаваў у рэспубліканскіх газетах; у яўрэйскім сектары БелАН. Член СП Беларусі з 1934. Перакладаў на ідыш творы Я.Коласа і Я.Купалы. Арыштаваны 11.9.1937. У кастр. 1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 15.12.1956.

Тв.:Выбр.. Мн., 1970; Зельманцы: Раман. Мн., 1960.

Літ.: *Барскі А*. Майсей Кульбак — прыгожая і трагічная кветка беларускай зямлі // *Ніва* (Беласток). 1984. 15 студз.; *Хведаровіч М*. Шчыры сябра, самабытны пісьменнік: Да 70-годдзя з дня нараджэння М. Кульбака // *ЛіМ*. 1966. 22 сак.; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 3.

**КУЛЬЧЫЦКІ Стафан Іванавіч** [1873 — 1.11.1937, Мінск, НКВД], праваслаўны святар, протаіерэй Мінскай епархіі, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Скончыў духоўную праваслаўную семінарыю. Удзельнік з'езда беларускага праваслаўнага духавенства ў Маскве ў 1917. Прадстаўляў бел. святарства Мінскай епархіі на Памесным саборы ў 1917—18. З крас. 1918 як прадстаўнік Камітэта Мінскага беларускага прадстаўніцтва ўвайшоў у склад Рады БНР. Працаваў у Камісіі па міжнародных справах БНР. Абраны ў выканаўчы камітэт Мінскага беларускага прадстаўніцтва. З 1926 служыў у Петрапаўлаўскай (Кацярынінскай) царкве ў Мінску. Удзельнік з'езда

прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства і вернікаў Мінскай епархіі 9—10.7.1927. Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. У 1930-я г. служыў у царкве св. Марыі Магдаліны ў Мінску. 28.7.1937 арыштаваны НКВД. Прыгавораны да смяротнага пакарання і расстраляны.

Літ.: *Гарбінскі БРД*; *Синодик за веру и церковь Христову пострадавших в Минской епархии (1918—1951)* / Составил священник Федор Кривонос. Киевиц, 1996; *Юрэвіч Л.* Вырваныя бачыны: Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі. Мн., 2001.

**КУЛЯШОЎ Фёдар Іванавіч** [псеўданімы: Хведар Вясёлы; К.Федоров; К.Фёдараў; 5(18).6.1913, в. Вялікія Стралкі Рагачоўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Рагачоўскі р-н Гомельскай вобл. — 29.12.1993, Мінск], літаратуразнавец, крытык, журналіст, педагог. У 1925—30 выхоўваўся ў дзіцячых дамах у Бабруйску і в. Пірэвічы. Пасля сканчэння ў 1931 СШ працаваў уласным карэспандэнтам газ. «Савецкая Беларусь» па Рагачоўскім р-не, адначасова ў рагачоўскай газ. «Камунар». У 1933 паступіў у Ленінградскі педагагічны інстытут, які скончыў у 1935. З восені 1935 выкладаў рускую мову і літаратуру ў Кіраўску. Па некаторых звестках арыштоўваўся ў 1935. Зноў быў арыштаваны 26.4.1938, асуджаны на 5 гадоў зняволення; знаходзіўся ў Варкутлагу. Вызвалены 26.4.1943, высланы ў Міяс Чэлябінскай вобл., дзе працаваў настаўнікам. У 1944—51 вык-

ладаў у ВНУ Чэлябінска, Кустаная, Кзыл-Арды. Літаратурна-крытычныя артыкулы публікаваў з 1946. У 1949 абараніў кандыдацкую дысертацыю. З 1951 у Мінску, дзе да 1955 працаваў у БДУ і адначасова ў Інстытуце літаратуры АН БССР. Член СП Беларусі з 1955. З 1955 да 1961 выкладаў у Паўднёва-Сахалінскім педінстытуце; рэдагаваў «Ученые записки» інстытута. Са жн. 1961 зноў у Мінску; працаваў у БДУ. Доктар філалагічных навук (1964), прафесар (1965). У 1966—69 загадваў кафедрай рускай класічнай літаратуры. З 1985 на пенсіі. Даследаваў гісторыю рускай літаратуры XIX — пачатку XX ст., сучасную бел. літаратуру.

Тв.: Жизнь и творчество Льва Николаевича Толстого. Мн., 1953; Антон Павлович Чехов. Южно-Сахалинск, 1959; Міхась Лынькоў. Мн., 1961; Міхась Лынькоў: Семінарый. Мн., 1963; Эцюды аб прозе. Мн., 1964; Іван Мележ. Мн., 1968; Літаратурныя партрэты: Літаратурна-крытычныя нарысы. Мн., 1983; Творческий путь А.И.Куприна: 1883—1907. Мн., 1983; Творческий путь А.И.Куприна: 1907—1938. Мн., 1987; У дарозе: Літаратурна-крытычныя артыкулы. Мн., 1988.

Літ.: *Супрун А*. Федор Иванович Кулешов // *Веснік БДУ*. Серыя 4. 1983. № 1; *БП*, т. 3.

**КУНІЦКІ Сымон Фаміч** [крыптанім: С.К.; 28.2.1902, в. Гарані Мінскага пав., цяпер Мінскі р-н — 14.10.1940, Калыма], крытык, літаратуразнавец. У 1925—28 вучыўся на рабфаку БДУ. Пер-

шае апавяданне надрукаваў у 1928 (газ. «Чырвоная змена»). У 1929 выйшаў яго першы крытычны артыкул. У 1931 скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага ф-та БДУ. У 1931 залічаны як крытык у БелАПП ад Мінскай філіі. У 1932—36 працаваў вучоным сакратаром Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. Арыштаваны 27.11.1936. 1.10.1937 асуджаны на 10 гадоў лагераў. Памёр у зняволенні. Рэабілітаваны 18.12.1954.

Літ.: *Скрыган Я.* На вячэры // *Скрыган Я.* Ранішнія росы. Мн., 1965; *Яго ж.* Незабыўныя рысы друга // *ЛіМ.* 1962. 11 снеж.; *Возвращенные имена*; *БП*, т. 3.

**КУПАЛА Янка** [сапр.: Луцэвіч Іван Дамінікавіч; іншыя псеўданімы і крыптанімы: Адзін з «парнаснікаў»; Вайдэльота; Здарэнец; Левы; Марка Бяздольны; Ня-Гутнік; Стары Мінчук; Янук з-пад Мінска; Янук Купала; К.; І.К.; Я.К.; К-а; Л.; І.Л.; Л.І.; 25.6(7.7).1882, фальварак Вязынка Мінскага пав., цяпер в. Вязынка Маладзечанскага р-на Мінскай вобл. — 28.6.1942, Масква], паэт, драматург, публіцыст, перакладчык; класік бел. літаратуры, адзін з заснавальнікаў новай бел. літаратуры і літаратурнай мовы. Народны паэт Беларусі (1925). Акадэмік АН БССР (1928), АН УССР (1929). У 1921 на паэта быў накладзены хатні арышт і канфіскаваны рукапісы. У 1930 былі раскулачаны маці і сястра паэта. К. вык-

лікалі на допыты ў ДПУ; яму інкрымінавалася лідэрства ў «Саюзе вызвалення Беларусі». 20.11.1930 пасля «гутарак» у ДПУ БССР К. зрабіў спробу самагубства, але быў выратаваны. У снеж. 1930 К. быў вымушаны апублікаваць у «Звяздзе» «пакаянны» ліст, у якім прызнаваўся ў памылках і «шкодных поглядах». У 1937 над паэтам чарговы раз навісла пагроза арышту — яго імя апынулася ў спісе мяркуемых ахвяр. Арышту ўдалося пазбегнуць. Трагічна загінуў у Маскве (гасцініца «Масква») пры нявысветленых абставінах — упаў у лесвічны пралёт з 10 паверха. Існуе тры версіі — няшчасны выпадак, самагубства, забойства. Быў пахаваны на Ваганькаўскіх могілках у Маскве. У ліпені 1962 урна з прахам К. перавезена ў Мінск і перапахавана на Вайсковых могілках.

Тв.: Зб. тв. Т. 1—7. Мн., 1972—1976; Поўны зб. тв.: У 9 т. Т. 1—8. Мн., 1995—2002; Спадчына. Нью-Ёрк; Мюнхен, 1955.

Літ.: *Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік*. Мн., 1986; *Колас Г*. Карані міфаў: Жыццё і творчасць Янкі Купалы. Мн., 1998; *Сачанка Б.* «Сняцца сны аб Беларусі...»: Загадка смерці Янкі Купалы // *ЛіМ*. 1988. 19, 26 жн.; *Яго ж*. «У сведкі запісы пакліча...» // *ЛіМ*. 1989. 20 студз.; *БП*, т. 3.

**КУПЦЭВІЧ Фелікс Піліпавіч** [псеўданім: Алесь Валожка; Алесь Валошка; 21.10.1900, Гродна — 31.3.1938, Мінусінск, ГУЛАГ], крытык, празаік, паэт, перакладчык. Падчас 1-й сусветнай вайны знаходзіўся ў бежанстве ў Калузе і Петраградзе.

У 1918 вярнуўся ў Гродна. У 1920 разам з Чырвонай Арміяй пакінуў Гродна. З 1924 працаваў у статыстычным аддзеле ЦК КП(б)Б. У 1925 сакратар Крычаўскага райкама КП(б)Б; загадчык аддзела прапаганды Калінінскага акруґкама КП(б)Б (цэнтр — Клімавічы). Друкавацца пачаў у 1920. У 1926 публікаваў апавяданні ў час. «Маладняк Калінінщчыны». Даследаваў творчасць Ц.Гартнага, А.Дудара, М.Зарэцкага, К.Чорнага. У 1926 накіраваны на работу ў Латвію. Пасля вяртання ў 1927 нам. рэдактара газ. «Звязда». З 1929 вучыўся на літаратурным аддзяленні Інстытута чырвонай прафесуры ў Маскве. Па абвінавачанні ў бел. нацыянал-дэмакратызме ў 1930 выключаны з інстытута. Арыштаваны ДПУ БССР 29.8.1930 па справе «Саюза вызвалення Беларусі»; вызвалены 4.10.1930. Працаваў у Маскве на заводзе. Арыштаваны 9.4.1933 па справе «Беларускай народнай грамады». Асуджаны на 5 гадоў зняволення; накіраваны ў Мінусінскі лагер. Арыштаваны ў лагеры 23.11.1937; прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны ў 1956.

Тв.: Аб маністычным разуменні твор+часці Цішкі Гартнага // *Узвышша*. 1928. № 6; Літаратурная хлестакоўшчына... // *Там жа*. 1929. № 1; Супраць эклектызму // *Там жа*. 1929. № 3; Пра «Вераснёвыя ночы» К. Чорнага // *Там жа*. 1929. № 5; Белорусская художественная периодика // *Печать и революция*. 1929. № 11.

Літ.: *Мушынскі М.І.* Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20—30-я гады. Мн., 1975; *Міхнюк У.* «Забраны ў астрог мы з забранага краю» // *Полымя*. 1999. № 5; *БП*, т. 6; *ЭГБ*, т. 4.

**КУРДЗІН Дзмітрый Іванавіч** [псеўданімы: А.Сапёлка; Антон Сапёлка; 1(13).10.1899, в. Дзмітрычукі Каменскага пав. Пензенскай губ., цяпер Каменскі р-н Пензенскай вобл., Расія — 12.12.1937, Віцебск, НКВД], драматург, паэт. Вучыўся ў Саратаўскім ветэрынарным інстытуце, які скончыў у 1925. Накіраваны ў Беларусь. Служыў ваенным ветэрынарным урачом у Мінску, потым у Віцебску. Выкладаў у Віцебскім ветэрынарным інстытуце. Літаратурную дзейнасць пачаў як паэт, выступіўшы з вершамі ў перыядычным друку ў 1925. Пісаў на рускай і бел. мовах. Сапраўдную літаратурную вядомасць К. прынесла п'еса «Міжбур'е», якая ўпершыню была пастаўлена Е.Міровічам у 1929 (БДТ-1). П'есу з поспехам ставілі тэатры Масквы, Ленінграда, Баку, Смаленска, Ульянаўска, Саратава і інш. У 1932 была пастаўлена яго п'еса «Контратака», у 1934 — «Чалавек вырашае» (БДТ-2). Аўтар п'ес «Азеляненне цэха» (1935) і «Алюр. Тры крыжы». Арыштаваны 12.8.1937; расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957.

Тв.: У бліндажы: Апавяданне // *ЛіМ*. 1934. 6 крас.; Міжбур'е: П'еса. Другі акт // *Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі*. Т. 2. Мн., 1975.

Літ.: *Хомчанка В.І.* І сніўся яму белы конь… // *ЛіМ*. 1986. 14 лістап.; *БП*, т. 3.

**КУЧЫНСКІ Аляксей Сцяпанавіч** [4(16)2.1892, в. Выдранка Чэрыкаўскага пав. Магілёўскай губ., цяпер Краснапольскі р-н Магілёўскай вобл. — 29.10.1937, Мінск, НКВД], дзяржаўны і грамадскі дзеяч, педагог, рэдактар. Скончыў гарадское вучылішча, здаў экстэрнам экзамены на званне сельскага настаўніка. З 1909 працаваў у школах Рагачоўскага пав. У 1916 скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут. Мабілізаваны ў армію. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый. Са снеж. 1917 у Мсціслаўскім пав.; працаваў у дзяржаўных і партыйных органах. Рэдактар газ. «Думы бедняка». З 1922 у Смаленску; працаваў у губкаме РКП(б); у рэдакцыі газ. «Рабочий путь», быў рэдактарам газ. «Смоленская деревня». З мая 1929 у Беларусі, в. а. рэдактара газ. «Рабочий», з 1930 нам. рэдактара газ. «Савецкая Беларусь». Выконваў абавязкі рэктара БДУ. Арыштаваны 7.2.1937. Выязной сесіяй Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР 28.10.1937 прыгавораны да расстрэлу. Рэабілітаваны 4.7.1957.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**КУШАЛЬ Францішак Вінцэнтавіч** [16.2.1895, в. Пяршаі Мінскага пав., цяпер Валожынскі р-н Мінскай вобл. — 25.5.1968, ЗША], вайсковы і паліт. дзеяч, публіцыст. Муж паэтэсы Н.Ар-

сенневай. У 1916 скончыў Віленскае пяхотнае вучылішча; накіраваны на Зах. фронт; штабс-капітан. У 1919 арыштоўваўся польскімі ўладамі за бел. дзейнасць, у тым ліку за распаўсюджванне літаратуры. У 1919—21 уваходзіў у Беларускую вайсковую камісію. З 1922 на службе ў польскім войску. З пачаткам 2-й сусветнай вайны ўдзельнічаў у абарончых баях супраць нямецкіх войск у раёне Львова; камандзір батальёна. 22.9.1939 інтэрнаваны ў СССР. Са снеж. 1941 начальнік падафіцэрскай школы паліцыі ў Мінску. З ліп. 1942 у Беларускім корпусе самааховы; галоўны вайсковы рэферэнт. Са снеж. 1943 уведзены ў склад БЦР; начальнік аддзела вайсковых спраў. З сак. 1944 шэф галоўнага камандавання Беларускай краёвай абароны. Удзельнічаў у выданні час. «Беларус на варце». З 1944 у Германіі. У 1947 заснаваў Аб’яднанне беларускіх ветэранаў. Потым пераехаў у ЗША. У 1952—54 узначальваў Беларуска-амерыканскае задзіночанне; удзельнічаў у выданні газ. «Беларус». Адзін з заснавальнікаў газ. «Бацькаўшчына». Выступаў у друку з публіцыстычнымі матэрыяламі; аўтар успамінаў пра дзеячаў бел. культуры.

Тв.: Спробы стварэння беларускага войска. Мн., 1999; Сорак два гады таму: (Жменя ўспамінаў аб Алесю Гаруну) // *На суд гісторыі: Успаміны, дыялогі.* Мн., 1994.

Літ.: *ЭГБ*, т. 4.

**Маракоў Леанід Уладзіміравіч**

# Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794—1991.

***Энцыклапедычны даведнік***

***Том 1***

***Абрамовіч—Кушаль***

Том I:

Прадмова, біяграфіі і пералік асноўных твораў (калі адшуканы) рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары А – К).

Том II:

Біяграфіі і пералік асноўных твораў рэпрэсаваных літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, а таксама літаратура ці іншыя крыніцы інфармацыі пра лёс пакутнікаў (персаналіі на літары Л – Я).

Том III:

Біяграфіі рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, навукоўцаў, работнікаў асветы, грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі, звесткі і факты пра якіх на час выхаду першых двух тамоў не былі ўдакладнены і сістэматызаваны, або наогул адшуканы ў самы апошні момант, а таксама папраўкі і ўдакладненні да персаналіяў I і II тамоў.

*Карэктары:*
*Алег Гардзіенка (беларуская і руская мовы),*
*Уладзімір Свяжынскі (літоўская мова),*
*Васіль Сёмуха (польская мова),*
*Аксана Спрынчан (беларуская і руская мовы)*

*Камп'ютэрная вёрстка: Вінцэсь Ліпскі*

Фармат 62x94$^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Гарнітура Century Schoolbook.
Ум. друк. арк. 18. Ул.-выд. арк. 22.